Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
«ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ»

П.У.СЦЯЦКО

# СЛОЎНІК
# НАРОДНАЙ МОВЫ
# ЗЭЛЬВЕНШЧЫНЫ

Гродна 2005

УДК 808.26-087(038)
ББК 81.411.3-4
С92

*Рэцэнзенты*: загадчык кафедры беларускай мовы Мазырскага педагагічнага універсітэта, кандыдат філалагічных навук **А.В.Солахаў**;

дацэнт кафедры агульнага і славянскага мовазнаўства, кандыдат філалагічных навук **В.Л.Варановіч**.

Рэкамендавана саветам філалагічнага факультэта ГрДУ імя Я.Купалы

**Сцяцко, П.У.**

С92 Слоўнік народнай мовы Зэльвеншчыны / П.У.Сцяцко. — Гродна : ГрДУ, 2005. — 145 с.

ISBN 985-417-650–9

У кнізе тлумачыцца значэнне каля 3000 слоў. Адлюстроўваюцца граматычныя і фанетычныя адметнасці гаворак, словаўтварэнне і сінаніміка лексічных адзінак.

Прызначаецца для навукоўцаў, выкладчыкаў ВНУ, студэнтаў-філолагаў і навучэнцаў каледжаў і гімназіяў, настаўнікаў і вучняў старэйшых класаў агульнаадукацыйнай школы.

**УДК 808.26-087(038)**
**ББК 81.411.3-4**

**ISBN 985-417–650–9**

# ПРАДМОВА

Мінула амаль 35 гадоў ад часу, калі быў надрукаваны мой «Дыялектны слоўнік: З гаворак Зэльвеншчыны» — Мінск, 1970 — 184 с. Публікацыя атрымала станоўчы водгук у айчынным і замежным друку[1].

Асаблівай запатрабаванасцю карыстаецца, створаны на матэрыяле родных аўтару гаворак, гэты Слоўнік на абсягах Гродзеншчыны — сярод студэнтаў ВНУ, навучэнцаў каледжаў і ліцэяў, гімназістаў і вучняў старэйшых класаў сярэдняй школы. Студэнты стала выкарыстоўваюць яго пры напісанні курсавых і дыпломных працаў; спрыяе ён і навучэнцам пры стварэнні імі слоўнічкаў з народнай мовы родных мясцінаў.

На сёння Слоўнік стаў бібліяграфічнай рэдкасцю і з чыста тэхнічнай прычыны. Таму ўзнікла вострая патрэба ў перавыданні яго. Адказам на шматлікія просьбы і прапановы і ёсць дапрацаваны варыянт кнігі, якая ўлучае не толькі змест першага выдання Слоўніка, але і лексікаграфічных аўтаравых артыкулаў, апублікаваных пазней у зборніках народнай лексікі, у прыватнасці ў кнігах «Жывое слова» (Мінск, 1978) і «Народная словатворчасць» (Мінск, 1979), а таксама на старонках навуковага альманаха «Гарадзенскія запісы. Старонкі гісторыі і культуры» (Вып.1. Гродна, 1993; вып. 2. Гродна, 1996).

[1] Юрчанка Г. Са скарбніцы роднае мовы (ЛіМ. 13.11.1970); Германовіч І. Лексічныя скарбы (Полымя. 1971. № 6); Gutschmidt K (Zeitschrift für Slawistik. Band XII. Berlin- 1971); Zatovkňuk Mikolaš (Slavia. № 3. Praha, 1972)

# УСТУП

Жывая народная мова... Невычэрпны скарб. Якімі фарбамі ён пераліваецца, якімі дыяментамі зіхаціць!

Кожны раз, бываючы на роднай Зэльвеншыне, слухаючы народную мову, міжволі прыгадваеш словы геніяльнага Адама Міцкевіча пра народныя гаворкі Гродзеншчыны (Наваградчына) як найбагацейшы і найчысцейшы з усіх славянскіх дыялектаў.

Цягам многіх гадоў вывучаю гэтыя гаворкі. І яшчэ і яшчэ раз пераконваюся ў трапнасці, дакладнасці і яркай выразнасці народнай мовы, маўлення мясцовых жыхароў. Напрыклад, у вёсцы Грабава, дзе жылі мае бацькі і гадаваўся аўтар гэтых радкоў, пачуеш: «*Яшчэ і ні расіўся*», г.зн. 'і расінкі ў роце не было' (звычайна ж пішуць: «*яшчэ нічога не еў*»). Прыназоўнік *спаміж* перадае адначасна значэнне месца і накіраванасць дзеяння: *Выскачыў (сабака)* ***спаміж*** *будынкаў і давай брахаць на незнаёмцаў.*

Значнае месца займае ў гаворках Зэльвеншчыны эмацыйна-экспрэсіўная лексіка. Напрыклад, слова *адпудзіць* значыць 'адрэзаць вялікую (нібы пудовую) лусту хлеба'. Надта багатая лексічная сінаніміка гаворак. Да прыкладу, дамінантавае слова ***есці*** мае наступныя сінонімы: *аплята´ць*, *га´мацъ*, *глэ´мацъ*, *глэ´мзаць*, *го´мджыць*, *джгаць*, *дзю´баць*, *жмі´ндзіць*, *ло´паць*, *лэ´паць*, *лы´гаць*, *ны´гаць*, *пля´скаць*, *пе´рці*, *пу´гаць*, *труб´іць*, *хру´мстаць*, *церабі´ць*, *ча´мкаць* і іншыя.

Лексіка зэльвенскіх гаворак слаба адлюстраваная ў фальклорных друкаваных матэрыялах (і навуковай літаратуры. Выключэнне складае кніга пісьменніка Міхася Скоблы «Дзярэчынскі дыярыюш». Мінск, 1999).

Тэрыторыя Зэльвеншчыны за савецкім часам няраз «перакройвалася»: часткі яе ўлучаліся у склад суседніх раёнаў (Слонімскага, Ваўкавыскага, Мастоўскага). Зэльвенскі раён у свой час быў нават скасаваны, але потым яго аднавілі, і да сёння ён існуе. З прычыны згаданага некаторыя вёскі раёна цяпер не ўваходзяць у яго склад.

Гаворкі Зэльвеншчыны ў бальшыні выпадкаў сваёй фанетычнай сістэмай і марфалагічным ладам супадаюць з літаратурнай мовай. Да найбольш адметных дыялектных асаблівасцяў належаць наступныя:

- моцнае яканне (аднак у словах *няма*, *яшчэ*, *мяне* і ў часціцы *не* вымаўляецца [і]): *пяраку'пшчык*, *купля'я*, *вяраўча'ны*, *вярацяно'* (але: *німа*, *ішчэ*, *ні быў*);

- захаванне канцавога ненацікснога [о]: *мало'*, *мно'го*, *ке'пско*, *бало'то*, *жы'то*, *ма'сло*;

- гук [о] на месцы [а] ці [э] на канцы слова пасля мяккіх зычных і зацвярдзелых, а таксама ў часціцы-марфеме *-ся* дзеясловаў цяперашняга і будучага часу, у мужчынскім і ніякім родзе прамінулага часу: *тапары'шчо*, *кло'чо*, *грабільнё*, *запісваюсё*, *стараюсё*, *зрабіўсё*, *сапсаваласё*, *згубіўсё*;

- адсутнасць падаўжэння зычных на месцы старажытнага спалучэння «зычны+j»: *насе'нё*, *раля'*, *руж'ё*, *чытанё*;

- галосны [у] на месцы [ы] у канчатках прыметнікаў (дзеепрыметнікаў), займеннікаў і лічэбнікаў: *у новум*, *пераплецянум*, *у нашум*, *у сёмум*;

- канчатак -е (-э) у назоўным (і вінавальным — пры яго супадзенні з назоўным) склоне назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду ў націскным становішчы: *братэ'*, *разарэ'*, *ваўк'е*, *каравэ'*;

- сцягнутыя формы прыметнікаў (дзеепрыметнікаў), лічэбнікаў, займеннікаў у назоўным і вінавальным склонах: *но'ва* (хустка), *цёплу* (зіму), *сёму* (штуку), *вы'рабляну* (зямлю).

Формы будучага складанага часу нярэдка ўтвараюцца з дапамогай старажытнага дзеяслова *иметь*, які зліваецца з інфінітывам: *рабіціму*, *рабіцімеш*, *рабіцімя*, *рабіцімуць*, *пісаціму*, *стаяцімеш*, *гуляцімуць*...

***

Значэнні дыялектных слоў растлумачваюцца ў слоўніку шляхам падбору літаратурных адпаведнікаў або тлумачацца апісальна. Пры дублетных парах робіцца адсылка да больш ужыванага слова. Загалоўнае (рэестравае) слова падаецца ў арфаграфічным напісанні (у дужках паказваецца яго вымаўленне — пры несупадзенні з напісаннем). Для ілюстрацыі семантыкі слова падаюцца тэксты мясцовага маўлення; запіс іх — спрошчаны, набліжаны да арфаграфічнага пісьма.

Закончанае і незакончанае трыванні дзеясловаў, якія адрозніваюцца прыстаўкамі (зрэдку — суфіксамі), звычайна падаюцца асобнымі артыкуламі. Калі словы ўжываюцца як стылёва афарбаваныя, пры іх змяшчаюцца адпаведныя паметы: *абразл.* —

з адценнем абразлівасці, *асудж.* — асуджальнасці, *груб.* — грубасці, *грэбл.* — грэблівасці, *жартаўл.* — жартаўлівасці, *застар.* — застарэласці, *зламоўн.* — зламоўнасі, *зняважл.* — знаважлівасці, *іран.* — іранічнасці, *незад.* — незадавальнення, *непаш.* — непашаны, *пагардл.* — пагардлівасці, *пяшчотн.* — пяшчотнасці, *спагадл.* — спагадівасці, *узмацн.* — узмацнення, *экспр.* — экспрэсіўнасці.

У слоўніку выкарыстоўваюцца агульнапрынятыя ў лексікаграфічнай практыцы скарачэнні, таму спіс іх не падаецца.

Скарачэнні назваў вёсак Зэльвеншчыны, дзе запісваўся матэрыял для слоўніка: *Ал.* — Алексічы, *Вальк.* — Валькевічы, *Вар.* — Варонічы, *Гал.* — Галынка, *Гр.* — Грабава, *Даўг.* — Даўгаполічы, *Дзяр.* — Дзярэчын, *Едн.* — Едначы, *Зл.* — Зэльва, *Кар.* — Караліно, *Кр.* — Крывічы, *Пл.* — Плецянічы (цяпер Чырвонае Сяло), *Св.* — Савічы, *Ст.С.* — Старое Сяло, *Угр.* — Угрынь, *Яр.* — Ярнева.

## А

АБАДЗЁ´Н, *м.* Авадзень. *Абаднёў натто коні баяцца, бо моцно кусаюць.* Гр.

АБАЛВАНЕ´ЦЬ, *зак.* Здурэць. *Абалванеяш з гэтымі дзецьмі за дзень.* Ал.

АБАПНУ´ЦЦА, *зак.* Завязаць нахутка фартух. *Хоць хвартухом абапніся, ні так завэдзгаясься кала чыгуноў гэтых.* Св.

АБАРЛЮ´ХТА, *ж.* Фрамуга. *Фортачак німа і абарлюхты ні аччыніць.* Кар.

АБДЗІ´РКУС, *м., асудж.* Той, хто хутка дзярэ адзенне. *Дзе ты наўмеясься абдзіркусу гэтаму адзежы тае — ляціць, як на рыштанту ўсё.* Ст. С.

АБЕ´Д (абет), *м.* 1. Перыяд прыёму ежы ў дзесяць гадзін. Яр. 2. Яда на гэты час. *Абет нішчымны ў абет прынясла, да палудня ні дацягняш.* Пл.

АБДЗІРА´НСТВА, *н.* Вымаганне непамерна высокай платы (за паслугі, тавар, працу); абдзіралаўка. *Такога абдзіранства нігды ні было, каб гэдаквяля лупілі грошай за гэто пальтачко дзіцячо!* Гр.

АБЕ´ДАННІК, *м.* Той, хто абедае, бярэ ўдзел у абедзе. *Колькі вас будзя, абеданнікаў? Ці ў міне міскаў на ўсіх ні забракуя? Што табе даць паабедаць, га?* Гр.

АБЕ´ДАННІЦА, *ж.* Жан. да абеданнік. *Гаш лішнё асталосё з абеду; ішчэ на адну абеданніцу будзя. Кап толькі яна прышла на абет.* Гр.

АБ'Е´ДЗІНЫ, *мн.* Аб´едкі. Даўг.

АБЕ´РТУХА, *ж., жартаўл.* Вялікі кавалак хлеба, вялікая луста. *Хіба ты зьзясі абертуху гэту, га?* Гр.

АБЕ´ЧАК, *м.* Вечка, накрыўка ў кубле. Едн.

АБІРА´ННІК, *м.* 1. Той, хто абгрызае («абірае») мяса з касці. *Які з цябе абіраннік! Гунь колькі мяса пакінуў на костках!* Гр. 2. Хто прабірае. *Будзя зь міне і аднаго абіранніка. І ад яго хоць ты с хаты ўцякай.* Гр. 3. Хто абскубае воз з сенам (каб сена не падала, не гублялася пры перавозцы). *Гунь сена гэдаквяля натраслосё на дарозі. Які сь цябе абіраннік!* Гр.

АБІРА´ННІЦА, *ж.* Жан. да абіраннік (1, 2, 3). 1. *Вазьмі абяры і гэту костку, абіранніца малая!* Гр. 2. *Будзя табе сварыцца, абіранніца старая.* Гр. 3. *Ідзі за возам і падбірай сено, рас ты такая слабая абіранніца.* Гр.

АБІРА´ЦЬ 1, *незак.* Абгрызаць (мяса з косці). *Абяры косьць — мяса много на ёй.* Гал.

АБІРА´ЦЬ ІІ, *незак.* Прабіраць. *Абірала-абірала яго, а ён як слуп, ходзь бы славечко якоё сказаў — маўчыць.* Ст. С.

АБКІДА´ННІЦА (апкіданніца), *ж.* Жанчына, якая абкідае (‘зарублівае’) канцы тканіны. *Дзе тая апкіданніца, хай апкідая і гэты канец палатна, кап ні асыпаўсё.* Гр.

АБКІДА´ЦЬ (апкіда´ць), *незак.*; АБКІ´ДАЦЬ, *зак.* Зарубліваць (зарубіць) канцы тканіны. *Трэба апкідаць гэты канец палатна, кап пярастаў асыпацца.* Гр. *Апкі´дай і гэто палатно!* Гр.

АБЛЕ´ЗЛІК (аблезьлік), *м. зняважл.* Пра чалавека з аблезлым тварам. Кр.

АБМАГА´ЦЬ, *незак.* Перамагаць. *Твой дужайшы, абмагая майго.* Дзяр.

АБМАГЧЫ´ (абмахчы), *зак.* І. Падужаць. *Кап ты яго ні абмох — ні можа гэтаго быць.* Гр. 2. Змагчы (з’есці, зрабіць што). *Ой ліхо ты, каб зацеркі міску ні абмох!* Ст. С.

АБМАТЛЯВАЦЬ, *зак.* Налатаць, даўшы латку спадыспаду. *Ішчэ цэлыя ганавіцы, адно на калені дзірка, то трэба абматляваць, тагды мало і відно будзя, што налапляныя.* Гр.

АБМАЧА´НКА, *ж.* Мачанка. *Нарабіла абмачанкі, і абмачайця бліцнэ. Ні голат.* Вальк.

АБМАЧА´ННІК, *м.* Той, хто абмакае («абмачае») (бліны, аладкі ў тлустасць, смятану). *Ты абмачай алатку ў клустасць, а ні кулак, што гаш блішчыць у такога абмачанніка.* Гр.

АБМАЧАННІЦА, *ж.* Жан. да абмачаннік. Ст.С.

АБМІ´НАК (аммінак), *м.* 1. Незасеяная (праз недагляд) палоска нівы. *Стары, ні дагледзяў, два аммінкі ў той лаві зрабіў.* Едн. 2. Тое, што і урэх. *Як слабы, аммінкаў наробіш, гаручы.* Едн.

АБМЫЛІ´ЦЦА, *зак.* Памыліцца. *Натто хутко лічыш, лядзі, кап ні абмыліўсё.* Кр.

АБМЫ´ЛКА, *ж.* Памылка. Вальк.

АБО´РВАНЕЦ (аборваняц), *м., асудж.* Пра таго, хто ходзіць у падраным адзенні. *І як яму ні брытко: аборваняц такі — і ў сяло ідзе?* Гал.

АБРАБІ´ЦЦА, *зак.* Запэцкацца. *Недзя ў смалу абрабіўсё.* Зл.

АБРАБІ´ЦЬ, *зак.* Запэцкаць. *Паўзірайся, як ты пальто абрабіла, гаш страх глядзець на яго.* Ст. С.

АБРО'БА, *ж., зламоўн.* Халера (часцей у кленічы). *Хай яго аброба абробіць, каб я ўсё на яго дарам рабіла!* Кр.

АБРО'БЛЕНЫ (абробляны), *дзеепрым.* Запэцканы. *Абробляны прышоў, недзя ў гразі поўзаў, ці што?* Вар.

АБРО´СЛІК (абро´сьлік), *м.*, *экспр.* Нястрыжаны, касматы, аброслы (пра чалавека). *Цябе ні пазнаць, Антось, такого абросьліка! Чаму ні стрыжэсся, га? Зарас і вочы зарастуць валасамі.* Гр.

АБРО´ХАЦЦА, *зак.* Абрасіцца — абмачыцца расою. *Трава велька на балоці — па пояс аброхаўсё, як адбродзжваў сваю дзялку.* Гр.

АБРЫ´ДНІЦА, *ж.*, *асудж.* Тая, хто надакучае (размовамі і г.д.); абрыдлівая. *Ні хачу і бачыць, абрыдніцы гэтае!* Гр.

АБРЫКА´НСКАЕ (абрыка´нско) (яйцо), *прым.* Надта моцнае — яйцо курыцы-афрыканкі. *Я с твайім біцца ні буду — тваё абрыканско.* Кр.

АБРЫ´НДАНІЦА, *ж.*, *асудж.* 1. Хто ходзіць абрынданы, заляпаны гразёю. *Усю спаніцу заляпала гразёю. От абрынданіца!* Ст. С. 2. *Абарваная. Пярадзень абрынданіцу, хай ні трасе лэхамі.* Гр.

АБРЫНДАНЫ, *прым.* 1. Абляпаны, запэцканы. Зл. *2.* Абарваны. Гр.

АБРЫ´НДАЦЦА, *зак.* 1. Запырскацца, заляпацца (гразёю). Дзяр. 2. Абарвацца, абтрапацца (пра адзенне). *Чысто абрындалася спаніца, і падлажыць німа часу.* Ст. С.

АБРЫ´СКЛАЕ (абрыскло) (малако), *прым.* Якое толькі пачало кіснуць. *Адно прынёс і ўжэ абрыскло малако мушу есьці.* Гр.

АБУ´БНІЦЬ, *зак.*, *асудж.* Пастрыгчы нагола. *Велькі хлопяц, а яго абубнілі, як авечку.* Гр.

АБСА´Ц (апсац), *застар.* Абцас. Едн.

АБЦЁ´ПКАНЫ (апцёпканы), *прым.* Абарваны, абабіты (край адзення, тканіны). Кр.

АБЦЁ´ПКАЦЦА (апцёпкацца, ацёпкацца), *зак.* Абабіцца (пра край адзення, тканіны). *Рукаў ацёпкаўсё, трэ зарубіць.* Св.

АБЦЭ´НГІ (апцэнгі), *мн.* Абцугі. Ал.

АБЧА´С (апчас), *м.* Абцас. Гр.

АБШАЛЁ´СТАЦЬ (апшалёстаць), *зак.*, *асудж.* 1. Абабраць (плады). *Яг дарваліся, чысто ўсе яблыні апшалёсталі гіцлі гэтыя!* Гр. *2.* Абкрасці. *Апшалёсталі, і ні ведаюць, хто і калі.* Ст. С.

АБША´СТАЦЬ (апшастаць), *зак.*, *асудж.* Абрэзаць. *Нешто ты раскалізаваўсё, усё дзерава апшастаў — ссохня возьмя.* Гр.

АБЯНДЗЕ´ЖЫЦЬ, *зак. экспр.* Абрэзаць. *Так абяндзежылі гэту грушу калізуючы, што адно суке стрычаць. Мо і ссохня ўвесну.* Гр.

АБЯЧЭЙКА (абячэйко), *н.* І. Абечак. Св. 2. Абадок (у вечку дзяжы, кубла). Ст. С.

АГА´ *выкл.;* ужываецца ў спалучэнні *ага воўка*! Так палохаюць (адганяюць) ваўка. Кр.

АГАРА´ДЖВАЦЦА, *незак., зламоўн.* Апраўдвацца; агрызацца. *Німа, кап паслухаў, так агараджваяцца ўсё, раскол гэты!* Гр. *Мо ніпраўду кажу, ці што? Чаго ты агараджваясся*? Ст. С.

АГЛЕ´ДЗЕЦЬ (агледзяць), *зак.* Выпарань, знайсці (схаванае). *Дзе ты ні схавай, усяроўно агледзяць і развалакуць*. Гр.

АГУ´ЛАМ, *прысл.* Супольна. *Як агулам — і рабіць лёхко, а аднаму збрыдня, агоркня гэта работа.* Св.

АДБЕ´ГАЦЬ, *зак.* Пабегаць, пакрыцца (пра карову). Гр.

АДБІ´ЦЦА, *зак.* Пакрыцца (пра кабылу). Ст. С.

АДВАРО´НІЦЫ, *мн.* Тое, што і а д в а р о н к і . Едн.

АДВАРО´НКІ, *мн., адз.* а д в а р о н к а , *ж.* Бульба, звараная ў «мундзірах». *Лупі адваронкі да еш сь сяляццом.* Гр.

АДВЕ´ДАЦЬ, *зак.* Наведаць блізкага чалавека, даведацца пра яго здароўе. *Мо дзе хвора ляжыць твая Гануля — і ні адведаяш. От таварышка!* Пл.

АДВЕ´ДКІ (адветкі), *мн.* Водведы, адведзіны. *У вадветкі пайшла да Агаты*. Яр.

АДГАДЗІ´ЦЦА, *зак.* Адпомсціць, не дараваць. *Век ні дарую. Адгаджусё, хоць праз гот ці два.* Гр.

АДГА´КАЦЬ, *зак., непаш.* 1. Прайсці (многа). *За дзень мы гунь колькі адгакалі вёрст.* Ал. 2. Зрабіць, паставіць (дом). *От адгакаў хату, як палац!* Ст. С.

АДГАНУ´ЦЬ, *зак.* Адгадаць. *Я табе яг загану загатку — нігды ні адганеш*. Гр.

АДДАДУ´РЫЦЬ, *зак., зняважл.* Адставіць. *Аддадурыў азадак — і ні туды ні сюды, ні прайсці ў сутачках.* Вальк.

АДДАЛЁ´К. 1. *прысл.* Воддаль. Кр. *2. прыназ.* (з родным склонам). Воддаль. *Аддалёк лесу ні байіцца, а як пры лесі — нігды ні застанецца адзін.* Гр.

АДДУБА´СІЦЬ, *зак.* Адлупцаваць. *Німа рады з гэтым хлопцам. Але як аддубасіла — трохі паслухмяняйшы стаў.* Вар.

АДДЫХА´ННІК, *м.* Той, хто адпачывае; адпачывальнік. *Аддыханнікаў ні бракуя ў нас, як настаня лето. Усё купаюцца на рэццы, у грыбэ ходзяць у наш лес.* Ст.С.

АДДЫХА´ННІЦА, *ж.* Жан. да аддыханнік. Гр.

АДЖЫМА́ЦЬ (аджжымаць), *незак.* Мыць бялізну. *Хай аджжымая плацё, а я пайду лубін ламаць.* Кр.

АДЗІНА́КАВЫ, *прым.* Аднолькавы. Даўг.

АДЗІЯ́ДЛА (адзіядло), *н.* Коўдра (часцей ватовая). *Пад адзіядлам, і то халадно ў нашуй хаці.* Дзяр.

АДКАПЫ́ЛІЦЬ, *зак.* Адставіць (губу), закапыліць. *Як што ні па яго, так і адкапыліць лупу — злуе.* Гр.

АДКАЧА́ЦЬ (аткачаць), *зак.* Адкасаць. *Аткачай ганавіцы, ужэ ш рэчку пярайшоў! Зл.*

АДКА́ЧВАЦЬ (аткачва'ць), *незак.* Гл. адкачаць. *Нешто ні аткачваяш рукаў, цесны стаў, ці што табе?* Ал.

АДКУБРАВА́ЦЬ (аткубраваць), *зак.* Адаткнуць (моцна заткнутае). *Ледзьвя аткубравалі тоё барэлко, як заткало набрыняло ад вільгаці.* Гр.

АДЛО́Г (адлох), *м.* Аблог. *Ні гарэм боляй пад лесам, адлогам ляжыць выган.* Ст. С.

АДНАЛІ́ЧНІК, *м.* Аднаасобнік. *Адналічнікам мне тыж жыцця ні было: рабіў, як вол, і трасцу меў. Во як!* Гал.

АДНО́ЛЕТКІ (адноляткі), *мн.* Аднагодкі. *Адноляткі, а палядзі, якія ніроўныя: мой намного большы за твайго.* Кр.

АДПА́СЦІ (атпасьці), *зак.* Адмерці (пра пчолы). *Збаяліся холаду і атпалі пчолы.* Св.

АДПУ́ДЗІЦЬ (атпудзіць), *зак., жартаўл.* Адрэзаць (вялікі кавалак, лусту хлеба). *Хіба ты зьзясі — такую лусту атпудзіў? Рука адломіцца.* Ст. С.

АДРАБІ́ЦЬ, *зак.* Выканаць (урокі). *Прыду, як адраблю ўрокі.* Гр.

АДРАБЛЯ́ННІК, *м.* Той, хто адрабляе, адпрацоўвае (пазычанае, раней дамоўленае). *Рас падрадзіўсё, то адрабляй сваё, мой ты адраблява́нік. Гось ідуць ішчэ два абрабляннікі.* Гр.

АДРАБЛЯ́ННІЦА, *ж.* Жан. да а д р а б л я н н і к. *Ішчэ адна адрабляннiца ідзе — наш жнец.* Гр.

АДРО́БАК, *м. Які гэто адробак: паўдня робіш, адно шчот, што прышла.* Яр.

АДСЕ́Ў (ацьсеў), *м.* Збожжа, пасеянае ў другі раз (на месцы прапалай руні). *Тут горшо жыто: ведама, ацьсёў — позно пасеялі.* Яр.

АДУБЕ́ЦЬ, *зак.* Моцна змерзнуць. *Бяз рукавіцаў быў, то рукі на марозі адубелі, пальцы ні гнуцца.* Св.

АДУКАВА´ЦЬ, *незак.* Муштраваць. *І чаго ён узяўсё каня адукаваць — усё пугаю па храпах шлёгая!* Гр.

АДУ´РА: адура галавы — адурыць (галаву). Ст. С.

АДХЛЯ´ШЧЫЦЬ (атхляшчыць), *зак., асудж.* Адчыніць (дзверы) — звычайна — надоўга. *Падло, шмаравос гэты, адно зачыняй за ім хату: атхляшчыць і пайшоў.* Гр.

АДХУ´КАЦЬ (атхукаць), *зак.* 1. Адхукаць. 2. *перан.* Выхадзіць, вырataваць ад смерці. *Ледзьвя атхукалі, як упаў с стога.* Гр.

АДЧУЖЫ´НІЦЦА (аччужыніцца), *зак.* Адчужацца. *Аччужыніўсё і знацца ні хоча. От сваяк які ў нас!* Дзяр.

АДШПА´РЫЦЬ (ачшпарыць), *зак.* Адлупцаваць, набіць. *Бояй ні лазіць у яблыкі, як ачшпарылі.* Ст. С.

АДШЧЫКНУ´ЦЬ (ачшчыкнуць), *зак.* Адрэзаць, адцяць. *Ножна гострыя — магу і паляц ачшчыкнуць.* Кр.

АД'Я´ДА, *ж., зняважл.* Надаедлівы (сваёй просьбай). *Дай ты яму тую кнішку, хай сэрца ні ад'ядая ад'яда гэта.* Ст. С.

АЖЫГА´НЕЦ (ажыганяц), *м. зняважл.* Той, хто хутка зношвае адзенне. *Каб жалезно было — раз-два і парве ажыганяц гэты.* Гр.

АЖЫГА´ЦЬ, *незак. іран.* Біць (кіем), караць. *Раз зарабіў, то і ажыгаюць, бо нілюцкі такі.* Вар.

АКАНІ´ЦЫ, *мн., адз.* аканіца (і акяніца), *ж., перан.* Навочнікі ў вуздэчцы. Едн.

АКЛАДА´ЦЬ, *незак.* Лупцаваць (бязлітасна, моцна). *Як мілянькі стаў, як наакладала, а то ўсё ні слухая, як усяроўно просіцца акладаць яго.* Гр.

АКЛА´ДЗІНА, *ж.* Частка драбінаў (у возе акладзіны змацоўваюцца лёсткамі). *Жэрткі выстругаў на акладзіны, ішчэ ляскаў бракуя, каб драбіны зрабіць.* Дзяр. *Сядавіся на акладзіну.* Кр.

АКРУЦ´ЦЬ, *зак.* Завязаць (хустку). *Канаплянку акруці, мо халадно будзя.* Гр.

АКУЛЯ´РЫ, *мн., перан.* Навочнікі ў вуздэчцы. Кар.

АКУ´ЦЦЕ (акуцё), *н.* Акоўка. *Лыжы бяз акуця.* Яр.

АЛЬШЫНА´ *ж., зборн.* Альхоўнік, альшаннік. *У альшыне пасе каравэ.* Гр.

АЛЯКТРО´ЎНЯ, *ж.* Электрастанцыя. *Зэльвянская аляктроўня мало алектрыкі давала.* Даўг.

АМАРАТУ´РА *ж., застар.* Пенсія. *Яг даўнёй, то хто табе тую амаратуру плаціў бы. Гэто цяперака старыя пэнсію маюць, ўласць паклапацілася.* Зл.

АНДУЛЯ´ЦЫЯ, *ж., застар.* Завіўка. *Даўнёй ніхто тае андуляцыі ні рабіў, усё косы насілі.* Св.

АНІ´ГДАЧКІ, *прысл.* Аніколі. *Анігдачкі боляй да яго ні паеду, хай хоць азалоціць міне.* Ал.

АНТУЛЯ´ЖЫ, *мн.* Карункі. *Настольніцу з антуляжамі на сьвято засьцялі — харашэйшу трэба.* Кр.

АПАНО´ЎКА, *ж.* Скаварада, патэльня. *Насмажыла грыбоў апаноўку.* Едн.

АПІВО´Ш, *м., пагардл.* Той, хто многа п'е не за свой кошт (хто «апівае» людзей). *Адно і валочыцца па хатах, каб выпіць далі. От апівош!* Дзяр.

АПІ´НІЯ *ж.* Рэпутацыя. *Стараяцца, каб апінію заслужыць.* Зл.

АПЛЯТА´НІК (і аплецянік), *м.* Гаршчок (збанок), аплецены дротам. *Малако кап часам ні пацякло, кладзі ў аплятанік масло.* Вар.

АПЛЯТА´ННІК, *м.* Той, хто аплятае (збанкі, гаршкі, бутлі, каб засцерагчыся ад іх псавання — каб не разбіліся). *Вазьмі гэты дрот і аддай таму аплятанніку, хай і твой збанок апляце, а то пакалоўсё ўжэ, хутко паб'еуца.* Гр.

АПО´ЛЕЦ (аполяц), *м.* Вялікі кавалак сала. *Апольцаў два сабе будзя і дацуэ тры аддам, як заколяш свіню.* Пл.

АПО´НА, *ж.* Пакрышка веласіпеда. *Ужэ старыя апоны — рвуцца на ровары.* Дзяр.

АПО´СТАЛЫ, *мн., жартаўл.* Пра абутак, звычайна завялікі, не зусім прыдатны, каб яго насіць. *Хай йіх халера, з гэтымі чаравікамі — апосталы некія, усе ногі абмуляў.* Гр.

АПО´ЎЗЛІК (апоўзьлік), *м., зняважл.* Нязграбнае, няздатнае, непаслухмянае дзіця. *Нічого ні дам апоўзьліку гэтаму, рас ён нічого ні робіць, адно па сяле валочыцца.* Гр.

АПРА´ТВАЦЬ, *незак.* Апранаць. *Хай апратвая тваё пальто — цяплейшо будзя ў дарогу.* Вар.

АПУ´ШЧАНІК, *м., пагардл.* Пра таго, хто апусціўся, не глядзіць за сабою. *Гаш страх лядзець на яго — апушчанік некі: ні рубашкі на ём, як трэба, німа, ні ганавіцаў, адно лэхамі трасе.* Вальк.

АРАННЁ´ (гаранё), *н.* Ворыва. *Кончыў гаранё, трэба сеяць.* Яр.

АРА´ННІК (гараннік), *м.* Араты. *Гараннікаў мне такіх ні трэба, каб адно ў баразьне палежвалі!* Ст. С.

А´РХА, *ж.* Веялка, арфа. *Авес прапусцілі на арху — чысты, як трэба.* Вар.

АРХАВА´ННІК (архаваннік), *м.* Той, хто вее, арфуе. Кр.

АРХАВА´ЦЬ, *незак.* Веяць (на арфе). Яр.

АСА´ДА, *ж.* Аснова (драўляная, металічная ў найпрасцейшых сельскагаспадарчых прыладах — арфе, малатарні, баране). *Асаду для бараны зрабіў, адно зубоў бракуя.* Гр.

АСКО´М, *м.* Аскома. *Набіў зубы аском — баляць, ні магу ўкусіць нічого.* Гр.

АСМАЛЁ´НАК, *м.* 1. Асмалак. Гр. 2. *перан., жартаўл.* Пра смуглага, чорнавалосага чалавека. *Мацi руса, бацько ні чорны — а гэто асмалёнак вырадзіўсё.* Гр.

АСМАЛЁНКІ, *адз.* асмалёнка, *ж.* Бульба з прыгаркамі (абгарэлая). *Асмалёнкі натто любіць есьці, паскропшы.* Ст. С.

АСТО´ЯЦЦА, *зак.* Устаяць. *Як штырхануў бўйвал гэты, то дзе ты астойісся, каб ні хацеў — упадзяш.* Кр.

АСТРЫЖО´НАК, *м. і ж.* 1. *пагардл.* З кароткімі валасамі (пра дзяўчат). *Падло, гэтыя астрыжонкі. Я іх цярпець ні магу.* Гр. 2. *жартаўл.* Нагола астрыжаны (хлопец). *Ну, астрыжонак, калі служыць ідзеш?* Ст. С.

АСЫПА´ННІК, *м.* Той, хто асыпае (‘акучвае’ бульбу, агародніну). *Слабы сь цябе, дзеду, асыпаннік: пару баразён прайшоў і задыхаўсё.* Гр.

АСЫПА´ЦЬ, *незак.* Акопваць (агародніну), акучваць, абганяць (бульбу). *Сошку прынясу — і будзям картоплі асыпаць.* Угр. *Капусту асыпаў.* Дзяр.

АСЯНЧУ´К, *м.* Пра народжанае восенню (цяля, ягня). *Двоё асянчукоў на зіму пушчу.* Кр.

АТНУ´ЦЬ, *прысл.* Бесперапынна, раз за разам. *Што за абжора? Нічого ні рабі, адно есьці атнуць яму давай.* Гр.

АТО'Р, *м.* Вузенькі загончык, што астаецца (пры ворыве) ад звычайнага загона. *Мы на загоні дзьвёх станям, а ты, Лёнічак, на аторы жацімяш.* Св.

АТХЛЯ´ШЧЫЦЬ, *зак., асудж.* Адчыніць (дзверы, акно). *Што табе так гарачо стало, што ты атхляшчыў дзьверы зімою, што гаш пара валіць знадворку ў хату?* Гр.

АЎСЮГА´, *ж.* Аўсюк. *Нека хвароба напала на збожо — аўсюгі много.* Вар.

АЎСЯ´НІСКА (аўсяніско), *н.* Поле, дзе рос авёс. Ал. Паралельна бытуе і аўсянішча.

АХА´ЙВАЦЬ, *незак., зламоўн.* Мыць, прыбіраць, ачышчаць. *Пакуль ахаяла хату, гаш у вачох пацямнело. Ведама, цэлы месяц жылі і ні мылі.* Гр.

АХАЛО´ДАЦЬ, *зак.* Астыць, ахаладзіцца. *Пакуль ты зьбярэсся есьці, то ўсё ахалодая.* Ст. С.

АХА´ЯЦЬ, *зак., зламоўн.* Гл. а х а й в а ц ь. *А хто твайіх дзяцей ахая, як хварэцімяш?* Гр.

АХВАЦІ´ЦЦА, *зак.* Захварэць, выпіўшы халоднай вады (калі ўвагрэешся). *Нешто прыстало да яго. Мо ахвацiўсё. Так воду жлукціў, з гараня прышоўшы.* Кр.

АХІЛІ´ЦЦА, *зак.* Ахінуцца. *Хоць хусткаю ахіліся, усё цяплей будзя. Кр.*

АХІЛІ´ЦЬ, *зак.* Ахінуць. *Ахілі шалікам шыю, раз горло баліць.* Св.

АХІЛЯ´ЦЦА, *незак. Гл.* а х і л і ц ц а . *Хай ахіляяцца, кап цяплёй было.* Кр.

АХІЛЯ'ЦЬ *незак.* Гл. а х і л і ц ь . Вар.

АЦО´ЎКЛАЕ (малако), *прым.* Якое пачало кіснуіць, але яшчэ не скісла. *Німа як ацоўклым забельваць.* Гр.

АЦО´ЎКНУЦЬ, *зак.* Пачаць кіснуць, быць нясвежым (пра малако). *Збяжыцца, німа яг забельваць малаком: ацоўкло.* Св. *Ацоўкня, чаму не, у цёплум стаяўшы цэлы дзень.* Кр.

АЦЯ'ЦЦА, *зак.* Згубіць жаданне есці. *Натто добро еў паршук бацьвінё, але ацяўсё — і ў рот цяпер ні бярэ.* Вальк.

АЧУЦІ´ЦЬ, *зак.* Прывесці ў прытомнасць, ажывіць. *Ледзьвя яго ачуцілі пасьля наркозу, думалі — умёр.* Зл.

АШТЫГА´ЦЬ, *зак., жартаўл.* Біць, муштраваць. *Бацько йіх часто аштыгая, як ні слухаюць.* Гр.

АШЭ´РГАНЫ, *прым.* Абарваны, абадраны (пра адзенне). *І як табе ні брытко людзям паказвацца такім ашэрганым? Што ў цябе німа чаго апрануць?* Гр.

АЮ´СЬКІ, *выкл.* Вокліч. Ужываецца пры адгоне свіней. Кр.

## Б

БА´БА 1, *ж.* Гатунак грушы; бэра. Кр.

БА´БА II, *ж.* Саха, развіліна калодзежнага жураўля. *На бабі коварат сядзіць.* Ст. С.

БА´БЕЦЬ (ба´бяць), *незак.* Маршчыніцца, карабаціцца ў выніку засыхання (пра грушы, бульбу). *Картоплі бабяюць ад духаты, гарачо йім у хаці.* Кр. *Грушы ні гніюць, адно бабяюць.* Гр.

БАБО´К, *м.* Бабоўнік. Дзяр.

БАГА´ЦТВА (багацтво), *н.* Багацце. *Гэдулькі багацтва спалілі нямчурэ тыя!* Зл.

БАДА´К, *м.* 1. Асот. *Бадаке заглушылі ўвесь ячмень.* Кр. 2. Вазон-сталетнік. Гр.

БАЙ: у словах з казкі: *Бег бай па сьцянё, баяць ці не?* Кр.

БА´ЙБУС, *м.* Дурань. Зл.

БАЙЧ, *ж.* Пуга. Едн.

БАКАВІ´ЦА, *ж.* Бакавая частка тушы; бакавіна. *Бакавіцы тонкія — мало клустасці нацячэ.* Гр.

БА´ЛА (бало) 1. *прысл.* Даўней, раней, уперад. *Бало дзеці ні такія цікавыя былі.* Гр. 2. *пабочн. сл.* Бывала. *Ён, бало, сядзя і сядзіць на ганку да вечара.* Кр.

БАЛВА´Н, *м.* 1. Снегавая баба. Кр. 2. Дурань. *Што гэты балван зробіць люцко?* Вар.

БАЛЕ´СЦІ (балесьці), *мн., іран.* Хвароба, хваравітасць. *Каб бізуна даў, то ўсе балесьці паўцякалі п.* Ст. С.

БАЛО´ТА (балото), *н.* 1. Сенакос. *Хутко вырабілі і мы сваё балото, хоць сена і нівельміся много.* Кр. 2. Луг. *На балоці атава вырасла.* Гр.

БАЛЮ´ШЧЫ *прым.* Балючы. *Нарыў, і такі балюшчы — ні ведаю, дзе падзецца.* Вар.

БАЛЯНО´ЎКА, *ж.* Веласіпед з шырокімі коламі. Зл.

БАЛЯ´СКІ, *мн., асудж.* Зубы. *Чаго баляскі выставіў і смяесься?* Гр.

БАЛЯ´ШЧЫНА, *ж.* Баляса (у плоце). *Як выцягну с плоту баляшчыну, то я табе наагрызаюсё.* Св.

БА´НКА, *ж.* Бляшанка для адстойвання смятаны. *У банцы малако ў калодзісі.* Пл.

БА´НЯ, *ж.* Лазня. *Баню ў сяле зрабілі ўжэ.* Даўг.

БАРАБО´ХА, *ж., экспр.* Тоўстая, трыбухатая жанчына (радзей — карова, авечка). *Мо кіль сто і боляй зацягня барабоха тая, дальбох праўда.* Ст. С.

БАРАЗНА´, *ж.* Радок бульбы. *Дзьве баразьне выбраў картопяль да палудня.* Ал.

БАРАНАВА´ННІК, *м.* Той, хто барануе. Гал.

БАРВІ´НЕЦ *м.* Від расліны — барвенак. Ст. С.

БАРО´ЦЦА, *незак.* Бадацца. *Гэта карова борацца, ні лесь, дзеткі, да яе.* Гал.

БАРУКА́ЦЦА, *незак.* Дужацца. *Барукаюцца, хочуць ведаць, хто дужайшы.* Ст. С.

БАРУ'ШЧЫ *прым.* Бадлівы. *Ні руш, сынок, бо гэта карова барушча.* Даўг.

БАРЭ'ЛКА (барэлко), *н.* Невялікая бочка (для вады, гарэлкі). Дзяр.

БА́СА, *ж.* Вялікая кадушка (для сечкі, збожжа). *Басу сечкі нарэзалі на сьвято.* Гр. *У басу як усадзяць, то зь яе ні вылязяш.* Ст. С.

БАСЭ́ТЛЯ, *ж., жартаўл.* 1. Вялікая бочка. Кр. 2. Пра мажную жанчыну. *Яе і конь ні пацягня — басэтлю гэту.* Св.

БАТАРЭ́ЙКА, *ж.* Кішэнны ліхтарык. *Цёмна ноч, добро што батарэйка сьвяціла.* Кр. *Пасьвяці батарэйкаю.* Ст. С.

БАЎКУ́Н, *м.* 1. *Застар.* Частка ярма. Едн. 2. Няўмека, недалёкі чалавек. *Ты яму адно, а ён сваё — баўкун некі.* Кр.

БА́ХАЦЬ, *незак., асудж.* Ліць, разбаўляць (занадта многа). *І нашто было гэдаквяля вады бахаць? Ні цесто — пойло неко; дзе тыя сьвіня есьцімуць.* Ст. С.

БАХУ́Р, *м., пяшчотн.* Пра малое дзіця. *Пусьці, хай бахур папоўзая па лаві.* Даўг.

БАХУРНЯ́, *ж., зборн., экспр.* Дзятва. *Гунь колькі бахурні на санках егдзіць з горкі. Ідзі і ты да іх, ні меў тут скнэрыць!* Гр.

БАЦЬКІ́ (бацьке́), *мн.* Пасланцы ад маладой на вяселлі ў жаніха (маладога); звычайна не родныя бацькі. *Гануля і Ладзё — бацьке ў Йівана Сальвесяваго.* Гр.

БАЧО́НАК, *м.* Невялікая бочка (для вады, гарэлкі). *Бачонак вады выпілі да абеду жанцэ, і ішчэ ні хваціло.* Вальк.

БАЯ́ННЁ (баянё), *н.* Боязь. *Хай яго з гэтым хлопцам і яго баяням! Байіцца адзін у хаці быць, і годзі!* Гр.

БА́ЯННІК, *м.* Той, хто распавядае байкі — «бае». *Слухай, дзеткі, што табе гэты баяннік бая: ён дорыя байкі ведая.* Гр.

БА́ЯННІЦА, *ж.* Жан. да б а я н н і к. *Твая баба нікепская баянніца, хай бая, а ты слухай.* Ст. С.

БА́ЯЦЬ, *незак.* Расказваць казкі. *От любіць, каб баяў яму.* Св.

БЕ́ГІ, *мн.* Гулі, беганіна. *Каб рабіць, так німа, адно бегі наўме. От вісус гэты.* Ст. С.

БЕДНАТА' (бяднатa), *ж.* Беднасць. *Пры такой бяднаце і гэто пажыва.* Пл.

БЕ'ДНЫ *прым., асудж.* Пакараны. *Од будзя рука бедна, як палезя ні ў сваё!* Гр.

БЕЗРАБО´ТНЫ (бязработны), *м.* Беспрацоўны. *Яг бязработны, шлындаю.* Гал.

БЕЗРАБО´ЦЦЕ (бязрабоцё), *н.* Беспрацоўе. *І гэта ні кепска работа, казаў пан, на бязрабоцё.* Дзяр.

БЕЛЕХКАЦЕ'ЦЬ (бяляхкацець), *незак.* Бялецца. *Нешто бяляхкаціць у полі.* Гр.

БЕ´ЛЫ ДЗЕНЬ. Світанне. *Сьпіць да белаго дня.* Св.

БЕ´ЛЬМА (белма), *мн., абразл.* Вочы. *Чаго ён на міне гэтыя белма вырачыў?* Св.

БЕЛЬМАЧЫ´ (бялмачэ´), *мн.* Тое, што і б е л ь м а. *Бялмачэ калом паставіць і енчыць.* Ст. С.

БЕЛЯХЦЕ´ЦЬ (бяляхцець), *незак.* Бялець, бялецца. *Нешто ўжэ бяляхціць. Мусіць, хутко выбярамсё з гэтаго гушчару на берах лесу.* Гр.

БЕРАЗІНА´ (бяразіна), *ж., зборн.* Бярэзнік. *У бяразіне каравэ ходзяць, там добра трава парасла.* Гр.

БЕСПЯРЭ´СЦІХУ (бяспярэсьціху), *прысл.* Бесперапынна, бесперастанку. *Ні была п гэто восянь: дошч бяспярэсьціху джгая ўжо дваньні.* Вар.

БЕСТАЛКО´ВІЦА (бясталковіца), *ж.* Бесталкоўшчына. *Бясталковіца ўсё псуе, ўсё гіня ад яе.* Гр.

БЗЫЯ´ЦЬ, *незак.* Бзыкаць. *Нешто пчолы бзыяць.* Кр.

БІБЛІЯТЭ´КАРЧА (біблятэкарча), *ж.* Бібліятэкар-жанчына. *Хай біблятэкарчу бярэ замуш — добра пара будзя.* Гр.

БІБУ´ЛА, *ж., застар.* Прамакальная папера. *Бібулаю прамакні.* Зл.

БІЁ´МІН, *м.* Гультай, лежабока. *Халера ён рабіцімя, біёмін гэты.* Гр.

БІЗУ´Н, *м., абразл.* Вельмі бедны чалавек. *Што ён табе пазычыць, бізун гэты.* Св.

БІ´ЛА (бі´ло), *н.* Спінка ложка. *Яг за біло ўляплюсё, трохі ўстану, а так ні магу.* Даўг.

БІ´НДУС, *м.* Гультай. *Нічагутко ні робіць — біндус некі, і ўсё.* Вар.

БІ´ТКА, *ж.* Снапы, раскладзеныя на таку для малацьбы; пасад. *Мо зь бітку змалоцімо да сьнядання.* Пл.

БЛАШЧЫ´ЦА, *ж.* Клоп. Вальк.

БЛІЗНА´ *ж.* Блюзна. *От, каб ні блізна, то ішчэ ні парваласё п (палатно), а так разьлезласё.* Кр.

БЛІЗНЯ´ЧКА, *ж.* Блізніца. *Яны роўныя — блізнюк і блізнячка, адзін аднаго ні пярарос.* Св.

БЛІН I, *м.* Тоўсты блінец са скваркамі. *Блінцоў напякла. Бацьку у балото ішчэ блін сьпякла.* Гр.

БЛІН II, *м.* Млын. *Да бліна паехаў прыварку змалоць трохі.* Гр.

БЛО´ТНІК, *м.* Металічны абруч над колам веласіпеда — засцерагае ад распырсквання гразі. *Бяз блотнікаў чысто запырскаўсё, як ехаў дажджом.* Ал.

БЛЮ´МЫ, *мн.* Нюні. *Чаго ты распусьціў блюмы? Што мне твой плач!* Кр.

БЛЯВУ´ЗГАЦЬ, *незак., асудж.* Балбатаць, гаварыць непатрэбнае; плявузгаць. *Слухай, што ён блявузгая — на вярбе грушы.* Ст.С.

БЛЯ´ХАРЧА, *ж.* Жонка бляхара (мянушка). *І бляхар быў, і бляхарча прыбягала наказваць на вяселё, каб наймянно прышлі.* Гр.

БО´ЖКАЦЬ (бо´шкаць), *незак., незад.* Так кажуць на таго, хто, хвалюючыся, прыгаворвае: «Божа мой». *Чаго ты бошкаяш? Што ўжэ будзя, тоё будзя.* Едн.

БО´МКАЦЬ, *незак., непаш.* Мармытаць. *От, нешто сабе пад нос бомкая, халера яго разьбярэ, чаго ён хоча.* Вар.

БО´НДАЧКА, *ж.* 1. Закваска ў дзяжы (у выглядзе булачкі). *Бондачкі ні пакіняш — і хлеп ні ўкісьня.* Гр. 2. Невялічкая баханка белага хлеба для дзяцей. *Бондачкаў вам напякла, хлопцы.* Кр.

БРА´ЗГАЎКА, *ж.* Бразготка (у розн. знач.). *От, бразгаўку дасі — і забуляяцца дзіця.* Зл.

БРА´МКА, *ж.* Фортка (у варотах). *Праз варота егдзімо, а брамку аччыняям, як ідзе хто.* Гр.

БРАНДЗО´ВЫ, *прым.* Бронзавы. *От запаліўсё, гаш брандзовы стаў ат сонца.* Гр.

БРАЦЕ´НІК, *м.* Дваюрадны брат. Кр.

БРАЦІ´ШАК, *м., зняважл.* Брат. *Гэто брацішак твой нарабіў усё.* Ст.С.

БРАЦЬ, *незак.* Кусаць (пра сабак). *Добро Лыско бярэ і ні скаваўшы, — паганы, падло.* Св.

БРАШЧА´ЦЬ, *незак.* Бразгаць, бразгатаць. *Можа ў вядры той гаплюк — нешто брашчыць тут. Палядзі, Ганна!* Гр.

БРУКАВА´ЦЬ, *незак.* Варкаваць. *Мусіць, голуб брукуя: бруку-бруку!* Гр.

БРУ´КУ-БРУ´КУ!, *гукаперайм.* Так перадаюць варкаванне галубоў. Вар.

БРУХІТА´ННІК, *м., непахв.* Той, хто вытоптвае, топча (расліны). *Зыдзі з граткі, брухітаннік, ні брухічы гуркавенё, а то ні вырастуць гурке.* Гр.

БРУХІТА´ННІЦА, *ж., непахв.* Жан. да б р у х і т а н н і к. *Чаго ты залезла ў моркву і брухічаш яе? Вылась, брухітанніца, барджэй аттуль, а то дам папрушкі!* Гр.

БРУХІТА´ЦЬ, *незак., незад.* Таптаць. *Як пачнуць коні брухітаць — ні травінкі ні будзя.* Даўг.

БРУЧКАВІ´ННЕ (брушкавенё), *н., зборн.* Лісце бручкі. *Сьвіня брушкавеня нешто ні ядуць.* Вар. *Брушкавенё ні благоё, а брушка малая.* Ст. С.

БРЫСКО´ТЛІВЫ, *прым.* Золкі. *Цяплей апратвайся, а то вецяр такі брыскотлівы — да касьцей праціная.* Гр.

БРЫСЬ, *м., жартаўл.* Здаровы, чырванатвары чалавек. *Дзе ён у халеры хворы — брысь такі!* Гр.

БРЫТА´ЦЬ, *незак.* Заблытваць (ніткі). *Нешто брытая цэўка ў чаўныку.* Вар.

БРЭ´НГАЦЬ, *незак.* Бразгаць. *І чаго ён там брэнгая дзвярыма?* Вар.

БУ´БА, *ж., дзіцяч.* Гарошына. *Дам бубы, адно вылушчу с стручка.* Вальк.

БУ´БЕХІ (бубяхі), *мн., незад.* Малыя плады. *Што гэто за яблыкі — бубяхі некія* Гр.

БУБНАЧЫ´ (бубначэ), *мн., зняважл.* Пра малых дзяцей. *Хай йіх, з гэтымі бубначамі. Калі я йіх пагадую?* Гр.

БУГАІ´СКА (бугаіско), *м.* 1. *узмацн.* Бугай. Св. 2. *асудж.* Пра дужага, але гультаяватага чалавека. *Гэдыкі бугайіско, а каб нічого ні памахчы старой.* Гр.

БУ´ДЗЕНЬ (будзянь), *м.* Будзённы дзень. Кр.

БУДЗЬ (буць) *часц.* Абы. *Будзь-хто, абы занёс мяшок.* Гр.

БУ´КІШ, *выкл.* Так кажуць, каб баран пачаў біцца (удар лбом). Гр.

БУЛГА´КЦЕР (булгакцяр), *м.* Бухгалтар. *За булгакцяра вучыцца хлопяц.* Кр.

БУ´ЛЬБА, *ж.* Завязь на сцябле бульбы. *Як пярацьвітуць картоплі, бульба расьце на картаплені.* Гр.

БУ´ЛЬБАТКА, *ж.* Бурбалка. *Бульбаткі становяцца (на вадзе) — дошч доўго ісьцімя.* Гал.

БУНАВА´ЦЬ, *незак., асудж.* Сварыцца, хуліганіць. *От вырадак які! Як вып'я, так і буняя ў хаці, хоць ты ўцякай зь яе.* Гр.

БУНТАВА´ЦЬ, *незак.* Блытаць, зблытваць. *Хай бунтуя, я яму складаць ні буду.* Гал.

БУРАКАВІ´ННЕ (буракавенё), *н., зборн.* Бацвінне. *Буракавенё парасята натто любяць.* Едн. *Буракавеня прынясла — бацьвіня зварымо.* Вальк.

БУРАКІ´ (бураке), *толькі мн.* Боршч. *Ні хачу капусты, а дай яму канешня буракоў паесьці.* Вар.

БУРВА´ЛАК, *м.* 1. *жартаўл.* Кавалак бервяна. *Бярэмянё дроў будзя з бурвалка гэтаго.* Гр. 2. *перан.* Моцны, прыземісты чалавек; камлюкаваты. *От загадаваў сілу бурвалак гэты!* Кр.

БУ´РКА, *ж.* Дзіцячая цацка — нітка з костачкай, якая, абарочваючыся вакол асі-ніткі, бурчыць. Гр.

БУ´РСА, *ж.* Сварка, лаянка. *Чаго ты бурсу падняў? Ні можаш, як чалавек, пагаварыць!* Кр.

БУРЧА´К, *м.* Гатунак высокаўраджайнага скараспелага гароху. *Натто добры гарох бурчак: хутко сьпея і ядроны.* Кр.

БУ´СЬКІ: д а ц ь б у с ь к і — пацалаваць (дзіця). *Дай буські, то дзет гасцінца дасьць.* Гр.

БУ´ТЛЕЦЬ (бутляць), *незак.* Гніць ад сырасці (пра бервяно). *Ні будзя зь яе падрубы — бутляя.* Вар.

БУХІ´КАЦЬ, *незак., незад.* Кашляць. *Зноў будзяш бухікаць, як лёду насмокчасся.* Гр.

БУ´ЧЫЦЦА, *незак.* Наважвацца бадаць (пра карову). *Нешто бучыцца, лядзі, сынку, каб ні ўбарола яна цябе, нілюцкая.* Кр.

БУШВА´ЛАК, *м.* Тое, што і б у р в а л а к (у 1 і 2 знач.). *На дванні паліць печ было п, кап папілаваў той бушвалак.* Гр. *Бушвалак такі, дзе ён цябе ні пакоціць* Ст. С.

БУЯ´ЦЬ, *незак.* І. Буяніць. *Напіўсё і давай буяць, пакуль ні надавалі ў карк.* Гр. 2. Гудзець. *Мусіць, самалёт буйіць недзя над лесам!* Ст. С. *Чмель буйіць. Каб ні ўкусіў, лядзі.* Св.

БЫЛІНА´ *ж., зборн.* Быльнік. *Усё тут быліною парасло, бо людзей німашака нікого.* Св.

БЫ´ЛЯ, *часц.* Абы; ужываецца толькі з займеннікавымі словамі. *Лэндзіць быля-што, абы ні маўчаць.* Кр.

БЫСЬ-БЫСЬ-БЫСЬ! Так клічуць быка. *Вар.*

БЫ´СЬКА, *ж., дзіцяч.* Карова, цяля. *Паглаць, Лёнічак, быську, яна любіць слухаць, яг гладзяць.* Ст. С.

БЫ´ТТА (бытто) 1. *злучн.* Быццам. *Казаў, бытто прыедзя сёніка.* Вальк. 2. *часц.* Быццам. *Бытто сам лепшы, што другіх ганіць.* Кр.

БЭ´БАХ, *м., непахв.* Жывот, трыбух. *Чаго ты выставіў бэбах і сьмяшыш людзей? Во наеў бэбах, гаш ні сходзяцца ганавіцы!* Гр.

БЭ´КАЦЬ, *незак., непаш.* Чытаць па складах. *Які зь яго чытар! От бэкая трохі.* Гр.

БЭ´МБЛІ, *мн.* Пухіры. *Руку апарыў — на бэмблі пабіло.* Ст. С.

БЭ´НЦНУЦЬ, *зак.* Ударыць рэзка, з сілай. *Яг бэнцнуў, гаш йіскры пасыпаліся з воч.* Зл.

БЭ´РСАЦЬ, *незак.* 1. *непаш.* Пісаць. *Нешто бэрсаў, і ні ведая сам што.* Кр. *2. асудж.* Нячыста жаць. *Каб ні бэрсаў, яг жаць ні ўмеяш!* Вар.

БЯЗО´ДДЫХУ, *прысл.* Бесперастанку, не адпачываючы. *Дзе ты сьцягняш, цэлы дзень робячы бязоддыху.* Св.

БЯЗЭ´ННІЦА (бязэнніца), *ж.* Бездань. *Як пайшоў, то як у бязэнніцу — прапаў недзя.* Гр.

БЯЛЕ´ЦЬ, *незак.* І. Бялець. 2. Спець, паспяваць (пра збожжа). *Ужэ і ячмень бялея, зарас жацімям. Даўг.* 3. Світаць. *Хутко ранак, бо на ўсходзі ўжэ бялея.* Гр.

БЯРЭ´СЦІНА (бярэсьціна), *ж.* Бераст. *З бярэсьціны дугі гнуцца добро.* Кр. *Бярэсьціна добро расьце.* Ст. С. *От высока гэта бярэсьціна.* Гр.

БЯССТЫ´ДНІК (бястыднік), *м.* Бессаромнік. *Яму, бястыдніку гэтаму, хоць у вочы плюй — усяроўно.* Даўг.

БЯССТЫ´ДНІЦА (бястыдніца), *ж.* Бессаромніца. *Такой бястыдніцы сьвет ні бачыў.* Зл.

## В

ВАГАВА´ЦЬ, *незак., зламоўн.* Будзіць, падымаць са сну. *Вагуй, вагуй яго, а ён сьпіць як укопаны!* Ст. С.

ВА´ДЗІЦЬ, *незак.* Ставіць цурку пры гульні ў клёк. (гл.). *Хто клёк ні саб'е, той ідзе вадзіць.* Гр.

ВАЗЕ´ННЕ (вазенё), *н.* Возка. *Як пачнецца вазенё (снапоў), ні будзя часу хадзіць на лячэнё.* Ст. С.

ВАЗЕ´ННІК, *м.* Той, хто возіць; возчык. *Каб ішчэ вазеннікаў с пару, то ўсё дзераво было п ужэ на надворку, і ні трэбуло п ішчэ рас ехаць па яго.* Ст.С.

ВАЙДАВА´ЦЬ, *незак.* Крыўдаваць. *Хай ні вайдуя, я ёй кепскаго нічого ні зрабіла і ні зраблю.* Гр.

ВАЙЦЯ'ЦЬ, *незак.* Лаяць, выгаворваць, прабіраць. *Як застаў лежачы — от вайцяў, што ні касілі.* Вар.

ВАЛАЧА'Й, *м.* 1. Валацуга. *Адно валочыцца за ею — валачай гэты.* Ст. С. *І ў хаці ні пасядзіць — усё пацягнуўсё і пацягнуўсё, як валачай.* Гр. 2. Бадзяга. *Дзе ён ні быў — валачай гэты!* Кр.

ВА'ЛЕНТ (валянт), *м.* Вясельная сукня. *Валянт маладая злажсыла на вяселё.* Кр.

ВА'ЛЕЦ (валяц), *м.* Вальс (танец). Зл.

ВАЛКАВА'ТЫ, *прым.* Сыраваты. *Німа як браць сена: ішчэ валкавато, каб ні папрэло ў гумне.* Ст. С.

ВАЛО'КІ, *застар.* Вераўчаныя лапці. Едн.

ВА'ЛЯНКА, *застар.* Пасудзіна з дошчак (авальнай формы) для захоўвання высевак, мукі. Гр.

ВАННАРО'ВЫ, *прым.* Ганарысты, з пыхай. *Быля с кім ні гаворыць, ваннаровы такі.* Кр.

ВАНЦА'К, *м.* Хвароба страўніка; панос. *Некі ванцак напаў на хлопца, ні можа нічого ў рот узяць, зьзесці, усё бегая, на двор гоніць яго.* Гр.

ВА'РА, *ж.* Згатаваная страва, часцей рэдкая; варыва. *Вары ні паясі — яг галодны ходзіш.* Гр.

ВАРАЖЭ'Й, *м.* і *ж.* Варажбіт. *Які зь яе варажэй! Кап цыганка, тая наваражсыла п.* Кр.

ВАРАЖЭ'ННІК, *м.* Тое, што і в а р а ж э й. *Кепскі сь цябе варажэннік, рас ты нічого мацяры ні выварожсыў!* Гр.

ВАРАЖЭ'ННІЦА, *ж.* Жан. да в а р а ж э н н і к. *Маня наша добрая варажэнніца — што хочаш вывараждсыць.* Гр.

ВА'РНАСЦЬ, *ж.* Парнасць. *Мусяць, дождж будзя — варнасць такая, варыць, як у гаршчку?* Ст.С.

ВАРЫ'ЦЬ І: г а л а в а  в а р ы ц ь — цяміць, разумее, кеміць. *О, у яго галава варыць: што хоч напіша.* Кр. *Голавы вараць, так вывучацца на велькіх людзей.* Гр.

ВАРЫ'ЦЬ ІІ, *незак., безас.* Парыць (пра надвор'е). *Варыць, мусі, на дошч.* Гал.

ВАРЭ'ННІЦА, *ж.* Кухарка. *Ты малая ішчэ, дзеткі, каб варэнніцаю быць. Хай маці сама варыць.* Гр.

ВА'ТАРГА, *ж.* Сварка, грызня. *Ні магу цярпець ватаргі гэтае. Усё грызуцца адно з адным і спакою німашака.* Дзяр.

ВА'ХТА, *ж.* 1. Хвалі на рацэ (у час ветранага надвор'я). *Як вахта, німа як рыбу лавіць вудачкай.* Едн. 2. Кругі ад кінутага ў

ваду прадмета (каменя). *Нічого на дне ні бачу: вахты нарабіў камяням.* Едн.

ВАЧАНЯ', *н., мн.* ВАЧАНЯ'ТЫ (вачанята), *пяшчотл.* Вока, вочка. *От ужэ адно вачаня расплюшчыў, потым другоё.* Гр.

ВАШАВА'ЦЬ, *незак., зламоўн.* Калыхаць. *От пагано дзіця. Вашуй і вашуй. І ні сьпіць.* Гр.

ВАШЧУРЫ'НА, *ж.* Вашчына. *Моцно круціў цантрафугу, то гаш рамкі парваліся з вышчурынаю.* Гр.

ВЕЛЬКАЛЁ'Н, *м.* Даўгунец (лён). *Велькалён дзе ні пасёй — уродзіць.* Даўг.

ВЕРАПЛА'Н (вяраплан і яраплан), *застар.* Самалёт. Дзяр.

ВЕ'СНІЦЫ (весьніцы), *мн., перан., непаш.* Пра рэдкія зубы. *Выскаліў весніцы.* Кр.

ВЕТРАНІ'ЦА (вятраніца), *ж.* Ветранае надвор'е. *Такая вятраніца — з нох валіць.* Вар.

ВЕ'ТРАЦЬ, *незак.* Прасушвацца (на ветры). *Хай ішчэ ветрая адзежа на сонцы, яна тут хутко высыхая.* Гр.

ВЕ'ЦЦЕ (вецё), *н., зборн.* Дробныя галінкі бярозы, з якіх робяць венікі. *Веця нарэзаў, трэба венік зьвязаць.* Вальк.

ВЕ'ЧАР, *прысл.* Увечары. *Рано і вечар даю трасянкі, а ўдзень сечкаю кармлю каравэ.* Гр. *Рано і вечар даю, а ў дзень ні доймо.* Ст. С.

ВЕ'ЯЛКА, *ж.* Павека. *Ячмень на воко сеў, гаш веялка спухла.* Св.

ВІДНІНА', *ж.* Віднага. *Цяперака ў хатах тых такая відніна. Ведама, алектрыка, ні лямпа.* Гр.

ВІДО'ЧАК, *м.* Карціна (на сцяну), пераважна пейзаж. *От, відочак які трэ павесіць.* Гр.

ВІДО'ЧНА (відочно) 1. *прысл.* Відавочна. Кр. 2. *пабочн. сл.* Відавочна. *Ні я, так ён, відочно, зойдзя да цябе.* Ст. С.

ВІ'ЛКІ, *мн.* 1. Прылада (невялікая рагаціна), якою устаўляюць у печ (і вымаюць з печы) скавараду. *Вілкамі скварадy бярэм, як блінцэ пячэм.* Гр. 2. Відэлец. *Ні рукою, вілкамі бяры каўбасу.* Ст. С.

ВІРГА'ЦЦА, *незак.* Брыкацца (пра коней). *Мо конь віргаяцца, ні лесь бліско, каб ні здаў.* Кр.

ВІРГЛІ'ВЫ, *прым.* Брыклівы. *Ззаду ні падлась: віргліва (конь).* Кр.

ВІ'РЛА, *мн., непахв.* Тое, што і в і р л а ч ы. *У Мані акуратныя вочы, а ў мужыка яе — вірла некія. Як вылупіць свае вірла, то хоць ты с хаты ўцякай.* Гр.

ВІРЛА´Ч, *м., абразл.* Вірлавокі. Гр.

ВІРЛАЧЫ´ (вірлачэ), *толькі мн., абразл.* Вочы. *Чаго вірлачэ вырачыў? Ні бачыў, ці што?* Гр.

ВІ´СЛА, *м. і ж., застар., абразл.* Віславухі. *От вісла некі — вушы паадвісалі, як каўбасы.* Ст. С.

ВІСО´К, *м.* Скроня. *У вісок каб даў — забіў бы. У пашчэнку — то жыцімя.* Вар.

ВІЦІНА´Р, *м.* Ветэрынар. *Карову лядзіць віцінар.* Гал.

ВО´БЖАР, *м.* і *ж.* Абжора. *Яе ні накорміш — вобжар нека. Гэты вобжар тры міскі зацеркі вылапая, і ўсё мало яму.* Дзяр.

ВО´ГІР, *м.* 1. *застар.* Жарабец. Кр. 2. *перан., зняважл.* Пра чалавека. *От вогір гэты одно зубы скаліць.* Ст. С.

ВО´ГНІК, *м.* Пякучка — хвароба, пры якой рана «агнём гарыць». *Ні лячыла балячкі, так вогнік упаў.* Гр.

ВОЖ´АГ (вожах), *м.* 1. Палка. *Каб якого вожаха, а так можа ўкусіць сабака.* Св. 2. Дзяржанне ў пячных прыладах — вілах, качарзе, памяле. *Вожах абгарэў у вілох.* Гр.

ВО´КЛАДКІ (воклаткі), *мн., адз.* ВО´КЛАДКА, *ж.* Аправа ў сцізорыку. *Ножык добры. І воклаткі харошыя, у руку ні рэжуць.* Гр.

ВО´ЛЛЕ (волё), *н.* Зоб, валлё. *Велько волё наела гусь.* Даўг.

ВО´ЛЬНАСЦЬ, *ж.* Панос (хвароба). Пл.

ВО´МПІЦЬ, *незак.* Сумнявацца (у чым), баяцца за неабдуманы крок (справу). *Усё вомплю, каб дзе ні прапаў серп на полі, што Настуля пакінула.* Вар.

ВО´ПЕРАДКА (вопяратка), ж. Складзеная папалам вяровачка для кідання каменя. *З вопяраткі далеко ляціць камянь.* Ст. С.

ВО´ПСАСАМ, *прысл.* Неадчэпна, смаліцаю (лезці). *Просто с кулакамі вопсасам лезя.* Вар.

ВО´СЬДЗЕКА (возьдзяка і гозьдзяка), *часц.* Вось. *Возьдзяка дахаты трэба йісьці, а ты ні прадаў.* Кр.

ВОЎК: На воўка — нашто, начорта. *На воўка мне тая паша, як карову прадам!* Гр. Пад воўка — к чорту. *Прадаў бы пад воўка ты яе (карову), рас малака ні дае.* Ст. С.

ВУГЛІ´ (вугле), *мн., зборн.* Вуголле. *Вугле ў печы да вечара ні патухлі — мусіць, на пагоду.* Ст. С.

ВУГЛ´К, *м.* Вугаль. *Вугліка бярэ і прыкурвая.* Кр.

ВУЕ´Й, *выкл.* Так кажуць пры здзіўленні. *Вуей, што тут робіцца, што гэдаквяля людзей найшло!* Гр.

ВУЕ´ЙКАЦЬ, *незак.* Здзіўляцца, прыгаворваючы: «вуей–вуей!» *Будзя табе тут вуейкаць, хадзем дахаты.* Дзяр.

ВУЖ (вуш) I, *м.* 1. Гадзюка, вужака. *Лядзі, каб вуш ні ўкусіў.* Св. 2. *перан., асудж.* Пра таго, хто многа выпівае. *От хлепча гэту гару, ат стала ні адгоніш вужа гэтаго.* Гр.

ВУЖ (вуш) II, *м.* Частка хамута, гуж. *Як даў у хамут, так і паляцеў вуш.* Кр.

ВУЖО´ЎКА, *ж.* Скручаны, звіты дубец, якім завязваюць калы ў загарадзе, прывязваюць салому на страсе. Гр.

ВУ´ЖЫК, *м.* Раменная частка цэпа. *Вужык лопнуў, і біч паляцеў у прыстаранак.* Вар.

ВУ´ЗГАЛАВАК, *м.* Пярэдняя частка саней. Гр.

ВУЗЫ´Р, *м.* Камель снопа. *Вузыром ўверх адно шапку ставім на мыдлях.* Гр.

ВУЛЬ-ВУЛЬ-ВУЛЬ!, *выкл.* Так клічуць галубоў і качак. Кр.

ВУ´МЯНЕ (вумянё), *н.* Вымя. *Велько вумянё, мо і много малака давацімя карова.* Гр.

ВУ´ПАР, *м.* і *ж., зняважл.* Упарты чалавек. *От жа вупар! Як упрэцца, што хоч кажы — усё сваё цьвярдзіць.* Ст. С.

ВУТЛЫ, *прым.* Хілы, слабы, нядужы. *Натто вутлы, дзе яму дзяравіну падымаць.* Гр.

ВУЧЫ´ЦЕЛЬ (вучыцяль), *м.* Настаўнік. Зл.

ВУЧЫЦЕ´ЛЬКА, *ж.* Настаўніца. Даўг.

ВУШАНЯ´, *н., мн.* ВУШАНЯ´ТЫ (вушанята), *пяшчотл.* Вуха, вушка. *Дай сваё вушаня, накручу, што спаць ні сьпіш!* Св.

ВУ´ШКА (вушко´), *н.* Ручка (збана, кубка, гаршка). *За вушко бяры кубак, ні будзя такі гарачы.* Вар.

ВЫ´БАХАЦЬ, *зак., асудж.* Выліць (многа, усё). *Чым я плацё мыціму, як ты ўсю воду выбахаў.* Гр.

ВЫ´БІРАНКІ, *мн.* Каноплі, якія раней паспелі (іх выбіраюць, даючы магчымасць астатнім расці). Кр.

ВЫБІРА´ННІЦА, *ж.* Жанчына, якая выбірае асобіны спелых канопляў. Гр.

ВЫ´БРУХІТАЦЬ, *зак., асудж.* Вытаптаць. *Як улезьлі ў вагарт, усе гурке выбрухіталі.* Гр.

ВЫ´ВАРАТ, *м.* Вывярнутае дрэва, выварацень. *Выварат прывёс на дрова.* Гр.

ВЫ´ГІНУЦЬ, *зак.* Прапасці на корані (пра пасевы). *Халодна вясна была, так у лахціні жыто чысто выгінуло.* Кр.

ВЫГЭ´ЛЬЦВАЦЬ, *незак., асудж.* Выскокваць. *Ніц ні хоча рабіць, адно выгэльцвая зь вяровачкаю.* Ст. С.

ВЫ´ДЖГАЦЬ, *зак.* Налупцавяць, насцёбаць. *Хіба я жыва ні буду, як ні выджгаю цябе за твае гулі.* Ст. С.

ВЫ´ДЗІРАК, *м.* Першы раз апрацаванае поле. *Натто лён родзіць на выдзірку добро.* Вар.

ВЫ´ЖАЛАПАЦЬ, *зак.* Выжлуктаць, выхлебтаць. *Выжалапаў цэлу бутлю гарэлкі за сьвято.* Пл.

ВЫ´ЖЛА, *ж., зняважл.* Пра таго, хто віжуе. *Настаяшча выжла, усё вывіжсуя.* Кр.

ВЫЗІКА´ЦЬ, *незак.* Крычаць, вызвярацца. *І чаго ты вызікаяш на міне? Я ні баюсё цябе.* Гр.

ВЫЗІКНУ´ЦЬ, *зак. Гл.* ВЫЗІКАЦЬ. *Як вызікня на міне, гаш спалохалася.* Ст. С.

ВЫЗІРА´ЦЬ, *незак.* 1. Выглядаць. *Чаго вызіраяш з-за дзьвярэй? Ідзі ў хату.* Гр. 2. *перан., незад.* Прасіць, чакаць ласкі. *Як магу — сам сабе зараблю, а як ні замагу — тагды буду вызіраць, каб есьці далі.* Ст. С.

ВЫ´ЗУБАЦЬ, *зак.* Выбраць моцнае яйцо (стукаючы аб зубы). *Яйцо вызубаў, што ніхто ні выб'я.* Кр.

ВЫЗУ´БВАЦЦА, *незак.* Усходзіць (пра збожжа). *Ужэ пачало вызубвацца, хутко пасходзіць (жыта).* Гр.

ВЫ´ЗУБІЦЦА, *зак.* Гл. вызубвацца. *Хутко і авес вызубіцца.* Кр.

ВЫ´ЙСЦІ (высьці), *зак.* 1. Вылецець. *Пчолы вышлі, трэ рой лавіць, недзя на вішні сеў.* Вар. 2. Вылупіцца (з яйца). *Троё куранятаў вышло, да вечара мо ўсе паўходзяць.* Гр. *Індычаня вышло зь яйца.* Кр.

ВЫ´КАПАНЫ, *прым.* Надта падобны, як дзве каплі вады; выліты. *А Валік той — выкапаны бацько.* Ал.

ВЫ´КАЧАЦЬ, *зак.* Гл. катаць. *Трохі мёду выкачаю.* Ст. С.

ВЫ´КРУМКАЦЬ, *зак., непаш.* Выпрасіць. *Ні быў бы гэто ён: выкрумкаў у бацька (грошы).* Гр.

ВЫ´ЛАЖЫЦЬ, *зак.* Выпакладаць. Вар.

ВЫ´ЛУПАК, *м.* Пра зіркатага, вірлавокага чалавека. *Вочы як кулаке — от вылупак!* Ст.С.

ВЫ´ЛЮДНЕЦЬ, *зак.* Вылюдзець. *Падрос хлопяц, вылюдняў, стаў харошы, яг бацько яго.* Гр.

ВЫ´МАГЛЯВАЦЬ, *зак.* Надта добра, з любоўю зрабіць што. *Од жа вымаглявоў, хоць ты на выставу нясі гэту рамку.* Гр.

ВЫНЕСЦІ (вынясьці), *зак.* Заважыць. *Мая сьвіня такведя ні выняся. Мо пудоў с пяць будзя.* Ст. С.

ВЫ´НЯЦЬ: в ы н я ц ь б і л е т — купіць білет *(застар). Пачакайця, я ішчэ білет ў касі ні выняла.* Зл.

ВЫ´ПЕРЦІ (выпярці), 1. *безас., непаш.* Прагаладацца. *От выпярло — хлеп сухама папоўніцы топча.* Гр. 2. *перан., груб.* З'есці. *Цэлу міску выпяр, і яшчэ мало.* Кр.

ВЫ´ПІРЫЦЬ, *зак.* Гл. п і р ы ц ь. *Ужэ палатно выпірыла, забірай пранік.* Гр.

ВЫ´ПРАГА, *ж., зламоўн.* Смерць, згуба. *Такі ўжэ нілюцкі хлопяц быў, і выпрага яго ні брала, жыў і жыў.* Св.

ВЫ´ПРАГЧЫСЯ (выпрахчыся), *зак.* Здохнуць. *Каб яны выпрагліся, з гэтымі курамі, адно агарот выграбаюць.* Вальк.

ВЫ´ПРАСТАЦЦА, *зак., перан.* Памерці. *Пакуль да дохтара давязьлі — і выпрастаўсё.* Дзяр.

ВЫ´ПУГАЦЬ, *зак., жартаўл.* Выесці, выпіць. *Пакуль я завінулася — ужэ і выпугаў зацерку.* Ст. С.

ВЫ´ПУТРЫЦЦА, *зак., зняважл.* Прагаладацца. *Як выпутрыўсё — усё пат каталку есьць.* Гр.

ВЫ´РАБІЦЦА, *зак.* І. Вызваліцца, вылезці (пры дужанні). *Як пакоціць, то ўжэ с-пад яго ні вырабісься.* Кр. 2. Моцна схуднець пры рабоце. *От вырабілася — у трэску.* Пл.

ВЫ´РАБІЦЬ, *зак.* Выклапатаць, атрымаць. *Хутко ў школу, трэ дакуманты вырабіць.* Зл.

ВЫ´РАЧКА, *м.* і *ж.* Тое, што і в ы л у п а к. *Вочы як вырачыць на цябе, вырачка гэты, то гаш страх бярэ!* Дзяр.

ВЫ´РАЧЫЦЬ, *зак.* Вытрашчыць. *Злосны, як сабака. Вочы вырачыць на цябе і давай крычаць.* Св.

ВЫ´САДКІ (высаткі), *мн.* Агародніна, высаджаная на семя; высадак. Ал.

ВЫСАЧЫНЯ´ *ж., узмацн.* Надта высокі. *Гаш галава кружыцца, такая высачыня той дом.* Гр.

ВЫ´СКАЛІЦЦА, *зак.* Паказацца (пра сонца). *Мо яшчэ пацяплея, як сонцо выскаліцца.* Гр.

ВЫ´СКУРАЦЬ, *зак., непаш.* Здолець, мець магчымасць. *Дзе ты выскураяш на кожан дзень у новум хадзіць!* Вар.

ВЫСМЫ´ГЛЫ, *прым.* Тонкі і высокі (пра чалавека). *Як стусіна, высмыглы гэты Юшкевіч.* Ал.

ВЫ´СНЯКАЦЦА (высьнякацца), *зак.* Высмаркацца. Вальк.

ВЫ´СНЯКАЦЬ (высьнякаць), *зак.* Высмаркаць. *Хадзі, дзеткі, нос табе высьнякаю.* Вар.

ВЫСТА´ВА, *ж.* Выстаўка. *Як на выставу, выбраўсё.* Зл.

ВЫ´СТАРЧЫЦЬ, *зак.* Хапіць. *Дзе ты яму выстарчыш, каб адных смакоў даваць есьці?* Кр.

ВЫ´СТРЫГНУЦЦА, *зак.* Паказацца, высунуцца. *Адно выстрыгнуўсё на вочы, ужэ і ідзі памагай яму!* Ст. С.

ВЫ´СТРЫГНУЦЬ, *зак.* Выставіць, высунуць. *Пайдзі нос выстрыгні, палядзіш, які марос.* Вар.

ВЫ´СЦЕЖЫЦЦА (высьцяжыцца), *зак., жартаўл.* Накіравацца, выправіцца ў дарогу. *Хай хоць трохі пачакаў бы. Так не — ужэ высцяжыўсё!* Гр.

ВЫСЦІГО´ВЫ (высьціговы), *прым.* Гоначны (веласіпед). *На высьціговум хучэй заедзяш.* Кар.

ВЫ´СЫП, *м.* Пясчаны ўзгорак, астравок; выспа. *На высыпі нічого ні расьце.* Дзяр.

ВЫ´ТАНУЦЬ: хай яно вытане — хай яно згарыць (прападзе). *Ні жывем, а гніем с хваробаў гэтых. Хай яно вытаня, с такім жыцям.* Гр.

ВЫ´ТРУБІЦЬ, *зак., іран.* З'есці. *Пасьці ўсей гаршчок буракоў вытрубілі двох.* Гр.

ВЫ´ТУХЛІЦЦА, *зак., непахв.* Выспацца. *Од гультай гэты яго хлопяц. Цэлымі днямі нічого ні робіць, адно ў лошку ляжыць, а вытухліцца — на гулі ідзе.* Гр.

ВЫ´ХВАРАЦЬ,1. Прахварэць. Зл. 2. *перан:* Прапасці, знікнуць. *Кап ты выхварала, з гэтаю вадою.* Кр.

ВЫХО´ДЗІЦЬ, *незак.* Гл. выйсці (у 1 і 2 знач.). *Пчолы выходзяць, трэ лавіць.* Кр. *Ужэ куранята выходзяць.* Зл.

ВЫ´ЦВІЧЫЦЬ (выцьвічыць), *зак.* Выадукаваць, вывучыць, прывучыць. *Так каня выцьвічыў, як чалавек панімая ўсё.* Ст. С.

ВЫ´ЦЕПКАЦЦА (выцяпкацца), *зак.* Абабіцца (пра край, бераг тканіны, адзення). *Каўнер выцяпкаўсё, трэба падвярнуць.* Гр.

ВЫ´ЦЕПКІ (выцяпкі), *толькі мн.* Абарваныя, распушчаныя ніткі (па краях тканіны, адзення). *Выцяпкі пабрэзваю, хай ні вісяць.* Вар.

ВЫ´ЦЕРАБІЦЦА, *зак.* Вызваліцца, перамагчы (пры дужанні). *Дзе ты выцярабісься с-пад яго, мядзьвець такі!* Кр.

ВЫ´ЦЕРАБІЦЬ (выцярабіць), *зак., жартаўл.* Выесці. *Цэлу міску выцярабіў, як прагаладаўсё хлопяц.* Ал.

ВЫ´ЦУХЛІЦЬ, *зак.* Выжлуктаць. *Усё выцухліў і каплі ні пакінуў губы аммачыць.* Ст. С.

ВЫ´ЦЫГАНІЦЬ, *зак., незад.* Выпрасіць. *Ён усё выцыганіць, ты яго ні ведаяш ішчэ.* Вар.

ВЫЧАЎПЛЯ´ЦЬ, *незак.* Вытвараць, вычвараць. *Чаго яны на том вечары ні вычаўплялі: і скакалі, і сьпявалі!* Св.

ВЫЧВАРА´ЦЬ, *незак.* Балбатаць, гаварыць пустое. *Як стаў вычвараць — гаш брытко слухаць.* Ст. С.

ВЫЧЫ´ТВАЦЬ, *незак.* Галасіць, плакаць з прыгаворваннем. *А як стала вычытваць па Івану, гаш усе заплакалі.* Вар.

ВЫ´ШЧЫТЫ, *толькі мн.* Вылікі. *Бяз вышчытаў гэдаквяля ні будзя.* Ал.

ВЭ´ДЛУГ (вэдлух), *прыназ.* У параўнанні з. *Што твой ровар вэдлух матароўкі!* Гр.

ВЭ´НГРЫН, *м., жартаўл., застар.* Той, хто пакладае. Гр.

ВЯЗ (вяс), *м.* Папярочная дошчачка, якая звязвае палазы ў адно цэлае; замацоўваецца да капылоў у ніжняй частцы. Даўг.

ВЯСЕ´ЛЬНІК, *м.* Удзельнік вяселля. *Ужэ ўсе вясельнікі парасходзіліся, ціхо ў хаці стало.* Св.

ВЯСНЯ´НЫ (вясьняны), *прым.*Вясновы. *Вясьняныя апенкі смажсымо.* Пл.

ВЯТРА´К, *м.* 1. Барабан у арфе. Кр. 2. Флюгер. *Вятрак паказвая, што с палудня вецяр.* Пл.

ВЯТРО´ЎКІ, *адз.*, в я т р о ў к а, *ж.* Басаножкі. *Летам і ў вятроўках ногі прэюць, яг гарачо.* Ал.

ВЯША´К, *м.* Вешалка (насценная). *На вяшак павесь пальто.* Зл.

# Г

ГАВЭ´НДА, *ж., жартаўл.* Гутарка, размова. *Трэба выпіць, раз гавэнда такая.* Едн.

ГА´ГАВІЦА, *ж., непахв.* Рот, горла. *Зьзеш, а то поўну гагавіцу напхаў і бармочаш чорт ведая што.* Гр.

ГА´ДАЦЬ, *незак.* Пляткарыць. *Годзі вам тут гадаць, ідзеця жсаць.* Гр.

ГАДО´ВАНАК, *м.* Хлопчык, якога бяруць на выхаванне; гадаванец, выхаванец. *Пятрусёў гадованак недзя вучыцца пайшоў за вучыцяля.* Кр.

ГАДО´ВАНКА, *ж.* Дзяўчынка, якую бяруць на выхаванне; выхаванка, гадаванка. Гр.

ГАЁ´ВЫ, *м., застар.* Ляснік. *Даўней казалі гаёвы, а цяперака — лясьнік.* Кар.

ГА´ЗА, *ж.* Лямпа. *Газу павесь нат сталом — відней будзя.* Вар.

ГАЙСТРЫ´ЦЬ (і гастрыць), *незак.* Вастрыць. *Хай косу гойстрыць.* Едн.

ГАК, *м.* Тое, што і гака. *Акопваю картоплі гакам.* Едн.

ГА´КА, *ж.* Матыка. *Гакаю горш капаць, як драпачом: картоплі расьсякаяш.* Гр.

ГА´КАЦЬ, *незак., незад.* Секчы. *Будзя гакаць, я сам насяку.* Ст. С.

ГАЛАВА´Ч, *м.* 1. Галавасцік. *Усё галавачоў лавіў малы ў вадзе.* Гр. 2. Галаваты (пра чалавека). *Галава як цэбар, у таго галавача.* Гр.

ГАЛАВЕ´ШКА, *ж., жартаўл.* 1. Вялікая бульбіна. *Од галавешку пат кальвам выкапаў — яг два кулаке.* Вар. 2. *перан.* Пра дзіця. *Чаго ён ні прыдумая, галавешка гэта.* Кр.

ГАЛАДАМЕ´Р, *м.* і *ж. абразл.* Ненаедны (якога цяжка накарміць). *Адно дапусьці галадамераў гэтых, панясуць ні адно гурке, а і гуркавенё.* Гр. *Од галадамеры — усё паелі, і кусочка хлеба ні пакінулі.* Ст. С.

ГАЛА´Й, *м., непахв.* Тое, што і галуй. *Бо што калі меў галай? Рабіць ні хоча, то што ён мецімя, галуём жывучы?* Св.

ГАЛАКА´НІЦЬ, *незак.* Гаманіць. *Недзя на шашы галаканяць. Мо з запойінаў ідуць?* Гр.

ГАЛАПУ´ПАК, *м., жартаўл.* Галапузы. Кр. 2. *абразл.* Бедны. *Што ў яго калі было — галапупак гэты!* Зл.

ГАЛАСНІ´К (галасьнік), *м.* Гучнамоўнік, рэпрадуктар. *Даўней галасьнікоў ні было, адно слухаўкі вешалі на вушы, кап пачуць што па радзіві том.* Гр.

ГАЛАШЧА´ЧКА, *ж.* Непакрытая карова. Вар.

ГАЛАШЧО´К, *м.* Мароз (на голую, без снегу, зямлю). *За маею памяцяю такі галашчок быў, што ўсе прысаткі ў садзі паўмярзалі.* Дзяр.

ГАЛО´ДНІЦА, *ж.* Галадуха, галадоўля. *Галодніцаю ўсё зьзесца, як прыпрэ голат.* Ст.С.

ГАЛУ´ЗА, *м.* і *ж.* Тое, што і астрыжонак. *І нашто было так стрыхчыся наголо. Ніхарошы стаў — галуза.* Ст. С.

ГАЛУ´Й, *м.* і *ж.* Галадранец. *Німа і ні было нічого ў галуя гэтаго.* Гр.

ГАЛЬВА´, *ж.* Кручок на ворчыку. Едн.

ГАЛЬДАДУ´–ГАЛЬДАДУ´! *Выкл.* Гоц–гоц! *А воўк той гальдаду–гальдаду! — пабех сабе і ні баіцца, што на яго крычаць: — Ага воўка!* Гр.

ГАЛЬДО´БА, *ж., абразл.* Высокая і худая (пра дзяўчыну). *Нуй гэто дзеўчына: велька і худая — гальдоба!* Гр.

ГА´ЛЬКА, *ж., застар.* Сподняя спадніца з карункамі ўнізе; носяць толькі на свята. *Бало, знарок гальку выпусьціць с-пат спаніцы і хваліцца, што мая ў чом хадзіць.* Зл.

ГАЛЯ´ЦЬ, *незак., асудж.* Бегаць (без занятку). *Дай і яму сярпа, хай жне, ні галяя.* Вальк.

ГАЛЯ´ШКІ *толькі мн., жартаўл.* Голае цела. *Адзявайся, а то надаю па галяшках.* Гр.

ГАМАВА´ЦЬ, *незак.* 1. *незад.* Брахаць. *Сабака натто гамуя.* Гр. 2. *зламоўн.* Крычаць, лаяць. *Гамуй, гамуй, а ён і вухам ні вядзе.* Ст. С. 3. Тармазіць. *Яг загамаваў ровар, чуць ні пяракінуўсё цераз голаў.* Кр.

ГА´МАР, *м., непаш.* Пра вялікі і цяжкі прадмет. *Дзе ты адзін падымяш гамар такі! Каб двох — мо і паднялі п камель.* Ст. С.

ГАМА´РНЯ, *ж., непахв.* Пра вялікі, няўтульны дом (кватэру, будынак). *І нашто людзям такая гамарня на дзьве душы?* Дзяр.

ГА´МАТНЫ, *прым.* Завялікі (пра адзенне, абутак). *Ні буду купляць — гаматны пінджак, у яго яшчэ такі, як я, улезя.* Гр. *Гаматныя боты — трэба много ганучаў накручваць.* Ст. С.

ГА´МБА, *ж.* Недахоп, загана, ганьба. *Гамбы німа, добра карова. Купляйця.* Св. *Маладая, як лялька. Гамбы німа, хароша дзеўка.* Гр.

ГАМБАВА´ННЕ (гамбаванё), *н.* Ганьбаванне. *Нешто ты гамбуяш маею ядою. Хіба нісмашна яна, што такоё гамбаванё?* Гр.

ГАМБАВА´ННІК, *м.* Той, хто ганьбуе («гамбуё»). *Марш ад міне такі гамбаваннік! Бо твае сьлівы ні лепшыя за мае!* Гр.

ГАМБАВА´ННІЦА, *ж.* Жан. да гамбаваннік. *О, якая ты гамбаванніца майго тканя, а сама лепяй ні выткала п!* Гр.

ГАМБА´ВАЦЬ, *незак.* Прызнаваць кепскім, што мае недахоп, загану. *Нешто ты гамбуяш маею ядою: ні ясі, ні п'еш.* Кр.

ГАМЗЕ´ЦЬ, *незак.* Турбаваць (пра зубы). *Ні магу ўтрываць; зубы гамзяць: мяса назалазіло.* Гр.

ГАНАВІ´ЦЫ, *толькі мн.* Штаны (верхнія і сподні). *Пінджак купіў, трэ ганавіцы дакупіць — і будзя касьцюм на свято.* Гр.

ГАНДУ´РЫЦЬ, *незак., экспр.* Гаварыць, мовіць; балакаць. *Нешто сабе гандурыць і гандурыць — і сьмяецца сам сабе пад нос. Годзі вам гандурыць, ешча ўжэ, а то астыня яда!* Гр.

ГА´ПА, *м.* і *ж., застар.* Разява. *Каб ні быў гапаю, купіў бы, а так прагапіў.* Зл.

ГА´ПКА, *ж.* Пятля ў адзенні (металічная) і прарэшка. *Гузік есьцяка, а гапку выражу.* Кр. *Гаплюк ў гапку ні лезя.* Св.

ГАПЛЮ'К, *м.* Металічны кручок у адзенні; гаплік. Дзяр.

ГАРАБІ´НА, *ж.* Рабіна. *Гарабіны от ядроныя. Кажуць, мокра восянь будзя.* Гр.

ГА´РАНІНА, *ж.* Едкі пах ад няпоўнага згарання чаго–небудзь; гар. *Прыгарэлі картоплі, гаранінаю сьмярдзяць.* Гр. *Нехто паршука смаліць — гаранінаю аддае.* Гр.

ГАРБУ´З (гарбус), *м., перан., зняважл.* Пра малога і недарослага. *Гарбус — на вячарке рано табе хадзіць!* Ст. С. *Ні вырас. Гарбус, таму і ні дастаеш да вяшака.* Гр.

ГАРБУЗЯНЯ´, *н., пяшчотл.* Пра малое дзіця. *І як ні любіць гарбузяня гэто.* Кр. *Забяру с сабою, гарбузяня, цябе.* Кр.

ГАРБУЛЯ´, *ж.* Гарбуха. *Шкада яе, гэтае Надзі: гарбуля, калека. Так і вякавацімя адна да сьмерці, бо ніхто яе замуж ні возьмя.* Св.

ГАРКАЦЕ´ЧА, *ж., узмацн.* Пра надта горкае. *Халера яе есьцімя, тую рэцьку — гаркацеча такая!* Гр.

ГАРЛА´Ч, *м., абразл.* Той, хто бярэ горлам. Кр.

ГАРМО´НІК, *м.* Малы (губны) гармонік. *От харашо граюць: стары на гармоні рэжа, а сын на гармоніку выцілінквая.* Гр.

ГАРМО´НЯ, *ж.* Гармонік. *Купіў гармоню, за музыканта вучыцца.* Вар.

ГАРМУ´ШКА, *ж.* Ежа — накрышаны ў малако (часам у пасоленую ваду) хлеб; цура. *Скарынкі накрышы ў малако і пахлёбаяш гармушкі.* Гр.

ГАРО´ХАВІСКА (гарохавіско), *н.* Поле, дзе рос гарох. *Па гарохавіску жыто родзіць добро.* Кр.

ГАРШКО´ВІК, *м.* Фартух для адыманя гаршкоў. *Гаршковіка дзеці недзя закінулі, німа чым картопяль аццадзіць.* Ст. С.

ГАРШКО´ВІЦА, *ж.* Ануча, якой вымаюць з печы і адцэджваюць гаршкі. Гр.

ГАРШК´ОЎКА, *ж.* Тое, што і г а р ш к о в і ц а. *Гаршкоўкаю бяры чыгун.* Гр.

ГАСЦЮКІ´ (гасьцюке), *адз.* г а с ц ю к, *м., зборн.* Асцё (з каласоў ячменю). *Гасьцюкоў у рубашку налезло — колюцца.* Св.

ГАТО´ЎЛЯ, *ж.* Прыгатаванае, гатовае (для паравозу, набыцця). *Па гатоўлю паедзяш, а ні зьбіраць, то хутко вернясся назат, ні замарудзіш у том лесі.* Ст.С.

ГА´ЧКА, *ж.* Тое, што і гака. *Гачкаю адно асыпаям бураке.* Едн.

ГЕ´ГНУЦЬ, *зак.* 1. *груб.* Памерці. *Думаяш, вечно жыцімяш. Не, гегняш і ты.* Кр. 2. Забіць. *І тагды гегнулі таго зайца.* Вар.

ГЕ´ЛЗАННІК, *м.* Той, хто келзае (гелзае) — кладзе цуглі ў рот каню. *Такому гелзанніку гэтаго каня ні загелзаць: наравісты жарабец.* Дзяр.

ГЕ´ЛЗАЦЬ, *незак.* Кілзаць. *Трэ гелзаць, а то можа панясьці з возам — і касьцей ні пазьбіраяш, — вогір такі.* Гр.

ГІБА´, *ж.* Мера па даўжыні асновы ці палатна (прыкладна 4–6 м); губка. *Гібу за дзень вытку, яг заранё ўстану.* Кр. *Пяць гіп аснавала. Гр.*

ГІБА´ЦЬ: *гібаць каравай* — мясіць, рабіць каравай (ляпіць шышкі, кветкі). Гр.

ГІЖА´ЦЬ, *незак.* Кішэць. *А што там людзей тых было, гаш усё место гіжало.* Дзяр.

ГІ´ЗНУЦЬ, *незак.* Кіснуць. *І чаго ён гізьня, як настаня ранак?* Гр.

ГІ´РА, *ж., жартаўл.* Валасы, чуб. *За гіру як вазьмусё — куды хоч завяду.* Вар. *Усю гіру апстрыгла.* Кр.

ГІРО'С, *м., жартаўл.* Дрэнная страва, варыва. *Хіба гэтаго гіросу* (пра зацерку) *наясіся?* Кр.

ГІ´ЦЦАЛЬ, *м.* 1. Сабакар. *Гіцаль бало сабак лавіў.* Гр. 2. Гарэза, свавольнік, гіцаль. *Буду біць гіцля малого, харошаго.* Кр. 3. *застар. жартаўл.* Вешалка (у адзенні). Кр.

ГЛА´БАЦЬ, *незак., незад.* Мацаць. *Чаго глабаяш? Па руках надаю!* Гр.

ГЛІВЕ´ЦЬ, *незак., незад.* Мерзнуць, калець (пры сырым надвор'і). *Чаго на полі глівець у такую нігадзіну? Ехаў бы дахаты!* Ст. С.

ГЛІНЯ´НІК, *м.* Гліняная пасудзіна (гаршчок). Вар.

ГЛУХЯНДЗЯ´, *ж.* Глушак (пра жанчыну). Кр.

ГЛУШМА´Н, *м.* Глушак, глушэц. *Нігды нічого адразу ні пачуя. Трэба моцно крычаць глушману гэтаму.* Гр.

ГЛУШНЯ´, *ж.* Глухаватая жанчына. *Мацней кажы, а то ні чуя глушня гэта!* Св.

ГЛЫКА'ЦЬ, *незак.* Глытаць. *Глыкай, ні трымай у році.* Ст. С.

ГЛЫНУ´ЦЬ, *зак.* 1. Глытнуць. Кр. 2. *перан. груб.* Падзець, закінуць што так, што цяжка ці зусім няможна адшукаць. *Дзе ты глынуў сваю шапку, што ніяк ні знойдзяш?* Вар.

ГЛЭ´МАЦЬ, *зак.* Есці, хапаць на хаду (траву — пра кароў). Кр.

ГЛЮЗ (глюс), *м.* Плесня (на скуры сала). *Глюс сскрабі с сала і еш.* Гр.

ГЛЮ´ЗНУЦЬ, *незак.* Пакрывацца плесняй, «глюзам» (гл.). *У расцы сало глюзьня, трэба вешаць апольцамі.* Гр.

ГНАЦЬ, *незак.* Даставаць мёд з рамак з дапамогай цэнтрыфугі. *Дзяцько мёд гоніць, і пчолы ні даюць праходу, так тнуць.* Вар.

ГНАЯВЫ´, *прым.* Прызначаны для гною. *Гнаявымі віламі разьбіваю (гной).* Кр.

ГНАЯ´НКІ, *адз.* г н а я н к а, *ж.* 1. Дошкі, што ставяцца замест драбін пры возцы гною. *Бяз гнаянкаў яг гной вазіцімяш?* Гр. 2. *толькі мн.* Павозка для возкі гною. *У гнаянках на кярмаш ні паедзяш.* Кр.

ГНЁ´НІК, *м., зняважл.* Сутулы, сагнуты. *Які гэто кавалер — гнёнік некі.* Дзяр.

ГНІЛЯ´К, *м., зняважл.* Хваравіты. *За гэтым гніляком усё жыцё пакутую.* Гр.

ГНЭ´МБІЦЬ, *незак., асудж.* Біць, таўчы, караць. *За што ты гнэмбіш гэто дзіця? Яно і так нідошло.* Вар.

ГНЯНУ´ЦЬ, *зак.* Моцна ўдарыць. *Хацеў забіць, яг гнянуў.* Ст.С.

ГОЙСЬ!, *выкл.* Тое, што і а ю с ь к і . Гр.

ГО´ЛЫ, *прым.* 1. Няўзброены (пра вока). *Голым вокам мох зацьменё сонца бачыць.* Гр. 2. Пусты. *З голымі рукамі ні пойдзяш на радзіны!* Ст. С.

ГО´МДЖЫЦЬ, *незак., жартаўл.* Есці; комчыць. *Чаго сухама гомджыць, бяры малаком запівай — смашней будзя.* Гр.

ГО´МТАЦЬ, *незак., асудж.* Класці абы-як, не згортваючы (пра адзенне). *Німа, каб акуратнянько злажыў адзежу да ў сундук палажыў, а гомтая. Дзе яна ні патрэцца!* Гр.

ГО´РАЧ, *ж.* Надта горача; гарачыня. *Од горач на дварэ. Як у гаршку варыць.* Кр. *Велька горач і летась была.* Ст. С.

ГО´РБА, *ж.* Куча. *Картоплі ў горбу капаям, а тагды ў мяхе зьбіраям.* Гр. *Скідай каменё ў горбу.* Гал.

ГО´РКІ, *прым., незад.* Недарослы, хто яшчэ мала разумее; малакасос; ужываецца часцей як узмацняльнае слова. *Куды яму ў школу — яшчэ дзіця горко.* Ст. С.

ГРАБЕ´ЛЬНЯ, *ж.* Конныя граблі. Едн.

ГРАБЕ´ННІК, *м.* Грабец. Кр.

ГРАБЕ´ННІЦА, *ж.* Грабец-жанчына. Гр.

ГРАБІ´ЛЬНЯ (грабільнё), *н.* Дзяржанне ў граблях, грабільна. Вар.

ГРАБІНА´, *ж., зборн.* Грабняк. *У грабіне много грыбоў, сінякоў.* Св.

ГРАБЛІ´СКА (грабліско), *н.* Тое, што і г р а б л і ш ч а. *Грабліско неко сукавато, у рукі муляя, мазалёў наробіць.* Гр.

ГРАБЛІ´ШЧА (граблішчо), *н.* Грабільна. Гр.

ГРА´ДКА (гратка), *ж.* Насценная шафа для посуду. *На грацы палмісак, вазьмі, як капусту наліваці́мяш.* Ст. С.

ГРАЗЁ´ТА, *ж.* Гразішча. *Яг дошч пройдзя — гразёта, хоць ты с хаты ні вылась.* Гр.

ГРАМУ´ШКА, *ж.* Крэмень. *От йіскры ляцяць, яг грамушка гострая і сяканеш крэсівам.* Гр.

ГРАНАТО´ВЫ, *прым.* Цёмна-сіні. *Натто сіні, гаш гранатовы цьвет.* Кр.

ГРА´НДА, *ж.* Грамада, гурт, талака. *Яг грандаю вяйдзям, то раз–два выкапаям тыя картоплі, ні замерзнуць на полі.* Ст.С.

ГРАЦКО´ЎЕ (грацкоўё), *н.* 1. Салома грэчкі. Вар. 2. Поле, на якім расла грэчка. Кр.

ГРАЧЫНА´, *ж.* Грэчка. *Грачына добро родзіць.* Едн.

ГРУДАВО´Е (грудавоё), *прым.* Сена з груду. *Накасіў ні мало, аднаго грудавого больш як вос будзя.* Ст. С.

ГРУЗА´ЎКІ, *адз.* г р у з а ў к а, *ж.* Дробныя нерасцёртыя кусочкі бульбы ў бульбяным пюрэ. *Грузаўкі на язык пападаюць — кепско патаўкла картоплі.* Гр.

Г'РУМА´ДА, *ж.* Натоўп, гурт, чарада, маса. *Грумада людзей, то дзе там ціхо будзя!* Кр. *Ваўке на грамніцы грумадамі ходзяць.* Вар.

ГРУНТ, *прысл.* Галоўна, важна. *Яму грунт хату паставіць, а хлеў і налето зробіць.* Ст. С.

ГРЫБ (грып), *м.* Баравік. *Казякоў много, а грыбоў ішчэ німашака.* Вар.

ГРЫВА´Ч, *м.* Гагунак аўса — з тоўстымі каласамі. Гр.

ГРЫ´ЖА, *ж.* Згрызота. *Ад гэтае грыжсы сьвет ні мілы.* Св.

ГРЫ´КА, *ж.* Грэчка. *З грыкі мёт натто смашны.*Гр.

ГРЫ´МАР, *м., пяшчотл.* Жэўжык. *Хадзі сюды, мой ты грымар.* Гр.

ГРЫЧА´НІСКА (грычаніско), *н.* Тое, што і г р а ц к о ў е (у 2-м знач.). Кр.

ГУ´ДЗІЦЬ, *незак.* Паказваць у кепскім выглядзе, бракаваць. *Ні гуцьця вы яго, ён добры хлопяц.* Гр. *Натто гудзіць Маню. Кажа, кепска для яго дзеўка.* Кр.

ГУЖВЫ´ (гужвэ), *мн.* Аснова самаробнай плеценай бараны (звязвае зубы). *Гужвэ рвуцца, і зубы выпадаюць.* Едн.

ГУЗЁ´Л, *м.* 1. Вузел. *Гузлом ні завязвай, лепяй засмаргаю, кап хутко разьвязаць.* Пл. 2. *перан. зняважл.* Малы, недарослы. *Саўсім малы — гузёл некі.* Кр.

ГУЗЛЫ´ (гузлэ), *мн., груб.* Вочы. *Гузлэ вытрашчыў і енчыць!* Гр.

ГУ´КАЦЬ, *незак.* Пакрывацца (пра свінню). Вар.

ГУ´ЛДА, *ж.* 1. Шышак, гуз. *Нека гулда нарасла на локці.* Вальк. 2. *перан.* Від прычоскі. *Гулду на галаве навязала.* Кр.

ГУЛЬТАІ´СКА (гультаіско), *м.* і *ж., груб.* Гультаіна. *Нуй гультаіско гэты Косьцік. І жонка гэдыксамо гультаіско. Таму і ў хаці як у сьвінінцы.* Гр.

ГУЛЯ´ННІК, *м.* Танцор, гуляка. *На том вяселі было много гуляннікаў, гаш хата траслася ад гуляня.* Ст. С.

ГУЛЯ´ННІЦА, *ж.* Жан. да г у л я н н і к. *Ішчэ адна гулянніца прышла, адно пары ёй німашака, німа гулянніка.* Ст.С.

ГУМО´ВІКІ, *мн., адз.* г у м о в і к, *м.* Гумавыя боты. *У твайіх гумовіках адно па гразі хадзіць, а ні ў сушу.* Гр.

ГУ´НА, *м.* і *ж.* Пустаслоў. *Калі ты пярастаняш языком малоць, гуна? Бочку арыштантаў нагаварыў і так.* Гр.

ГУ´НЬДЗЕКА (гуньдзяка і вуньдзяка), *часц.* Вунь. Кр.

ГУ´РА, *ж.* Гурба (снегу). *От велькія гуры панадувало кала плоту.* Даўг.

ГУРКАВІ´ННЕ (гуркавенё), *н., зборн.* Сцябло (і лісце) агуркоў; агурочнік. *Гуркавенё нат ні благоё, а гуркоў німа — пустацьвет адзін.* Яр.

ГУСА´ЧЫНА, *ж.* Мяса (з гусака). *Гусака засёк, гусачыны зварымо.* Гр.

ГУСЦІ´ (гусьці), *незак.* Балець ад стомы (пра ногі, рукі, галаву). *Хай йіх халера, з грыбамі гэтымі, гаш ногі гудуць. Ведама, вёрст зь дзесяць праджгалі ў адзін канец.* Ст. С.

ГУЧУ´КАЦЬ, *незак.* Гушкаць. *Хай ён гучукая, бярэ на рукі дзіця, мне німа калі.* Вар.

ГЫ´ЛЯ, *выкл.* Так адганяюць гусей. Гал.

ГЭР-ГЭР!, *гукаперайм.* Пра гусей. *А гусі тыя адно гэр-гэр-гэр! Лятаюць па надворку, як на дошч.* Гр.

ГЭ´ТАКВЕЛЯ (гэдаквяля), *прысл.* Столькі. *То гэдаквяля і я падыму.* Гр.

ГЭ´ТТА, *прысл.* Тут. *Каб і гэтта пасадзіў, лён добры выраз бы.* Кр.

ГЭ´ТТАКА, *прысл.* Тое, што і г э т т а . Яр.

ГЭРШКІ: б а б ы  г э р ш к і : так кажуць, калі хочуць узяць дзіця на плечы (абвіўшы нагамі шыю). *Мо ты хочаш, Валік, бабы гэршкі?* Гр.

ГЭЦ. Скок; гоц. *А ён гэц з воза і пабех.* Кр.

ГЭ´ЦАЦЬ, *незак.* Скакаць, прыгаць, гоцаць. *І чаго яна гэцая, дзеўка такая!* Ст. С.

ГЭЦАЦУ´–ГЭЦАЦУ´!, *выкл.* Гоц-гоц. *Німа, кап пасядзеў, да ўсё гэцацу і гэцацу — бегая, ніведама чаго!* Гр.

ГЯРБА´Р, *м.* Той, хто вырабляе шкуры; гарбар. *У нашум сяле некалі быў гярбар, аўчыны вырабляў.* Гр.

## Д

ДАБА´ВАК, *м.* Дадатак. *І так ні пайшоў бы, а тут у дабавак ішчэ сын захварэў.* Гр.

ДАБРУ´ТКІ, *прым.* Зусім добры (цэлы). *Яшчэ пінджак дабруткі, а ўжэ ні хачу. Давай новы яму!* Ст. С.

ДАВІ´ЦЬ, *незак.* Станавіцца ў горле (пра даўкія плады). *Давяць грушы, ні палкнуць.* Ст. С.

ДАЕ´ННІК, *м.* Даяр, дойнік. *Цяперака, як машынаю дояць кароў, то і даеннікі есьцяка.* Гр.

ДАЕ´ННІЦА, *ж.* Дойшчыца, даярка. Як новае ўжываецца і д а я р к а . Гр.

ДАЖДЖЭ´ВІЦА, *ж.* Дажджлівае надвор'е. *У такую дажджэвіцу адно ў хаці сядзець.* Кр.

ДАЙМО´М, *прысл.* Не адгінаючыся, без перапынку, прагна (піць). *Літар вады даймом вып'я!* Ст. С.

ДАЛІКТУ´СЯ, *м.* і *ж., пагардл.* Вельмі далікатны (пра чалавека). *Даліктуся такі, што ні зачапі — так і раз'едзяцца (расплачацца).* Гр. *Такоё цяпло, а яна ў пальце. От даліктуся!* Ст. С.

ДАЛЬБО´, *выкл.* Далібог. *Дальбо скажу, як спытаюць, ні буду тайіцца.* Ст. С.

ДАЛЯГА'ЦЬ, *незак.* Балець, турбаваць, непакоіць, мучыць (пра арганізм). *Мусіць яму нешто далягая, рас ён кульгая?* Кр. *Каб ні далягало, ні ляжаў бы ў пасьцелі.* Гр.

ДАНІ´ЧКА, *ж., застар.* Гаршчок для кветак, вазон. Гр.

ДАПНУ´ЦЬ, *зак., асудж.* Дабрацца, дайсці, знайсці, дапасці. *Такая дапне і за сорак вёрст.* Вар.

ДАПЭЎНЯ´ЦЦА (дапяўняцца), *незак.* Дапытвацца, упэўнівацца (роспытамі). *Сванька яе ўсё дапяўнялася, ці Валік наш там быў.* Гр.

ДАРАЖЫНЯ´, *ж.* Дарагавізна. *Дзе ты дакупісься бало, даражыня такая была на ўсё.* Кр.

ДАРЭ´СЦІЦЬ (дарэсьціць), *зак.* Разбурыць, разбіць дашчэнту. *І так вос той слабы быў, а як узяліся гной вазіць, то дарэсьцілі — распаўсё.* Гр.

ДАСА´ДА, *ж.* Прыкрасць. *Гаш дасада бярэ на гэтаго старого: памагчы нічого ні паможа.* Дзяр.

ДАЎГЕ´ЛЬ, *м., непаш.* Высокі, доўгі (пра чалавека). *Даўгель гэты ў хату тваю ні ўлезя. Хіба на каленях стаяцімя.* Гр.

ДА´ЎНЯШНІ, *прым.* Нясвежы. *Даўняшнё масло — ні натто смашно, хіба сьвежаго зьбіць?* Гал.

ДАХАЛЕ´РЫ, *прысл., экспр.* Надта многа. *Прыягджай, дам зь мяшок, у міне дахалеры яшчэ тых картопяль.* Гр.

ДАХВАТО´ВЫ, *прым.* Слабы, падатлівы да захворвання. *Лепяй апратвайся, а то вецяр велькі, каб ні прастудзіўсё, дахватовы такі.* Кр.

ДА´ЦЦА, *зак.* Стаміцца. *Чысто даўсё пры малатарні, прышоў як ніжывы.* Вальк.

ДВАЙГА´, *ліч., застар.* Двое. *Двайгу ўжэ маю, і ўсё хлопцы.* Гр.

ДВУХЗІ´МАК, *м.* Пра цяля (жарабя), якое пражыло дзве зімы (каля двух гадоў). Кр.

ДВУХЛА´ПКІ (двохлапкі), *мн.* Вілы (на два рогі) для падачы снапоў. Кр.

ДЖВЭ´НГАЦЬ, *незак., непахв.* Балбатаць. *Да ночы джвэнгалі п, каб ні паўганялі йіх с хаты старыя. Джвэнгаюць і джвэнгаюць — і языке йім ні забаляць.* Гр.

ДЖГА´ЦЬ, *незак.* 1. Біць, муштраваць. *Хай джгая, папругу зьняўшы, раз зарабіў. Бо нілюцкі ты натто.* Гр. 2. Сячы (пра ападкі). *Од джгая дошч, як зь вяравок.* Кр. 3. *жартаўл.* Хутка ісці. *Дзе ты яго дагоніш, так джгая.* Вар. 4. *жартаўл.* Заўзята есці. *Папоўніцы джгая, ні глядзіць, што нісмашно падалі.* Гр.

ДЖЫГА´ДЛА (джыгадло), *н.* Джала. *У шэршаня от велько джыгадло.* Вар.

ДЗЕ´НЯШНЯЕ (дзёняшнё), *прым.* Дзённае, надоенае сярод дня (пра малако). *Яг гарачо ў хаці, то і дзёняшнё малако ні дастойіць да вечару, скісьня, ні то што раняшнё.* Ст.С.

ДЗЕРАВІ´НА (дзяравіна), *ж.* Ствол спілаванага дрэва, бервяно; дзеравячына. *Давай да плоту паткоцім дзяравіну.* Гал.

ДЗЕРАСКАВА´ТЫ (дзяраскаваты), *прым.* Шурпаты. *Як ні часаў я тоё грабліско, усяроўно дзяраскавато, дзярэ руку.* Гр.

ДЗЕ´ЎКА, *ж.* 1. Дарослая дзяўчына. *Ужэ дзеўка настаяшча, хутко двацацаь будзя.* Гр. 2. Дзяўчына, з якой заляцаецца хлопец. *Хоць ты сваю дзёўку паказаў бы мне.* Кр. 3. Незамужняя немаладая дзяўчына, халасцячка. *Ішчэ ўсё дзеўкаю ходзіць.* Ал.

ДЗЁ´ГНІСТЫ, *прым.* Цёмна-чырвоны (пра масць жывёл). *Каза тая прывяла казьляня, гаш дзёгністо неко — у лесі бачыў.* Гал.

ДЗІ´ВА (дзіво): 3 д о б р а г а д з і в а — ні з таго ні з сяго, бездайпрычыны. *Кап хто зачапаў яго, а то з добраго дзіва стаў лаяць, бэсьціць гэту дзеўчыну?* Ст. С.

ДЗІК, *м., перан.* Дзікун. *Такі дзік і ў хату байіцца зайсьці.* Гр.

ДЗЫ´ГАЦЬ, *незак.* Скакаць. *Чаго ты, яг заяц, дзыгаяш па хаці?* Ст. С.

ДЗЯ´БАЦЬ, *незак., асудж.* Секчы. *Чаго ты тут усё дзябаяш, як ранак настаў? Як усяроўно часу табе ні будзя боляй нігды.* Гр.

ДЗЯДЗІ´НЕЦ (дзядзіняц), *м., застар.* Вялікі двор на прыгуменні. Кр.

ДЗЯ´ЖЫЦЬ, *незак.* Моцна біць, лупцаваць. *Як стаў таго хлопца дзяжыць, то мало ні забіў.* Ст. С.

ДЗЯРЖА´ЦЬ, *незак.* 1. Трымаць. *Моцно дзяржы, каб з рук ні вырваўсё ланцух той.* Гр. 2. Гадаваць. *Троё сьвіней дзержыць да святаў, а там Коля йіх і прадае мясо.* Гр.

ДЗЯ´ЛКА, *ж.* 1. Частка зямлі, якую трэба апрацаваць; дзялянка. *На маёй дзялцы і лён лепшы парос, як палола добро́.* Гр. 2. *застар.* Надзел зямлі, хутар; дзялянка. *Даўней тут мая дзялка была, хата стаяла.* Кр.

ДЗЯРНО´, *н.* Дзірван, дзёран. Гр.

ДЗЯРНО´ЎКА, *ж., застар.* Чапец (галаўны ўбор). *Бало дзярноўку на галаве насілі.* Едн.

ДЗЯ´ЎГАЦЬ, *незак.* 1. Пабрэхваць. *Нешто наш Лыско дзяўгая!* Гр. 2. *зняважл.* Гаварыць, напамінаць. *Годзі ўжэ дзяўгаць, я і так ведаю, што мне трэба рабіць.* Кр.

ДЗЯЎЧУ´К, *м.* Дзяўчо. *Малая ішчэ Зося, саўсім дзяўчук, то як ты яе пакінеш адну ў хаці на суткі!* Ст. С.

ДЗЯЦІ´СКА, *зборн., непаш.* Дзеці, дзятва. *Чысто ўсю моркву павылупвалі дзяціска гэтыя!* Гр.

ДЛУ´БАЦЬ, *незак., незад.* Калупаць, пароць. *Ні длубай, накрышыў і так сыру гэтаго на землю!* Ст. С.

ДРА´БА, *ж.* 1. Від павозкі, драбы. *Запрох у драбу.* Кр. 2. Кляча. *Хіба на мыло здаць драбу гэту?* Вар.

ДРАБІ´НА, *ж.* 1. Лесвіца, драбінкі. *Па драбіні палес на хату.* Ст. С. 2. Частка воза, якая навешваецца на ручкі. *Паскідаям адну, другую драбіну і гнаянкі пазакладаям, па гной паедзям.* Гр. 3. Яслі — у выглядзе драбінак — для кармлення авечак. *Пяраедзіны ат каровы выняў і авечкам за драбіну кінуў, хай пярабіраюць.* Св.

ДРАБЯ'СЦЁ´ (драбясьцё), *н., зборн.* Жэрдачкі для прымацавання саломы (да латаў) пры пакрыцці страхі. *Драбясьцё есьцяка, салому і дупцэ нясі — і будзям крыць сьвініняц.* Ст. С.

ДРАБЯ´СЦІНА (драбясьціна), *ж.* Адна такая жэрдачка. *Кінь драбясьціну на стрэху мне!* Гр.

ДРАМА´К, *м., жартаўл.* Хвост вепрука (як мяса). *Куцю з драмаком зварыла.* Гр. *Еш драмак, каб за прасьніцаю ні драмала.* Ст. С.

ДРАПА´Ч, *м.* Капач (мае выгляд расстаўленых трох пальцаў). *Гакаю сячэш картоплі, а драпачом разграбаяш землю, і пясок астаецца, а картоплі выграбаюцца.* Ст. С.

ДРА´ПЦІ, *толькі мн.* Тое, што і д р а п а ч. *Драпцямі капаям картоплі, ні рукамі.* Едн. *Драпці ў кузьні зрабіў — картоплі капаць.* Кар.

ДРАПЧА´К, *м., застар.* Від брычкі. Гр.

ДРАПЧА´СТЫ, *прым.* З выемкамі, шурпаты. *Бляха гэта драпчаста, з ямачкамі, а тая — глатка, то якую забярэш?* Св.

ДРАЎНУ´ШКІ, *мн.* Дровы на распалку. Едн., Кар.

ДРО´НАК, *м.* 1. Тоўстая палка, якой закрываюць у хляве выхад з дзвярэй. Гр. 2. Металічны вал, што злучае малатарню з прывадам. Ст. С., Гр.

ДРУЖБА´НТ, *м.* Сябра маладога ў час вяселля; шафер, дружко. *За дружбанта Мішы егдзіў.* Ст. С. Часцей ужываецца ш а ф е р.

ДРУЖЫ´НА, *ж.* 1. *застар.* Сям'я. *Велька дружына, ядакоў хватая.* Гр. 2. Група, брыгада. *Каб дружынаю, да вечару жжалі п.* Ст. С.

ДРЫГВА´, *ж.* Від справы — халоднае, квашаніна. *З нох і галавы дрыгву варыла.* Гр.

ДРЫН, *м.* Кіёк, дручок. Едн.

ДРЭ´ЙМА, *ж., жартаўл.* Кампанія, група, брыгада. *Усе дрэймаю як выйдзям — за дваньні выкапаям твае картоплі.* Ст. С.

ДУБАЛЬТО´ЎКА, *ж.* Хустка — вялікая суконная. *Дубальтоўкаю і плечы акрыяш, ні адно голаў — і цяплей будзя.* Вальк.

ДУБІНА´, *ж., зборн.* Дубняк. *У дубіне натто сіняке растуць.* Гр.

ДУ´НДЗІЦЬ (дуньдзіць), *незак., жартаўл.* Смактаць. *Ніц есьці ні хоча, адно ўсё дундзіць цыцку.* Вар.

ДУРАЛЕ´Й, *м.* Дурань. *От дуралей, адно сьмяецца і сьмяецца.* Ал.

ДУРАЛЕ´ІНА (дуралейіна), *м. узмацн.* Дурань, дурачына. Ст. С.

ДУРАТА´, *ж., незад.* Клопат. *Вазьмі дзіця да сябе, то дураты колькі трэба адно.* Кр.

ДУРНІ´ЦА, *ж., незад.* Дарэмшчына, дармавое. *Саўсім за дурніцу прадаў яблыкі.* Гр.

ДУРЫ´ЦА, *ж.* Дурная, дурніца. *Хто з такою дурыцаю жыцімя.* Ст. С.

ДУРЭ´Ц, *м.* Дурань. *Некі дурэц, ні чалавек з розумам.* Гр.

ДЫГА´ТЫ, *прым.* З доўгімі нагамі, цыбаты. *От пятух дыгаты ў Настулі.* Ст. С.

ДЫ´ГАЦЬ, *незак.* Моцна біцца (пра сэрца). *Як трохі параблю боляй, так і дыгая сэрцо.* Кр.

ДЫ´ГУСЬ, *м., жартаўл.* Цыбаты. *От выцягнуўсё, большы за бацька — дыгусь гэты.* Ст. С.

ДЫ´КТА, *ж.* Фанера. *Дыктаю абаб'ю сьценку.* Гр

ДЫ´ЛЯ, *ж.* Адна з дзвюх рамаў варштата. *Дылі паставіў, а тагды навой і астальноё прычапляй.* Гр.

ДЫХЦЕ´ЦЬ, *незак.* Пахнуць. *Некай гары напіўсё, што з рота дыхціць смыродам.* Дзяр.

ДЭ´БАЦЬ, *незак., спагадл.* Ісці, дыбаць. *От які зь яго хадок. Дэбая крышачку кала дому.* Гр.

ДЭ´КА (дэко), *н.* Дэкаграм. *Што там, яг дэко ні даважыла!* Гр.

ДЭ´НТКА, *ж.* Камера веласіпеда. *Дэнтка ў ровары дух спусьціла.* Ст. С.

ДЭ´ЎЖАР, *м., незад.* Даўжыня. *Такі дэўжар гэты загон, дзе ты яго выжняш да палудня!* Гр.

ДЭ´ЎЖАРЫ´СКА (дэўжарыско), *м.* і *ж. узмацн. непахв.* Даўжыня. *І мяжу гэту ні скосіш да сьнядання, дэўжарыско такая.* Гр.

## Е

Е´ГДЗІЦЬ, *незак.* Ездзіць. *Егдзіў да дохтара.* Гр.

Е'ДКІ (еткі), *прым.* Прыдатны да яды, смачны (пра траву, сена). *Грудавоё от етко сено.* Кр.

ЕЛАВЕ´Ц (ялавец і ядлавец), *м.* Ядловец. *Ялаўцом вендзім каўбасы.* Ст. С. *Ядлавец парос велькі.* Гр.

ЕЛІНА´ (яліна), *ж., зборн.* Ельнік. *Пагналі ў яліну каравэ пасьвіць.* Ст. С.

## Ж

ЖАГЛЯВА´ЦЬ, *незак., незад.* Веяць (пра вецер). *Дзе ты ўстойіш на таком ветры, так жаглюя.* Гр.

ЖА´ДНЫ, *займ.* Ніякі. *Жаднаго ратунку німа ад яго.* Вар.

ЖАЛАПА´ЦЬ, *незак., незад.* Піць, хлябтаць. *Хай жалапая, хоць лопня, як ён меры ні ведая.* Ст. С.

ЖАМЯРВА´, *ж., зборн., абразл.* Галота (пра дзяцей). *Дзе ты накорміш жамярву гэту.* Кр.

ЖАНДАРО´ВЫ, *прым.* Светла-чырвоны. Кр.

ЖАНЕ´ННЕ (жаненё), *н., незад.* 1. Жаніцьба. *Адно жаненё наўме, а як рабіць — так німа.* Св. 2. Выданне. *Усе тры сынэ на жанені.* Гр.

ЖАНІ´ЛА (жаніло), *м., непахв.* Жаніх, малады. *Такого жаніла я сама знайшла сабе. А хто твой жаніло?* Св.

ЖА´ПКІ, *мн., адз.* ж а п к а, *ж.* Металічная пласціна пад насок ці пятку (абцас) абутку. *Наске ў ботах натто хутко сціраюцца, трэба жапкі падбіць — жалезо так ні зношваецца хутко.* Гр.

ЖА´РНУЦЦА, *зак.* Ударыцца. *З разьбегу яг жарнуўсё, гаш увачу пацямнело.* Кр.

ЖА´РЫЦЬ, *незак.* Біць, лупцаваць (не шкадуючы). *Думаў, пячонкі адаб'е, так жарыў па сьпіне.* Ст. С.

ЖМІ´НДЗІЦЬ (жміньдзіць), *незак., зламоўн.* Есці. *Калі ён наесца? Яг дзень велькі — усё жміньдзіць і жміньдзіць.* Вальк.

ЖНІВА´РКА, ж. Жняярка. *Жніваркаю жалі.* Зл.

ЖУ´ЙКА, *ж.* Жвачка. *Карова жуйку жуе.* Гр.

ЖУРАВЕ´Й, *м.* Журавель. *Чаго шыю выцягнуў, яг журавей?* Вар.

ЖЫВУ´ШЧЫ, *прым.* Жывучы. *Жывушчы, як кот.* Даўг.

ЖЫВІ´НА, *ж.* 1. Жывая істота, жывёла. *Бачыш, і жывіна холаду байіцца, дрыжыць уся.* Св. 2. *Зборн.* Жывёла. *Жывіну добро даглядай, то і малако мецімяш.* Св.

ЖЫВЫ´, *прым.* Сапраўдны. *Ну, жывыя парцізаны, як на сцэні паказаліся.* Зл.

ЖЫГАЦЕ´ЦЬ, *незак., экспр.* Гарэць, успыхваючы. *Як сухі ялавец, од жыгаціць, як порах. Раз—два згарыць.* Гр.

ЖЫДКАВА´ЦЬ (жыткаваць), *незак.* Выгінацца і не ламацца (пра дубец). *З лазы дубец добро жыткуя. Карові шлёгняш — як пугаю ўсяроўно.* Гр.

ЖЫ´ДКІ (жыткі), *прым.* Які добра выгінаецца і не ломіцца. *Жыткіх дупцоў на кашэль нарэзаў.* Ст. С.

ЖЫ´ЖА, *ж. дзіцяч.* 1. Агонь. *Жыжу запалім.* Гр. 2. Гарачае. *Тут жыжа, апячэсься.* Гр.

ЖЫРО´МСКІ, *м., іран.* Абжорлівы. *Каб гэты жыромскі да ні зьзеў.* Гр.

ЖЫЦЬ *незак.* 1. Жыць. 2. Бываць, мецца. *У магазіні жыве ўсякі тавар.* Гр. *Як часто ў лаўцы жывеш, то натрапіш, купіш што трэба.* Ст. С.

## З

ЗАБРЫТА´ЦЬ, *незак.* Заблытаць (ніткі). *Клубок ні размотваяцца, забрытаў так.* Гр.

ЗАБУЛЯ´ННІК, *м.* Забаўляльнік, выхавальнік. *Натто, думаяш, слухая твой хлопяц забуляннікаў тых у садзіку? І дома ні бракуя тых забуляннікаў.* Гр.

ЗАБУЛЯ´ННІЦА, *ж.* Жан. да з а б у л я н н і к. *Недзя Ганулля ў дзіцячым сатку забулянніцаю робіць.* Гр.

ЗАБУЛЯ´ЦЦА, *незак.* Забаўляцца. *Вар.*

ЗАБУЛЯ´ЦЬ, *незак.* Забаўляць. *Хай дзіця забуляя, дома седзячы.* Гр.

ЗАВАДО´ВЫ, *прым., грэбл.* Спрактыкаваны, прафесіянал. *Завадовы музыкант, абы-каму і ні пойдзя граць.* Гр.

ЗАВАДЫЯ´ЦКІ, *прым.* Заліхвацкі. *Завадыяцкі хлопяц, нічого ні скажаш.* Зл.

ЗАВАЖА´ЦЬ, *незак.* Перашкаджаць. *Скінь галіну з дарогі, хай ні заважая егдзіць.* Кр.

ЗАВА´ЖЫЦЬ, *зак.* Падняць вышэй (канец дошкі, бервяна), выкарыстоўваючы сістэму блока. *Гэты канец ні заважыш: кала ні пацсадзіш, хіба другі канец падымаймо.* Ст. С.

ЗАВА´ЛАК, *м.* Жаўлак. *Завалак у році — есьці ні магу.* Вар.

ЗАВАЛІ´НА, *м.* і *ж.* Лежань, гультай, завала. *Якая зь яго, заваліны, работа!* Кр.

ЗАВЕ´СІЦЬ, *зак.* Засудзіць умоўна. *Валіку завесілі на тры рокі, а таго пасадзілі.* Гр.

ЗАВІ´ДАВАЦЬ, *незак.* Зайздросціць. *Усе нам завідуюць, што сынэ вучаныя.* Гр.

ЗА´ВІДКІ (завіткі), *мн.* Зайздрасць. *У цябе много ўсяго у хаці, а ў яе — го´ло, таму і завіткі да цябе.* Св.

ЗАВУ´ГЛІЧЧА (завуглічо), *н.* Завуголле. *Па завуглічу адно бегаюць, а рабіць німа!* Кр.

ЗАВЯ´ТЫ, *прым.* Напаўсухі (сыр). *Сьвежаго ні любіць, а завяты сыр есьць добро.* Кр.

ЗАГАНУ´ЦЬ, *зак.* 1. Загадаць (загадку). *Од загануў, што ніхто ні адгане твае загаткі.* Ст. С. 2. *непаш.* Зажадаць. *Яг загануў, то хоць зь неба яму тых яблыкаў дастань. Гр.*

ЗА´ГАРАДА, *ж.*1. Агароджа з жэрдак, загарадзь. *Загараду на капусніку каравэ паламалі.* Гр. 2. Адгароджанае месца ў полі (лузе); загарадзь. *У загарадзі ходзяць каравэ.* Ст. С. 3. Стойла ў хляве, загарадка. Кр.

ЗАГА´РАК, *м., застар.* Гадзіннік. *Зл.*

ЗАГЕ´ЛЗАЦЬ, *зак.* Зацугляць, закілзаць. *Каня загелзаў, каб ні панёс з усіх чатырох.* Дауг.

ЗАГНЯ´СЦІ (загнясьці), *зак., непаш.* Закалоць. *Загняцем паршука пад зіму, да вясны сала будзя.* Кр.

ЗАГО´ДЗЬ (загоць), *прысл.* Загадзя. *Каб загоць сказаў, то дастаў бы хварбы табе. Гр.*

ЗАГРА´НАЕ (заграно), *прым.* Аплодненае (яйцо). *Ні заграно яйцо — кураня ні выйдзя.* Ст. С.

ЗАГУ´СЛЫ, *прым.* Загусцелы. *Загуслую зацерку ці есьцімя ён.* Пл.

ЗАГУ´СНУЦЬ, *зак.* Зрабіцца густым, загусцець. *Рошчына рэтка, ні загусла — і хлеп замалады вышаў.* Кр.

ЗАГЭ´ТЫМ, *прысл.* Затым, таму. *Загэтым і ні кажу, што караць будуць.* Ст. С. 2. *злучн.* Затым, таму. *Сама да цябе і прышла, загэтым што ты ні ходзіш да міне.* Кр.

ЗАДА´ТНЫ, *прым.* Удалы. *Задатно парася за рок большо вырасьця, як другоё за два.* Гр.

ЗАДА´РАМ, *прысл.* Задарма. *Хоч, каб усё задарам табе рабілі, га?* Пл.

ЗАДА´ЦЦА, *зак.* Удацца, стаць удалым. *Яг задасца, то і без дражджэй добры хлеп жыве.* Гр.

ЗАДЖГАЦЬ, *зак., экспр.* Зайсці, прыйсці. *Баяўсё, каб ні сьцямнело, то раз-два заджгаў дахаты.* Вар.

ЗАДЫ´ГАЦЬ, *зак.* Забіцца, затахкаць (пра сэрца). *Задыгало сэрцо, нібось, як падбех?* Св.

ЗАЗРО´НІК, *м.* Зайздроснік. *Зазронік гэты нігды нічого ні дасьць.* Гр.

ЗАЗРО´НІЦА, *ж.* Зайздросніца. Дзяр.

ЗАЗРО´НЫ, *прым.* Зайздроны. *От зазроны — ні крошкі ні дасьць, хоць ты ўвамры.* Ст. С.

ЗА´ЗУБЕНЬ (зазубянь), *м.* Рэгулятар (у плузе, спружыноўцы). *Зазубянь ніско — плух натто глыбоко лезя ў землю.* Даўг.

ЗАЙМІ´СТЫ, *прым.* Такі, якім можна зрэзаць за раз многа сцяблоў (пра серп). *Займістым сярпом хучэй жаць.* Ст. С.

ЗАЙЧЫ´СКА (зайчыско) *м., незад.* Заяц. *Усе прысаткі пааб'ядаў зайчыско гэты.* Гр.

ЗАКАЛЁ´НЫ, *прым., асудж.* Надта жорсткі, злосны. *Закалёны немяц: ці прасі, ці малі — нічого ні паможа.* Гр.

ЗАКА´ЧАНЫ, *дзеепрым.* Закасаны. *Закачаны адзін рукаў, а другі не, і так ходзіць!* Кр.

ЗАКАЧА´ЦЬ, *зак.* Закасаць. *Закачаць трэ рукавэ, каб ні памачыў.* Ст. С.

ЗАКВЕ´ЧАНЫ, *дзеепрым.* Упрыгожаны, з кветкаміі. *Як на вяселі, то ўсе заквечаныя: і маладыя, і шафяркі.* Гр.

ЗАКВЕ´ЧВАЦЬ, *незак.* Упрыгожваць (кветкамі, дзеразою, галінкамі бярэзіны, яліны). *Усю хату заквечваюць, як сьвято находзіць.* Вальк.

ЗАКО´ТЫ, *мн.* Манжэта. *Закоты ў сароццы паадрэзвай — ababіліся.* Кр. 2. Абшлаг (завернутая частка калашын). *Ганавіцы закароткія — трэ закоты атпусьціць.* Гр.

ЗАКУБРАВА´ЦЬ, *зак.* Моцна заткнуць (коркам). *Трэба закубраваць, каб заткало ні выпярло тоё піво, як падымяцца хадзіць у боццы.* Ст. С.

ЗА´ЛАБ (залап), *прысл.* Узяўшыся за чубы. *Як шчубіліся залап, гаш чубэ трашчаць.* Кр.

ЗАЛА´ПІЦЬ, *зак.* Паставіць латку (у адзенні), залатаць. *Залапіла хлопцу ганавіцы.* Пл.

ЗАЛЯГА´ЦЬ, *незак.* 1. Напружвацца ў рабоце. *Нашто так залягаць, хіба работа ў лес уцячэ?* Кр. 2. Моцна брахаць. *Сабака гаш залягая. Мо дзе зладзеі лезуць?* Гр.

ЗАМАЛАДЫ´, *прым.* Зарэдкі (хлеб). *Замалады быў і сьсеўсё.* Ал.

ЗАМЕ´ЖАК, *м.* Узмежак. *На замешку трава парасла, хоць ты касі.* Св.

ЗАМУЛЬДАВА´ЦЬ, *зак., застар.* Зарэгістраваць. *Хадзіў у сяльсавет дзіця замульдаваць.* Кр.

ЗАНАВЕ'СКА, *ж.* Фіранка. *Завесь занавескаю акно.* Гр.

ЗАНЕМАГЧЫ´ (занімахчы), *зак.* Абнядужаць, абнемагчы. *Як занімагу, то і вады лошкі ні падасі — такая добрая!* Пл.

ЗАНУ´ДА, *м.* і *ж., зламоўн.* Той, хто сумуе, незадаволены чым. *Такі ўжэ зануда, што нічым ні ўгодзіш яму.* Гр.

ЗАНУРТАВА´ЦЬ, *зак.* Нырнуць. *Добро плавая твой хлопяц: зануртаваў і доўго пад вадою быў.* Дзяр.

ЗАНЯДЗЕ´ЛЯВАЦЬ *зак.* Застацца на нядзелю. *Мало сыботы, так занядзелявала ішчэ.* Кр.

ЗАНЯ´ТНЯ, *ж.* Занятак. *Як занятні німа, то ўсяка халера ў голаў лезя.* Пл.

ЗАНЯ´ЦЬ, *зак.* Забраць (да сябе ў хлеў чужое быдла). *Як папускаў у шкоду, то занялі, цяпер выкупляцімяш хіба.* Гр.

ЗА´ПЕК (запяк), *м.* Запечак. Вар.

ЗАПІВА´ННІК, *м.* Той, хто запівае маладую, нявесту. *Маладая сплаціла запіванніку, бо ні захацела замуш ісьці.* Дзяр.

ЗАПІВА´ЦЬ, *незак.* Заручаць. *Хутко вяселё будзя — Надзю Настусіну запіваюць.* Гал.

ЗАПІРА´ЦЬ: запіраць дух — не даваць гаварыць *(зламоўн.). І слова ні скажаш, дух запірая табе.* Ст. С.

ЗАПІ´ЦЬ, *зак.* Гл. запіваць. *Ужэ запілі, шыкуйся на вяселё.* Кр.

ЗАПЛАЦІ´ЦЬ, *зак.* Адмовіцца выйсці замуж, пакрыўшы кошт заручынаў. *Вяселя ні будзя — заплаціла.* Гр.

ЗАПЛЕХАВА´ЦЬ (запляхаваць), *зак.* Замасціць, заткнуць (адтуліну); занесці (снегам). *Ніяк трубы ні ачышчу, так запляхаваў смецям.* Вар. *Запляхаваў сьнех усе ямэ.* Дзяр.

ЗАПНУ´ЦЦА, *зак.* Абвязацца (на хуткую руку). *Запніся трохо чым, каб ні гэдык пырскало, і ідзі памагай.* Вар.

ЗАПУСЦІ´ЦЦА (запусьціцца), *зак.* Далёка зайсці (пры пасьбе кароў). *Пат Курыны запусьціліся, то хутко ні прыжануць кароў.* Гр.

ЗАПЯКА´ЦЦА, *зак.* Загараць. *Недзя запякаяцца на сонцы.* Даўг.

ЗА´РА, *прысл.* Хутка; зараз. *Пачакай трохі, я зара прыду.* Ст. С.

ЗАРА´НЕ (заранё), *прысл.* Загадзя, зараней. *Каб заранё сказаў, мог бы прынясьці, а так ні ўсьпеў.* Зл.

ЗАРВА´ЦЬ, *зак., безас.* Зацяць. *Як угледзяў міне, то яг зарвало, а то ўсё хваліўсё і хваліўсё.* Гр.

ЗАСВЯ´ДЧЫЦЬ (засьвяччыць), *зак.* Пасведчыць, засведчыць. *Як засвяччу, то і цябе, злыдуха, пасадзяць.* Ст. С.

ЗАСІНІ´ЦЬ, *зак.* Забяліць у недастатковай ступені. *Адно засініла — і еш, кажа, зацерку. Хай сама есьць!* Гр.

ЗА´СМАРГА, *ж.* 1. Своеасаблівы вузел, зашмарга. *Засмаргу лёхко разьвязаць.* Кр. 2. *перан.* Пятля. *Каб яго засмарга ўзяла, як ён усё забраў.* Ст. С.

ЗАСМАРГНУ´ЦЬ, *зак.* 1. Завязаць зашмаргай. Кр. 2. Заціснуць пятлю. *Засмаргнуць мацней трэба, а то пятля атходзіць.* Гр.

ЗАСТЭ´МПЕЦ (застэмпяц) *м.* 1. *застар.* Намеснік. *Некалі ён быў застэмпцам судзйі.* Дзяр. 2. *жартаўл.* Намеснік. *Хай мой застэмпяц кажа, я паслухаю.* Гр.

ЗАТНУ´ЦЦА, *зак.* Занатурыцца (пра каня). Гр.

ЗАТРУСІ´ЦЬ, *зак.* Запарушыць. *От трохі сьмецё затрусіў сьнех.* Вар.

ЗАТУ´РЫЦЬ, *зак., жартаўл.* Занесці. *Ледзьвя затурылі, гэдулькі каўбас у рашку наклалі.* Гр.

ЗА´ТХЛЯ, *ж.* Затхласць. *Хоць ты ў хату тую ні захоць, затхля такая.* Гр.

ЗАЎСЮ´ДЫ, *прысл.* Заўсёды, увесь час. *Ен заўсюды такі нівясёлы быў.* Св.

ЗА´ЎША, *прысл.* Заўсёды. *Заўша хутчэй за ўсіх паесьць і ішчэ паглядая.* Зл.

ЗАФУНДАВА´ЦЬ, *зак., экспр., зламоўн.* Пачаставаць. *Каб зафундаваў, то памог бы, так ні хоча.* Едн.

ЗАХВЭ´НДАЦЦА, *зак.* І. Запэцкацца, забрындацца (пра ніжнюю частку адзення). *Захвэндалася, пакуль свіням падавала.* Гр. 2. *незад.* Стаміцца. *Чысто захвэндалася за работаю, хадзіць ні магу, ногі заплятаюцца.* Вар.

ЗАХЛЕ´БІЦЦА, *зак.* Пакрыцца абалонкай хлеба (пра нож). *Як сьвежы хлеп, то нош раз–два захлебіцца і ні хоча крояць.* Ст. С.

ЗАШЧАРЭ´ПІЦЬ, *зак., экспр.* Узяць многа (у прыгаршчы, жменю) чаго–небудзь. *Я думаў, ён шчопці возьмя, а той як зашчарэпіў, то ўсё забраў.* Дзяр.

ЗАЦЕ´РКА, *ж.* Страва з перацёртай мукі, зацірка. *Зацеркі зварыла.* Гр.

ЗАЦЁ´РЫЧ, *м.* Прылада, якой робяць выразы (для дна) у драўлянай пасудзіне. Кр; Ст. С.

ЗАЦІ´НЛІВЫ, *прым,* Наравісты (пра коней). *Много ні кладзі: конь зацінлівы, як затнецца, скіняш усё, а ён — ні з месца.* Ст. С.

ЗАЦУ´ГАЦЬ, *асудж.* Занасіць, запэцкаць носячы (пра адзенне). *От зацугаў сарочку: чорна, як зямля. Халера яе адмыя.* Гр.

ЗАШМУ´ЛЕНІК (зашмулянік), *м., асудж.* Той, хто ходзіць у брудным, заношаным адзенні. *С хаты ні пусьцімо, як ні пярадзеняцца зашмулянік гэты.* Пл.

ЗАШЧЫМІ´ЦЬ, *зак.* Сціснуць (кулакі, зубы). *Зашчыміў кулак і соваяцца біцца.* Угр. *Яг зашчыміць зубы — от страшны робіцца.* Гр.

ЗАШЫПУ´ЛІЦЦА, *эспр.* Забрацца ў цесны куток, зашыцца. *Недзя зашыпуліцца, і папробуй знайдзі яго.* Гр.

ЗАЯ´ДА, *м.* і *ж.* Пра заядлівага, злоснага; задзірака. *Падло заяда гэта Надзя, хоць ты што хоч ёй рабі, ні паслухая, як заесца.* Гр.

ЗБА´БЕЦЬ (збабяць), *зак.* Звянуць, пакарабаціцца (пра бульбу, грушы). *Рано абабралі, так ні прылежалі, адно збабялі — нісмашныя грушы!* Пл. *Цяпло ў хаці, так збабялі картоплі.* Гр.

ЗБАБО´ЎЧЫЦЬ, *зак., экспр.* Ударыць цяжкім. *Свіным мялам яг збабоўчыла, гаш закульгаў.* Ст. С.

ЗБА´ВІЦЬ, *зак.* Зрушыць з месца, падняць. *От цяшкі камянь: ледзьвя трайіх збавілі яго з месца. І на вос ні збавіш, таго камяня.* Св.

ЗБАМБЕ´РЫЦЬ, *зак., экспр.* 1. Падняць цяжкое (на плечы, на воз). *Ледзьвя збамберылі трайіх камель той на пярадок.* Ст. С. 2. Спухнуць. *Усю руку збамберыло, мусіць, заражэнё.* Гр.

ЗБАРУКА´ЦЬ, *зак., экспр.* Падняць, здужаць. *Гэту дзяравіну ледзьвя збарукалі на вос, такая цяжкая, а з выгляду тонка нека.* Гр.

ЗБАМБАВА´ЦЬ, *зак., экспр.* Спухнуць, напухнуць. *Рукі ні падняць, такая тоўстая стала — ўсю збамбавало. Ногі як калатке — збамбавало.* Ст. С.

ЗБЛАЖА´ЦЬ, *зак.* Пахуднець. *Зблажаў за хваробу, а так быў сыты.* Вар.

ЗБРОЙНЫ, *прым.* Задзірысты. *О, ён збройны, зь йім ні патаварышкуяш доўго.* Даўг.

ЗБРУХІТА´ЦЬ, *зак., непаш.* Стаптаць (пра жывёлу). *Ноч ні даглядаў, так чысто збрухіталі той хвост картопяль.* Гал.

ЗБРЫ´ДЗІЦЬ, *зак.* Зганіць, злаяць, нарабіць брыдкасці. *Ляпяй ты яго ні зачапай, а то збрыдзіць.* Ал.

ЗБРЫ´ДНУЦЬ, *зак.* Надакучыць, збрыдзець. *Збрыдня казаць, а ён ні панімая ішчэ.* Вальк.

ЗБУ´РЫЦЦА, *зак. асудж.* Сабрацца, нечакана кінуцца што зрабіць. *Чаго вы збурыліся ўсе? Пасядзеця ішчэ!* Кр. *Дзе ты йіх асадзіш, яг збурыліся дахаты.* Гр.

ЗБУ´ТЛЕЦЬ (збутляць), *зак.* Збуцвець. *На балоці чысто збутляла дзяравіна.* Даўг.

ЗБЫТКАВА´ННІК, *м.* Жартаўнік, той хто «збыткуе». *Хай крышку павясяліць кудзельніцаў нашых гэты збыткаваннік!* Дзяр.

ЗБЫТКАВА´ННІЦА, *ж.* Жан. да збыткаваннік. *І Надзя твая нікепска збыткаванніца.* Дзяр.

ЗБЫТКАВА´ЦЬ, *незак.* Жартаваць. *Хай збыткуюць, рас ні злуе.* Гр. *Зь яго можно збыткаваць, ён ні злуе.* Ал.

ЗБЫ´ТКІ, *мн.* Жарт. *Усё збыткі стройіць з малого.* Ал. *І ён збыткі любіць.* Кр.

ЗВАГАВА´ЦЬ, *зак., незад.* 1. Падняць. *Халера яе звагуя адзін, такую штуку, трэ, каб чалавек с пяць.* Гр. 2. Разбудзіць. *Дзе яго звагуяш, само разаспаўсё!* Ал.

ЗВАЛЯ´ЦЬ, *зак., асудж.* Зрабіць непрыгодным, запэцкаць, не носячы. *Ішчэ навюткі пінджак, а зваляў, глядзець німа на што.* Гал.

ЗВАНО´ЧКІ, *адз.* званочак, *м.* Званец (расліна). Гр.

ЗВОН, *м.* Частка драўлянага вобада (у коле воза). *З гэтае чачоткі добры звон будзя, якраз дзьве сьпіцы захваціць.* Ст. С.

ЗВУЧЫ´ЦЬ, *зак.* Прывучыць. *Як звучылі цяля с пальцаў ссаць, так і ні хоча іначай.* Св.

ЗВЯГАВА´ЦЬ (зьвягаваць), *незак.* Звягаць. *Нешто сабака зьвягуя, мо дзе хто ідзе да нас?* Кр. *Зьвягуй ні зьвягуй — ніхто цябе ні слухая.* Вар.

ЗВЯЗЦІ´ (зьвясьці), *зламоўн.* Ударыць. *Каб зьвёс паленам, то ні скакаў бы, як пятух, біцца.* Гр.

ЗГАЛЕ´ЦЬ, *зак., экспр.* Не хапіць, забракаваць. *Што табе часу згалело, што святам шыяш?* Св.

ЗГАМБАВА´ЦЬ, *зак.* Зганьбаваць. *Такія яблыкі згамбаваў! Лепшых ні будзя!* Кр.

ЗГА´ПІЦЬ, *зак.* Празяваць. *О, згапіў, што прадаў паршука за такія грошы. Сёні боляй узяў бы.* Даўг.

ЗТО´МТАНАЕ (згомтано) *дзеепрым.* Нязгорнутае, кінутае абы-як, скамечанае. *Дзе яно ні патрэцца, яг згомтано ляжало, усё пакамячано, прасаваць трэба.* Гал.

ЗГО´МТАЦЬ, *зак., асудж.* Пакласці абы-як, не згарнуўшы. *Німа, каб акуратнянько згарнула і палажсыла, а згомтая і кіня, то дзе яно ні пакамячыцца.* Пл.

ЗГРЫ´БЧЫЦЬ (згрыпчыць), *зак., экспр.* Узяць (у розн. знач.). *Добру дзеўку ты згрыпчыў сабе!* Кр. *Згрыпчыць і ні ўгледзіш — па грошах будзя.* Ал.

ЗДАРАВІНЯ´, *м.* і *ж.* Здаравяка. *Нуй здаравіня той Ёзік!* Гр.

ЗДАРО´ВЫ, *прым.* Халодны, з халадком. *Здаровы ранак, мо дзе і марос быў уночы.* Дзяр.

ЗДАРО´Е (здароё), *н.* Здароўе. *Німа здароя.* Гр.

ЗДА´ЎНІЦЦА, *зак., безас.* Прайсці многа часу. *Калі гэто было? Здаўніласё — і мы ні помнім.* Яр.

ЗДА´ЦЦА, *зак.* Ударыцца, стукнуцца. *Нага баліць у калені, як здаўсё, падаючы з дзерава.* Гр.

ЗДА´ЦЬ, *зак.* Ударыць, стукнуць. *Рука спухла, шчарнела, як здаў малатком па ёй.* Гр.

ЗДЫМА´ЦЬ, *незак., асудж.* Енчыць. *Чаго вас здымая?* Даўг.

ЗДЫ´РДЗІЦЦА, *зак., груб.* Памерці. *А ты, думаяш, век жыцімяш? Пара прыдзя — здырдзісься.* Кр.

ЗДЫХ, *м.* Здыханне, здыхата. *Некі здых напаў на сьвіня.* Ал.

ЗДЫХЛЯ´К, *м., зняважл.* Худы, хваравіты чалавек; здыхля. *Есьць і яго есьць, здыхляк гэты.* Пл.

ЗЕГРАЧЫ´ (зяграчэ), *мн., груб.* Вочы. *Заліў зяграчэ і нікого ні бачыць. От п'яніцы кусок!* Кр.

ЗЕ´ГРЫ (зегра), *мн. груб.* Вочы. *Зегра вылупіў на яе і енчыць.* Вар.

ЗЕЛЯНЕ´ЦЬ (зялянець), *незак.* Зелянецца (пра расліны). *Ужэ жыто пасходзіло, здалёк зяляніць. На грудзе высахла, а ў лахціні зяляніць трава.* Гр.

ЗЕЛЯНІ´ЦЫ (зяляніцы), *адз.* з е л я н і ц а, *ж.* Зялёнкі (грыбы). Едн.

ЗЕЛЯНЦОВЫ (зялянцовы), *прым.* Колеру зеляніны, зелянковы. *Зелянцовы касьцюм. Бало, усё салдаты «зашчытны» казалі.* Гал.

ЗЕ´МКА, *ж.,Ж пяшчотн.* Зямля, земляная падлога. *Ідзі, сынку, на земку, хай мацяры рукі трохі адыдуць ат цябе.* Ст. С.

З´ЖЫЦЬ (жжыць), *зак.* Пражыць. *От, век жжыў, а нічого ні бачыў, нідзе ні быў.* Гал.

З-ЗА: ◊ З-за пагоды — пакуль пагода. *Добро, што з-за пагоды сено ўвабралі.* Гр.

ЗЗА´МАЛАДУ, *прысл.* Замалада. *Прывык ззамаладу да акуратнасьці — і цяпер натто акуратны мушчына.* Яр.

ЗЛАЖЫ´ЦЬ I, *зак.* Адзець. *Злажы новыя ганавіцы, рубашку, як на кярмаш паедзяш.* Гр.

ЗЛАЖЫ´ЦЬ II: ◊ Злажыць вокам — задрамаць. *Гр.*

ЗЛАПА´ЦЬ, *зак.* Злавіць. *Курыцу сьвіня злапала і чуць ні задушыла.* Кар.

ЗЛЕ´ЦІЦЦА (зьлеціцца), *зак.* Зрабіцца крыху цёплым, падагрэцца. *Хай вада зьлеціцца, пайду плацё намачу.* Св.

ЗЛЫ´ГАЦЬ, *зак.* З'есці (пра гусей). *Раз-два злыгалі і ішчэ дзюбы панастаўлялі — давай.* Гр.

ЗЛЫДУ´Х, *м.* Злыдзень. *Такого злыдуха ішчэ ні бачылі на сьвеці.* Пл.

ЗМАЛЕ´НЬКАГА, *прысл.* Тое, што і змалянкосьці. *І змаленькаго ўсё хварэў, гэты Ладзё. А я к стары стаў — паздаравеў.* Дзяр.

ЗМАЛЯНКО´СЦІ (змалянкосьці), *прысл.* Змалку, змаленства, з дзіцячых гадоў. *Ён і змалянкосьці ўсё некі здохлы.* Дзяр. *Яшчэ змалянкосьці добро помню ўсё гэто.* Кар.

ЗМАНУ´ЦЬ, *зак., непаш.* Звыкнуць, уцягнуцца ў што. *Яг змануў поначы чытаць, так і ні хоча агонь запальваць.* Ст. С.

ЗМАХЛЯВА´ЦЬ, *зак.* Сказаць няпраўду, сылгаць, схлусіць. *Слова ні скажа праўды, каб ні змахляваў.* Гр.

ЗМЫ´ЛІЦЦА, *зак.* Памыліцца. *Мусіць, я ні туды іду, змыліўсё, ні па той дорозі?* Гр.

ЗМЫ´ЛЬНІК, *м.* 1. Змылак (кусочак мыла). Кр. 2. Кубачак для брыцця. *У змыльніку мыла німа, быў маленькі змыльнік, і той змылілі.* Кр.

ЗНАТУ´РАНЫ, *дзеепрым.* Натурысты, натурлівы. *Знатураны конь, много ні паложыш — затнецца і ні з месца, хоць забі яго.* Вар.

ЗНАТУ´РЫЦЬ, *зак.* Знаравіць. *Так знатурылі, што конь гэты ценю свайго байіцца.* Пл.

ЗНАЧЫ´ЦЦА, *незак.* Паўнець. *Карова значыцца — хутко ацеліцца.* Гр.

ЗНЯБО´ЖЫЦЦА (зьнібожыцца), *зак.* Прыняць пакорны выгляд. *Зьнібожыўсё і сядзіць, бедны, як яго ўсяроўно і німа тут.* Ст. С.

ЗО´БКА (зопка), *ж.* Аброчная торба. *У зопку сечкі каню набраў.* Вальк.

ЗРАКЧЫ´, *зак.* Сурочыць, урачы. *Кажуць, яна можа зракчы дзіця.* Вар.

ЗРА´НЯ, *прысл.* Зранку. *Зраня дошч, а ўдзень пагода.* Ст. С.

ЗРУ´ШАНЫ, *прым.* Надарваны (пра чалавека). *Яму німожно цяжко рабіць: зрушаны.* Угр.

ЗУБА´ЦЬ, *незак.* Вызначаць мацунак яйца, стукаючы аб зубы. *Зубай ні зубай, а маё мацнейшо яйцо.* Пл.

ЗУХАВА´ТЫ, *прым.* Фанабэрысты, задавака. *О, ён быля с кім дружыць ні будзя — зухаваты такі.* Кр. *Лядзі, як нос задраў — зухаваты натто.* Гр.

ЗУХАВА´ЦЦА, *незак.* Задавацца, фанабэрыцца. *Цяпер добры, а патом станя зухавацца — ні падысьці будзя.* Св.

ЗЫСК, *м.* Выгода, карысць. *Раз зыску німа, то хто яе (грэчку) сеяцімя?* Гр.

ЗЯБЛЕ´ННЕ (зябленё), *н.* Зяблівае ворыва. *Як пачнецца зябленё, ні будзя часу на другоё.* Кр.

ЗЯ´БЛЕННІК (зябленнік), *м.* Той, хто арэ зябліва, зябліць. *Гось і зябленнік зь зябліва прышоў. Дай есьці хутчэй яму, Ганусь!* Гр.

ЗЯ´БЛЯ, *ж.* Зябліва. Гр.

ЗЯВА´ЦЬ, *незак., пагардл.* Абгаворваць. *Нашто, каб на цябе зявалі, што ты чужоё косіш.* Ал.

ЗЯГРА´ТЫ, *прым.* 1. З вялікімі вачыма, зяркаты. *Малое, а зяграто, яг бацько.* Вальк. 2. Буйны (пра семя). *Мо і добры лён уродзіць, нат неко зяграто насенё.* Гр.

ЗЯГРА´Ч, *м., груб.* З вялікімі вачыма. *От велькія вочы — зяграч некі.* Вальк.

ЗЯЛЕ´ПУХА, *ж., незад.* 1. Недаспелая ягада (груша, яблык). *Як наясіся зялепухаў, жыватом будзяш качацца,— яны шкодзяць.* Гр. 2. *зняважл.* Хваравіты чалавек. *Ні есьць нічагутко зялепуха гэта.* Кр.

ЗЯРНЯ´, *н.* 1. Каліва (асобнае зерне). *Па тры зярняці ў адно месцо кладзем, як садзімо.* Кр. 2. Ядро. *Пустыя гарэхі некія, самыя велькія, а зярня малоё.* Ст. С. *Вылушчы зярня хлопцу.* Гр.

ЗЯЦЮ´ЛЯ (зяцюлё), *м. зняважл.* Зяць. *Гэто ўсё твой зяцюлё нарабіў, злыдух!* Вальк.

# I

ІГЛІ´ЦА, *ж.* Планка (у табурэтцы, стале), яе прыбіваюць упоперак асноўнай на месцы адтуліны для ножкі. Гр.

І´МЕННА (йімянно) *прысл.* Абавязкова. *Наказваў бацько, каб йімянно прышоў.* Гр.

ІМЛЕ´ЦЬ (йімлець), *незак.* Імжэць. *От, дажджу велькаго німа, так йімліць трохо.* Вар.

І´МПАТ (йіміпат), *м.* 1. Спецыфічны дух. *Ні магу ў хату зайсці, дзе нібошчык — йімпату ні пяраношу.* Ст. С. 2. Парыў (паветру). *Йімпатам забіло Грыбіну, яг гром грымеў.* Гр.

ІНА´ЧШЫ, *займ.* Інакшы. *Ні хоча іначшаго, адно такого давай яму пінджака.* Ал.

ІЎ´ЧЫК (йіўчык), *м.* Назва птушкі. *Гэты йіўчык ўсё кажа: іў–чык –іўчык-чык; жыве ў балоці.* Кр.

# К

КАБЫ´ЛА, *ж.* Свінушка (грыб). Кр.

КАБЫЛІ´ЦЫ, *адз.* к а б ы л і ц а *ж.* Від грыбоў — свінушкі. *Карычнявыя такія казяке, кала пня растуць, кабыліцы кажуць.* Гр.

КАБЯ´ЛАК, *м.* Скрутак. *Ні натто ваты тае дастаць можно было тагды. Аля дзеўчына прынясла з гораду кабялак.* Св.

КАВА´ЛАК, *м.* Узмацняльнае слова, ужываецца пры адмоўнай характарыстыцы асобы. *От кавалак дурня, каб гэдыкім быць!* Гр. *Кавалак арыштанта, і годзі!* Ст. С.

КАВАЛЯРЫ´СТЫ, *м.* Коннік. *Стрэціў кавалярыстаго, то казаў, бачыў бацька твайго ў лесі.* Кр.

КАВА´ЦЬ, *незак.* Кукаваць. *Зязюля куе — ужэ цяпло стало.* Гр.

КА´ДРЫ, *мн.* Кадрыля (танец). *Іграй, музыкант, кадры, чатэры пары ўжэ есьцяка.* Ст. С.

КАЖНЮТКІ, *займ., узмацн.* Кожны. *Кажнюткі дзень ідзе і ідзе (снег).* Ал.

КАЗА´ І, *ж.* Мерка — збітыя ў форме літары «А» калы — для вымярэння плошчы. *Брыгадзір с казою ідзе, то памерая, колькі выжалі.* Вар.

КАЗА´ II, *ж.* Недажатая палоска. *А хто тут жаў? Чаму каза стайіць, га?* Вар.

КАЗА´К, *м.* Гатунак высокаўраджайнага аўса. Гр.

КАЗМЯРО´ЎКА (казьмяроўка), *ж., застар.* Хустка з кашаміру. *От харошу казьмяроўку баба мая паказвала.* Дзяр.

КАЗЯКІ´ (казяке), *мн.* Грыбы (агульная назва). *Пайшоў па казяке, мо і грыба дзе знойдзя, але лісіцаў то назьбірая.* Гр.

КАЕ´Т, *м., застар.* Сшытак. Зл.

КА´ЛА *прыназ.* Каля, ля. *Кала хаты быў.* Гр.

КАЛАШМА´Ч, *м.* Калашман (дра чалавека ў шырокіх доўгіх штанах). Гр.

КАЛДО´БА, *ж.* Выбоіна, калдобіна. *Калдоба глыбока, чуць вос ні пяравярнуўсё.* Св.

КАЛЕ´ЙКА, *ж.* Чарга. *У калейку сталі.* Даўг.

КАЛЕ´Я, *ж.* Чыгунка. *Чутно, як пояст ідзе, калея нідалеко.* Вар.

КАЛІЗАВА´ННЕ (калізаванё), *н.* Пастрыганне пладовых дрэў. *Каб ні калізаванё, дзе ты нос усадзіў бы яблыко абарваць?* Гал.

КАЛІЗАВА´ННІК, *м.* Той, хто пастрыгае («калізуе») пладовыя дрэвы. *Нашто ты так гэту яблыню апшастаў, калізаваннік? Возьмя і ссохня, столькі галья абрэзаў.* Гр.

КАЛІЗАВА´ЦЬ, *незак.* Пастрыгаць пладовыя дрэвы. *Натто зарасла, трэба калізаваць, а то зьдзічая груша.* Гал.

КАЛО´ДЗІСЬ, *м.* Калодзеж, студня. *Да калодзіся пайшла воду браць.* Гр.

КАЛО´Ш, *м.* Галёш. *Калош у гразі застаўсё, голым валянкам ступаю.* Даўг.

КАЛО´ША, *ж.* Абмотка з анучы на ніжнюю частку (ад калена) нагі; носяць у час жніва. *Бяс калош усе лыткі паапорвала рыжсышчам.* Гр.

КАЛУБЕ´ЛЬ, *ж.* Дзіцячы ложачак (рознай формы, які стаіць і які вісіць). *Калубель павесіла пад бэльку, праду і калышу нагою.* Гр.

КАЛУВА´ЦЦА, *незак.* Хістацца, калывацца. *Усе зубы хутко паўпадаюць — ужэ калуваюцца.* Гр.

КА´ЛУШ, *м.* і *ж., грэбл.* Няўмека. *Калуш нека, нічого зварыць люцко ні можа.* Ст. С.

КА´ЛЬВА (кальво), *н.* Каліва. Даўг.

КАЛЯДА´, *ж., жартаўл.* Назва адкормленага вепрука, якога колюць на каляды. *Каляда добра вырасла, каўбас наробім много.* Гр.

КАЛЯ´ДНІК, *м.* Тое, што і к а л я д а. *Калядніка закалолі на коляды.* Ст. С.

КАЛЯ́НАЧКА, *ж., пяшчотн.* Скрылёк (каўбасы, морквы). *Каляначку каўбасы зьзеў.* Пл.

КАЛЯ́НКА, *ж.* Скрылёк (каўбасы, морквы, яблыка); мае форму круга (кола). *Мо і я калянку морквы схрумстаю, яг зубы ні балецімуць.* Гр.

КАЛЯСНАЯ, *ж.* Калёсны шлях, дарога. *Як пачнецца вясна, то і калясною прывязем гэту штуку, нідзе яна ні падзеняцца.* Кр.

КАМІНО́К, *м.* Выступ на коміне (на ім захоўваюць запалкі). *Запалкі на камінку, бяры агонь запальвай, а то цёмно ўжэ.* Ст. С.

КАМІСА́ЦЫЯ, *ж., застар.* Хутарызацыя. *Камісацыя, таму і выслалі на хутар жыць.* Зл.

КАМЛУ́К, *ж.* 1. Восілка ў кашалі. *Пат самы камлук картопяль насыпаў у кашэль.* Ст. С. 2. Дужка ў баране. *Камлук ялаўцовы да бараны рабіў, каб ні так ламаўсё хутко.* Гр. Параўн.: к а б л у к (у 1 знач.) — в. Альшаны Карэліцкага раёна.

КАМО́РКА, *ж.* Памяшканне пры сенях для захоўвання агародніны; паралельна ўжываецца с ц ё п к а (гл.). *Брушка ў каморцы на картоплях у куце ляжыць.* Гр.

КАНАПЛЯ́НІСКА (канапляніско), *н.* Поле, на якім раслі каноплі. Гр. Паралельна бытуе і к а н а п л я н і ш ч а.

КАНАПЛЯ́НКА, *ж.* Хустка (сярэдняга памеру, з моцнага матэрыялу). *Канаплянку па хусцы завязваюць, кап цяплей было.* Ст. С.

КАНДЭ́Т: р а б і ц ь н а к а н д э т — на скорую руку, абы-як, на тандэт. *Дзе яны насіцімуць, чаравікі гэтыя, рас на кандэт робляныя.* Ал.

КАНДЭ́ТНЫ, *прым.* Недабраякасны, тандэтны — зроблены на скорую руку, абы-як. *Каб ні кандэтны, мо і купіў бы.* Гр.

КАНЧА́, *н., непаш.* Конь. *Німа ніякага канчаці, але і гэто ні конь.* Ст. С.

КАНЯНЯ́, *н.* Каняка. *Такое каняня я б і задарам ні браў.* Гр.

КА́ПА, *ж.* 1. Капа. Кр. 2. Скураное покрыва хамута. Гр.

КАПАВА́ЦЬ: г а л а в а к а п у я . Разумны, кемлівы. *Гэто ні дурны чалавек, галава капуя на ўсё яго.* Ст. С.

КАПА́ННІК, *м.* Той, хто капае бульбу. Даўг.

КАПА́ННІЦА, *ж.* Жанчына, якая капае бульбу. *Капанніцаў зь дзесяць прышло, то раз-два выкапаям картоплі. Вар.*

КАПА́ЧКА, *ж.* Прылада для капання бульбы; капач. *Бяс капачкі, рукамі у нас ніхто ні капая картопяль.* Кр.

КАПЕ́Ж 1 (капеш), *м.* Коптар. *Дзе я выям: цэлу міску с капяжом гэтае кашы наклала.* Вар.

КАПЕ´Ж II, *м.* Стрэшка ў яме (гл.). *Трэ капеш паправіць, каб у яму сьнегу ні надуло ў картоплі.* Кр.

КА´ПЕЛЬКУ (капялыку), *прысл.* Трошкі. *Пачакай капяльку, хутко буду.* Яр.

КАПІ´ЦА, *ж.* 1. Капа (сена). *Пяць капіцаў накасіў з грутка таго.* Угр. 2. *перан., іран.* Тоўстая, мажная. *От капіца гэта, як села, так на ўсю драбу.* Гр.

КАПО´ТА, *ж.* Плашч з даматканага сукна. *На кажух капоту нацягні, каб дошч ні прамачыў.* Св.

КАПТА´Н НА КАЖУ´СЕ. Футра. *Зімою, кап цяплей было, каптан на кажусі апратваю.* Вар.

КАПУ´ЗА, *ж., грэбл.* Вялікая неакуратная шапка. *Халера яе насіцімя, гэту капузу.* Гр.

КАПУ´СНІК (капусьнік), *м.* Поле (агарод), дзе расце капуста. *На капусьнік гною забракавало.* Даўг.

КАРАБАВА'ТЫ, *прым.* Карабаты. *Груша збабяла, карабавата стала.* Яр.

КАРАВА'ЙНІЦА, *ж.* Жанчына, якая робіць каравай. *Ужэ каравайніцы прышлі каравай гібаць.* Гр.

КАРАВУ´ЛІЦЬ, *незак.* Пільнаваць, вартаваць. Дзяр.

КАРА´ННЕ (каранё), *н.* Пакаранне. *Тваё каранё нічого ні паможа, лепяй угаворвай дзіця.* Кр.

КАРАЎЛОДАК, *м.* Калаўрот. *На караўлодак прадзе.* Гал.

КАРАЧЫ´ (карачэ), *мн.* Карачкі. *На карачох лазіць пападлавічу.* Ст. С.

КАРНО´ТКІ, *прым., застар.* Кароткі. *Некі карноткі стаў твой кажух.* Гр.

КАРО´СТА, *ж.* Дробная кастрыца (льну). *Кароcты много натрапала з льну.* Ст. С.

КАРО´ЧШЫ, *прым.* Карацейшы. *Гэта гратка карочша за тую, мо і дасадзім капусту сваею расадаю?* Гр.

КАРТАПЛЕ´ННЕ (дартапленё і картафленё), *н.* 1. *зборн.* Сцябло і лісце бульбы, бульбоўнік. *Картапленё жнем на корм.* Вар. 2. Поле, дзе расла бульба. *Па картаплені пшаніцу сеям.* Гр.

КАРТАПЛЯ´НІК, *м.* І. Блінец з бульбы. Едн. 2. *перан. жартаўл.* Той, хто любіць бульбяныя блінцы. Св.

КАРТАПЛЯ´НІСКА (картапляніско і картафляніско), *н.* Поле, дзе расла бульба. Вальк.

КАРТАПЛЯ´НШІЧА (картаплянішчо), *н.* Тое, што і картапляніска. *Па картаплянішчы добро ўсё родзіць.* Ал.

КАРТО´ПЛІ, *мн.* Бульба. *Як добро зямля ўгрэяцца, тагды картоплі садзяць.* Кр.

КАРТО´ПЛЯ, *ж.* Бульбіна. *Картоплі ні аднае ні падняў, а ўжэ есьці захацеў.* Дзяр.

КАРЧА´К, *м.* Пра невысокага ростам, але дужага, каржакаватага чалавека. *Халера яго абможаш, карчака гэтаго; яго ніхто ні пакоціць.* Гр.

КАРЫ´ТА (карыто), *перан., іран.* Пра мурзатае дзіця. *Куды за стол садзіць карыто такое, хай ідзе памыяцца.* Вальк.

КАРЭ´МІСЛА (карэмісло), *н.* Каромысел. Даўг.

КАСА´, *ж.* Прамень (сонца). *Сонцо косы ў вокна папускало, а ты сьпіш!* Ал.

КАСА´ЦЦА, *незак.* Датычыцца. *Плаціць трэба ўсім, гэто і яго, Ладзя, касаяцца.* Гр.

КАСЕ´ННЕ (касенё), *н.* Касьба. *Якоё касенё дажджом!* Св.

КАСЕ´ННІК, *м.* Касец. *Каб двох касеннікаў ішчэ, то да палудня скасілі п усё.* Св.

КАСІ´ЛЬНЯ (касільнё), *н.* Дзяржанне касы, кассё. Гр.

КА´СЛАЎКА, *ж.* Пасма (льну). *Мо і я да вечару каслаўку якую льну сатру.* Ст. С.

КАСЦЯ´НКІ (касьцянкі), *зборн.* Касцяніцы (ягады). Кр.

КАТА´ННІК, *м.* Той, хто катае мёд (цэнтрафугаю). Гр

КАТА´ЦЬ, *незак.* Даставаць мёд з рамак з дапамогай цэнтрыфугі. Яр.

КАЎГА´Н, *м.* і *ж., абразл.* Няўмека, нячысты. *Што яна табе люцко зварыць есьці, каўган гэта.* Гр. Параўн.: каўгаць — няўмела, з неахвотай мыць — в. Лукі Карэліцкага раёна.

КАЎЗО´ТА, *ж.* Слізгота. *На дварэ такая каўзота, што ні ступіць, каб ні каўзануцца.* Дзяр.

КАЎНЕ´РЫК, *м.* Манжэта. *Каўнерык кала рукі, а каўнер кала шыйі.* Едн.

КАЦАЛА´ПЫ, *прым.* 1. Касалапы, крывалапы. Гр. 2. *перан. асудж.* Той, у каго ўсёваліцца з рук. *Ні давай гэтаму кацалапаму, а то і гэты сподак разаб'е. Гр.*

КА´ЦПАН, *м.* і *ж., зняважл.* Неахайны, няўмека. *Нічагутко, як чалавек, ні зробііць кацпан гэты.* Ст. С.

КАЦУБА´, *м.* і *ж., асудж.* Той, у каго ўсё з рук валіцца. *От, кацуба, усе палміскі паразьбівала.* Вар.

КАЦЫ´-КАЦЫ´!, *выкл.* Кіц-кіц. Вальк.

КАЦЮ´ТЫ, 1. *мн.* Ладачкі (гульня). Кр. 2. *адз.* Кацюта *ж., грэбл.* Канечнасці. *Чаго кацюты выцягнуў — ні прайсці?* Гр.

КАЧА´Н, *м.* Катах (кукурузы). *Кукуруза нат расьце, а качанэ ні сьпеюць.* Зл.

КАЧА´НІК, *м.* Спелы арэх, які сам вылузваецца. *Адных качанікаў торбу нарваў.* Ст. С.

КАЧАРГЕ´ШНІК, *м.* Куток ля печы для пячных прыладаў; качарэжнік. Гр.

КАЧА´ЦЦА, *незак.* Мерацца сілаю, дужацца. *Нашто мне качацца, я і так ведаю, што ты міне пакоціш. Ты дужайшы.* Ст. С.

КАЧО´ЛАЧКА, *ж.* 1. *пяшчотн.* Кацёлка. Св. 2. Шпулька (нітак). *Качолачкі ні хваціць на пальто.* Вар.

КАЧОЛКА, *ж.* 1. Дыск, круг (з дрэва), кацёлка. Гр. 2. Гульня, калі адны пускаюць, а другія спыняюць (дошкаю) кацёлку. Вар. 3. *перан. іран.* Пра дужую, рухавую жанчыну. *Яна табе вёрст зь дзесяць пройдзя — качолка гэта.* Ст. С.

КАШАРЫ´ЦЦА, *незак., асудж.* Мыцца (занадта многа і старанна). *Годзі табе ўжэ кашарыцца, а то варона ўгледзіць.* Кр.

КАШАРЫ´ЦЬ, *незак.* 1. *незад.* Мыць. *Сам ўсё кашарыць. А жонка нашто?* Гр. 2. *іран.* Гатаваць. *От ён табе кашарыць. Вары лепяй сама.* Ст. С.

КАШУТА´, *ж.* Перхаць. *Даўно ні мыўсё, кашуты ў галаве много.* Вар.

КВАЦІРА´НТ, *м.* Кватарант. Гр.

КВЯЛІ´ЦЬ, *незак.* Даводзіць да слёз. *Ні квялі дзіця, хай лепяй забуляяцца.* Кр.

КЕЛБ, *м.* Пячкур (рыба). *Келба злавіў на чарвяка.* Едн.

КЕ´ПЕЛЬ, *м., рэдк.* Карак. *Плача і плача хлопяц, як у кепель даў яму.* Гр.

КІ´ДКІ (кіткі), *прым.* Спраўны (чалавек). *Каб які кіткі чалавек, то ні валяліся п і гэтыя яблыкі, даў бы рады і йім.* Ст. С.

КІЛА´ВЫ, *прым.* Хворы грыжай, з кілой. *Кілаваму німожно цяшко падымаць.* Пл.

КІ´ЛЕ (кілё), *н.* Кілаграм, кіло. *Мо с кілё масла будзя с тае сьмятаны.* Гр.

КІПЯ´ТАК, *м.* 1. Вада пры кіпенні; вар. Гр. 2. *перан.* Пра надта гарачае. *О, ён табе кіпятак есьціміся, ні бaйіцца гарачаго.* Ст. С.

КІПЯ´ЧЫ, *прым.* Параны, гатаваны. *Сырого малака і ў рот ні бярэ — шкодзіць, адно кіпячо п'е. Гэта вада кіпяча, а тая сырая.* Св.

КІРАЎНІ´ЦА, *ж.* Руль (веласіпеда). *От навучыўсё егдзіць! Ногі на кіраўніцу і бяз рук едзя.* Гр.

КІСЛО´ЦЦЕ (кіслоцё), *н.* Кісляціна. *У жываце рэжа ат кіслоця гэтаго.* Ст. С.

КІ´ЦА, *ж., дзіцяч.* Кот. *Кіцу сабе паймаў.* Гр.

КІ´ШКА, *ж.* 1. Хамуціна. Кр. 2. *перан., незад.* Камера (веласіпеда). *Кішку залатаю і паеду.* Гр.

КІШКА´Р, *м., асудж.* Прагны, ненаедны (пра чалавека, жывёліну). *Што ні дай, усё зьзесць і ўсё мало гэтаму кішкару.* Дзяр.

КІШКІ´ (кішке), *мн.* Мясістая сярэдзіна гарбуза, дзе месцяцца гарбузікі. *Гарбузянятаў навыбіраў много з кішкоў гэтаго гарбуза.* Св.

КІШКУ´Н, *м.* Тое, што і к і ш к а р. *Кішкуна гэтаго накарміць ні магу.* Дзяр.

КІШО´НКА, *ж.* 1. Верхняя кішэнь у пінжаку. Гр. 2. Кішэнь. Ст. С.

КЛАДАВІ´ЦЦА I, *незак.* Класціся. *Ні хоча кладавіцца спаць, то хай пасядзіць ішчэ.* Кр.

КЛАДАВІ´ЦЦА II, *незак.* Збірацца. *Ужэ с самаго ранку кладавіцца на дошч, а дажджу так і німашака. Каторы месяц стаіць суша такая, усё пасохло.* Св.

КЛА´ДКА (клатка), *ж.* Доўгае бервяно, якое кладзецца на сохі і падтрымлівае страху ў гумне. *Снапоў наклаў пат саму клатку.* Ст. С.

КЛА´СЦІ (класьці), *незак.* Адзяваць, апранаць. *Кладзі кажух, халадно стало на дварэ. Гр.*

КЛАЧ, *м.* Памазок (для пабелкі, малявання), квач. *Клачом хучэй, як пэндзалям, пабеліш.* Ст. С.

КЛЕ´ВАЦЬ, *незак.* Ледзь дыхаць, быць зусім нядужым; ліпець. *Які ўжэ зь міне работнік, адно клеваю.* Гр.

КЛЕЙ, *м.* Жыццёвыя сілы, клёк. *Такі нілюцкі, усей клей сь цябе выцягня.* Ст. С.

КЛЕ´ШНЯ, *ж.* Частка штаноў, калоша. *Шырокія клешні даўней у ганавіцах рабілі.* Гр.

КЛЕШЧ, *м.* Драўляная частка хамута, клешчына. Дзяр.

КЛЕ´ШЧЫЦЬ, *незак.* Ламаць трасту (на церніцы). *Перш клешчымо, а тагды ўжэ трэм лён.* Ст. С.

КЛЁК, *м.* 1. Драўляная цурка цыліндрычнай формы. Кр. 2. Назва дзіцячай гульні; удзельнікі яе па чарзе збіваюць цурку (клёк) кінутай палкай. *У клёк дзеці гуляюць.* Гр.

КЛІНЫ´ (клінэ), *мн.* Прарэх, шырынка (у штанах). Св.

КЛО´МЛЯ, *ж.* Сетка для лоўлі рыбы; трыгубіца. *Кломляю па-за бярагох рэчкі ловяць.* Едн.

КЛУ´СТАСЦЬ (клустасьць), *ж.* Топленае (вадкае) сала, тлушч. *У клустасьць абмачаям бліныэ.* Гр.

КЛУ´СТЫ, *прым.* Тлусты. Гр.

КЛЫ´БА, *ж., непаш.* Нага. *Клыбу пацставіў, каб я ўпаў?* Кр.

КЛЫБА´ТЫ, *прым.* Клышаногі. Дзяр.

КЛЫ´БАЦЬ, *незак.* Клыпаць, клыгаць. *Ногу прабіў і хадзіць ні можа, клыбая адно.* Гр.

КЛЫБА´Ч, *м., абразл.* Клышаногі. *Хай клыбач гэты ідзе сам!* Св.

КЛЫК, *м.* Ікол. *Клыке моцныя, вяроўку зачапляй — і паршук ні ўцячэ.* Кр.

КЛЫША´ЎКА, *ж.* Клышаногая. Дзяр.

КЛЭ´ПАТ, *м.* Клопат. *Ні імеў клэпату, та парася купіў, як той казаў.* Гр.

КЛЮ´КА, *ж., экспр.* Нос. *Чаго ты клюку зьвесіў і цэлы дзень над гэтымі кнішкамі марнеяш? Вытры сваю клюку, смаргель!* Гр.

КЛЮКА´Ч, *м.* Насач. *Гунь якого клюкача ў цялявізары паказвалі: с кулак той нос. І доўгі, як у бусла дзюп.* Гр.

КЛЮ´ЧКА, *ж.* 1. Жэрдка для даставання вады з калодзежа. Вар. 2. *перан., пагардл.* Нос. *Чаг сваю ключку зьвесіў?* Гр.

КЛЯ´ПА, *ж.* Борт, штрыфель. *Кляпы зашырокія ў пальце, цяперака такіх ні шыюць.* Даўг.

КЛЯПА´ННІК, *м.* Той, хто клепле, вострыць касу. *Слабы зь яго кляпаннік, ніц каса ні косіць. Слабо наклялаў яе гэты кляпаннік.* Гр.

КЛЯПА´ЦЬ, *незак., асудж.* Біць, лупцаваць. *І чаго ты клепляш дзіця гэто? Гэтым ні навучыш.* Вар.

КНЫ´ПЕЛЬ (кныпяль), *м.* Палачка для моцнага сціскання перавясла. *Кныплям як сцісну сноп — і налето пальца ні пацсадзіш пат пяравясло.* Гр.

КНЫПЛЯВА´ННІК, *м.* Той, хто вяжа снапы кныплем (палачкай — для моцнага сціскання перавясла). *Яг добры кныплянаннік, то сноп хоць і тонкі, аля цяжкі — як падняць. Мой хлопяц люцкі быў кныпляваннік, добро княпляваў снапэ.* Гр.

КНЫПЛЯВА´ЦЬ, *незак.* Сціскаць (кныплем), моцна звязваць (снапы). *Бало кныплявалі адно куле стрэху крыць.* Ст. С.

КО´ВАРАТ, *м.* Калодзежны журавель. *Да коварата прывязвалі ключку з вядром.* Гр.

КО´ЗУБ (козуп), *м.* Кубачак (з кары асіны) для ягад. *Козуба зраблю ў лесі, як ягады будуць.* Гр.

КО´КА (коко), *н., дзіцяч.* 1. Бульбіна. *Гарачо коко, у рот ні бяры адразу — выстудзі.* 2. Яйцо. Кр.

КО´ЛКА (колко), *н.* Маленькае кола. Ст. С. 2. Шасцярня. *Колко ў маняжы зламаласё, усе зубы паўляталі.* Гр.

КО´ЛЬБА, *ж.* Ручка, якою прыводзіцца ў рух арфа, цэнтрыфуга. *Кольба ў руку рэжа.* Гр.

КО´МЧЫЦЬ, *незак.* Камячыць (пра адзенне). *Злажы добро адзежу, а не ты комчыш яе! Бо прасаваць табе я ні буду.* Дзяр.

КО´НАЎКА, *ж., асудж.* Рот. *Маўчы ўжэ, конаўку напхаўшы блінцом і шэпчучы нешто.* Дзяр.

КО´ПА, *ж.* Вялікая кучка канапель. *Копу накрый, каб вяраб'е ні абіралі насеня.* Ст. С.

КО´РАВАЦЕНЬ (каравацянь), *м.* Калодзежны журавель. Едн.

КО´РПАЦЦА, *незак.* Каробіцца, мяцца, камячыцца. *Хустка корпаяцца, пад дошч трапіўшы, трэба папрасаваць. Кап павесіў на вяшак, то ні корпалася п, а то закінуў на запяк, і ляжыць, корпаяцца.* Св.

КО´СЫ, *мн.* Валасы (навогул). *Заплюшч вочы, а то косы нападаюць, як стрыхчыму.* Гр.

КО´ЎТАЦЬ, *незак.* Глытаць (ваду) з асобым гукам пасля кожнага глытка. *Як той конь — коўць-коўць — усё коўтая.* Ст. С.

КОЎЦЬ-КОЎЦЬ! Выклічнікавая дзеяслоўная форма ад к о ў т а ц ь (гл.). Гр.

КОЦ, *м.* Суконная коўдра. *Коцам накрыйся, як халадно.* Зл.

КОШ, *м.* 1. Верхняе карыта ў арфе, куды сыплюць зерне (для ачысткі). Вар. 2. Вялікі кашэль з накрыўкай для захоўвання сыроў (сала). Ст. С.

КРАВАЛО´ТАК, *м.* Калаўротак. Едн.

КРАПАЦЕ´ЦЬ, *незак.* Крапаць. *Ужэ дошч крапаціць, трэба сь сенам уцякаць хучэй у гумно ці пад дзераво якоё.* Гр.

КРАСНАЛЮ´ДАК, *м.* Гном. *Расказваў пра тых красналюткаў хлопцу: як малыя чалавечкі бегаюць.* Св.

КРАСЬКО´, *ж., жартаўл.* Пра чырванашчокага, здаровага чалавека. *Дзе ён хворы, красько такі!* Гр.

КРУГ (крух), *м.* Абажур (у лямпе-газоўцы). *Крух задымеў у лямпі, трэ працерці.* Вар.

КРУГА´ 1. *прыназ.* Кругом. *Круга стала бегаюць.* Гр. 2. *прысл.* Кругом. Кр.

КРУГЛАВІ´ДЫ, *прым.* Круглатвары. *Як месяц у поўні — кавалер твой круглавіды.* Ст. С.

КРУК, *м.* 1. Крумкач. *Крук, кажуць, трыста гадоў жыве, хоць падло ўсяко есьць.* Кр. 2. *перан.*, *іран.* Надта скупы чалавек. *Крук гэты ні каплі табе ні дасць.* Гр.

КРУ´МКАЦЬ, *незак.* 1. Квакаць. *Гарох пара сеяць — жабы крумкаюць.* Вальк. 2. *перан.*, *асудж.* Выпрошваць. *От крумкая і крумкая, каб дала яму грошай.* Ст. С.

КРУТАВЕ´Я, *ж.* Моцная мяцеліца; завіруха. *Гаш у гумно сьнегу нанясло — крутавея такая.* Гр.

КРУ´ЧАНІК, *м.* 1. Кручаны сабака. *Кручанік пакусаў, уколы рабілі.* Кр. 2. *асудж.* Непаседлівы (які круціцца). *От, ніяк ні пасядзіць — кручанік гэты.* Ст.С. 3. *непаш.* Спраўны, але непаслядоўны чалавек. *Ты зь йім ні зьвязвайся. Кручанік гэты апкруціць цябе і нівінаваты будзя.* Гр.

КРУЧО´К, *м.* 1. Мера вадкасці — 1/8 літра. Гр. 2. Пасудзіна ёмістасцю 1/8 літра. *Кручок выпіў і ўжэ п'яны.* Ст. С.

КРЫВУ´ЛІ, -яў 1. *толькі мн.* Павозка для вывазкі лесу. *Доўгу штуку на крывулях прывязем.* Гр. 2. *адз.* крывуля, *ж.* Палкі абапал задка — змацоўваюць бервяно. *Крывулі ад восі з бакоў ідуць і на дзяравіні зьвязваюцца.* Гр.

КРЫВЫ´, *прым.* Незадаволены, злосны. *Нешто крывы ён сёніка; ні буду прасіць, лепш другім разам.* Зл.

КРЫВЯНДО´С, *м.*, *экспр.* Крывуля. *На сталюгі ні пакладзеш крывяндоса гэтаго, трэба на зямлі расьпілоўваюць.* Кр.

КРЫВЯНДЗЯ´ (крывяньдзя) і (радзей) КРЫВЯНДА´, *ж.* Калека, скрыўлены хваробай чалавек. *І малая, і крывяндзя, то дзе ты таго кавалера ёй возьмяш? На леву ногу кульгая Настуся, крывянда гэта.* Св.

КРЫ´ГА, *ж.* Скіба цвёрдай зямлі. *Крыгамі адвальваяцца зямля. От усохла.* Гр.

КРЫЖО´ЎКА, *ж.* Крыжавіна. *На крыжоўцы стаўлю слойік у вядры, каб ні лопнуў.* Ст. С.

КРЫКСУ´Н, *м.* Крыкса. *От крыксун! І ні сьціхая.* Гр.

КРЫЛО´, *н.* Бакавая частка верхняга адзення (паліто, плашча, пінжака); крысо, пала. *Пінджак с круглымі крыламі даўней шылі.* Св. *Крыло адно даўжэйшо ў кажусі.* Гр.

КРЭ´СІДЛА (крэсідло), *н.* Крэсіва. Едн.

КРЭ´СКА, *ж.* Рыска, паметка. *Гарачка ўхапіла — 39 і тры крэскі.* Ст. С. *Неку крэску на сьнезі правёў.* Даўг.

КРЭ´СЛА (крэсло), *н.* Частка прасніцы — дошка, на якой сядзяць. Кр.

КРЭЧ, *м.* Крык. *Як нарабіў крэчу — хоць ты с хаты ўцякай.* Вальк.

КРЭ´ЧМА, *прысл.* Крыкам. *Адно зачапіў, так ужэ крэчма крычыць.* Дзяр.

КСЁ–КСЁ–КСЁ!, *выкл.* Так падклікаюць кароў. Гр.

КУ´БАЧАК, *м.* 1. Вытачаная з дрэва (цыліндрычнай формы) пасудзіна з вечкам для масла. Гр. 2. Чашачка ў сотах. *Кубачкі пазапячатвалі пчолы — поўныя мёду.* Ст. С.

КУ´ДАСА, *ж.* Мяцеліца. *Дзе ты пойдзяш на ноч кудасаю такою, каб дзе сьнегам засыпало!* Кр.

КУДЗЕ´ЛЬНІЦА, *ж.* Жанчына, якая прадзе кудзелю на вячорках. *Яшчэ адна кудзельніца ідзе на кудзяльніцы.* Гр.

КУДЗЯЛЬНІ´ЦЫ, *мн.* Вячоркі, на якіх дзяўчаты прадуць кудзелю, спяваюць, а хлопцы — заляцаюцца. Ст. С.

КУД-КУДА´Х (кут-кудах)! Выклічнікавая форма ад дзеяслова кудахтаць. *Курыца кут-кудах — кут-кудах і паляцела з гнязда. Мусіць, зьняслася.* Гр.

КУ´ДЛА, *ж.* Распуста. *Скруцілася саўсім — кудлаю стала.* Кр.

КУДЛА´Ч, *м.* Касмач. *Пара ўжо стрыхчыся кудлачу гэтаму, такія кудлы загадаваў.* Гр.

КУЖО´ЛНЫ, *прым.* Кужэльны. *Кужолно палатно моцно натто.* Гр.

КУЗ´АКА, *ж.* 1. Насякомае, кузурка. *Кузака поўзая — і ўжэ байіцца. От палахлівая!* Гр. 2. *перан., непаш.* Пра малое дзіця. *Кузака, і тое цябе палохая.* Ст. С.

КУЗЁ–КУЗЁ!, *выкл.* Так падклікаюць жарабя. Гр.

КУ´КА *ж., дзіцяч.* Балячка. *Куку зрабіў.* Гр.

КУ´КЛА, *ж.* Метка ў жыце — звязаныя вузлом каласы. *Каб ведаў, дзе твая дзялка — куклу завязаў.* Гр.

КУЛІНА´РЧА, *ж.* Кулінар-жанчына. Гр.

КУЛЬ, *м.* 1. Вялікая звязка лёну. *Пяць кулёў льну нарвала.* Пл. 2. Сноп адборнай саломы для пакрыцця страхі. *Кулёў навыбіраў с тае біткі (снапоў).* Св.

КУЛЬБА´КА, *ж.* Частка варштата, што прытрымлівае навой асновы, каб не круціўся. Гр.

КУ´ЛЬКА, *ж.* Дужка на кассі. *За кульку бярэсься праваю рукою і водзіш касу.* Ст. С.

КУ´ЛЯ, *ж.* Мыліца. *На кулях хадзіў, як ногу лячыў.* Кр.

КУМЯЛЬГА´НА, *прысл.:* бегчы кумяльгана — вялікімі крокамі (пра звяроў). *Мусіць, воўк, ні сабака, рас кумяльгана бяжыць.* Кр.

КУНА´, *ж.* Куніца. *Куна, кажуць, каню косу заплятая і мышэй есьць.* Гр.

КУНА´ДЫ, *мн., застар.* Бульба. *Кунады садзяць, як зямля адыдзя, пацяплея.* Гр.

КУ´НДАЛЬ, *м., непаш.* Кудлаты, кудлач. Ст. С.

КУПЛЯ´ННІК, *м.* Той, хто купляе. *Мало нешто ў вас купляннікаў сёні.* Зл.

КУПЛЯ'ННІЦА, *ж.* Тая, хто купляе. Даўг.

КУПЧА, *ж.* Куплянне, купля. *Ні было ўчора купчы, хай яе халера.* Гр.

КУРАЛЁ´М, *прысл.* Дагары нагамі (падаць). *С стога куралём ляцеў.* Ст. С.

КУРА´ЎКА, *ж.* 1. Недагарэлае палена. Св. 2. *перан., непаш.* Лямпа без шкла. *Гэта кураўка адно курыць, трэба шкло купіць.* Гр. 3. *перан. абразл.* Неахайная жанчына. *Страх глядзець на ўсё ў хаці кураўкі гэтае.* Ст. С.

КУРА´ЧНІК, *м.* Хлеў для курэй, куратнік. Гал.

КУ´РАЧЫ, *прым.* Курыны. *Стаііць хата ў лазе на курачай назе.* Ст. С. *Курачо мясо любіць малы.* Гр.

КУ´РАЧЫНА, *ж.* Мяса з курыцы, кураціна. Гр.

КУ´РНА: сагнуць курну — скруціць у казіны рог, перамагчы. Гр.

КУ´РТА, *м.* і *ж.* 1. Куртаты, бясхвосты (ці з кароткім хвастом). *Мой курта натто паганы.* Гр. 2. *іран.* Кепскі, горшы. *З велькагаго гурту выбяраш курту.* Ст. С.

КУРТА´Ч, *м.* З кароткім хвастом, куртаты (пра сабаку). *У твайго Лыска доўгі, акуратны хвост, а мой Бобік — куртач.* Гр.

КУ´РТКА, *ж.* Кароткая без падкладкі вопратка з даматканага сукна. Гр.

КУСО´К, *м.* Узмацняльнае слова, ужываецца пры назоўніках адмоўнага ацэначнага значэння. *От п'яніцы кусок! Ужэ вочы заліў — ледзьвя валачэцца.* Кр. *Кусок дурня, і годзі.* Гр.

КУ´ТНІ, *прым.* Карэнны (зуб). *Кутнія зубы ні моцныя.* Ст. С.

КУ´ТНІК, *м.* Карэнны зуб. *У малого ўжэ ўсе зубы выраслі, адно кутнікаў німашака.* Св.

КУХМА´РЫЦЬ, *незак., экспр.* Кухарыць. *Я буду дзіця калыхаць, а яна хай сама кухмарыць.* Дзяр.

КУ´ЦЫ, *прым.* Закароткі. *Хай сам носіць такі куцы пінджак.* Ст. С.

КУ´ЧКА, *ж., экспр.* Хаціна. *От, якую кучку пабудую і жыціму.* Гр.

## Л

ЛАБА´З (лабас), *м.* Капец (бульбы). *У лабазі каб ні сапрэлі, як много саломы дасі да зямлі тоўсто насыпляш?* Гр.

ЛАГМАНІ´ЦАЮ, *прысл., зламоўн.* Лежма. *Лагманіцаю ляжаць, а старой ні памогуць картопяль наабіраць на вячэру. От унучкі* Гр.

ЛАГЦІ´НА (лахціна), *ж.* Нізкае месца, лагчына. Гр.

ЛАДАВА´ННІК, *м.* Грузчык. *Каб усё да абеду зладаваць, трэба зь дзесяць ладаваннікаў. Два ладаваннікі ні справяцца з гэтым.* Ст. С.

ЛАДАВА´ЦЬ, *незак.* Пагружаць (цяжкае). *Гэту хвою каб як зладаваць, як есьцяка каму памахчы. Ну давай ладаваць.* Даўг.

ЛАДЗГА´Н, *м., зняважл.* Пра малое, якое соваецца, лазіць куды не трэба. *Каб ні схапіла за ногу, разьбіўсё п ладзган гэты, яг з лавы паляцеў. Гр.*

ЛА´ДЫШ, *м., застар.* 1. Частка калодзежа — цэментавы шырокі круг, што ўстаўляецца ў калодзежную яму; часцей ужываецца ў гэтым значэнні т р у б а (гл.). *У нашум калодзісі дзесяць ладышаў.* Гр. 2. Збанок. Гр.

ЛАДЫ´ШКА, *ж.* Збанок для малака (без ручкі), гладыш. *Ладышку малака даймом выпіў.* Ст. С.

ЛАКІ´РКІ (лакеркі), *адз.* л а к і р к а (лакерка) *ж.* Лакіраваныя туфлі (чаравікі). *У лакерках ходзіць.* Гр.

ЛАМАНІ´ЦА, *ж.* Стан арганізма, ламаніна. *Нека ламаніца напала, усё сьпіну ломіць, німагу нічого рабіць.* Св.

ЛАМА´ННІК, *м.* Той, хто жне, ломіць сярпом лубін. *Ужэ высьпяў лубін–насеннік, трэба ламаннікаў пасылаць на полё.* Гр.

ЛАМА´ННІЦА, *ж.* Жан. да л а м а н н і к. *Ішчэ адна ламанніца ідзе нам на помач, хутко зломім гэты загон лубіну.* Гр.

ЛАМА´НЦЫ, *адз.* ламанец, *м., застар.* Печыва з пшанічнай мукі накшталт пячэння. *Бало ўсё твая баба ламанцы пякла: цеста ў бляху накладзе, раўкамі падзеліць і, як сьпячэцца, ломіць на кусочкі.* Гр.

ЛАМАТА´, *ж., зборн.* Дровы–галінкі з дрэва (кустоў), галлё, ламачча. *Ламаты вос прывёс у пеццы паліць.* Ст. С.

ЛАМА´ЦЬ, *незак.* 1. Жаць (лубін). *Пабралі сярпэ і лубін ламаць пашлі.* Гр. 2. Рабіць шапку (гл.) для мэдліка. *Ламі шапку мыдлю накрыць.* Гр.

ЛАПА´ЦЬ, *незак.* Лавіць. *Лапай гіцля гэтаго, а то ўцячэ!* Зл.

ЛА´ПІКА (лапіко), *н.* 1. Латка. 2. перан. Невялікі ўчастак зямлі. *З гэтаго лапіка мо і накашу з вос канюшыны?* Гр.

ЛА´ПІЦЬ, *незак.* Латаць. *Лапяць ганавіцы, а латаюць кажух. Латка — з раменю ці аўчыны.* Ст. С.

ЛА´ПКА, *ж.* Рог вілоў. *Лапку ў вілох адламаў.* Едн.

ЛА´ПЛЕННЕ (лаплянё), *н.* Латанне. *Адно лаплянё засьмярдзіць робячы.* Гр.

ЛА´ПЛЕНЫ (лапляны), *прым.* Латаны. *Хоць і лапляны твой пінджак, аля файны.* Кр.

ЛА´ЎНА, *ж.* Бярвенне, звязанае для сплаву. Едн.

ЛАХУ´ДРА, *м.* і *ж., зняважл.* Бедны; абарванец. *От лахудра — адно лэхамі трасе, гаш брытко глядзець на яе.* Гр. *Каб ні такая лахудра, мо хто і знайшоўсё б с кавалераў, а так сядзеціме ў дзеўках.* Ст. С.

ЛЕВАРУ´КІ (ліварукі), *м.* Ляўша. *Ліварукі, і піша ліваю.* Кр.

ЛЕВУШНЯ´ (лявушня), *м.* і *ж.* Ляўша. *От лявушня! І піша леваю.* Ст. С.

ЛЕ´ЖЫВА (лежыво), *н.* Месца, дзе ляжаў лён, лежня. Кр.

ЛЕ´ЙДА, *м.* і *ж., жартаўл.* Той, хто любіць многа гаварыць, расказваць; балака. *Будзя вам лейду гэтаго слухаць.* Гр.

ЛЕ´ЙДЗІЦЬ, *незак., жартаўл.* Многа гаварыць. *Хай лейдзяць, абы ні паснулі.* Ст. С.

ЛЕКАТА´ЦЬ (лякатаць) і ЛЕКАЦЕ´ЦЬ, *незак.* 1. Дрыжаць ад холаду. *І чаго лякатаць — ішоў бы апрануўсё п, раз доўго будзяш на дварэ.* Гр. 2. Баяцца, палохацца. *Лякочаш? А каб адзін цераз магілкі ночу ішоў!* Гр.

ЛЕ´ЛЕХІ (леляхі), *мн., грэбл.* Валасы. *От леляхі гэтыя. Адно закручвай йіх.* Гр.

ЛЕ´НТА, *ж.* Металічная рулетка для вымярэння (на мясцовасці). *Каморнік зь лентаю ходзіць па полі.* Кр.

ЛЕ́ТКІ, *прым.* 1. Хуткі (у хадзьбе). *Халера яго дагоніць, леткі такі.* Гр. 2. Жвавы, рухавы, жыццяздольны. *Доўго жыцімя твая свякроў — летка ішчэ.* Св.

ЛЕ́ЦЕНЬКІ (лецянькі), *прым.* 1. Крыху падагрэты. *У лецяньнькуй вадзе памыла.* Вар. 2. Зусім лёгенькі, як для лета (пра адзенне). *Адубела чысто ў лецяньнькум пальце.* Св.

ЛЕ́ШКА, *ж.* Градка пасеянага лёну. Пл.

ЛЁ́ДЫ, *мн. застар.* Марожанае. *Малы яг быў, натто лёды любіў, пакуль горло ні забалело.* Дзяр.

ЛЁ́СТАЧКІ, *мн.* Ліслівыя словы, падман. *Лёстачкамі душу вымя.* Даўг.

ЛЁ́ТНІК, *м., застар.* Лётчык. *Ужэ свайго лётніка на работу атправіў — набыўсё ў нас.* Зл.

ЛЁ́ХА, *ж.* Адтуліна ў падмуроўцы (вядзе пад падлогу). *Лёхі на зіму затыкаю, кап падлога ні настывала.* Гр.

ЛІ́НКА I, *ж.* Прасека ў лесе. Гр.

ЛІ́НКА II, *ж.* Канат, па якім рухаецца паром. Едн.

ЛІ́НУЦЬ, *зак., экспр.* Нечакана збегчы, знікнуць. *Толькі што стаяў той хлопяц, і бач — ужэ німа, лінуў недзя. Од гіцаль гэты!* Кр.

ЛІСІ́ЦА, *ж.* Назва грыба, лісічка. *Лісіцаў назьбіраў, хай смажыць маці.* Гр.

ЛІХІ́, *прым.* Левы, адваротны (бок матэрыі, адзення). *На ліхі бок рубашку чуць ні злажыў на сябе.* Св.

ЛО́БУС, *м.* Вісус, абібок. *Ніц рабіць ні хоча, лобус гэты, адно палежвая на тапчане.* Гр.

ЛО́ГМА, *прысл.* Лежма. *Жарты табе, цалюткі дзень логма ляжыць, а ні паможа!* Гр.

ЛО́ЖКА I (лошка), *ж.* Лыжка. *Лошку так вельку шукаяш, а да работы пойдзяш?* Ст. С.

ЛО́ЖКА II (лошко), *н.* Ложак. *Ново лошко жалезно купіў.* Гр.

ЛО́ТРА, *м.* і *ж.* Мот. *Што ў яго будзя? Усё прасьвішча лотра гэты.* Ст. С.

ЛУБЯ́НІСКА (лубяніско), *н.* 1. Поле, дзе рос лубін. *Гр.* Паралельна ўжываецца і л у б я н і ш ч а . Кр. 2. Салома з лубіну. Вар.

ЛУГ (лух), *м.* Нізкае месца, запоўненае вадою; лог. *У лузі гусі купаюцца.* Гр.

ЛУ́ЖА, *ж., перан., абразл.* Той, хто многа выпівае. *Дзе ты напойіш яго — лужу гэту.* Гр.

ЛУПА, *ж.* 1. *груб.* Губа. *Чаго лупу ацуставіў?* Ст. С. 2. *перан. грэбл.* Губаты. *Падло лупа гэта, і ёй яшчэ ні харошы Генік!* Гр.

ЛУПАВІ́НЫ, *адз.* лупавіна, *ж.* Лупіны (з бульбы). *Лупавінамі адными накарміў бы сьвіней.* Гр.

ЛУПА́ТЫ, *прым. непаш.* З вялікімі, тоўстымі губамі. *Некаго лупатаго нашла сабе.* Вар.

ЛУПА́Ч, *м.* Тое, што і лупсей. *Губы як каўбасы ў лупача гэтаго.* Гр.

ЛУПСЕ́Й, *м., зняважл.* Губаты. *Лупсей некі, адно лупы, як каўбасы.* Гр.

ЛУ́ПСІ, *мн., экспр.* Губы. *Хутко плакаціма, ужэ лупсі дрыжаць.* Ст. С.

ЛУПЯНДЗЯ́, *ж., зняважл.* Жанчына з вялікімі, тоўстымі губамі. Гр.

ЛУШЧАВІНА, *ж.* Лушпіна (струка). *Добро лубін высах, лушчавіна сама лопая.* Вар.

ЛУШЧАВІ́НЫ, *мн., зборн.* Лушпінне (з гароху, лубіну). *Лушчавінамі пацьсьцілаям у хляве.* Ст. С.

ЛУШЧАНЕ́Ц, *м.* Спелы арэх. *Лушчанцэ самы лушчацца.* Гр.

ЛЫ́ГА, *ж.* Віка. *На кармэ сеюць лыгу. Яна яг гарох, адно горкія зярнята.* Ст. С.

ЛЫ́ГАЦЬ, *незак.* Есці (пра гусей). *Яг замяшаям картопяль з мукою — от лыгаюць гусянята.* Ст. С.

ЛЫ́СЦЯГІ (лысьцягі), *мн., грэбл.* Лыткі. *Адно лысьцягамі сьвецяць, як спаніцэ кароткія.* Гр.

ЛЬНЯ́НІСКА (льняніско), *н.* Поле, дзе рос лён. Гал. Ужываецца і льнянішча. Гр.

ЛЭ́НДЖА, *м.* і *ж.* Пустамеля. *Лэндзіць і лэндзіць лэнджа гэты.* Ст. С.

ЛЭНДЗІЦЬ, *незак.* Гаварыць пустое, абы-што. Гр.

ЛЭ́ПАЦЬ, *незак.* Есці з вялікім апетытам, прыцмокваючы (пра свіней). *Од добро есьць паршук, гаш лэпая!* Св.

ЛЭ́ПЦІ, *адз.* лэпаць, *м., незад.* Пра кепскі абутак. *Мо хоць свае лэпці скіняш да новыя боты купіш?* Зл.

ЛЭ́ХАЦЬ, *незак., непаш.* Хутка ісці. *Цяперака цягнясься як на заўтра, а тагды лэхаць будзяш.* Гр.

ЛЭ́ХІ, *мн.* Рванае адзенне, рыззё, лахманы. *І я ні багатыр, але лэхамі ні трасу, як ты.* Ст. С. *Параўн.:* Не ведаю, кажух браць ці не? Мо дарэмна буду толькі валачы лахі. (А. Карпюк. Пушчанская адысея).

ЛЮБІВЫ: любіваe мяса — поснае, без праслоек сала. *Сытаго ні есьць, адно любіво*. Гр.

ЛЮ΄БЧЫКІ (люпчыкі), *мн.* Нагаворнае зелле. *Мусіць, люпчыкамі цябе прывараажыла тая Зоська, што ты ні вылазіш ад яе*. Гр.

ЛЮ΄ДСКА (люцко), *прысл.* Па-чалавечы, па-людску. *Усё можа зрабіць люцко, яг захоча.* Вар.

ЛЮТАЕ΄Ж (лютаеш), *м.* і *ж.*, *асудж.* Пераборлівы ў ядзе (пра чалавека). *Яму ні дабярэш есьці — лютаеш некі*. Кр.

ЛЮСЬ!, *Выкл.* Пра ліццё (імнгеннае, нечаканае). *Як толькі атхілілася ад яе, люсь воду ў чарку і кажа, у яе поўна (чарка) гарэлкі.* Ст. С.

ЛЮ΄ТАР, *м., застар.* Бязбожнік. *Лютар гэты нігды ў цэркву ні загляня*. Дзяр.

ЛЮФЦІ΄К, *м.* Фортка (у акне). *Хай люфцік аччыніць, усё ні так будзя гарачо ў хаці*. Кар.

ЛЮ΄ШНЯ, *ж., застар.* Падпорка ў возе (ад восі пад ручку). *Бало ўсё люшнямі патпіралі ручке, кап калёса ні шаравалі*. Ст. С.

ЛЯГА΄Р, *м.* Падваліна, на якую кладзецца падлога. *Лягары згнілі, і дошкі зыбаюцца ў падлозі.* Гал.

ЛЯ΄ДА, *ж.* 1. Частка варштата, якая трымае набіліцы. Угр. 2. Прыстасаванне для падымання бярвення. Вар.

ЛЯДО΄ЎКА, *ж.* Гатунак яравой пшаніцы; сеюць яе вельмі рана, пры замаразках. Ст. С.

ЛЯЖА΄Й, *м* і *ж.* Гультай, лежань. *Адно на печы качаяцца, а да работы німа яго, ляжая гэтаго.* Кр.

ЛЯЗАВА΄ННІК, *м.* Той, хто рыхтуе раствор для будоўлі, перамешвае цэмент з вапнаю, пяском і вадою. *А дзе наш лязаваннік? Німа на што цэглу класьці?* Ст. С.

ЛЯЗАВА΄ЦЬ, *незак.* Перамешваць (цэмент з пяском, вапну з вадою). *Яшчэ ні лязуй, я вады падбаўлю*. Вар.

ЛЯК І, *м.* 1. Расол з селядцоў; лёк. Св. 2. Халоднае з рыбы. *Ляку нарабіў з рыбы.* Кар.

ЛЯК ІІ, *м.* Гаршчок (з вузкім рыльцам) для вады. *Цэлы ляк вады выпілі жанцэ.* Гр.

ЛЯ΄ЛЯ, *ж., дзіцяч.* 1. Лялька. Кр. 2. Малое дзіця. *Лялю ўгледзяў, да яе пайшоў забуляцца*. Даўг.

ЛЯ΄НДРА, *ж.* Вазон з вузкімі лістамі. Гр.

ЛЯНДЭ΄РАК, *м.* Невялікая каструля. Едн.

ЛЯ΄ПА, *ж.* 1. Ляпа. Кр. 2. *перан., зняважл.* Звяга. *І чаго ты зьвягуяш — ляпа нека!* Ст.С.

ЛЯПНЯ́К, *м. непаш.* Няўдалы хлеб, які не падышоў, ліпне да зубоў, адпечаны. Гр.

ЛЯСАВА́ЦЬ, *незак.* Свабодна рухацца ў адтуліне. *Трэ больш землю утаптаць, а то кол лясуя.* Ст. С.

ЛЯ́СКА, *ж.* Дошчачка ў драбіне калёс (лесвіцы), лёстка. *Ляска адарвалася ў драбіні.* Гр.

ЛЯ́СКАЎКА, *ж.* Ляскотка. *Німа спакою з ляскаўкаю гэтаю, усё ляская і ляская ею.* Гр.

ЛЯ́СНУЦЬ, *зак.* 1. Стукнуць, ляснуць. Гр. 2. *іран.* Прапасці. *Будзяш зьбіраць, а як разруха якая, пярэмяшка, — ляснуць твае грошы.* Зл.

ЛЯТА́РНЯ, *ж.* 1. *жартаўл.* Галава. *Куды ты сваю лятарню садзіш?* Гр. 2. *перан., зняважл.* Пра чалавека. *Гуньдзяка гаш лятарня тая ідзе.* Ст. С.

ЛЯЦЕ́ЦЬ, *незак.* Рвацца (пра адзенне). *Усё ляціць, як на чорту. Што ні адзеня — на тыдзянь, боляй ні будзя.* Гр. *Ужэ і ганавіцы на каленях ляцяць.* Ст. С.

ЛЯЧА́Й, *м.* Дзірка ў верхнім камені жорнаў, куды засыпаецца зерне. Гр.

ЛЯШЫ́ЦЬ, *незак.* Дзяліць баразнамі раллю на асобныя ўчасткі — загоны. *Мы бало ляшылі полё на лён: рабілі загоны, выбіралі разоры, каб вада сьцякала па йіх.* Ст. С.

ЛЯШЭ́ННІК, *м.* Той, хто дзеліць баразнамі раллю на загоны — «лешыць яе». Гр.

## М

МАДЫГАВА́ЦЬ, *незак.* Прымерваць, прыкідваць, прымяркоўваць. *Што ты мадыгуяш, усяроўно гэты камянь ні пойдзя у падмуроўку.* Гр.

МАДЭ́ДА, *ж., экспр.* Пра жанчыну, якая любіць стыльна апранацца. *Лядзеця, людзі, што мадэда гэта на голаў зладжыла!* Гр.

МАЁ́РЧА, *ж.* Жонка маёра. *Хай тая маёрча сама зробіць. Гаварыць ляхчэй.* Ст. С.

МАЖНЕ́ЦЬ, *незак.* Станавіцца мажным. *Быў некі здохлы, а гадэ сваё ўзялі — мажнея хлопяц на вачох.* Ст. С.

МАЗГАВЕ́ШКА, *ж., груб.* Галава; мазгаўня. *Нешто твая мазгавешка ні варыць, рас ты гэтае задачы ні абможаш.* Гр.

МА´ЗІВА (мазіво), *н.* Мазь. *Мазіва купіў, то хоць памажу вос свой.* Св.

МАЙДА´Н, *м.* Прыбудоўка да хлява. *У майдане летам сьвіня стаяць.* Гр.

МАКАРО´НА, *ж.* Тонкая раскатаная пласцінка цеста, з якой крышаць макароны. *Макаронаў навару — ужэ макарону крышыціму.* Гр.

МАКЛЯ´К, *м., асудж.* Пра надта мокрае. *Куды ты ў хату нясеш макляк гэты, павесь капоту на плоці, хай вада сьцякая.* Ст. С.

МАКО´ТРА, *ж., жартаўл.* Вялікая міска. *Макотру гэту як вытрубіш, да вечару ні захочаш есьці.* Гр.

МАКРАТЭ´ЧА, *ж., узмацн.* Макрата, макрэча. *На ніскум месцы мы. Яг дошч — макратэча, адно ў гумовых ботах хадзіць.* Зл.

МА´ЛА (мало), *часц.* Чуць, амаль. *Мало жыватэ ні пападрывалі са сьмеху.* Кр.

МАЛАВЕ´ЛЯ, *прысл.* Трошкі, хоць трошкі. *Малавеля што ні па яго — і бяда, бурсу падымя — хоць ты с хаты ўцякай.* Гр.

МАЛАДЗЕ´Ж (маладзеш), *м., зборн.* Моладзь. *Мало на сяле маладзяжу, што ты ні хочаш туды ісьці?* Гр.

МАЛАДЫ´, *прым.* Рэдкі (пра хлеб). *Трохі мукі забракавало, таму і малады (хлеб).* Ст. С.

МАЛАДЗЯ´Н, *м., асудж.* Пра немаладога ужо чалавека, які не кідае звычак маладых. *Стары чалавек, а ён усе маладоё паганяя. От маладзян!* Дзяр.

МАЛАДЗЯ´ЧЫНА, *ж., экспр.* Маладое мяса. *Маладзячыны захацеў, старое мясо яму збрыдло.* Дзяр.

МАЛАЦЕ´ННЕ (малаценё), *н.* Малацьба (працэс, час малацьбы). *З малаценя ідуць людзі.* Гр.

МАЛАЦЕ´ННІК, *м.* Малацьбіт. *Малаценнікам палудзянь занясу, хай дахаты ні йдуць.* Гр.

МАЛАЦЦЁ´ (малацё), *н.* Мліва. *Тры дні сядзіць за малацём. Ніўжэ так завозно у бліне?* Дзяр.

МАЛАЧА´Й, *м.* Від грыбоў — грузд. *Малачай вымочваюць і соляць на зіму.* Гр.

МАЛЕ´НЬКІ: ◊ З маленькага — змалку, з малых гадоў. *Ён і з маленькаго такі здыхляк.* Вар.

МАЛО´ДЗІВА (малодзіво), *н.* 1. Малодзіва. 2. Страва з яец, малодзіва і мукі. Гр.

МАНА´, *ж.* Пах, прынада. *Пчолы добро за вярсту чуюць, дзе канюшына расте, бо яна ману мая.* Гр.

МАНЕБРАВА´ЦЬ (манябраваць), *незак.* Манеўраваць. Ст. С.

МАНЕ´БРЫ, *мн.* Манеўры. Дзяр.

МАНЕ´Ж (манеш), *м.* Конны прывод, які рухае малатарню (сячкарню). *Манеш стары, каб ні паламалі жарапцэ гэтыя.* Ст. С.

МАНКЕ´Т, *м.* Манжэта. *Бяз манкетаў сарочка.* Кар.

МАНТАШЫ´ЦЬ, *незак., экспр.* Рваць тузаючы. *Нешто Лыско у зубах панёс і стаў манташыць.* Гр.

МАНТЫЛЯ´ЦЦА, *незак.* Хістацца (на ветры), матляцца. *Што гэто у цябе с-пат пальта вылязло і мантыляяцца? Подвіўка, мусіць.* Вар.

МАРАКАВА´ЦЬ, *незак.* Наракаць, крыўдзіцца. *Ён маракуя, што ты даказаў таму злыдуху на яго.* Гр.

МА´РАЦ, *м.* 1. Назва месяца — сакавік. *Як марац цёплы — гараць хутко пойдуць.* Ал. 2. *асудж.* Юр. *Які на цябе марац напаў, што на сяло ўсё бегаяш.* Вар.

МАРГАЛІ´ (маргале), *мн.* Мітусенне, «зоркі» ў вачах. *Іду-іду, і ўжэ нічого ні бачу, адно маргале ўвачох.* Кр.

МАРКІТА´ЦЬ, *незак.* Быць у стане палавой цечкі (пра авечак, козаў). Гр.

МАРКІТУ´Н, *м.* Маркач (баран). *Маркітуна гэтаго на мясо зарэжам.* Кр.

МАРСКАНУ´ЦЬ, *зак.* Кінуць, пабароць. *Як марскануў яго аб землю, гаш заенчыў.* Дзяр.

МАРЦАВА´ЦЬ, *незак.* Быць у стане палавой цечкі (пра кошак, трусоў). Гр.

МАСЛЯ´НКА (масьлянка), *ж.* Сыроватка, якая застаецца пры збіванні масла; маслёнка. Пл.

МАСТАВЕ´ННЕ (маставенё), *н.* Дошкі на мосце, памост. Едн.

МАСТАКО´ЛІЦЦА, *незак., экспр.* Масціцца. *Нек прымастаколіусё, хоць на краечку слончыка.* Гр.

МАСЦЬ (масьць), *ж.* Мазь з воску, смалы і несалёнага тлушчу (для зашчэплівання пладовых дрэў). Св.

МАТАРО´ЎКА, *ж.* 1. *застар.* Матацыкл. Гал. 2. Мотаеласіпед. Ал. 3. Маторная лодка. Едн.

МАТРО´СКА, *ж.* Кофта. *З байку матроску сабе пашыла.* Гр.

МАТУ´ЛЯ, *ж.* Хрышчоная маці. *Яе матуля — Паўшыха.* Кр.

МА´ХЕР (махяр), *м. іран.* Майстар. *О, ты ў міне махяр на ўсе рукі, як нічого ні робіш, а як станяш рабіць — нічого ні выходзіць.* Св.

МАХЛЯВА´ЦЬ, *незак.* Ілгаць. *Хоч вер, хоч не, аля я табе праўду кажу, ні махлюю*. Гр.

МАХЛЯ´Р, *м.* Хлус, ілгун. *Махляр ты, там ні так напісано*. Ст. С.

МАЦЁ´РА, *ж.*1. Свінаматка. Гр. 2. Бульбіна-насенніца. *Мацёра яшчэ ні згніла, і маладыя парасьлі велькія*. Гр.

МАЦО´ХА, *ж.* Свінаматка. *Да дзясяці парасятаў прыводзіць кожны рок мацоха гэта*. Гр.

МАЦЫКЛЕ´Т, *м.* Матацыкл. Вар.

МАЦЯРКІ´ (мацярке), *мн.* Канаплі-насенніцы. *Выбіранкаў мало, а мацяркоў цэла копа*. Ст. С.

МАШЫ´НКА, *ж.* 1. Запальнічка. *Ад машынкі прыкурыў*. Зл. 2. Частка лямпы (яна падае кнот). Пл.

МЕЛЬШ, *прысл.* Менш. *Мельш нічого, абы лепш зрабіў*. Гр.

МЕ´ЛЬШЫ, *прым.* Меншы. *Мельшы за яго*. Ст. С.

МЕРГАВА´ЦЪ (мяргавацъ), *незак.* 1. Прымерваць, прыкідваць. *Мяргуй ні мяргуй, а я тае дошкі ні дам*. Св. 2. Мірыць, прыміраць. *Самі б'юцца, самі паміраццa, нашто мне йіх мяргаваць*. Гр.

МЕ´РКА, *ж.* Драўляная пасудзіна з ручкай, служыць для насыпання (у мяшок) зерня. *Меркаю паносіш, ці у мяшок сыпаць будзяш?* Гр.

МІРУ´Н, *м., экспр.* Пра старога халасцяка. *Міруном век пражыў*. Гр.

МЛІ´Н, *м.* Млын. *Яг даўней, то малолі ў мліне. Ішчэ раняньконько зьбіраліся ехаць да мліна малоць збожо*. Кр.

МЛЮ´ГА, *м., экспр.* Слабы, млявы чалавек. *Такі ўжэ млюга: ледзьвя ногі цягня, нямоглік гэты*. Дзяр.

МЛЯ´ЎКІ, *прым.* Млявы. *Мо што баліць, што такі мляўкі?* Ст. С.

МО´ГЛІЦЫ: вынесці на могліцы — памерці; вынесці на могілкі. Гр.

МО´ДЗІЦЦА, *незак.* Моднічаць. *Старая, а, як маладая, модзіцца, усё модно наўме*. Кр.

МО´ДЫ, *мн.* Узор. *Бало ўсё такія моды ткалі*. Кар.

МО´НДРЫ, *прым., экспр.* Разумны. *Каб ні такі мондры, то ні ўляцеў бы ў бяду*. Ст. С.

МО´РКВА, *ж.* 1. Морква. 2. Суп з морквы. *Пахлёбаў морквы*. Гр.

МО´ЧА, *ж.* Макрэча, дажджлівае надвор'е. *Хоць ты с хаты ні вылась моча такая — лье і лье гэты дажджыско*. Кр.

МУЗЫ´КІ, *мн.* Вячоркі з танцамі. *На музыкі ідуць, гуляць хочуць.* Гал.

МУЛЯ´К, *м.* Нацёртае, мулянае месца; мазоль. *Боты зацесныя, муляк нахапіўсё, як папахадзіў цэлы дзень.* Вар.

МУ´МРА, *ж., зняважл.* Незгаворлівы, якому цяжка зрабіць ласку. *Нігды яму ні дагодзіш, мумры гэтаму.* Гр.

МУ´МРЫЦЬ, *незак., асудж.* Гаварыць (над нос) раздражнёна, незадаволена. *Хай мумрыць, а ты ні ўслухайся, рабі сваё.* Ст. С.

МУРАЎЁ´, *н.* Мурашнік. *Нехто мураўё раскідаў. А велька горба была, мурашке доўго працавалі тут.* Гр.

МУ´РЫН, *м., экспр.* Пра чорнавалосага, смуглага чалавека. *Нуй чорны сын у яго. І сам ён мурын.* Гр.

МУСО´ВА (мусово), *прысл.* Абавязкова. *Наказваў, каб ехалі, кажа, мусово трэба быць.* Ал.

МЫ´ДЛЯ, *ж.* Часовая ўкладка снапоў на полі; мэдлік. *За вос шэсць мыдляў ні забяру мо?* Гр. *Трэ жыто у мыдлі ставіць.* Кр. *Ты тую дастаўляй мыдлю.* Ст. С.

МЫЛЯ´ЦЬ, *незак.* Не трапляць, не пападаць у цэль. *Нешто вада ў вядро ні пападая, усе мыляюць каплі па-за боку.* Гал.

МЫСЛІНОЎКА (мысьліноўка), *ж.* Сітцавая хустка з кветкамі. *Завязала мысліноўку і яшчэ дубальтоўку просіць.* Ст. С.

МЫТО´К, *м., непахв.* Той, хто мые. *Які сь цябе мыток, як ты ні любіш вады?* Св.

МЭ´НДАЛЬ, *м.* 1. Укладка снапоў; мэндлік. Дзяр., Едн. 2. Мера колькасці — 15 штук. *Больш як тузін, з мэндаль будзя.* Гр.

МЭ´НКА, *ж.* Гора, пакута, мука. *Каб жа яг дзіця, а то ні яно есьці, ні яно спаць — адна мэнка зь йім.* Гр.

МЭ´НЧЫЦЦА, *незак.* Пакутаваць, мучыцца. Ал.

МЭ´ТАР, *м.* 1. Мера даўжыні — метр. Кар. 2. Мера вагі — цэнтнер. *З мэтар заважыло цяля.* Дзяр.

МЭ´ТРА, *ж.* 1. Дровы, складзеныя так, каб усе вымярэнні мелі 100 см. *Мэтру дроў наклалі.* Ст. С. 2. Цэнтнер. *Мэтру жыта спытляваў.* Гр.

МЯКЕ´КА, *м* і *ж.* Мяла, цяльпук. *Каб з рухам чалавек, то зрабіў бы, а мякека гэты на цэлу зіму зацягня.* Кр.

МЯ´ЛІЦА, *ж.* 1. Пасудзіна, у якой труць мак; макацёр. Гр. 2. *перан., зняважл.* Галава. *Куды гэту мяліцу суняш? Ні відно за табою нічого.* Ст. С.

МЯЛЬНЯ´, *м.* і *ж.* Той, хто «меле» — менціць языком; пустаслоў. *Годзі малоць языком абы-што. Ні слухайця вы мяльню гэтаго.* Гр.

МЯНЦЯ´ (мяньця і мянта), *ж.* Лапатачка для вастрэння касы; мянташка. *Мянцёю як ні пацягняш — ні хоча касіць.* Гр.

МЯРНІ´ЧЫ, *м., застар.* Землямер, каморнік. Ст. С.

МЯРЭ´Ц, *м., застар.* Мярцвяк, нябожчык. *Плача, як па мярцу.* Гр.

МЯ´СА (мясо), *н.* Мякаць гарбуза. *Як разрэжам гарбуза, то кішке выкідаям, а мясо вырэзваям і варымо с крупамі альбо з мукою.* Кр.

МЯШЧА´НКА, *ж.* Жыхарка мястэчка, горада. *Была калхозьніца, а цяпер мяшчанка, у Зэльві жывеш.* Св.

## Н

НАБАСАНО´С, *прысл.* На босую нагу (без анучы, панчохі). *Набасанос уступіся ў боты і бяжы, кап позно ні было.* Кр.

НАБАСЯКА´, *прысл.* Набасанож. *Хай набасяка пасе, рас чаравікі парваў.* Гр.

НАБА´ХАЦЬ, *зак., незад.* Наліць (звыш меры). *Гэдулькі набахаў, дзе я выям гэты крупнік.* Гр.

НАБІ´ЛЬНІЦЫ, *мн.* Частка варштата, набіліцы. *Набільніцы слабо бердо дзержаць.* Ст. С.

НАБО´Й, *м.* 1. Тупкая частка зімовай дарогі. *Па набойі ець, то сані ні завальвацімуцца.* Кр. 2. Болька на падэшве нагі, узнікае ад непрывычкі хадзіць босымі нагамі. *Набіў набой на пяце, як папатрапаў дзесяць вёрст босы.* Ст. С.

НАБРЭ´НКНУЦЬ, *зак.* Набрыняць (вадою). *Набрэнклі клепкі, гаш павыпірало йіх пры дне.* Пл.

НАБУ´ЧЫЦЦА, *зак.* Злосна наставіцца, набычыцца (пра кароў). *Лядзі, каб ні ўбароў, нешто набучыўсё бык на цябе.* Ст. С.

НАБЫВА´ЦЬ, *незак.,* НАБЫ´ЦЬ, *зак.* Павялічвацца (павялічыцца) памерам, напаўняцца, набрыняць. *Як папаходзіш цалюткі дзень, так ногі набываюць — як калатке робяцца. Вумянё набыло як мая быць у цялушкі. Хутко руспусціцца дзераво — ужэ пупяхі набылі.* Гр.

НАБЭ´РСАЦЬ, *зак., непаш.* Напісаць. *Нешто набэрсаў, а што — ішчэ ні чытаў.* Гр.

НА´ВАЛАЧКА, *м.* і *ж., асудж.* Валацуга, бадзяга. *Цэлы дзень валачыўся недзя навалачка гэты.* Гр.

НАВА´ЛЬНЫ, *прым.* Навальнічны (дождж). *Як навальны дошч хлынуў, то і ў нас на надворку ні прайсьці было.* Ст. С.

НАВЕ´СНУ, *прысл.* Вясною наступнага года. *Сяк-так згараў і годзі, а навесну лепш згарэцца.* Кр.

НАВЫЗУ´БВАЦЬ, *зак.* Навыбіраць, з у б а ю ч ы (гл.), моцных яец. *Як дабраўсё, то навызубваў яец сабе і таварышам.* Гр.

НАВЯСНЕ´ (навясьне), *прысл.* У пачатку вясны. *Навясне цяплей ужэ, хоць і сьнех ляжыць. Згарэм гэто полё навясьне, ні канешня ўвосянь гараць.* Дзяр.

НАГА´ДАЦЦА, *зак.* Напляткарыцца. *Ніяк ні нагадаюцца, бедныя.* Пл.

НАГАНУ´ЦЬ, *зак., незад.* Зажадаць. *Як нагануў ехаць, ні ўтрымала.* Гр.

НА´ГЛА: н а г л а  я г о  в е д а я *(зламоўн.)* — хто яго ведае. *Нагла яго ведая, дзе ён с каравамі прападая да палудня.* Гр.

НАДАВА´ЦЦА, *незак.* Падыходзіць, быць прыгодным для чаго-небудзь. *Гэты тавар ні надаецца на пальто.* Гр. *Кап надаваўсё, то ўжэ разабралі п на рубашкі.* Кр.

НАДАВА´ЦЬ, *незак.* Перадаваць, трансліраваць. *Надавалі з Масквы, што хутко маразэ будуць.* Гр. *З Мінску надаюць песьні.* Ст. С.

НА´ДАЛАНКА, *ж.* Частка саней — доўгая планка, што накладваецца на капылы паралельна полазу (паверх вязаў). *Надаланкі паабмярзалі, рукою ні ўзяцца.* Гр.

НАДАЛО´НЧЫЦЬ, *зак.* Налатаць (рукавіцы) — паставіць латку на далонную частку. Гр.

НАДАЛУ´ЖЫЦЬ, *зак., незад.* Зэканоміць, нагнаць час. *Ат, надалужыш ты ўжэ гадзінаю гэтаю, раз за дзень ні зрабіў. Давай аддыхнем.* Ст. С.

НАДА´ЎЧЫ, *прым.* Перадатачны. *У партызанаў і надаўча станца была, маглі пярадаваць сваё што, ні адно слухаць каго.* Дзяр.

НАДВО´РАК, *м.* Панос. *Каб ні гэты надворак, мо і ачуняла п хучэй, а то нічого ні зьзясі.* Гр.

НАДУБЕ´ЦЦА, *зак.* Намерзнуцца. *От надубеліся за тую ноч у лесі!* Вальк.

НАДУ´НДЗІЦЦА, *зак., жартаўл.* Нассацца. *Як надуньдзіўсё — усю ноч сьпіць добро.* Св.

НАДЫБА´ЦЬ, *зак.* Натрапіць. *Прыглядацца натто ні буду, а як надыбаю — падыму казяка.* Гр.

НАДЭ´БАЦЦА, *зак.* Нахадзіцца, надыбацца. *Які зь яго ходок — ад весьніцаў прышоў і ўжэ надэбаўсё.* Ст. С.

НАЕ´ТЫ, *прым.* Той, хто наеўся; сыты. *Наеты галоднаму ні спагадая. Яды ні бракуя: адзін ні галодны, і другі наеты.* Кр.

НАЖАНЯ´, *н., мн.,* н а ж а н я т ы (нажанята), *пяшчотл.* Нага, ножка. *Дай паказычу гэто малоё нажаня.* Кр.

НАЗА´ЎША, *прысл.* Назаўсёды. *Я назаўша аддаю табе гэты ровар, егдзі, здаровянькі; я ўжэ сваё ад'егдзіў.* Гр.

НАІ´МЕННА (наймянно), *прысл.* Абавязкова. *Наказваў, каб наймянно былі.* Гр.

НАКАЗА´ННЕ (наказанё), *н.* Гора, бяда. *Цэло наказанё з гэтым хлопцам — ні сьпіць і годзі.* Ст. С.

НАКАЗА´ЦЬ, *зак.* Апавясціць. *На вяселё малады прышоў наказаць.* Гр.

НАКАРА´ЦЬ, *зак.* Пакараць. *Ой, накараю за выбрыкі такія!* Угр.

НАКІДА´ННІК, *м.* Той, хто накідае гной на воз. *Яшчэ слабы накіданнік сь цябе — нідужы.* Гр.

НА´КРЫВАТКА, *ж.* Вечка, накрыўка (у чыгуне, каструлі). *Хай накрыя рандоляк накрываткаю, хучэй зварыцца.* Даўг.

НАЛАДАВА´ЦЬ, *зак.* Многа накласці. *З аднае штукі, як спусьцілі, цэлы вос дроў наладавалі.* Вар.

НАЛА´ПІЦЬ, *зак.* Налатаць. *Налапіш, то зь месяц панашу пальто.* Кр.

НА´ЛУПА, *ж.* 1. Малпа. Ст. С. 2. *перан., абразл.* Пра чалавека. *От налупа, што ні скажаш, усё пярақажа.* Гр.

НАЛЯГА'ЦЬ, *незак. экспр.* Настойваць, прымушаць. *Як налёх, мусяла купіць іишчэ касьцюм.* Гр.

НАМЭ´ДРЫКІ, *мн.* Частка збруі — пляцёнка з раменю, накладваецца на спіну каня, падтрымлівае хамут. *Бяз намэдрыкаў хамут на голаў лезя, як конь нагне голаў.* Гр.

НАПАВІДКУ´ (напавітку), *прысл.* На віду, на відавоку. Напавітку *жыўшы, нічого ні схаваяш ад людзей — ні гора, ні радасці.* Кр.

НАПАДАРЭ´НДЗІ, *прысл.* Пад рукой. *Хай нападарэндзі ляжыць, мо хутко спатрэбіцца.* Гр.

НАПА´РСТАК, *м.* Колца для мацавання касы на кассі. *Клін затоўсты, у напарстак ні лезя.* Гр.

НАПА´ШКІ, *прысл.* Накінуўшы на плечы (не ўсоўваючы ў рукавы). *Злажсы напашкі да выбяжсы палядзі, дзе дзіця пайшло.* Ст. С.

НАПЕ´ША (напешо), *прысл.* Пехатой, пеша. *Дзе ты напешо, стары, дойдзяш туды — трэба ехаць.* Гр.

НАПІЦАВА´ЦЬ, *зак., незад.* Шчыльна, многа накласці; напакаваць. *Паўнюткі сундук адзежы напіцавала.* Пл.

НАПРАДВЯСНЕ´ (напрадвясьне), *прысл.* Напярэдадні вясны, напрадвесні. *Напрадвясьне ішчэ маразэ моцныя бываюць.* Гал.

НАПРО´ВЕСНІ (напровясьні), *прысл.* Тое, што і напрадвясне. *Зіма адно пачалася, а сьнех зьлес ужэ, як напровясьні.* Зл.

НАПУ´ГАЦЦА, *зак., непаш.* Напіцца. *Яг дапаў — напугаўсё, гаш баке расьпірая.* Яр.

НАПУ´РЫЦЬ, *зак., непаш.* Нагнаць. прагнаць. *Як меў ногі ўцякаў, як напурылі яго.* Кр.

НАПЯРЭ´СПЕХІ (напярэсьпяхі), *прысл.* Навыперадкі. *Як памагаць нам прасілі, то ледзьвя дапарсіліся тае помачы, а як сабе — бягуць напярэсьпяхі.* Кр.

НАПЯРЭ´СЦІГІ (напярэсьцігі), *прысл.* Наперарэз. *Хацеў уцякчы, то напярэсьцігі выбяглі двайіх і паймалі яго.* Гр.

НАПЯХО´ТУ, *прысл.* Пеша, пехатою. *Дзе там ехаў! Напяхоту ішоў.* Пл.

НАРА´ДЗІЦЬ, *зак.* Параіць, нараіць. *Мне, саколік, сюды, да вас, нарадзілі схадзіць.* Яр.

НАРА´ЗЕ (наразі), *прысл.* Пакуль што. *Яшчэ ўгледзімсё, пагаворым, а наразі бывай здароў.* Гр.

НАРА´НКІ, *прысл.* Пасвіць кароў наранкі — г.зн. гнаць вельмі рана, да ўсходу сонца, і пасвіць да гадзін 10, а затым з 16 гадзін да вечара. *Рано вясною і ўвосянь пасем на ўвесь дзень, а ўлетку — наранкі.* Гр.

НАСЕ´ННІК, *м.* Злак (агародніна), які пакідаецца на выспяванне для насення. *Лубін-насеннік пайшлі ламаць, а астальны загарэм.* Дзяр. *Гурок-насеньнік.* Ст. С.

НАСІ´СКА (насіско), *м., узмацн.* Нос; насішча. *Нуй насіско ў гэтаго мушчыны — с кулак!* Дзяр.

НАСТАЦЁ´, *н.* Пачатак, нараджэнне месяца маладзіка. *Сёніка настацё, а ўзаўтра ўжэ маладзік відзён будзя.* Кр.

НАСТАЯЧКА´, *прысл.* Стоячы. *Здэцца, ні вытрываю, упаду, як папараблю цалюткі дзень настаячка.* Гр.

НАСТАЯ´ШЧА (настаяшчо), *прысл.* Як мае быць. *Панаядаліся настаяшчо каравэ па лубянішчы. Травы там многа.* Ст. С.

НАСТАЯ´ШЧЫ, *прысл.* Сапраўдны; які мае быць. *Гэто настаяшчы мёт, ні падрболяны.* Кр. *Настаяшчы кавалер: большы за бацька, мажны.* Гр.

НАСТО´ЛЬНІЦА, *ж.* Абрус, настольнік. *Настольніцы ўсякія маям: і сьвяточну, і на будзянь.* Вар.

НАСТЫДЗІ´ЦЬ, *зак.* Насароміць. *Настыдзі, хай боляй так ні робіць гіцаль гэты.* Зл.

НАСУЛЯ´, *ж., зняважл.* Насатая. *Насулю такую ўзяў.* Гр.

НАСЭ´НТАРЫЦЬ, *зак., непаш.* Накласці, напакаваць надта многа. *Дзе ты ў халеры падымяш гэты чамайдан, насэнтарыў так!* Ст. С.

НАТАЛІ´ЦЬ, *зак.* Задаволіць (у ядзе, адзенні). *Дзе ты яго натоліш. Пражора гэта сьвет, здэцца, загроб бы да сябе.* Гр.

НАТАЛЬМАХУ´, *прысл.:* трымаць натальмаху — не датыкаючыся (да чаго). *Рукі адабрало, натальмаху трымаючы.* Гр.

НАТРАПА´ЦЬ, *зак.* Налупцаваць. *Рас ні слухая, натрапаў — і будзя слухаць.* Зл.

НАТРУСІ´ЦЬ, *зак.* Нацерушыць. *Сена натрусіў, возам зачапіўшы за дзерава. Чаго ты ў вядро натрусіў?* Гр.

НАТЫХМЯ´СТ, *прысл.* Адразу, на хуткую руку, на месцы. *Мо і жыў бы, каб натыхмяст апярацу зрабілі.* Гр.

НАЎМЕ´ЦЦА, *зак., незад.* Мець удосталь, хапіць. *Дзе ты наўмеясься, каб усё ў новум хадзіць кожан дзень?* Ст. С.

НА´ХЛЯШЧ, *прысл.* Насцеж. *Нашто дзверы атхляшчыў? Канешня, каб нахляшч, а прычыніць — мало?* Гр.

НАЦЕРАБІ´ЦЬ (нацярабіць), *зак.* Налупцаваць, набіць. *Нацярабіў-нацярабіў гэто дзіця. А за што?* Ал.

НАЦЯ´ГІЧ, *м.* Пруток для нацягвання, замацавання палатна ў кроснах. Ст. С.

НАЦЯЛЕ´СКАЦЦА, *зак., зласл.* Пад'есці. *Нацялескаўсё, так марш з-за стала!* Гр.

НАЧВА´Ч, *м.* З вялікім жыватом, пузач. *За свайім трыбухом зямлі ні бачыць начвач гэты: ведама, трыбух як ночвы.* Гр.

НАШЧЫНЯ´ЦЬ, *зак.* Гл. шчыняць. Св.

НЕВАРУ´ШАНЫ (ніварушаны), *дзеепрым.* Някрануты. *Гунь тая лава ячменю і ніварушана стаайіць.* Ст. С.

НЕГАДЖА´Й (нігаджай), *м.* і *ж., абразл.* Неахайны. *Рас нігаджай, хай у гразі ходзіць, я яму ні буду кожан дзень мыць.* Гр.

НЕГАДЗІ´НА (нігадзіна), *ж.* 1. Нягода. *У такую нігадзіну і воўк сядзіць на месцы.* Кр. 2. Час суровых выпрабаванняў. *У тую нігадзіну німало пагінуло людзей.* Ст. С.

НЕ´ДАВАР, *м.* Недаваранае. *Ні хачу есьці: недавар, кажа.* Гр. *Рас недавар, то пашкодзіць можа.* Ст. С.

НЕДАВЯ´РАК (нідавярак), *м.* і *ж., асудж.* Той, хто не давярае. *От ужэ нідавярак! Кап сказаў — і паверыў. Дзе ты бачыў?* Гр.

НЕДАЛЭ´НГА (нідалэнга), *м. і ж.* Недарэка, няўклюдны, недалужны. *А, нідалэнга гэта, што яна можа!* Гр. *Ні хлопяц, а нідалэнга некі — усё з рук падая.* Ст. С.

НЕ´ДАСАЛЬ, *ж.* Недасоленае. *Як вы ясьце такую недасаль?* Ст. С.

НЕЗАЧЭ´ПАНЫ (нізачэпаны), *дзеепрым.* Некрануты. *Ніц ні еў — нізачэпано стайіць усё.* Кр.

НЕЗГРАБО´ЦЦЕ (нізграбоцё), *н. зняважл.* Нязграбны, непрыгожы. *Такоё нізграбоцё — у сьвеці ні бачыў.* Гр.

НЕКАНЕ´ЧНЕ (ніканешня), *прысл.* Неабавязкова. *Ніканешня яму сёніка ўжэ ехаць. Хай зь дзень пачакая.* Гр.

НЕ´ЛЮДЗЬ (нелюць), *м.* і *ж.* Нечалавек. *Каб люцкі быў, жыла б жонка, а зь нелюдзям ні ўжывеш.* Ст. С.

НЕНАПА´МКІ (нінапамкі), *прысл.* Няўцям. *Яму і нінапамкі, што так доўго стайіш голы на марозі.* Св.

НЕНАРО´КАМ (нінарокам), *прысл.* Выпадкова, незнарок. *Ішоў і нінарокам зачапіў — упаў збанок і разьбіўсё.* Гр.

НЕ´РАДЗЬ (нераць), *ж., непаш.* Неўрадлівае. *Нераць нека, ні картоплі. Капаць німа чаго.* Гр.

НЕ´РВЕНЫ (нервяны і нэрвяны), *прым.* Хворы на нервы, нярвовы. *Зь йім лепяй ні завоцься, ён такі нэрвяны, што забіць можа ні за што, як раз'юшыцца.* Св.

НЕ´СМАШ, *ж., незад.* Нясмачнае. *Хто будзя такую несмаш есьці? Усё шукаюць смашнаго.* Пл.

НЕЎСТАЁ´НЦЫ (ніўстаёнцы) *прысл., экспр.* Не ўстояць, рупець (кудысьці). *Няма, кап ў хаці пасядзеў, так усё на гулі бегая — ніўстаёнцы.* Гр.

НЕЎЦЯРПЁ´НЦЫ (ніўцярпёнцы), *прысл., асудж.* Калі не хапае цярплівасці. *От ніўцярпёнцы! Як на іголках: сют-тут і на часэ глядзіць, кап хацямсё ні спазьніўсё на танцулькі.* Ст. С.

НЕЦЯРПЯ´ЧКА (ніцярпячка), *ж.* Нецярплівасць. *Што зробіш — ніцярпячка ні дае зрабіць па-люцку.* Гр.

НЕСЧЫСЛЁ´НА (нішчыслёно), *прысл.* Незлічона. *Нішчысьлёно много салдатаў ішло тагды ў наступленё.* Ст. С.

НІ´ГДЫ, *прысл.* Ніколі. *Нігды такого ні было, каб багаты за беднаго заступаўсё.* Кр. *Нігды-анігдачкі ні была ў Маскве.* Гр.

НІ´ЗКІ: ◊ **н і з к і   н а   в о ч ы** — блізарукі. *Далёко — так ні ўгледзіць: ніскі на вочы.* Гр.

НІКУДЫ´ШНЫ, *прым.* Нявартасны, які ні на што не прыдатны, не здатны. *Саўсім нікудышныя дошкі.* Св. *Рас нікудышны, то ні лесь, у хаці сядзі.* Ст. С.

НІ ЎСЁ´, *злучн.* Ні то (не то). *Ні ўсё дошч, ні ўсё сьнех — ні паймеш.* Гр.

НІЦ, *займ.* Нічога. *Ніц ні зробіш, рас так вышло.* Зл.

НІ´ЧАЛЬНІЦЫ, *адз.* н і ч а л ь н і ц а, *ж.* Частка варштата, ніт. *Аснову ўкідая ў нічальніцы.* Ст. С.

НО´САЛЬ, *м., абразл.* Насаты; насач. Кр.

НУ´ДЗЬБА, *ж.* Нудота. *Адна нудзьба на гэтум хутары жыць было тагды бяз радзіва.* Гр.

НЫ´ГАЦЬ, *незак., асудж.* Перабіраць пры ядзе. *Ні есьць, а ўсё ныгая, смакоў шукая.* Гр.

НЫЦЬ, *незак.* Усмажвацца (пра грыбы). *Апенкі хай ішчэ нызоць, каб добро усмажыліся.* Св.

НЯВЕ´ЛЬМІСЯ (нівельміся), *прысл.* Не асабліва, не вельмі ж. *Нівельміся зухуйся ты свайім пінджаком.* Гр.

НЯДБА´ЙЛІСКА (нідбайліско), *м* і *ж.* Нядбайла. *Такого нідбайліска ішчэ ні было ў нашум родзі.* Гр.

НЯДБА´ЙЛІШЧА (нідбайлішчо), *м.* і *ж.* Тое, што і н я д б а й л і с к а . *Каб гэдыкім нідбайлішчам быць чалавеку! Ні дбая ні пра што на свеці. Як можно жыць так?* Кр.

НЯЗГО´РШЫ (нізгоршы), *прым.* Някепскі; не надта кепскі. *І твой пірох нізгоршы.* Гр.

НЯМЧУ´Р, *м., зняважл.* 1. Незгаворлівы. *Што ты зь йім, нямчуром гэтым, пагаворыш: адно «ага» да «але», а сам слова ні выцісня.* Гр. 2. Немец. *Нямчур думаў лёхко з намі справіцца, а ні па яго вышло.* Ст. С.

НЯСУ´ШЧАЯ (нясушча), *прым.* Такая (курыца, гусь), якая нясе многа яец. *От нясушча курыца.* Гр.

НЯШЧА´СНЫ (нішчасны), *прым.* 1. Няшчасны. 2. Узмацняльнае слова пры ацэначных назоўніках. *Падло гультаіско нішчасны, нічого ні робіць, адно ляжыць!* Гр.

# П

ПААСЯНЕ´ЦЬ, *зак.* Стаць на восень, пахаладнець. *Натто гарачо цяперака, хай паасянея, тагды паршука заколям, бо летам змарнуяцца мясо, прытухня. Ужэ трохо паасянело, ні гэдык пячэ сонцо.* Гр.

ПАБА´БЕЦЬ (пабабяць), *зак.* Гл. б а б е ц ь . *Грушы ні гніюць, адно пабабялі.* Гр.

ПАБАРУКА´ЦЦА, *зак.* Гл. б а р у к а ц ц а . *Ну, пабарукайцяся, хлопцы, хто дужайшы.* Кр.

ПАБУНТАВА´ЦЬ, *зак., асудж.* Перамяшаць, пераблытаць. *Хай сам складая, рас пабунтаваў усё.* Св.

ПАВА´ЛАК, *м.* Валок (сена). *Зграбем у павалак, а тагды ў копы складацімям.* Гр.

ПАВЕ´СЬМА (павесьмо), *н.* Тое, што і п а в е с ь м е н е . *Павесьмо льну нацерла.* Кар.

ПАВЕ´СЬМЕНЕ (павесьмянё), *м.* Жменя сцёртага льну; ручайка. *Павесьмянё нацерла і ўжэ аддыхая. От работніца!* Вар.

ПАВЭ´ДЛУГ (павэдлух), *прыназ.* У параўнанні з. *Павэдлух твайго мой благі хлопяц.* Пл.

ПАВЭ´ДЗГАЦЬ, *зак., непаш.* 1. Пабяліць. *Якое гэто бяленё. От, павэдзгаў, абы сажу забяліць.* Гр. 2. Памазаць. *Лоям трохі павэдзгай і еш, ні канешня, кап клустасьць цякла з блінца.* Ст. С.

ПАВЯСНЕ´ЦЬ (павясьнецъ), *зак.* Стаць на вясну, пацяплець. *Гэто было ў марцы месяцы, як павясьнело. Марос ні такі быў на дварэ.* Кр.

ПАГАДА´НКА, *ж.* Пагалоска. *І ў нас пусьцілі такую пагаданку.* Кр.

ПАГАНІ´Н, *м., экспр.* Крыклівы (пра дзіця). *Паганін гэты цэлу ноч спаць ні даў; усё «агу» да «агу» — крычыць!* Гр.

ПАГАНЯ´ЦЬ, *незак. экспр.* Захоўваць звычкі. *Табе, мой ты саколік, ужэ хутко сорак будзя, а ты ўсё маладоё паганяш.* Св. *Ужэ даўно жывеш у сяле, а паганяш гарацкоё. Трэба забывацца на свой горат.* Св.

ПАГІБА´ЦЬ, *зак.* Пагнуць. *Нашто ты пагібаў гэту бляшанку ат кансервы? Мо спатрэбілася п на што?* Кр.

ПАГНО´Й, *м.* Участак поля з угноенай урадлівай глебай. *Пагной пойдзя пат кукурузу, кажуць.* Кр.

ПАДАВА´ННІК, *м.* Той, хто падае на воз снапы. *Ніпужы падаваннік, снопа ні закіня на вос.* Вальк.

ПАДАКО´ННІК, *м*. Прымацаваны да сцяны (над акном) брусок для гардзін; карніз. *Падаконнік для туляў сам зробіць*. Гр.

ПАДА´ННЕ (паданё), *н.* Заява, прашэнне. *Трэбуло паданё складзьці на пэнсію*. Зл.

ПАДА´РАК, *м*. Дарунак, падарунак (рэч). *Падарак добры быў*. Гр.

ПАДАРУ´НАК, м. Назва дзеяння па дзеяслове д а р ы ц ь. *Хрышчонаго бацька просім на падарунак! Які падарак ён дасьць маладому*. Ст. С.

ПАДАТКНУ´ЦЬ, *зак*. Даць хабар. *Як ні падаткнеш, так нічого і ні зробіць. От нілюцкі чалавек быў*. Гал.

ПАДАТКО´ВЕЦ, *м*. 1. *застар*. Той, хто збірае падаткі. 2. *перан*., *іран*. Пра таго, хто збірае грошы на на якое–небудзь мерапрыемства. Гр.

ПАДАЯ´НКА, *ж*. Перадача (у бальніцу, турму). *Хлопяц хворы, трэ яму падаянку занясьці*. Св.

ПАДБАРО´ДАВІЧА (падбародавічо), *н*. Падбародак. *Стары — падабародавічо абісло*. Вальк.

ПАДВАЖНІК, *м*. Кол для падважвання. *Бяс падважніка гэты камянь — ні вывярняш зь ямы*. Св.

ПАДВАРО´ТНІЦА, *ж*. 1. Шырокая шчыліна паміж дзвярыма і зямлёю (у хляве, гумне). *Прас падваротніцу сьнегу намяло ў гумно*. Кр. 2. Дошка для закрывания гэтай шчыліны. *Адымі падваротніцу, каб ні паламаў конь, як ступацімя*. Гр.

ПАДВІНУ´ЦЬ, *зак., безас*. Уздумацца. *Як падвіне, за дзесяць вёрст ідзе — і ногі ні баляць*. Ст. С.

ПАДВО´КНІЧА (падвокнічо), *н*. Падваконне. *Ні лась, кажу, па падвокнічу, каб вакна ні разьбіў*. Вальк.

ПАДГАЛЁ´НЫ, *прым*. Падгалісты. *Некі твой пятух падгалёны*. Гр.

ПАДГА´ЛЫ, *прым*. Тонкі, высокі, з падцягнутым жыватом (пра жывёлу). *Як харт, падгалы паршук*. Кр.

ПАДГА´РЛЕ (падгарлё), *н*. Падбародак. *Падгарлё ў старого адвісло*. Пл. 2. Зоб. Дзяр., Ст. С.

ПАДДАСТА´ТКАМ, *прысл*. Удосталь. *Цяперака і ў нас у сяле ўсяго паддастаткам есьцяка*. Св.

ПАДДЗЕ´РЖАНЫ, *прым., экспр*. Стары, падношаны (пра чалавека). *Ні хачу за такого — паддзержанаго ісьці, і хлопцаў ні бракуя*. Яр.

ПА´ДКІ (паткі), *прым., асудж.* Схільны (да чаго), ласы (на што). *О, яна патка на чужоё; за сьвет пойдзя!* Кр. *Такі ўжэ паткі да дзяўчат, гаш падая.* Гр.

ПАДКЛА´ДЫЧЫ (паткладычы), *мн.,* падкладыч (паткладыч), *м.* Два палены, на якія кладуць дровы ў печы. *Трэба, кап паткладычы таўшчэйшыя былі, то ні так хутко згараць яны і дрова не рассыплюцца, будуць добро гарэць.* Гр.

ПАДЛАЖЫ´ЦЬ, *зак.* Падагнуць (падрубіць); зрабіць карацейшым. *Задоўго пальто, трэ падлажыць.* Вар.

ПАДМАНУ´ЦЬ, *зак.* Схлусіць, зманіць. *Да ні слухайця вы яго, ён падмануў гэто.* Вальк.

ПАДНІМА´ЦЦА, *незак.* Гл. паднямцца. Кр.

ПАДНЯБЕ´ННЕ (паднябенё), *н.* Скляпенне. *Усё паднябенё выгарало ў печы.* Гр.

ПАДНЯ´ЦЦА, *зак.* Выказаць жаданне зрабіць што, узяцца за што. *Рас панімая, то і падняўсё лячыць. І бач, вылячыў чалавека.* Гр. *Рас падняўсё, то лячы, сынку, ні кідай.* Ст. С.

ПАДО´ЛАК, *м.* Ніжняя частка кашулі, падол. Дзяр.

ПАДО´ЎЖНЯ, *ж.* Адтуліна, ляток (у калодзе пчол). *Уцякаюць ад дажджу, гаш у падоўжні ні зьмяшчаюцца (пчолы).* Едн.

ПАДПАЛАМЯ´НКА (патпаламянка), *ж.* Хлеб, спечаны перад полымем. Едн.

ПАДПАЛЮ´К (патпалюк), *м.* Каня (птушка). *Патпалюк на дошч крычыць у балоці: патпалю-патпалю!* Гр.

ПАДПА´СЦІ (патпасьці), *зак.* Правінавацціцца. *Мусіць, патпаў, рас судзіць будуць.* Ст. С.

ПАДПЕ´РЦІСЯ, (патперціся), *зак., экспр.* Атрымаць дапамогу, дапамагчыся. *Нуй сын расце. Такім падапрэсься! Вады каплі ні дасьць, ні то што.* Гр.

ПАДРА´НКІ, *прысл.* У канцы ночы, пад самую раніцу. *Добро спаў усю ноч, аля падранкі як праснуўсё, то боляй ні мог заснуць.* Кр.

ПАДРЫЗАВА´ЦЬ, *зак.* Падабраць (шуфлем зерне) з ніжняй часткі кучы і высыпаць на верхнюю. *Натто расплылася горба, трэ падрызаваць, каб менш месца займала.* Гр.

ПАДРЫЗО´ЎВАЦЬ, *незак.* Гл. падрызаваць. *Ён будзя падрызоўваць пшаніцу, а я падмяту ток.* Ст. С.

ПАДСА´НКІ (пацсанкі), *мн., застар.* Невялкія дапаможныя санкі для вывазу доўгага бярвення. Кр.

ПАДСКРЭ'БУХА (пацскрэбуха), *ж.* Хлеб з аскробак цеста, паскрэбак. *Пацскрэбуху сьпякла з таго цеста, што дзяжу выскрабла.* Гал.

ПАДСПО´Д (пацспот), *прысл.* На самы ніз, падыспод. *Сушэйшыя грыбэ пацспот кладзі, а валкаватыя наверх — пацсохнуць ішчэ.* Гр.

ПАДСПО'ДАМ (пацсподам), *прысл.* Падыспадам. *Пацсподам мо і ні высахло, а зьвёрху пярасохло.* Св.

ПАДСТРЫГАННІК (пацстрыганнік), *м.* Той, хто стрыжэ; цырульнік. *На ўсё сяло пацстрыганнік. Яг захварэў, так і ні было каму стрыхчы.* Вальк.

ПАДСУ´ХІ (пацсухі), *прым.* Хударлявы. *Здэцца, хворы, аля не, так пацсухі чалавек.* Кр.

ПАДСЦЁ´Л (пацьсьцёл), *м.* Тое, чым падсцілаюць; подсціл. *На пацьсьцёл лісту зь лесу нанасіў.* Гр.

ПАДТАТА´КВАЦЬ (паттатакваць), *незак.* Падтакваць. *Хай паттатаквая, як вырасьця — дасьць і яму (бацьку).* Вальк.

ПАДТАТА´КНУЦЬ (паттатакнуць), *зак.* Гл. падтатакваць. *Яшчэ больш рогі настаўляя, як ты паттатакняш.* Гр.

ПАДТО´ЎЧАНЫ (паттоўчаны), *дзеепрым.* З затаўкаю (пра суп). *Натто любіць паттоўчаную капусту хлопяц.* Св.

ПАДХВАТНЫ´ (патхватны), *прым.* Зручны. *Дзе той маленькі ножык? Такі патхватны быў — і картоплі абрэзваць, і ў казяке схадзіць.* Кр.

ПАДЧАРО´ВАК (паччарбвак), м. Сала з падчарэўя. *С паччароўка ні любіць скварак.* Ст. С.

ПАДШПА´РАК (пачшпарак), *м.* Падростак (14–16 год). *От ішчэ ні кавалер, а пачшпарак ужэ добры!* Гр.

ПАДЭ´РВА, *ж., жартаўл.*: ц э л а я п а д э р в а — падарвацца можна (ад смеху). *Падэрва цэлая з таго дзіцяці: танцуя і прытупвая, як стары.* Ст.С.

ПАЗАБІВА´ТЫ, *дзеепрым.* Пазабіваны. *Усе вокна пазабіваты, мусіць, ніхто ні жыве тут.* Кр.

ПАЗАБО´КУ, *прысл.* Збоку, праз бок. *Бочка цячэ пазабоку.* Кр.

ПАЗАВУ´ГЛІЧУ, *прысл.* Выціраючы вуглы (лазіць). *Бегаюць, як сабакі, пазавуглічу.* Гр.

ПАЗВЫКА´ЦЬ, *зак.* Папрывыкаць. *Пазвыкалі, каб йіх (куранят) крупамі кармілі, і ні ядуць нічога боляй, паскуды гэтыя.* Гр.

ПАЗНАТА´, *ж.* Позні час. *Дзе ўжэ я паеду дахаты, пазната такая!* Гр.

ПАЗЯХА´ЧКА, *ж.* Пазяханне. *Здэцца, і спаў німало, а пазяхачка напала, усё пазяхаю і пазяхаю.* Гр.

ПАІМЛЕ´ЦЬ (пайімлець), *зак.* 1. Заімжэць. *Пайімлеў дошч, мо і разыдзяцца.* Гр. 2. Паімжэць. *Хай хоць трохі пайімліць, і то сьпёкі такой ні будзя.* Св.

ПА´КАЛАДКА (пакалатка), *ж.* Пастка (для мышэй). *У пакалатку ні лезуць, да халера іх нясе ў скрыню — у пшаніцу.* Вальк.

ПАКАЛІЗАВА´ЦЬ, *зак.* Пастрыгчы (пладовыя дрэвы). *Як пакалізаваў, нат яблыкі большыя парасьлі на яблыні.* Гр.

ПАКАЎНЫ´, *прым.* Змяшчальны. *Пакаўны твой чамайдан:усё ўлезло.* Кр.

ПАКАЧА´ЦЦА, зак. Гл. к а ч а ц ц а . *Давай пакачаямсё, хто з нас дужайшы, га?* Ст. С.

ПАКЛЭ´ДЫЧ, *м.* Той, хто пакладае. *Паклікаў паклэдыча, хай паршука выпакладая.* Гр.

ПАКО´С, *м.* 1. Скошаная трава (збожжа); валок. *Пакосы разьбіваям, хай сохня сено.* Св. 2. Палоска лугу, што пракошваецца адным касцом; пракос. *Цяшко касіць, як пакос шырокі займяш.* Гр.

ПАКУПНЫ´, *прым.* Хадавы, ходкі. *Сёніка мёт — пакупны тавар: бяруць, адно паспявай прадаваць.* Ст. С.

ПАЛАКА´ЦЬ, *незак.* Паласкаць. *Пайду плацё палакаць у балейі.* Гр.

ПАЛАННЁ´ (паланё), *н.* Праполванне. *Паланя аднаго на тыдзянь будзя.* Ст. С.

ПАЛАМЯ´НКА, *ж.* Хлеб (у выглядзе тоўстага блінца), які пякуць перад полымем. *Паламянку сьпяку на палудзянь, пакуль хлеп пасаджаю пякчы.* Ст. С.

ПАЛА´ТКІ, *мн.* Прыстасаванне з жэрдачак, дзе складаюць снапы (робіцца ў гумне над токам). Кр.

ПАЛАТНО´, *н.* 1. Металічная сетка сіта (у арфе). *Палатно зарэтко, прапуская азадзё.* Гр. 2. Пляцёнка (дно з лубу) у рэшаце. Ст. С.

ПАЛАЦЦЁ´ (палацё), *н.* Праполванне. *Палацця много. Ведама — гэдаквяля льну насеялі.* Кр.

ПАЛЕ´ГЛІЦА, *ж.* Палеглая збажына. *Цяшко жаць палегліцу і рукамі, ні то што машынаю.* Гр.

ПАЛЕ´ННІК, *м.* Той, хто паліць у печы, апальшчык. *Хай печы паліць у школі. Нешто ш і паленніку плацяць.* Св.

ПАЛЕ´ЧА, *н., зборн.* Паленне (дровы). *Палечаў тоўстых накідаў у печ — ні хочуць гарэць.* Гр.

ПАЛІВА´НІК, *м.* Збанок (гаршчок), пакрыты паліваю. *У паліваніку малако ні аддае затхляю.* Вальк.

ПАЛІЦМА´Н, *м.* Паліцэйскі, міліцыянер. *У вайну паліцманам служыў і цяперака служыць паліцманам.* Гр.

ПАЛКА´ЦЬ, *незак.* Глытаць. *Ні трымай у році, хучэй палкай. На, запі малаком.* Ст. С.

ПАЛКНУ´ЦЬ, *зак.* Праглынуць. *Ні магу палкнуць, засело у році.* Кр.

ПАЛМІСАК, *м.* Неглыбокая металічная луджаная талерка. *У палміску даю дзіцяці, то хоць ні разаб'е.* Вальк.

ПАЛО´ЙКА, *ж.* Ручайка (льну). Едн.

ПАЛО´КАНЫ, *дзеепрым.* Паласканы. *Плацё ішчэ ні палокано.* Гр.

ПАЛО´ННІКІ, *мн.* Тыя, хто полюць (выбіраюць пустазелле). *Палоннікаў много, то хутко прапалям тыя бураке.* Зл.

ПАЛО´ХАЛА (палохало), *н.* Пудзіла. *Натто ўпадаюць пташкі ў каноплі, трэба палохало якоё паставіць, каб баяліся лесьці сюды.* Дзяр.

ПАЛУ´ДНАЦЬ, *незак.* Палуднаваць. *Дай хлопцу палуднаць, мо захацеў есьці.* Кр.

ПАЛУ´ДЗЕНЬ (палудзянь), м. 1. Абед (яда). *Палудзянь хлопяц нясе. Ужэ гадзін дзве.* Кр. 2. Паўдня. *Бач, як высоко сонцо — палудзянь.* Гр.

ПАЛУЧА´ЦЬ, *незак.* Атрымліваць. *Як робіш, так і палучаяш.* Яр.

ПАЛШУ´БАК, *м.* Паўкажушак. *У нас палшубак харошы носяць адно на сьвято.* Гр.

ПА´ЛЬНУЦЬ, *зак.* 1. Пальнуць. 2. *перан.* Рэзка, нечакана ўдарыць. *Як пальнуў па назе, гаш зароў.* Вальк.

ПАЛЬТО´ НА КАЖУ´СЕ. Футра. *Яг быў у йіх, шуба казалі, а ў нас — пальто на кажусі кажуць.* Гр.

ПАЛЯНЫ´, *прым.* Палявы. *Тут і на полі пры самум лесі грыбэ растуць. Паляныя ў нас кажуць на йіх.* Св.

ПАЛЯЎНІ´К, *м.* Паляўнічы. *Паляўніке ўсё тут зайцоў тых стралялі.* Дзяр.

ПАМАГА´ННІК, *м., спагадл.* Памагаты. *А гунь і памаганнік наш ідзе.* Ст.С.

ПАМАГА´ННІЦА, *ж., спагадл.* Памагатая. *Хай малым памагая наша памаганніца.* Гр.

ПАМАГА´ТАР, *м., зняважл.* Памочнік; памагаты. *Памочніку рады, а такіх памагатараў, каб адно за грошы, ні трэба.* Гр.

ПАМАЖНЕ´ЦЬ, *зак.* Узмужнець. *Настаяшча дзеўка стала, памажнела. А то ўсё дзіця была.* Кр.

ПАМАЛЕ´ЧКУ, *прысл.* 1. Не спяшаючыся, памаленьку. *І памалечку да заходу сонца зойдзяш.* Вальк. 2. Паступова. *Памалечку і мы зробімо, што трэба.* Гр. 3. Асцярожна. *Памалечку, памалечку, а то упадзяш.* Гр.

ПАМАЛЮ´СЕНЬКУ (памалюссяньку), *прысл.* Надта павольна (памалу). *І так ужэ памалюссяньку ідзе, ледзьвя ногі цягня.* Кр.

ПАМО´ЦНЫ, *прым.* Які памагае. *Гэто лякарство, кажуць, памоцно.* Вальк.

ПАМПУ´ШКА, *ж.* Невялікая звязка тытуню. *Вяжам у пампушкі і здаем тытунь.* Зл.

ПАМЯЛЬНІ´К, *м.* Памяло (для падмятання поду ў печы). *Памяльнікам вымятаю попял, як хлеп саджаю.* Ст. С.

ПА´МЯТКІ, *прым.* Які добра памятае, памятлівы. *Памяткі наш Казё быў — усё дазваня помніў, што дзе было.* Кр.

ПА´МЯТНІК, *м.* Помнік. *Умёр даўно Сідар той, а памятніка і сёніка на магілі німашака.* Гр.

ПАМЯТУ´ШЧЫ, *прым., экспр.* Тое, што і п а м я т к і . *І стары, а памятушчы такі: усё ведая, калі што дзе было ў нас.* Кр.

ПАНАПІЦО´ЎВАЦЬ, *зак. непаш.* Панапакоўваць. *Цэлыя торбы панапіцоўвалі.* Вальк.

ПАНАРА´ВІЦЬ, *зак.* Спадабаць. *От панаравіў ката хлопяц! І сьпіць зь йім.* Гр.

ПАНАРА´ЎНЫ, *прым.* Да спадобы. *Дахалеры панараўны хлопяц. Усе яго любяць.* Св.

ПАНЧО´ШКА, *ж.* Шкарпэтка. *Панчошкі летам носяць, а зімою панчохі.* Гр.

ПАНЫ´ГАЦЬ, *зак., асудж.* Гл. н ы г а ц ь . *Што ён тут еў — паныгаў, паныгаў — і ўсё цэло.* Ст. С.

ПАНЯВА´, *ж.* Скаварада. *Цэлу паняву рыбы насмажыў.* Едн.

ПАНЯ´ТЛІВЫ, *прым.* Кемлівы. *Яму много гаварыць ні трэбуло — хутко разбярэцца. Панятлівы чалавек быў.* Гр.

ПАПАДВО´КНІЧУ, *прысл.* Пад вокнамі. *Як вяселё, то людзей тых, як мурашок, пападвокнічу.* Ст. С.

ПАПАДЛА´ВІЧУ, *прысл.* Пад лавамі. *Чаго ён поўзая пападлавічу, выцірая пыл?* Кр.

ПАПАЛАКА́ЦЬ, *зак.* Папаласкаць. *Буду вешаць, ужэ папалакала.* Гр.

ПАПА́РЫЦЦА, *зак., зламоўн.* Паляжаць. *Халера за імі што папарыцца, усё павьцягваюць.* Ст. С.

ПАПАТРАПА́ЦЬ, *зак.* 1. Папатрапаць. 2. *незад.* Многа (вялікую дарогу) ісці. *От папатрапалі мы тагды, як машына сапсавалася.* Гр.

ПАПЕ́Р, *м.* Папера. *Белы, як папер.* Гр. *Паперу німа хату аклеяць.* Ст. С.

ПАПЕ́РЦІ, *зак., груб.* З'есці. *Усё паперлі, і зубоў зачапіць німа за што.* Ст. С.

ПАПЛЁ́НТАНЫ, *дзеепрым.* Паблытаны, патаптаны. *Німа яг жаць, усё жыто паплёнтано.* Кр.

ПАПЛЁ́НТАЦЬ, *зак.* Паблытаць, стаптаць. *Каравэ паплёнталі збожэо, то пасьля жніва палавіну каласоў на зямлі ляжьщь.* Гр.

ПАПРАВУ́НАК, *м., непаш.* Выздараўленне, ачуньванне. *Німа ніякага паправунку, усё хварэю.* Гр.

ПАПРЫБІВА́ЦЬ, *зак.* Гл. п р ы б і ц ь. *Папрыбіваў ралю, а цяпер сеяціму.* Св.

ПАПРЫ́ШЧЫЦЬ, *зак.* Гл. п р ы ш ч ы ц ь. *Блашчыцы кіпятком папрышчыла.* Пл.

ПАПУСЦІ́ЦЦА (папусьціцца), *зак.* Пасучы быдла, перайсці з ім далей ад дому. *Німа кала дому, недзя папусьціліся ў лес.* Св.

ПАПЭ́НКАЦЬ, *зак.* Гл. п э н к а ц ь. Кр.

ПАРАЖНЯВА́ЦЬ, *незак.* Бяздзейнічаць. *І я нічого ні зараблю, паражнюючы тут (з возам).* Гр. *Конь паражнюя, то бяры і гары ялавіну.* Св.

ПАРО́ЧНА (парочно), *прысл.* На год раз, за год. *Парочно плацім за дом, ні кожан месяц.* Гр.

ПАРШУ́-ПАРШУ́! *выкл.* Так клічуць вепрука. Гр.

ПАРШУ́К, *м.* Кабан, парсюк. *Свіню карміцімям на прыплот, а паршука заколям.* Ст. С.

ПА́СВІСКА (пасьвіско), *н.* Паша. *Высахло пасвіско, німа дзе кароў пасьвіць.* Едн.

ПА-СВО́ЙЦЫ, *прысл.* Кожны сваім, не мяняючыся (біць яйкі). Гр.

ПАСВЯ́ДЧЫЦЬ (пасьвяччыць), *зак.* Выступіць сведкам, пасведчыць. *І ён пасьвяччыў, што гэдык было.* Гал.

ПАСЛАБЧА́ЦЬ (паслапчаць), *зак.* Аслабіцца. *Трохі паслапчало ў боці, ні так цісьня.* Зл.

ПАСЛЕ´Д (пасьлет), *м.* Нячыстае, дробнае зерне; адыходы (пры арфаванні). *Пасьлет ат пшаніцы курам высыпалі.* Гал.

ПА´СМЕНЕ (пасьмянё), *н.* Пасма. *Пасьмянё ніцей ссукала.* Св. *Пасьмянё косаў.* Пл.

ПАСО´БЕ (пасобі), *прысл.* Асобна, паасобку. *Пасобі жывуць: бацько сабе, сын сабе.* Св.

ПАСО'ЛЬКА, *ж.* Дэкарацыйная (каляровая) фасоля. *Пасольку ў агароччыку пасадзіў.* Гр.

ПАСО´ЛЯ, *ж.* Суп з бульбы і фасолі. *Нахлёбаўсё пасолі і будзя зь міне.* Св.

ПАСПО´РВАЦЬ, *зак., асудж.* Падняць са сну, разбудзіць. *І чаго ён паспорваў йіх у такую рань?* Кр.

ПАСТРЫГА´ННІК, *м.* Тое, што і п а д с т р ы г а н н і к. *Хоць ні такі, як у горадзі, пастрыганнік, аля пацстрых. Усё лепяй, як касмач быў.* Гр.

ПАСЫКНУ´ЦЦА, *зак.* Зрабіць крок да выканання чаго, наважыцца. *Быў пасыкнуўсё сказаць, але змоўчаў.* Ст. С.

ПА´СЬМЕНЕ (пасьмянё), *н.* Пасма (льну, нітак). *Мо якоё пасьмянё напраду ішчэ, пасяджу трохо.* Гр.

ПАСЬЦІ´, *часц.* Амаль. *Пасьці поўно вядро надайіла за рас.* Кр. 2. Бадай. *Пасьці што ні варт самым пякчы хлеп — купляць выгадняй.* Гр.

ПАСЯДЗЁ´НКІ, *мн., непаш.* Вячоркі. *Кожны дзень ляціць на тыя пасядзёнкі, ні ўпыніць.* Ст. С.

ПАТА´ЧКА, *ж.* Патуранне. *Рас патачку даюць, то дзе ў яго (дзіцяці) рогі ні вырастуць!* Вальк.

ПАТРУ´ХА, *ж.* Дробныя астаткі сена, саломы; пацяруха. *Нацерласё патрухі, як сено вазілі.* Вальк.

ПАТЫ´ЧКІ, *адз.* п а т ы ч к а, *ж., застар.* Лічыльныя (школьныя) палачкі. *Бяс патычкаў лічыць, і ні трэба купляць йіх.* Кар.

ПАЎБУТЫ´ЛАК, *м.* Тое, што і п а ў б у т э л е к. *С паўбутылка паю цяля.* Св.

ПАЎБУТЭ´ЛЕК (паўбутэляк), *м.* 1. Пасудзіна ёмістасцю 1/4 літра; паўбутэлькі. *Цяперака ў паўбутэльку гарэлку рэтко ўгледзіш, усё ў бутэльках.* Яр. 2. Мера вадкасці — 1/4 літра. Дзяр.

ПАЎЗБІ´РВАЦЬ (паўзьбірваць), *зак.* Пасабіраць, пазбіраць, вырваць усё. *У гэтум лесі нічого німашака, усё паўзбірвалі — і ягады і казяке.* Кр.

ПАЎЗІРА´ЦЦА, *зак.* Паглядзець. *Паўзірайся, што там хлопцы робяць, мо паснулі ужэ?* Гр.

ПАЎПА´ЛЬТА (паўпальто), *н.* Кароткае паліто, паўпаліто. *У паўпальці ходзіць.* Гр.

ПАЎПА´ЛЬТКА (паўпальтко), *н.* Святочнае паліто. *На сьвято паўпальтко, на будзянь — пальто.* Гр.

ПАЎПРЫ´ЦА, *ж., абразл.* Пра дзяўчыну. *От нілюцка паўпрыца гэта.* Гр.

ПАЎСЛУХА´ЦЦА, *зак.* Прыслухацца. *Паўслухаўсё і кажа: — Сабака яхкая, недзя зайца даганяя.* Кр.

ПАЎСТРЫГА´ЦЬ, *зак.* Уваткнуць (у зямлю). *От, трохо паўстрыгала, мо парасьце (цыбуля).* Ст. С.

ПАЎТАРА´ЧКА, *ж.* Бутэлька ёмістасцю 0,75 літра. *Віна паўтарачку купілі.* Гр.

ПАЎХІ´Р, *м.* 1. Пухір. 2. *перан.* Карапуз. Ст. С.

ПАЎЧА´СТАК, *м., застар.* Мера зямлі — да 10,5 га. Кр., Пл.

ПАХВАЛЕ´ЙКА (пахвалейко), *м.* Хвалько. *Адно хваліцца — падло пахвалейко гэты.* Св.

ПАХРАБУСТА´ЦЬ, *зак., асудж.* Паламаць (з трэскам, хрустам). *Усе косьці пахрабустаў, як наехаў (на сабаку).* Кр.

ПАХРАСЦІ´ЦЦА (пахрасьціцца), *зак.* Парасці, папускаць расткі (пра бульбу). *Трэ пяраціраць картоплі, пахрасьціліся, як цяпло стало.* Гр.

ПАХУДНЯ´ЦЬ, *зак.* Пахудзець, пахуднець. *Пахудняў бычок за зіму.* Св.

ПАЦЕ´РЦІ, *зак.* Пакамячыць (адзенне). *Ведама, ні згорня, кіня абы-як, то дзе яе ні патрэш!* Ст. С.

ПАЦЁ´С, *м.* Столь. *Што над намі уверх нагам? — Муха на пацёсі.* Дзяр. *Рос боп, рос гаш пат пацёс.* Св.

ПА´ЧАСЕ (пачасё), *н.* Адыходы (кудзеля) пры часанні льну. *Кужалю начасала капу, і пачася німало начасаласё.* Гр.

ПА´ЧАСІ (і пачасы), *мн.* Тое, што і пачасе. *Пачасы праду.* Кар.

ПАЧЫ´НАК, *м., перан., жартаўл.* Пра тоўстае. *Ад'елася, рукі–пачынкі і касцей ні дамацаясься.* Ст. С.

ПАШТА´Р, *м.* Паштальён. *Пісьмо паштар прынёс.* Пл.

ПАШУГА´ЦЬ, *зак.* Гл. шугаць. *Пашугай хлопца.* Гр.

ПАШЧЭ´НКА, *ж.* Ніжняя чэлюсць. *Як падаў, пашчэнкаю здаўсё.* Гал.

ПАШЫХАВА´ЦЬ, *зак.* Пашанцаваць. *От яму пашыхавало: і туды і назат сваяк прывёс.* Ст. С.

ПЕ´ЛЮСЦІ (пелюсьці), *мн.* Праход у печ; чалеснікі. *І ў пелюсьцях закіпіць, як на хлеп напальваяш печ.* Вальк.

ПЕЛЯНГАВА´ЦЬ (пялянгавацъ), *незак., асудж.* Даглядаць, празмерна многа клапаціцца (аб дзіцяці). *Лепшы выраз бы, кап так ні пялянгавала яго змалянкосьці.* Зл.

ПЕНЬ, *м.* Калода (пчол), вулей. *Тры пні пчол маю.* Ст. С.

ПЕРАВА´РАНАЯ (пяраварана), *прым.* Якая закіпела, перагатаваная. *Сырой нігды ні п'е, адно пяраварану.* Вар.

ПЕРАВЯ´ЗІСТЫ (пяравязісты), *прым.* 1. Пераціснуты (пра сноп). *Пяравязістыя снапэ некія, адно вузырэ стрычаць.* Гр. 2. З доўгай таліяй. *Нека дзеўка пяравязіста.* Св.

ПЕРАГАВО´РШЧЫК (пярагаворшчык), *м.* Перакладчык. *Бяс пярагаворшчыка адзін аднаго ні панімаюць.* Вальк.

ПЕРАГУ´КАЦЬ (пярагукаць), *зак.* Гл. г у к а ц ь. *Ні зганяў да кнура, і пярагукала ўжэ.* Кр.

ПЕ´РАД (перат), *прыназ.* У параўнанні з. *Перад леташнім цяперака менш грыбоў, хоць казякоў шмат.* Гр.

ПЕРАДО´М (пярадом), *прысл.* Даўней, уперад. *Пярадом такой сушы ні было, як цяпер.* Гал.

ПЕРАЖА´БІЦЦА (пяражабіцца), *зак.* Перагнуцца. *Пераэкабілася — дугі ні сагнулі с тае бярэсьціны.* Даўг.

ПЕРАЖО´ВІНЫ (пяражовіны), *мн.* Пераэкаванае. *Нешто много пяражовінаў ж жолуба дастауў — карова слабо ела.* Вальк.

ПЕРАЛЯЦЕ´ЦЬ (пяралядецъ), *зак.* Зламацца нечакана, з трэскам. *Думаў, вытрымая клатка, як наехаў — пяраляцела.* Дзяр.

ПЕРАПІЛІ´КАЦЬ (пярапілікаць), *зак., незад.* Перарэзаць (тупым, з цяжкасцю). *Нуй нош, ніткі ні пярапілікая.* Зл.

ПЕРАРО´ЧНЫ (пярарочны), *прым.* Такі, які дае плады не кожны год, а праз год («рок»). *Гэта яблыня пярарочна: рок родзіць, а рок не.* Ял.

ПЕРАСЯ´ДКА (пярасятка), ж. Перасадка. *Ехаў бяс пярасяткі.* Вар.

ПЕРАХЛЯ´БІСТЫ (пярахлябісты), *прым.* Худы, ненаеты — з упалымі пахамі. *Ні панаядаліся, пярахлябістыя каравэ.* Гр. *Ні конь, а драба нека — пярахлябісты такі.* Се.

ПЕРАХЛЯ´БІЦЦА (пярахлябіцца), *зак.* Схуднець ад голаду (пра быдла). *Німа пашы, скаціна чысто пярахлябілася.* Гал.

ПЕРАЦІРА´ННІКІ, *мн.* Тыя, што пераціраюць, ачышчаюць бульбу ад расткоў. *Мае вы пяраціраннікі, стаміліся ўжэ, пе-*

*раціраючы картоплі. Аля ўжо адно трохі засталосё, давайця кончым работу.* Ст. С.

ПЕРАЦІРА´ЦЬ (пяраціраць), *незак.* 1. Ачышчаць бульбу ад расткоў. *Пяраціраю картоплі на заўтра варыць.* Вальк. 2. Рабіць зацірку — мяшаць муку з вадой (яйцом), расціраючы грудкі. Кр.

ПЕРАЧА´ЎРАЦЬ (пярачаўраць), *зак.* 1. Ачуняць, адолець хваробу. *От, пярачаўраў, і лепш стало.* Св. 2. Праліпець. *Мо як пярачаўраю зіму.* Гр.

ПЕ´РВІНА, *ж.* Першы ўкос. *З вос первіны прывёс, і атавы трохо будзя.* Кр.

ПЕ´РСЦІ (персьці), *мн.* Грудзі (у каня), персі. *От персьці ў таго жарапца!* Вальк.

ПЕ´СТА, *м.* і *ж.* Пястун, пястуха. *Такому ні ўнараві — песта. І яна такая самая песта.* Гр.

ПІДНАВА´ННІК, *м.* Той, хто пільнуе што–небудзь, сторож. *І ўночы ў садзі начуя наш піднаваннік, каб яблыкаў хто ні абабраў.* Ст. С.

ПІДНАВА´ЦЬ, *незак.* Старажыць, пільнаваць. *Стары, так хоць дом піднуя.* Гал.

ПІЛАВІ´НЫ, *мн.* як *зборн.* Пілавінне. *Як шаляваў хату, пілавінамі ацяпліў сьцены.* Кр.

ПІЛІ´КАЦЬ, *незак., незад.* Рэзаць (тупым інструментам). *Будзя табе пілікаць падоскам гэтым.* Св.

ПІ´ЛЬНА (пільно), *прысл.* Неадкладна, тэрмінова. *Бяжы, як пільно трэба.* Св.

ПІНДЖА´К, *м.* Пінжак. *У пінджаку апрануты.* Кр.

ПІ´ПАЦЬ, *м.* Носік у пасудзіне. Зл.

ПІРЫ´ЦЬ, *незак.* 1. Праць. *Пайшла палатно пірыць.* Зл. 2. Біць, лупцаваць, пірыць. *Хай пірыць, раз заслужыў.* Гал.

ПІСКЛЯ´, *ж.* Піскляк. *І сну яму німа, піскля нека.* Вар.

ПІТУ´К, *м., непаш.* Аматар выпіць, піток. *Які с старого пітук ужэ? Мо чарку вып'я.* Кр.

ПІТУ´Н, *м., непахв.* Піток. *Нуй пітун: чаркі гарэлкі за вечар ні выпіў!* Кр.

ПІТУ´ШКА, *ж.* 1. *застар. жартаўл.* Невялікі гаршчочак. *Пітушку крупніку зварыла — і ні выялі.* Гр. 2. *зняважл.* Нос. *Пітушку разьбіў, кроў юшыць.* Ст. С.

ПІЦАВА´ЦЬ, *незак., асудж.* Класці, пакаваць. *Наеўсё і ішчэ ў кішэні піцуя.* Гал.

ПЛАВУ´К, *м*. Плывец. *Які зь міне плавук, як сакера, на дно іду*. Кр.

ПЛА´ЗМА, *прысл*. Плазам. Пл., Зл., Кр.

ПЛАЦЕ´НКА (плаценко), *н*. Самаробнае палатно з суконных і кужэльных нітак; шарачок. *Плаценка ні хваціло на пінджак*. Зл.

ПЛЕ´ЧЫ, *мн*. 1. Падкладка (у кашулі). Кр. 2. Ватныя плечыкі ў вопратцы. *Плечы выкінуў у пальце*. Св.

ПЛЕШ, *м*. Верхні стык страхі; вільчык. *Плеш накрываям яшчэ дошкамі, карытам такім*. Гр.

ПЛЁ´НТАЦЬ, *незак*. Блытаць. *Ніці плёнтаюць, канца ні знойдзяш*. Вар.

ПЛЫ´ТКА (плытко), *прысл*. Неглыбока, мелкаводна. *Тут плытко, можно пярайсьці*. Яр.

ПЛЫ´ТКІ, *прым*. 1. Мелкаводны. *Плыткая рака*. Гал. 2. Мелкі. *Плыткі палмісак*. Гр.

ПЛЫТЧА´ЦЬ (плыччаць), *незак*. Станавіцца мелкім (мелкаводным). *Сушыць, так і рэчка плыччая*. Св.

ПЛЮСКАЦЕ´ЦЬ, *незак*. Хлюпаць. *Вады набраў у боты, гаш плюскаціць*. Вальк.

ПЛЮ´ТА, *ж*. Кепскае надвор'е, слота. *Дзе ты ў такую нігадзіну пойдзяш: цемнач, плюта, хоць ты с хаты ні вылась*. Гр.

ПЛЮШЧА´ЦЬ, *незак*. Плюхаць, хлюпаць (пра вадкасць у абутку). *Мусіць, набраў вады ў бот — плюшчыць*. Вальк.

ПЛЯ´ГА, *ж*. Флегма. *Прастудзіўсё, плягу аткашліваю*. Кр.

ПЛЯ´МКАЦЬ, *незак*. Пляскаць (пры ядзе). *Брытко плямкаць, як ясі Чысто свіня*. Гр.

ПЛЯСКА´Ч, *м*. Гатунак ячменю — з двума радамі зярнят у коласе. Вар.

ПЛЯТНЯ´К, *м*. 1. Пляцень. *Плятняк згніў, і свіня ў вагарот лазяць*. Вальк. 2. Зашчытак ад снегу. *Замяце шашу, як плятняк ні паставяць*. Гр.

ПЛЯШЫ´ЦЬ, *незак*. Накрываць страху на стыку — плеш (гл.). *Плеш пацёк, будзям пляшыць*. Гр.

ПО´ВЕРХУ (повярху), *прысл*. Паверх, вышэй. *Повярху пусьціў, а так па бляс і забарабаніў бы*. Св.

ПО´ДЗЕЛЕНКІ (подзялянкі), *адз*. подзеленка, *ж*. Асеннія грыбы з зялёным сподам у шапачцы. *Подзялянкі добро саліць*. Вальк.

ПО´ДЗІШЧА, (подзішчо), *н*. Подсцілка для стога. *Подзішчо на стох рабілі с каменя, лазы, дроў*. Ст. С.

ПО´ДЛАПКА, *ж.* Падкладка пад з’езджаны полаз. *Подлапкі трэ даць, палазэ зьлізаліся і капылом шаруюць.* Вальк.

ПО´ДУШКА, *ж.* 1. Падушка. Кр. 2. Пракладка ў калёсах — над пярэдняй воссю. Вар.

ПО´КАЗКА (покаска), *ж.* Прыказка. *Много покаскаў ведая гэты чалавек.* Гр.

ПО´КУП, *м.* Попыт. *Як німа покупу, то і ні прадасі.* Св.

ПО´ЛЫМЯНЕ (полымянё), *н.* Полымя. *Дым ішоў, а цяпер полымянё відно.* Гр.

ПО´РТАЧКА, *ж.* Тое, што і г а л ь к а . Едн.

ПО´РТКІ, *мн.* Штаны з валенага дамашняга сукна. *Порткі цьвярдыя і цяшкія.* Св.

ПО´СПАЛЬ, *прысл.* Запар. *Два дні поспаль ні вылазіць с хаты.* Дзяр.

ПО´ЎПРЫК, *м., зняважл.* Пра малое дзіця. *Куды ён палес, поўпрык гэты?* Вальк.

ПО´ЎРАЗ (поўрас), *м., застар.* Завязка, вяровачка (часцей рубец з адзення). *Мо які поўрас есьцяка мяшок завязаць?* Вар.

ПОЎХ, *м., застар.* Крот. *Бало ўсё казалі поўх на крата.* Гр.

ПО´ХВА, *ж.* Футарал (для брытвы, акуляраў). *Бяс похвы акуляры каб ні раздушыў у кішэні.* Кр.

ПО´ЧКА, *ж.* 1. Нырка. *Запаленё почак.* Св. 2. *перан., абразл.* Малая жанчына. *Почка гэта яму па пояс. Од жонка!* Вальк.

ПО´ШВА, *ж.* Навалочка. *Пошву на подушку з антуляжамі нацягнула.* Гр.

ПРАГА´ПІЦЬ, *зак.* Празяваць, прамаргаць. *Прагапіў такую карову, а купіў блыху неку.* Зл.

ПРАДЗЕ´ННІЦА, *ж.* Жанчына, якая прадзе кудзелю. Гр.

ПРАЕ´РХ, *м.* Прарэх (у кашулі, сарочцы). *Расхрэстаусё, праерха ні зашпіліць і ходзіць так.* Ст. С.

ПРАЖО´РА, *м.* і *ж., абразл.* Ненаедны, ненажэрны. *Пражора гэта ўсё с потрахамі зьзела і ішчэ мало.* Кр.

ПРАЗ (прас), *прыназ.* Пра. *Усё прась цябе гаварылі, што доўго німашака.* Яр.

ПРАКІ´НУЦЦА, *зак.* З’явіцца і хутка знікнуць. *От, былі пракінуліся грыбэ, то трохі насушылі.* Едн.

ПРАМАНУ´ЦЬ, *зак., асудж.* Увайсці ў прывычку. *Праманув голы мыцца увосянь на дварэ, і хоць ты яму што хоч.* Кр.

ПРАРАКАВА´ЦЬ, *незак.* Прадказваць, быць прарокам. *Ні буду я прараковаць, аля яно так і будзя.* Ст. С.

ПРАСАВІ´ДЛА (прасавідло), *н.* Прас, жалязка. *Астыло прасавідло, і вуглёў боляй німа. Чым ты прасавацімяш?* Гр.

ПРАСВЕ´ТНАЯ (прасьветная), *ж.*, *зняважл.* Вольны час. *Прасьветнае ні было за работаю.* Ст. С.

ПРАСТРЭ´Л, *м.* Незасаджанае, незабудаванае месца (на двары, пляцы). *На гэтум прастрэлі пасадзім грушу і пару вішняў.* Вальк.

ПРАСЦЯ´ЦКІ (прасьцяцкі), *прым.* Дабрадушны, прасцецкі. *Натто прасьцяцкі хлопяц, ніц ні задаецца.* Св.

ПРА´ТАЦЬ, *незак.* 1. Апаражняць (воз ад снапоў). *Трэба пратаць (снапы) да вос выкаціць з гумна.* Гр. 2. Наводзіь парадак (на стале). *Прач стол, хай мухі ні кормяцца.* Ст. С.

ПРАЎДЗІ´ВЫ: праўдзівы грыб — баравік. Едн.

ПРАЎШНЯ´К, *м.* Вушак (у раме дзвярэй). Кр.

ПРАЧУХА´НКА, *ж.*: даць прачуханкі — налупцаваць (*жартаўл.*). Кр., Гр.

ПРАЧЫХА´ЦЦА, *незак.* Прачынацца. *Спіць і ні прачыхаяцца, як ні будзі.* Св.

ПРО´ДУХА, *ж.* Адтуліна для паветра (духу). *Продуху пусьці, ні так пацецімя.* Гал.

ПРО´ША!, *выкл.* Калі ласка! *Нехто стукаўся да нас, ці што.— Проша, проша!* Зл.

ПРУГІ´ (пруге), *мн.* Дзве планачкі, змацаваныя пасярэдзіне, для нацягвання палатна пры тканні. Гр.

ПРУ´ДЗІЦЬ, *незак.*, *экспр.* Знішчаць. *Кіпяткам прудзілі блашчыцаў.* Кр.

ПРУЖЫ´НА, *ж.* Культыватар. *Пружынаю трохі драпаўканюшынішчо, а тагды згараў.* Едн.

ПРУЗУ´К, *м.* Завязка з раменю. *Каб якого прузука лепшаго, вужык адвязваяцца ў цэпі.* Кр.

ПРУ´ТКІ, *прым.* Дужы, з моцнымі мускуламі. *Гэты Іваначко, німа ніц што малы, а такі пруткі. Яго ні пакоціш, рукі ні сагнеш.* Гр.

ПРУШНЯ´К, *м.* Вушак. *Прушняк згніў у дзьвярох, вывальваяцца.* Ст. С.

ПРЫБІ´ЦЬ, *зак.* Параўнаваць (раллю перад сяўбою). *Ідзі прыбі ралю, ні так жыто зьлятацімя ў разоры, як сеяць буду.* Вар.

ПРЫ´ВАРАК, *м.* 1. Прыпасы для някіслага варыва (мука, крупы). *Прыварак вышаў, трэ малоць ехаць.* Св. 2. Мука (з ячменю і пшаніцы) на бліны. *С прыварку добрыя алаткі.* Пл.

ПРЫЖДА´ЦЬ, *зак.* Прычакаць *Ні прыждаў сына з вайны.* Яр.

ПРЫ´ЖЫЦЬ, *незак.* Пячы (гарох); пражыць. *На скварадзе гарох прыжыць.* Вар.

ПРЫЛА´ПІЦЬ, *зак.* Налатаць збольшага (не ўсё). *Прылаплю, і насіцімя за каравамі: гэто ні ў школу.* Вальк.

ПРЫМАСТАКО´ЛІЦЦА, *зак., экспр.* Гл. мастаколіцца. *Хоць тут як-нібуць прымастаколюсё да вас.* Ал.

ПРЫ´МАСТКІ, *мн.* Палаці (для спання). *Німа дзе спаць. Прымасткі зробімо, і высьпісься.* Ст. С.

ПРЫМЕРГАВА´ЦЬ (прымяргаваць), *зак.* Прыкінуць, прымерыць — ці падыходзіць. *Трэ прымяргаваць, мо задоўга дошка.* Вар.

ПРЫМО´РАК, *м.* Выступ збоку печы, прымурак. *На прыморку рукавіцы ляжаць.* Кр.

ПРЫНО´ЖАК, *м.* Перакладзіна, што злучае ўнізе ножкі стала (табурэткі). *Ногі хай ні віснуць, стаў на прыножак.* Гр.

ПРЫПІДНАВА´ЦЬ, *зак.* Прыпільнаваць. *І прыпіднуя, як руку садзіцімя, тагды — цап за руку!* Пл.

ПРЫПУСЦІ´ЦЦА (прыпусьціцца), *зак.* Пасучы, падыйсці (з быдлам) бліжэй да хаты. *Прыпусьціліся, то ідзі падой карову.* Вальк.

ПРЫПУСЦІ´ЦЬ (прыпусьціць), *зак.* Моцна пабегчы. *Дзе ты дагоніш яго! Як прыпусьціў, адно ногі выляскваюць.* Св.

ПРЫСА´ДКІ (прысаткі), *мн.* 1. Пладовыя дрэвы. *Трэ прысаткі калізаваць, хай ні дзічаюць, большыя яблыкі расьцімуць.* Гал. 2. Дрэвы вакол сядзібы. *Бяс прысаткаў вецяр выдувая хату, халадно.* Св.

ПРЫСКРЫ´НАК, м. Бакавая скрыначка ў куфры. *Укінь у прыскрынак грошы.* Яр.

ПРЫ´СТАРАНАК, *м.* 1. Зруб, які аддзяляе бакавую частку гумна ад току. *Па прыстаранку цэпам ні бі — біч разаб'еш.* Вар. 2. Невялікая бакавая частка гумна для складвання снапоў. *Ячмень у прыстаранак злажылі.* Гр.

ПРЫСТАЎЛЕ´ННЕ (прыстаулёнё), *н.* Спектакль, прадстаўленне. *На прыстаўленё егдзілі ў горат.* Зл.

ПРЫСТА´ЦЬ, *зак.* Пайсці жыць у сям'ю ўдавы, стаць потым мужам яе. *Наш матадыст прыстаў да Волькі і жыве. Ужэ дзіця есьцяка ад яго.* Гр.

ПРЫЧАПУ´РЫЦЦА, *зак., жартаўл.* Прыбрацца. *Прычапурылася і чакая кавалера свайго!* Ял.

ПРЫШЧА´ЙКА, *ж.* Прышч. *Нека прышчайка села на шчацэ — і баліць, ні даткнуцца..* Кр.

ПРЫ´ШЧЫЦЬ, *незак.* Знішчаць насякомых варам. *Блашчыцы прышчыла кіпяткам.* Гр.

ПРЭ´НДКІ (прэнткі), *прым. зняважл.* Хуткі, нецярплівы. *Бачыш, які ён прэнткі: адно прышоў і давай есьці. Што ты лепшы за ўсіх?* Гал.

ПРЭНТ, *м.* Прут (жалезны). *Каб які прэнт, мо выламаў бы йім.* Зл.

ПРЫЯ´ЦЬ, *незак.* Прыхільна адносіцца (да каго), мець ласку, зычлівасць. *Ведама, свой, як яна ні прыяцімя яму.* Гр.

ПСІК! *выкл.* Так адганяюць ката. Гр.

ПУ´ГАЦЬ, *незак., экспр.* Піць, есці (суп). *Пугая, гаш вушы трасуцца.* Ст. С.

ПУК, *м.* Галінкі, пасечаныя і звязаныя ў куль, для паліва. *У пеццы пукамі палімо, а ў печы дрывамі.* Св.

ПУЛЬНУ´ЦЬ, *зак., экспр.* Кінуць, шпурлянуць. *Куды ты пульнуў камянь? Ні пабіў акна ішчэ?* Вальк.

ПУЛЯ´ЦЬ, *незак.* Гл. п у л ь н у ц ь. *От любяць малыя каменьчыкі ў воду пуляць.* Кр.

ПУ´НТАМІ, *прысл.* З перапынкамі. *Да палудня пунтамі ішоў, а цяперака лье бяспярэсьціху.* Гр.

ПУ´ПЕХ (пупях), *м.* 1. Пупышка. *Пупяхі набрынялі, хутко распусьцяцца.* Св. 2. *перан.* Невялікі плод. *Пупяхі тыя — і ўжэ ядуць!* Гр.

ПУСТАСМЕ´Х (пустасьмех), *м.* і *ж., асудж.* Хто бездайпрычыны смяецца. *От, есьцяка ш чаго ці німашака, усё сьмяецца пустасьмех гэты.* Вар.

ПУСТКІ´ (пустке), *мн.* Пустая зямля, пустка. *Тут нічого ні расьцімя — пустке.* Ст. С.

ПУХА´, *ж.* 1. Тупы канец яйца. *Пуха ні такая моцная, як насок.* Кр. 2. Пустая частка яйца. *Пуха збоку, паглядзі пярат сьветам на яйцо — угледзіш і ты.* Вальк.

ПУ´ЦАЛАВАТЫ, *прым.* Мардаты. *Натто пуцалаваты твой кавалер: морды, яг баханкі.* Гр.

ПУ´ЦЕНЬКІ (пуцянькі), *адз.* п у ц е н ь к а, *ж. пяшчотл.* Кураняткі. *Дай, сынку, вады пуцянькам.* Св.

ПУЦЬ-ПУЦЬ!, *выкл.* Так клічуць куранят. Ст. С.

ПУЧО´К, *м.* Тое, што і п у к. *Пучок прынёс, у пецци прапалім.* Гр.

ПУ´ЧКА, *ж.* Костачка (на пальцах рукі). *Пучкі паабіваў на руках.* Една.

ПУШЫ´ЦЬ, *незак.* Пучыць. *Гароху наеўсё, так пушыць.* Гр.

ПШО´ННЫ, *прым.* Пшанічны. *С пшоннае мукі блінцоў напякла.* Гал.

ПЫРЭ´Й, *м.* Пырнік. *Пырэй парос, заглушыў авес усей.* Вальк.

ПЫ´СКІ, *мн.* Пыса. *Адно пыскі аблізвая Лыско, як мяса паеў.* Зл.

ПЫТЛЯВА´ННІК, *м.* Той, хто пытлюе збожжа. *Мо хутко і наш пытляваннік прыедзя (з мукою), людзі ўжэ едуць з бліна.* Гр.

ПЭ´НКАЦЬ, *незак.* Лопаць, пукаць. *На марозі стаяла бутэлька, так пэнкла.* Зл.

ПЭ´ТЛАХІ, *мн., груб., рэзк.* Астаткі. *Марш адгэтуль, каб і пэтлахаў твайіх ні было туту.* Гр.

ПЭ´ЦКАЛА (пэцкало), *н.* Пэцкаль. *Каб добры майстар, а то пэцкало гэто, адно напэцкая.* Дзяр.

ПЯКЕ´ЛЬНІЦА, *ж.* Кепскае жыццё, пекла. *Халера яго ўжыве ў пякельніцы гэтуй: грыжа заесьць.* Ст. С.

ПЯЛЮ´ШКА І, *ж.* Пялёнка. *Спаві дзіця, мо халадно яму ў пялюшках.* Яр.

ПЯЛЮ´ШКА ІІ, *ж.* Кармавы гарох. *Пялюшку каравом на сілос сеюць, а так — горкія зярнята ў ёй.* Кр.

П'ЯНЫ ◊ П'яны як зямля — надта п'яны, п'яны ў дым. Гр.

ПЯРГА´, *ж.* Пылок (пчаліны). *На ношках у пчалы пярга.* Една.

ПЯРЭ´ДНІЦА, ж. Вяроўка ў пярэдняй частцы калёс (для умацавання снапоў, сена). *Пярэдніцу завельку пусціў, добро сена ні ўцïснулі.* Вальк.

ПЯРЭ´ЗВЫ, *мн.* Пачастунак у бацькоў маладой (праз тыдзень пасля вяселля). Яр.

ПЯРЭ´МЕШКА (пярэмяшка), *ж.* Няўладзіца. *Мо якая пярэмяшка будзя, куды ты тагды бяс свае хаты падзенясься?* Вальк.

ПЯРЭ´РВА, *ж.* Перапынак. *Дзве хоткі змалацілі бяс пярэрвы.* Ал.

ПЯСЧУГА´ (пяшчуга), *ж. зборн., узмацн.* Пяскі, пясчаная зямля (глеба). *Якая там зямля! Пяшчуга адна, ніц ні родзіць.* Кр. *Вочы пяшчуга засыпая.* Пл.

ПЯТНАСТО´ЎКА, *ж.* 1. *жартаўл.* Вельмі маладая (гадоў пятнаццаці) дзяўчына. *Стары, а ўсё пятнастоўкі наўме!* Вар. 2. *пагардл.* Немаладая дзяўчына, якая надта маладзіцца. *Гэто Ладзява пятнастоўка такая. Пац сорак ужэ!* Зл.

ПЯТУ´Х, *м.* Певень. *Пятух і шуляка ні байіцца. І яго шуляк ні бярэ, адно курэй.* Гал.

ПЯЧА´ЙКА, *ж.* Пякотка. *Нешто пячайка пячэ. Мо што кепско зьзеў?* Вальк.

ПЯЧО´НКА, *ж.* Бульба, спечаная ў прыску. *Пячонкаў як напячэм на полі — от смашныя!* Вар.

ПЯЧО´РКА, *ж.* 1. Адтуліна ў сцяне печы, пячурка. *Палажсы мокрыя рукавіцы ў пячорку, хай высахнуць на заўтрашні дзень.* Кр. 2. Адстаўлены (дошкай) закутак, куды вылятае з малацілкі салома. *У пячорцы найгорш пылам заносіць, як малоціш.* Гр. *Ты ў пячорцы стой, салому выкідай, а я буду снапэ падаваць разьвязваючы.* Вальк.

ПЯЧУ´Р, *м.* 1. Пячнік. *Кахлёва печка распадаяцца, і ні магу наняць пячура, кап папарвіў яе.* Гр. 2. Той, хто любіць палежваць на печы. *І с печы ні згоніш пячура гэтаго. Даў бы мне трохі пагрэцца на печы.* Гр.

## Р

РАБАЦЕ´ННЕ (рабаценё), *н.* Вяснушкі; рабацінне. *Як вясна, так і рабаценё на хлопца нападая.* Гр.

РАБЭ´ЙЖА, *м.* і *ж.*, *абразл.* Рабы. *Хто гэтаго рабэйжу любіцімя, як такі ішчэ нілюцкі, га?* Гр.

РАВАРЫ´СТ, *м.* Веласіпедыст. *За раварыстым ні збяжысся, ён раз-два заедзя.* Вар.

РАВІДАВА´ЦЬ, *незак.* Аналізаваць (труп для высвятлення прычыны смерці). *Мусіць, будуць равідаваць, каб ведаць, ач чаго ўмярла.* Зл.

РАГА´ТЫ, *прым.*, *зняважл.* Недаступны, «бадлівы». *Дзе ты да яго падыдзяш, рагатаго такого!* Св.

РАГА´ЦІНА, *ж.* Рагуліна. *Мо вілы якія зробіш з гэтае рагаціны? Давай сьпілуям рагаціну тую, бо вішняў на ёй усяроўно ні будзя.* Гр.

РАГА´Ч, *м.* Прылада — вілкі ставіць у печ ці вымаць з печы гаршкі, чыгуны. *І дзе падзеўся той рагач? Чым я гаршке ставіціму ў печ?* Едн.

РА´ДЗІВА (радзіво), *н.* Радыё. *У кожнуй хаці цяпер есьцяка радзіво.* Св.

РАДЗІ´ННІЦА, *ж*. 1. Парадзіха. *Яг здароё радзінніцы?* Гр. 2. Удзельніца радзінаў (хрэсьбінаў). *Радзінніца прышла ўжэ з радзінаў*. Ст. С.

РАДЗЮ´ЖКА (радзюшка), *ж*. 1. Посцілка свае работы, вытканая з грубай пражы; дзяружка. *Радзюшкаю акрыйся, а то голы сьпіш — халадно так*. Яр. 2. Пакрывала свае работы, з узорамі. *От наткала харошых радзюжак. На лошко, на сьцену вешаюць*. Пл.

РАДНО´, *н*. Падвойная свае работы посцілка з грубай пражы. *Радном, як халадней акрыямсё, а як цяплей — радзюшкаю*. Св.

РАДНЯ´НІЦА, *ж*. 1. Кудзеля з адыходаў (пры трапанні льну). *Прадзе радняніцу*. Яр. 2. Ніткі і палатно з гэтых адыходаў. *Радняніцы напрала і наткала. На мяшке будзя і на радзюшку*. Вальк.

РА´ЖАЧКА, *ж*. Драўляная пасудзіна для цеста на бліны. *Рашчыніла бліноэ ў ражацы*. Вар.

РА´ЖКА (рашка), *ж*. Пасудзіна (невысокая, авальнай формы) з векам для захавання мяса (сала). *Поўну рашку с паршука наклалі*. Гр. 2. *перан. груб*. Галава. *Усюды рашку сваю ўсадзіць! Ні бачыў, ці што?* Ст. С.

РАЗАГНА´ЦЬ, *зак*. Падзяліць (рой пчолаў). *Моцны вельмі рой пчолаў, ні тоўпяцца ўсе ў вульйі, трэба разагнаць на два*. Св.

РАЗБАЗЫ´РАЦЬ, *зак*. Раздурыцца, што хацець, тое і рабіць. *Разбазыраў так, што ні бацька, ні мацяры ні слухая*. Дзяр.

РАЗБА´ХАЦЬ, *зак*., *незад*. Залішне разбавіць. *І нашто так разбахалі? Адна вада, ні раствор стаў*. Св.

РАЗБРУХІТА´ЦЬ, *зак*., *асудж*. Раскідаць, парассоўваць. *Пасьцель усю расбрухітала, як сьвіня*. Кр. *Стох расбрухіталі дзяціска гэтыя*. Вальк.

РАЗБУЯ´ЦЦА, *зак*. 1. Разгудзецца. *Буяць і буяць — от разбуяліся самалёты*. Кр. 2. Разбуяніцца. *Так разбуяўсё, што гэтуй жонцы хоць с хаты ўцякай*. Кр.

РАЗВАЛЬНЕ´ННЕ (развальненё), *н*. Панос. Ал.

РАЗВО´ДНІЦА I, *ж*. Веснавы разліў вады, разводдзе. *У нас на хутары як разводніца, то хоць ты с хаты ні вылась: нідзе ні прайсьці — вада!* Кр.

РАЗВО´ДНІЦА II, *ж*. Жанчына, якая ўзяла развод з мужам. *У яго жонка ўмярла, так хоча сабе ўзяць разводніцу якую, што бяз мужыка жыве*. Св.

РАЗГА´ДАЦЦА, *зак., жартаўл.* Разгаварыцца. *Дзе ты што пачуяш, так разгадаўсё зь ею.* Гр.

РАЗГАНЯ´ЦЬ, *незак.* Падзяляць рой пчол. *Пашлі пчалярэ рой разганяць. Хочуць з аднаго два зрабіць.* Св.

РАЗГАРА´ЧЫЦЬ, *зак.* Расставіць (ногі), раскірачыць. *Разьдзярэсься, так разгарачыў ногі!* Кр.

РАЗ-ДВА´, *прысл.* Надта хутка, неадкладна. *Бяжы — і хай раз-два ідуць!* Вар.

РАЗДРАЖДЖАНЕ´ЦЬ, *зак.* Набрыняць вадою, размокнуць (пра зямлю). *Пасля таго навальнаго дажджу дзе ты ўлезяш с плугам — так раздражджанело полё.*

РАЗЗЁ´ВА , *м.* і *ж.* Разява. *Каб ні быў разьзёваю, дастаў бы і ты, а так ні мецімяш.* Дауг.

РАЗЗУВА´ЦЦА, *незак.* Здымаць абутак, разувацца. *Тудака ўжэ глыбоко, трэба раззувацца, бо поўныя боты вады набярэш.* Гр.

РАЗЗУ´ЦЦА, *зак.* Разуцца. *Каб раззуцца, то набасяка ляхчэй было б нагам і здаравей хадзіць.* Св.

РАЗЛЕ´ЗЛІК (разьлезлік), *м.* 1. Плакса. *Ні зачапі яго — ужэ і разьлезяцца — плача разьлезьлік.* Гр. 2. *незад.* Нямоцнае адзенне. *Што за тавар? Разьлезьлік некі. Ні ўсьпеў пашыць, і разьлесьсё пінджак.* Кр.

РАЗМАЖДЖЫ´ЦЬ, *зак.* Разбіць, размажджэрыць. *Як напіўсё, усё размажджыў у хаці.* Яр.

РАЗМУЗНЕ´ЦЬ (размузьнець), *зак.* Раскуляшэць, раствaрыцца пасля доўгага стаяння (пра зацірку). *Як сьвежа, люблю зацерку, а пастайіць, — размузьнея — от ні люблю.* Ст. С.

РАЗРАБІ´ЦЦА, *зак.* 1. Увайсці ў ахвоту пры рабоце. *Як разробісься — і дзень малы.* Вальк. 2. *непаш.* Патаўсцець, пасыцець. *Мусіць, ні кепско жыве, рас так разрабілася.* Кр.

РАКАВЫ´, *прым.* Такі, які бывае адзін раз на год («рок»), гадавы. *Німожно сёніка рабіць: ракавоё сьвято — Ян.* Гр.

РАНДО´ЛЕК (рандоляк), *м.* Каструля (выкарыстоўваецца не для гатавання стравы, а як посуд для захавання яе). *У рандольку масло трымаям, малако, а варымо есьці ў чыгунох.* Гр.

РАНЭ´ТА, *ж.* Гатунак яблыкаў; ранет. *Пасадзіў сабе на развот яблыню ранэту.* Дзяр.

РАПТО´ВЫ, *прым.* Нечаканы, раптоўны. *Ні ўцёк і я ад дажджу таго — такі раптовы лінуў.* Гр. *Раптова сьмерць — то хоць чалавек ні мэнчыўсё.* Гр.

РАСІ´ЦЦА, *незак., экспр.* Есці — вельмі мала. *Жарты табе, с самаго ранку і да вечару ні расілася.* Гр. *А думаяш, я расіўсё? Не, ні еў.* Ст. С.

РАСКАРЧЫ´ЦЦА, *зак.* Разрасціся (карчом — пра агародніну). *Мо і ні благія будуць картоплі, нек раскарчыліся ўжэ.* Гал.

РАСКО´Л, *м.* 1. Распуста. *Раскол гэты адно сьвет дзеўчыні завязаў.* Кар. 2. Нахабнік, хуліган. *Як патурацімяш — раскол вырасьця, біцца з бацькам будзя.* Угр.

РАСО´ВЫ, *прым.* Рыжы (масць жывёлы). *Расоваго бычка прывяла карова.* Угр.

РАСО´Л, *м.* Вадкасць у соленай капусте (агурках, сале). Кр. 2. Халодная страва з зяленіва і квасу. *Расолу нарабіў з гуркоў і наеўсё с хлебам.* Гр.

РАСПАРЭ´НДЗІЦЬ, *зак., асудж.* Разабраць на часткі. *Пакуль прышла, ужэ ляльку распарэндзілі дзяціска гэтыя.* Зл.

РАСПАСТРЫ´ЦЬ, *зак.* Распасцерці. *Распастры на траве, то раз-два высахня адзіядло.* Гр.

РАСПЛЫТУ´ХА, *ж., абразл.* Тоўстая, сытая жанчына. *От расплытуха, хутко ў дзьверы ні ўлезя.* Кр.

РАСПУ´ДЗІЦЬ, *зак., незад.* Разадраць. *Од ганавіцы распудзіў на частаколіні.* Гр.

РАСТА´ЦЬ, *зак., асудж.* Знікнуць. *І дзе той стары растаў, што ні дагукаюсё яго. Кап ты ўжэ растаў зусім, як цябе ні дачакаяся!* Гр.

РАСХРЭ´СТАНЫ, *дзеепрым.* Расхрыстаны. *Чаго расхрэстаны ходзіш? Ішчэ ні прастудзіўсё?* Кр.

РАСХРЭ´СТАЦЦА, *зак.* Расшпіліцца, расхрыстацца. *І зімою расхрэстаяцца і з голаю грудзінаю ходзіць.* Св.

РАСЦЯ´ЦЬ (расьцяць), *зак.* 1. Рассекчы. *Расьцяў папалам палено.* Ал. *перан.* Налупцаваць, забіць. *Я б расьцяла гэтаго хлопца!* Св.

РАСША´СТАЦЬ (рашшастаць), *зак., экспр.* Распусціць (грошы), разматаць (набытак). *Як палучыць грошы, так за дзень рашшастая, а тагды ходзіць пазычая.* Гр.

РАСШВО´РКА (рашворка), *ж.* 1. Доўгая жэрдка, якая злучае задок воза з перадком; канец яе выходзіць на 1–2 м за задок воза. Пл. 2. Від калёс (без драбінаў, задок адцягнены на ўсю расшворку) для перавозкі доўгіх дроваў. *Яліну парэзалі на доўгія кавалкі і на рашворцы прывязьлі.* Гр.

РАЎГА´Ч, *м*. Плакса. *От раўгач дурны — раве і раве. А чаго? Цябе ш ні ніхто ні біў*. Вар.

РАЎНІНА´, *ж*. Роўнядзь. *Дзе ты такую раўніну знойдзяш, як у нас?* Вальк.

РАЧАНЕ´Ц, *м*. Гадавое свята. *Яг гэто дахаты ні прыехаць — такое велько сьвято — рачанец!* Кр. *Ракавоё сьвято, рачанец, а ён і пісьма ні прыслаў, жарты табе!* Гр.

РАЧНЫ´, *прым*. Нахабны. *О, які ты рачны! Слова ні дасі сказаць, так і духе заб'еш*. Ст. С.

РО´ВАР, *м*. Веласіпед. *На ровары паехаў сам*. Пл.

РО´ЖА, *ж*. Від кветкі, ружа. *У тваём агароччыку натто хароша рожа цьвіце. Даў бы мне на развот*. Кр.

РОК, *м*. Год. *У гэтум року ні кепскія картоплі вырасьлі*. Кар.

РО´СКІД (роскіт), *м*. Від ворыва (глеба адвальваецца у розныя бакі). Яр.

РО´ЎГАЛА (роўгало), *н*. Тое, што і р а ў г а ч . *Брытко плакаць. Хто такое роўгало любіцімя, га?* Св.

РО´ШЧА, *ж*. Рост (працэс). *Німа йім, картоплям, халерам, ніякае рошчы, хоць і дошч праходзіць*. Ст. С.

РУБА´ШКА, *ж*. Верхняя кашуля. *На сарочку кладзем рубашку*. Вальк.

РУБЕ´ЛЬ, *м*. Жэрдка для ўціскання снапоў (сена). *Як рублём ні ўцісьняш, мало ўложыш на вос снапоў*. Яр.

РУКАВІЦЫ, *мн*. Слова ўжываецца ў розных значэннях — 'рукавіцы', 'пальчаткі'. Выкарыстоўваюца і неаднаслоўныя назвы: р у к а в і ц ы з а д н ы м п а л ь ц а м, р у к а в і ц ы з т р ы м а п а л ь ц а м і і р у к а в і ц ы н а п я ц ь п а л ь ц а ў . Гал.

РУ´СКІ МЕ´СЯЦ, *непаш*. Надта доўга. *Жарты табе, жджы яго, а ён рускі месяц стрычыць там*. Яр.

РУЧАНЯ´, *н., мн.* р у ч а н я т ы (ручанята), *пяшчотл*. Рука, ручка. *А, якоё ў цябе ручаня цёпло, бахур ты мой малы!* Кр.

РЫДВА´Н, *м., непахв*. Моцны, чырванашчокі, мажны мужчына. *Халера зь йім спрастая, рыдваном гэтым*. Гр.

РЫДЛЯ´ЎКА, *ж*. Лапата, рыдлёўдка. *Бяз рыдляўкі ні ўкапаяш, так усохло моцно*. Вар.

РЫЖА´, *ж*. Іржа. *Усё вядро паела п рыжа, каб ні выліла вады*. Кр.

РЫЖЫ´СКА (рыжыско), *н*. Тое, што і р ы ж ы ш ч а . Вар.

РЫЖЫ´ШЧА (рыжышчо), *н*. Іржышча. *Рыжышчо згараў*. Вальк.

РЫ´МСЦІЦЬ (рымсьціць), *незак*. Карцець. *От, рымсьціць яму сказаць, што ведая*. Ал.

РЫСАВА´ННІК, *м*. Той, хто рысуе; рысавальнік. *Мо ты рысаваннікам будзяш, добро рысуяш?* Св.

РЫСАВА´ЦЬ, *незак*. Красаваць (пра збожжа). *Ужэ жыто рысуя, праз месяц і жаць пойдуць*. Гр.

РЫ´ХТЫК 1. *прысл*. Якраз, якраз як. *Гэта мая цялушка, рыхтык твая*. Яр. 2. *часц*. Быццам, як. *Рыхтык да вянцу выбраўсё*. Гал. 3. *злучн*. *Прыбіраяцца, рыхтык на вясёлё ці да вянцу паедзя*. Ст. С.

РЭ´ПА, *ж*. Пра цыпкі на нагах. *Бусял рэпу сеяў на твайіх нагах, ці што?* Гал.

РЭ´СЯ, *ж*. Дурная. *Слухай рэсю гэту, што яна кажа! Нігды толку ў галаве німа*. Гр.

РЭ´ХВА, *ж*. 1. Колца (на калодцы ў калёсах). 2. *перан*. Дурань. *Рэхва нека, ні чалавек*. Ст. С.

РЭ´ХВАЧКА, *ж*. Колца (на грабільне). *Рэхвачку нагнаў на граблішчо, каб ні раскалоласё*. Гр.

## С

САБА´ЧАЕ МЫ´ЛА. Назва расліны, мыльнік. Пл.

САВЭ´ЛКА (савэлко), *м*., *экспр*. Той, хто соваецца, замінае. *От савэлко гэты — адно пад нагамі соваяцца!* Гр.

САВЯ´К, *м*. Падбярозавік, абабак, асавік. *Савяк расьце ў бяразняку*. Св.

САГА´Н, *м*. Чыгун з ручкамі. *У сагане картоплі сьвіням варымо*. Ст. С.

САГА´НІК, *м*. Невялікі чыгун з ручкамі. *У саганіку малако парымо або чай ставімо*. Гал.

САДЗЕ´ННЕ (садзенё), *н*. Пасадка. *Каб ні гэто садзенё (прысадкаў), то і ні спазьніўсё п да цябе*. Вальк.

САДЗЕ´ННІЦА, *ж*. Жанчына, якая садзіць (бульбу). *Хоць малая, а садзенніца сь цябе акуратна*. Гр.

СА´ДЗЕЦЬ, *незак*. Шчымець, пячы, саднець. *Ішчэ рана садзяя. Як напёк горло перцам тым, то мо з гадзіну садзяло*. Гр.

САДЗІ´ЛКА, *ж*. Жанчына, якая садзіць бульбу. Едн.

СА´ЖАЎКА, *ж*. Штучны вадаём, сажалка. Ст. С.

САКЕ´РА, *ж.* Сякера. *Сакераю расьсёк кумпяка.* Ал.

САЛАДЖА´ЦЬ, *незак.* Станавіцца салодкім, саладзець. *Ужэ цесто саладжая.* Вальк.

САЛАДУ´ХА, *ж., застар.* Страва з рэдкага саладжавага цеста. *Бало, саладуху ў пост елі.* Угр.

САЛАПЯ´КА, *м., незад.* Той, хто высоўвае, «высалапляе» язык. *Зара адрэжу языка, рас высалапляш яго, салапяка ты.* Гр.

САЛЕ´ННІЦА, *ж.* Жанчына, якая займаецца саленнем. *Добрыя гурке ўдаліся ў нашай саленніцы — цэлую зіму стаяць і смашныя такія.* Кр.

САЛЁ´НКІ, *адз.* с а л ё н к а, *ж.* Бульба, якую вараць ачышчанай. *Салёнак наварыла на вячэру.* Гр. Параўн.: с а л о н і ц ы — в. Парэчча Слонімскага раёна.

САЛО´ДНЫ, *прым.* Салёны. *Натто салодны твой сялядзец, сынку.* Ст. С.

САМАЛО´ЎКА, *ж.* Вар'яцтва. *Хай на яго самалоўка нойдзя, як ён усё ідзе і ідзе, і ўпыну яму німа!* Гр.

САМАЎПРА´ЎНІК, *м.* Самаўправец. *Трэба было аштрафаваць самаўпраўніка такого.* Пл.

САМАХО´Д (самахот), *м., застар.* Аўтамабіль. *Самаходам падвёс шофяр грабаўскі.* Вальк.

САМАХО´ДЫ, *мн., жартаўл.* Абутак з пакрышкі аўтамабіля. *У вайну хадаке с тоўстае гумы рабілі, усё самаходы казалі.* Ст. С. *І цяперака ў дзяцька есьцяка самаходы, на хаці ляжаць.* Гр.

САМАХО´ЦЬ, *прысл.* Па сваёй волі, самохаць. *Самахоць дзіця загубіў. Од жа бацько які!* Пл.

САМЫ´Я, *займ.* Самі. *Ні канешня табе ўзаўтра прыходзіць — самыя ўправімсё з гэтымі картоплямі, выкапаям.* Гр.

СА´НАЧКІ, *мн.* Санкі (дзіцячыя). *На саначках дзеці егдзяць.* Гр.

СА´НКІ, *мн.* Выязныя сані. *У санках адно на кярмаш егдзімо, у санях — па дрова.* Гр.

САННА´Я, *ж.* Санны шлях, дарога. *Санною гэдакваля прывязеш, а калясною — ні зможаш.* Ст. С.

САПАЦЕ´ЦЬ, *зак.* Пыхаць, палаць гарачынёй. *От напаліў печ, гаш сапаціць.* Гр.

САРАЧНЯ, *ж., застар.* 40 штук (жменяў атрэпанага льну). *Сарачню за дзень натрапала.* Пл.

САРО´ЧКА, *ж.* Сподняя кашуля. *Сарочку на голо цело кладзем, а рубашку па ёй.* Кр.

САСО´НКА, *ж.* Хвошч. *Сасонку добро каравэ ядуць. Кажуць — і лякар-ство зь яе.* Гр.

САТЛІЖА´ЦЬ, *зак.* Пацяплець (зімою да адлігі). *Мо сатліжая. Ні можа быць, кап доўго цісную гэты маразіско, тагды і паедзям па дрова.* Ст. С.

САТХА´ЦЬ, *зак.* Охаць (ахаць), перажываючы страту. *І чаго ты сатхаяш? Згубіў так згубіў — ні верняш. А будзяш жыў — нажывеш тае адзежы.* Ст. С.

САЎГАНУ´ЦЬ, *зак.* Гл. соўгаць. *Як саўгануло пад лапатку, паварушыцца ні магла.* Ст. С.

САХА´, *ж.* Тоўсты, высокі слуп, на іх трымаецца страха (у гумне). Гр.

СА´ЧЫК, *ж.* Верхняе жаночае адзенне накшталт пінжака. *У нас, мужчынаў, піндэжак, а ў жанкоў сачык такі.* Св.

САША´, *ж.* Шасейная дарога, шаша. *На сашу выйдзяш, а там просто ў сяло дарога.* Кр.

СВА´ДЗЬБА, *ж.* Вясельная капэла (маладыя, шаферкі і шаферы, брат і сястра маладой, сват, бацькі маладых). *За гэтым сталом свадзьба сядзя, а за астатнімі ўсе астальныя.* Гр.

СВА´НЬКА, *ж.* Сваццця. *На вяселі за сваньку ёй егдзіла.* Ст. С. *Гэто мая сванька.* Кр.

СВЕТ (сьвет), *м.* Світанне. *Да сьвету ішчэ прыехалі з балота.* Гр.

СВІНІ´НЕЦ (сьвініняц), *м.* Хлеў для свіней, свінух. *Сьвіня ў сьвінінцы, а парасята ў майдане.* Гр.

СВІНІ´НЧЫК (сьвінінчык), *м.* Невялікі хлеў ці закутак для свіней; свінушок. *Парасята зажані ў сьвінінчык.* Вар.

СВІНЧА´ (сьвінча), *н.* Свіння (родавае паняцце). *От якоё сьвінча загняту, падгадаваўшы, і нам будзя скароміны.* Гр.

СВЯНЦІ´ЦЬ (сьвянцщь), *незак.* 1. Асвячаць (ваду ў царкве). Ал. 2. *экспр.* Падать (пра дождж). *От свенціць дошч! Чысто вымакня пастух.* Пл. 3. *іран.* Біць, лупцаваць. *Як начну сьвянціць, то будзяш ведаць, як малого кваліць.* Угр.

СВЯНЦІЯ´ДЛА (сьвянціядло), *н.* Светаянскае зелле. *Сьвянцкіядло, кажуць, добро памагая, яг жывот баліць. Напарыўшы яго — п'юць.* Св.

СВЯРБЯ´ЧКА (сьвярбячка), *ж., непаш.* Сверб. *Нека сьвярбячка напала, усё цело разьдзірая хлопяц.* Св.

СЕДАВІ´ЦЦА (сядавіцца), *незак.* Садзіцца. *Мокро тут, ні сядавіся.* Ал. *Сонцо саўсім сядавіцца — вечар.* Пл.

СЕ´ДЗЯ, *м* і *ж*. Сядун, сядуха. *Само ні прыдзя да седзі такого, трэба варушыцца, дбаць. І с хаты не выходзіць седзя гэта Настуля.* Гр

СЕ´ДНЯ, *ж., непаш.* Сядзенне (працэс). *Як стары чалавек, то ні лежня, ні седня яму ні ў смак.* Гал.

СЕЛАВЫ´ (сялавы), *прым.* Сельскі. *Сялавыя гусі на хутар зайшлі.* Яр.

СЕЛЯДО´ЎКА (сялядоўка), *ж., застар.* Бочка невялікага памеру для розных мэтаў. *Высяўкі ў сялядоўцы.* Зл.

СЕМНАСТО´ЎКА (сямнастоўка), *ж., жартаўл.* 1. Маладая дзяўчына (год 17). *Стары, а ўсё кап сямнастоўку ўзяць.* Яр. 2. *пагардл.* Немаладая дзяўчына, якая надта маладзіцца. *Хутко пад сорак. От сямнастоўка Рыгосява!* Яр.

СЕ´МЯНЕ (семянё), *н.* Льняное семя. *Пойло зварыла сь семяня і малаком забельвала.* Гр. *Семянё добро п'е цяля.* Ст. С.

СЕМЯНЮ´К (сямянюк), *м.* Кветканоснае сцябло агароднай культуры (цыбулі, капусты, буракоў). *Німа буракоў, ўсё пагнало ў сямянюке. І капуста такая, адныя сямянюке.* Гр.

СЕ´ЯННІК, *м., спагадл.* Сейбіт. *Ах, ты мой сеяннік, так стаміўсё, сеючы.* Ст. С.

СЁ´ЛКА (сёлко), *н.* Адасобленая частка сяла. *Старо сяло мая сёлко за ракою.* Гр. *На сёлку жыве, ні ў сяле.* Ст.С.

СЁ´РБАЛА (сёрбало), *н., асудж.* Той, хто есць з прыцмокваннем (гукам). *Ні можаш ціхо, культурно паесьці ці што, сёрбало ты?* Пл.

СІВАТА´, *ж.* Сівізна. *Стары ўжэ, таму і сівата настала. Праўда, бацько мой да ста гадоў ні меў сіваты.* Св.

СІКА´ЎКА, *ж.* Дзіцячая забаўка — помпа з сцябла сланечніка. *Вадою пырскаюцца сь сікаўкі кала калодзіся.* Угр.

СІКЯРЫ´ (сікярэ), *мн.* Ледзяшы. *Сікярэ с стрэхі пазьвісалі.* Едн.

СІЛЬЁ´, *н.* Пастка для птушак (прыстасаванне ў выглядзе петляў). *Даўней усё курапатаў сільём лавілі.* 2. *перан.* Тое, што пазбаўляе волі; сіло. *Трапіш ты да яго, асадніка гэтаго, ў сільё.* Гр.

СІНЯ´К І, *м.* Грыб, расце ў грабняку, мае цёмную шапачку, на абрэзаным месцы сінее. Гр.

СІНЯ´К ІІ, *м.* Ворная неўрадлівая зямля на нізкім месцы. *Нічого расьці ні хоча — сіняк.* Ст. С.

СІПА´ЧКА, *ж.* Хвароба — сіпка, сіпата. *Нека сіпачка напала на хлопца: сіпая, гаварыць не можа.* Св.

СІ´ТКА (сітко), *н.* 1. Густое рэшата. *На сітко прасею муку — бялейшыя блінцэ будуць.* Св. 2. Прыстасаванне для падглядвання пчолаў. *Бясь сітка пакусаюць пчолы.* Гр. 3. Сузор'е Вялікай Мядзведзіцы. Гр.

СІТНЯ´К, *м.* Хлеб з прасеянай на густое сіта жытняй мукі; сітніца. *Сітняк любяць дзеці лепяй за булку.* Дзяр.

СКА´БА, *ж.* Некалькі рабрынак (як ежа). *Любіць, як скабу зварыш. Кажа, мясо смашно пры касьцях.* Кр.

СКАБУ´РКА, *ж.* Скарынка зямлі. *Падмерзло, то як ступіш па ралі — скабуркі пад нагамі крышацца.* Гр.

СКАВА´ЦЬ, *незак.* Цкаваць. *Сабакамі тую карову скаваў — і ўсё ў шкоду лезя.* Вальк.

СКАЗІ´ЦЦА, *зак.* Загінуць, сканаць. *Кепскі, дурны чалавек, разбойнік некі. Каб ён сказіўсё, голаў сваю скруціў, халернік гэты.* Гр.

СКАЗО´К, *м.* 1. Невялікая трэшчына. *Збанок ішчэ, можно сказаць, цэлы: сказок адзін у шыйцы. Апляту — і ні расколяцца болей.* Кр. 2. Невялікі асколачак, чарапок. *Сказок атпаў ш шыйкі ў збанку.* Кр.

СКАЛА´, *ж.* Пчаліная разведка. *Скала абляцела вуляй — хутко рой сядзя.* Кар.

СКАЛЯРУ´ШЧА (скалярушчо), *н.* Тое, што і с к а р а л ю ш ч а . *Як у халодну воду адразу ні паложыш, скалярушчо ні лупіцца ў яйцы.* Едн.

СКАПЕ´Ц, *м.* 1. Капец (бульбы). *На пругмені скапец картопяль на зіму засыпалі.* Гр. 2. Межавы насып, капец. Кр.

СКАРАЛЮ´ШЧА (скаралюшчо), *н.* Лупіна яйца. *Вылівак бяс скаралюшча — разальецца.* Св.

СКВАРАДА´, *ж.* Патэльня, скаварада. *Кладзі на скварадy сьвежу каўбасу — будзям пробаваць, што за смак зь яе.* Гр.

СКВАРЭ´ЧНІЦА, *ж.* Шпакоўня. *Шпак палес у скварэчніцу.* Гр.

СКІПЕ´ЦЬ, *зак., экспр.* 1. Ускіпець. *Як сказала яму пра тую дзеўку, то як скіпіць — думала, с хаты выжаня.* Гр. 2. Раптоўна памерці.*Думала, мо ішчэ жыў будзя, аля дзе вы бачылі — адразу скіпеў: ведама ў сэрцо (куля) трапіла.* Гр.

СКЛА´ДКА (склатка), *ж.* Складчына. *Склатку зрабілі і так сьвяткавалі.* Зл.

СКЛО´ННАЯ, *ж., асудж.* Спакой. *Німа склоннае — німа канца, німа спакою. Па цэлых начах енчыць гэто дзіця, і склоннае яму німа.* Гр.

СКЛЮТ, *м.*, *абразл.* Худы, высокі, гарбаты чалавек; паралельна ўжываецца г н ё н і к (гл.). Св.

СКНЫПЛЯВА´ЦЬ, *зак.* Моцна звязаць (сноп), сцінуць «кныплем» (гл.). *Куле скныпляваў, то і налето ні разьвяжуцца.* Гал.

СКНЭ´РА, *м.* і *ж.* Скнара. *От скнэра гэта! У яе ні вырвяш нічого.* Вальк.

СКНЭ´РЫЦЬ, *незак.* Вымагаць (шляхам надаедлівых выпрошванняў). *Гэты малы скнэрыў і скнэрыў, пакуль грошай ні дала.* Ст.С.

СКО´МЧЫЦЬ, *зак.* Змяць, скамячыць (пра адзенне). *Чаму гэту адзежу акуратно ні павесіць? Ды не, зняў, скомчыў і кінуў на запяк!* Ст. С.

СКО´РЧЫЦЬ, *зак.* Сагнуць у крук. *От скорчыло, і разагнуцца ні разагнецца.* Гал.

СКО´САК І, *м.* Старая каса з вузкім палатном. *Адно крапіву гэтым скоскам касіць.* Ст.С.

СКО´САК ІІ, *м.*, *застар.* Касынка. *Што яе нагрэя скосак гэты. Уся галава гола.* Гр.

СКО´ЧНЯ, *ж.* Вышка, з якой скачуць у ваду. *Хлопцы неку скочню змайстравалі і скачуць сабе ў воду: скок-скок!* Гр.

СКРАБЕ´ННІК, *м.* Той, хто чысціць («скрабе») бульбу. Гр., Дзяр.

СКРАБЕ´ННІЦА, *ж.* Жанчына, якая чысціць («скрабе») бульбу. Св., Кр.

СКРУЖЫ´ЦЬ, *зак.* Аддзяліць пацяруху ад семя (кружачы рэшатам). *Скружыла трохі, усё чысцейшы ячмень будзя.* Пл.

СТРУ´ТАК, *м.* Дзве ручайкі атрэпанага льну (скручваюцца разам). *У сарачні дваццаць скруткаў.* Вальк.

СКРУЦІ´ЦЦА, *зак.* Ашалець (пра сабаку). *Застрэлілі, як скруціўсё (сабака).* Вар.

СКРЫГІТА´ЦЬ, *незак.* 1. Рохкаць — прасіць есці (пра свіней). Кр. 2. Скры-пець зубамі. *Од злосны, гаш зубамі скрыгіча.* Гр.

СКУЛЁ´БІЦЦА, *зак.*, *асудж.* Скурчыцца, падагнуць пад сябе ногі. *Як гэто ты сьпіш? Скулёбіўсё — выцягні ногі і выпрастайся, кап выспаўсё па-люцку.* Гр.

СКУЛЬБА´ЧЫЦЦА, *зак.*, *экспр.* Сагнуцца ў крук, кульбаку. *Як малады, то й стройны, просты. А як пастарэў, то скульбачыўсё — хвароба згібала.* Кр.

СКУЛЯ´ЧКА, *ж.* Скула, скулянка. *Скулячка нека села — і галавы ні павярнуць.* Св.

СКУПО´ЎВАЦЬ, *незак.* Скупліваць. *Гэто іхні шпікулянт: у адных скупоўвае, другім прадае, маючы выгоду сабе.* Гр.

СКУПЯНДЗЯ´ (скупяньдзя), *м.* і *ж. абразл.* Скупы (-ая). *Гэта скупяньдзя нікого ў госьці ні просіць.* Вальк.

СЛАБА´К, *м., пагардл.* Слабы. *Саўсім слабак, нічого ні можа.* Вар.

СЛАБІ´ЗНА, *ж., зняважл.* Слабы. *Што слабізна гэта табе паможа? Пуд жыта ні падымя.* Яр.

СЛАБО´ДА, *ж.* Воля, свабода. *Од ужэ і слабоды дачакаліся! Нігды ні думалі.* Гал.

СЛАБО´ДНЫ, *прым.* 1. Не цесны. *Слабодныя чаравікі.* *Ст.С.* 2. Не заняты. *Слабодно месцо і сядавіся, ні стой.* Св. 3. Прасторны. *От слабодны аўтобус стаў да нас хадзіць, усіх забірая.* Кр.

СЛАННЁ´ (сланё), *н.* Расціланне льну. *Пяць на сланё пойдзя (льну), а астальныя — малаціць жыто.* Ст. С.

СЛА´ННІЦА, *ж.* Жанчына, якая сцеле лён. *Сланніцаў ішчэ німа, хутко прыдуць.* Кр.

СЛЕПЯНДЗЯ´ (сьляпяньдзя), *ж., абразл.* Сляпая. *Слабо бачыць сьляпяньдзя гэта.* Кр. *От сьляпяндзя! Грыба ні ўгледзяла, і такого велькаго.* Гл.

СЛІ´Ж (сьліш), *м.* Доўгае бервяно ўздоўж моста. *Па баках сьліжэ кладзем, а тагды насьціл.* Дзяр.

СЛІЗГАЦЕ´ЧА (сьлізгацеча), *ж., незад.* Слізкасць. *На дварэ сьлізгацеча, хоць ты ні вылась с хаты.* Гр.

СЛІЗГО´ВІЦА (сьлізговіца), *ж.* Слізгота. *Каб ні такая сьлізговіца, схадзіў бы на кярмаш.* Ст. С.

СЛІЗО´ТА (сьлізота), *ж.* Слізкасць, слізгота. *От слізота на дварэ!* Гр.

СЛІМА´К (сьлімак), *м.* Вінт з адмысловай нарэзкай для перадачы руху; чарвяк. *Каротка салома, і сьлімак кепско цягня, як сечку рэжаш.* Ст. С.

СЛІМАКІ´ (сьлімаке), *мн., непахв.* Сліна. *І чаго ты равеш, гаш сьлімаке па барадзе цякуць?* Гр.

СЛОЙ, *м.* Трубка палатна; сувой. *Як замуш ішла, маці ні адзін слой палатна дала ў пасах.* Гр.

СЛОН, *м.* Лаўка, заслон, услон. *Пацстаў слон і сядавіся. Яр.*

СЛО´НЧЫК, *м.* Невялікая лаўка, услончык, заслончык. *На слончыку сядзіць адзін чалавек усяго, як у пеццы паліць ці абуваяцца.* Вар.

СЛУЖБО´ВАЯ, *ж*. Стограмовая чарка, стограмоўка. *Ой, ліхо, службовае ні вып'я! Што сь цябе за пітук?* Ст. С.

СЛУХ, *м*. Пачуццё, якое дае магчымасць успрымаць гукі; слых. *І дзеўчына, кажуць, слуху ні мае да музыкі. Сабака мая добры слух — здалёк пачуя чалавека ці воўка.* Гр.

СМАКАТА´, *ж. узмацн.* Смак, смакоцце. *Ты адно пакаштуй, якая смаката гэто чырвоно яблыко. А марозіво тоё — хіба меньшая смаката?* Гр.

СМАКІ´ (смаке), *мн*. Смачнае. *Ат смакоў ніхто ні атказкацца.* Гр.

СМАКТУГА´, *ж*. Нізкае месца на полі, дзе ўсё вымакае. *У той лахціні такая смактуга, што нічого ні расьце.* Гр.

СМАЛІ´ЦАЮ, *прысл., асудж*. Неадчэпна, як смала. *Смаліцаю лезя ў вочы, ні аччапіцца ад яго!* Св.

СМАЛЬНЯ´К, *м*. Смаляное палена (ідзе на падпал). *Хутко печ распаліла, як смальнякоў падлажыла.* Гал.

СМА´ЛЯНІНА, *ж*. Гар (ад воўны, шэрсці); смаль. *Мо дзе адзежа гарыць. Нешто смалянінаю сьмярдзіць у хаці.* Гр.

СМАЛЯ´Р, *м*. 1. Той, хто смаліць вепрука. *Трайіх смалілі прашука, то і хутко. Гэто ш ні адзін смаляр.* Ст. С.

СМАРГУЛЯ´, *ж., пагардл*. Смаркатая. *Смаргуля гэта, і яна цябе страшыць!* Ст. С.

СМОК, *м*. Дракон. *Смокам усё палохалі бало*. Вальк.

СМО´ЛНЫ, *прым., асудж*. 1. Неадчэпны. *Які ты смолны да дзявок*. Кр. 2. Заўзяты. *От смолны, ні дня ні прапускаяа, каб ні сходзіць на вячарке*. Гр.

СМО´РГАЦЬ, *незак*. 1. Абрываць (колас аўса бяруць у абхват і цягнуць — зерне абрываецца). *Сморгаю курам авес*. Яр. 2. Скрэбці (лён церніцаю). *Як сатрэш, тагды сморгаяш, кап кароста вылятала*. Гр. 3. *перан*. Цягнуць да сябе паветра (з шумам). *Ні вытра носа да ўсё сморгая*. Кр. 4. *перан. іран*. Плакаць. *Ніхто і ні біў, а ўжэ сморгая. І ні брытко плакаць*. Вальк.

СМЫРО´Д, *м*. Непрыемны, агідны пах; смурод. *Ад гэтаго смыроду хоць ты ўцякай за сьвет.* Кр.

СМЫРО´ДЗІЦЬ, *незак*. Смуродзіць. *Адно хату смыродзіць гэтым смыродам, яг закурыць.* Св.

СМЫРО´ДНЫ, *прым*. Смуродны. *І дым некі смыродны с тае хаты валіць.* Гр.

СМЭ´РГЕЛЬ (смэргяль), *м*. Смаркач. *Чаго смэрглі папусьціў?* Кр. 2. *перан*. Недарослы, смаркач. *Рано на музыкі хадзіць! Смэргяль ішчэ.* Гр.

СМЭ´РГЛІ, *мн.* Смаркачы. *Хустачку маяш — і выцірай смэрглі.* Гр.

СМЯРДЗЮХА´ (сьмярдзюха), *ж.* 1. Смярдзючка. Кр. 2. *перан.* Хлорка. *Сьмярдзюхою выбельвала палатно.* Яр.

СМЯЦЕ´Й (сьмяцей), *м.* Чорнае вялікае зерне ў коласе збажыны (жыта, пшаніцы, аўсу). Гр.

СМЯЦЮ´Х (сьмяцюх), *м.* Назва птушкі. Кр. 2. *перан., зламоўн.* Малы, нядужы чалавек. *Што табе сьмяцюх гэты падымя? Мо с пут занясе?* Гр.

СНАВА´ННІЦА, *ж.* Жанчына, якая асноўвае кросны; снавальніца. *Ішчэ адна снаванніца прышла, то хутко кросна аснуем ўсе разам.* Св.

СНАВА´ЦЬ, *незак.* 1. Асноўваць (кросны). Ал. 2. *перан.* Сноўдацца. *І чаго ты снуеш тут цэлы дзень? Што табе работы німа?* Гр.

СНО´ЎНІЦА, *ж.* Прыстасаванне для снавання кроснаў. *Пайду кросна снаваць да Агаты, у яе сноўніца есьцяка.* Гр.

СНЯГО´ЎЦЫ (сьнягоўцы), *адз.* с н я г о в е ц, *м.* Жаночыя гумавыя боцікі. *Сьнягоўцы, яг граско, носяць.* Пл.

СНЯКА´ЦЬ (сьнякаць), *незак.* Смаркаць. *От кавалер! Нат носа сьнякаць ні ўмея.* Вальк.

СО´ВЕСНЫ (совясны), *прым.* Сумленны. *Што ты зробіш, калі чалавек ні мая совясці. Совясны так ні зрабіў бы, як гэты бяссовясны Сідар.* Гр.

СО´ВЕСЦЬ (совясьць), *ж.* Сумленне. *Совясьць ні купіш. Рас німа яе ў чалавека, то і ні будзя.* Гр.

СО´ДВА. Каля двух; штукі дзве. *Содва кусочкі мо зьзеў бы пірага.* Гр.

СО´ПУХА: ч о р н ы я к с о п у х а — чорны як сажа. *Паляц, яг зьбіў ап камянь, чорны як сопуха.* Гал.

СО´СНУ, *прысл.* Спрасонку. *Ведама, сосну, вочы ні пралупіўшы, што можно ўгледзяць.* Кр. *Некі вялы, як сосну.* Г р.

СО´ТКІ, *мн.* Прысядзібны ўчастак зямлі. *На сотках ні благія картоплі, і калхозныя харошыя.* Угр.

СО´ТРЫ. Каля трох; штукі тры. *Сотры сарваў, ні боляй (яблыкаў).* Ст. С.

СО´ЎГАЦЬ, *незак.* Востра калоць. *Усё соўгая і соўгая ў крыш, як хто голкаю.* Пл.

СО´ШКА, *ж.* Плужок для акучвання бульбы. *Сошку меўшы, за дзень асыпляш картоплі.* Вальк.

СПАВЯДА´ННІК, *м*. Той, хто спавядае, спавядач. *Некі малады бацюшко спавяданнікам сёніка быў у цэркві*. Гр.

СПАВЯДА´ЦЬ, *незак*., *экспр*. Прабіраць. *Сустрэў гэто і давай спавядаць, чаму на работу ні хаджу*. Св.

СПАГАНІ´ЦЬ, *зак*. Заставіць аддаць доўг, спагнаць. *Яг задоўжыцца, ні спаганіць будзя тых грошай*. Вар.

СПАДАВО´Е (спадавоё), *прым*. Сподняе, са споду (сена). *Ні хочуць есьці каравэ спадавого сена*. Гр.

СПАДА´К, *м*. Дошка (на дно ў санях). Кар.

СПАДА´ЦЦА, *незак*., *непаш*. Худнець. *Я сыта, аля і ты ні спалася за работаю*. Гр.

СПАДА´ЦЬ, *незак*. Даставацца, пераходзіць па спадчыне. *Думаяш, табе што спадзе, як увамру!* Кр.

СПАДЛО´Б'Я, *прысл*. Спадылба. *Баюсё, як ён спадлоб'я паглядая*. Св.

СПАМАГЧЫ´СЯ (спамахчыся), *зак*. Атрымаць дапамогу. *Спамахчыся можно ад добраго чалавека, а ад ліхого ні спамажэсся*. Гр.

СПАМІ´Ж (спаміш), *прыназ*. Мае значэнне месца і кірунку дзеяння. *Спаміж скрыняў выбягла мыш і просто пад ногі*. Пл.

СПАМІНА´ЦЬ, *незак*. Успамінаць. *Стану спамінаць, як мы даўней жылі, то ні налюбавацца тым жыцям!* Гр.

СПАНА´ТРЫЦЬ, *зак*., *асудж*. Узяць за справу рабіць шкоду. *Як спанатрыў, лезя і лезя ў канюшыну (конь)*. Вар.

СПАНЕ´ЦЬ, *зак*. Распанець. *Абы-што і есьці ні будзя. От спанеў ён у вас!* Зл.

СПАНІ´ЦА, *ж*. Спадніца. *На спаніцу плаценко, бало, ткалі*. Гр.

СПАРО´ЦЬ, *зак*., *незад*. Разбудзіць. *І чаго ён спароў пастухоў так рано? Хай паспалі п з гадзіну*. Ал.

СПАРАНЖАВА´ЦЬ, *зак*. Разбіць палярушам. *Ні нох, ні рук ні падымя, так спаранжавало, беднаго*. Вар.

СПАС, *м*. Ратунак. *Німа спасу ад лісы, зара ўсе куры пяравалочыць*. Вальк.

СПА´САЎКА, *ж*. Гатунак яблыкаў, якія паспяваюць у жніўні, калі бывае свята «Спас». *Наша спасаўка ядрона кажан рок. На спаса яблыкі ўжэ сьпелыя*. Св.

СПА´СЦІ (спасьці), *зак*. Перайсці ў спадчыну. *Як твой дзет умёр, то Жэні той нешто спало ад яго, бо грошай гэты амарыканяц меў німало*. Гр.

СПА´СЦІСЯ (спасьціся), *зак., зламоўн.* Схуднець. *Бойся прайсьціся напяхоту: спадзесься чысто!* Ст. С.

СПАТАЙКА´, *прысл.* Спадцішка, спотайку. *Спатайка зробіць — і ніхто ні ведаціме.* Кр.

СПА´ЦЫР, *м.* Шпацыр. *Пайшоў на спацыр.* Зл.

СПАЦЫРАВА´ЦЬ, *незак.* Шпацыраваць. Ал.

СПЁ´ХА (сьпёха), *м.* і *ж.* Соня. *От сьпёха, ночы ёй мало!* Вальк. Параўн.: сплюха (А. Карпюк. Пушчанская адысея).

СПІРЫ´ЦЬ (сьпірыць), *зак.* Пабіць, адлупцавацъ. *Так спірыў, што мо ўсё цело ў сінякох.* Кр.

СПЛА´КАНЫ, *прым.* Які многа плакаў. *Мо хто біў цябе, што сплаканы ўвесь такі?* Кар.

СПЛАЦІ´ЦЬ, *зак.* Заплаціць. *Хата на двайіх была, так брат сплаціў і адзін у ёй жыве.* Кр.

СПО´ЛКА, *ж.* Суполка. *На сполку робімо.* Гр. *Ні любіць сполкі, адзін цягня.* Кр.

СПО´ЛНІК, *м.* Супольнік. *Разам гаралі полё; да вайны сполнікамі былі.* Гр.

СПО´ЛНЫ, *прым.* Супольны. *Хамут наш таксамо сполны — на двайіх.* Гр.

СПО´РКА, *м.* Спрэчка. *Помню, тагды спорылі доўго і ніхто ў той спорцы праўды ні даказаў.* Гр

СПО´РЫЦЬ, *незак.* Адстойваць свае погляды, спрачацца. *Годзі спорыць вам, бо ніхто свайго ні дакажа.* Гр.

СПРАСТА´ЦЬ, *зак., незад.* Зраўняцца (у сіле, лоўкасці, уменні). *Ты зь йім ні спрастаяш. Гэто хітрун!* Ст. С.

СПРА´ЎНІЦА, *ж.* Спраўная жанчына. *Яна скрось усё дастаня с-пад зямлі, такая спраўніца.* Ст.С.

СПРА´ЎНЫ, *прым.* 1. Спраўны (у розн. знач.). 2. Здаровы, дужы, сыты. *Нат спраўна карова, ні худая.* Гр.

СПРО´ГЧЫСЯ (спрохчыся), *зак.* Здохнуць. *Каб яно спраглося, з гэтым целям, якоё нілюцко.* Кр.

СПРО´НЖКА (спроншка), *ж.* Жалезная частка папругі, спражка. Яр.

СПРУЖЫНО´ЎКА, *ж.* Культыватар (конны). *Як цвердо — спружыноўкаю пярадзярэм і тагды гарэм (плугам).* Вальк.

СПРУ´ТА, *ж., асудж.* Смерць. *І куды яго спрута цісьня! Хай на йіх спрута нойдзя, на гэтыя чужыя куры: ўсё паўграбалі ў вагародзі.* Гр.

СПРЫ´ТА, *ж.* Прыстасаванне (кол), з дапамогаю якога моцна сціскаецца вяроўка (ланцуг) пры звязванні паклажы (на возе). *Як на вос кладу ламату, то ланцугом зьвязваю яе і тагды ішчэ спрытаю заціскаю ланцух, каб ні рассоўвалася ламата.* Гр.

СПРЫТНА´, *прысл.* Папарадку (браць), з краю, выбіраючы да дна. *Ні лась па горбі, спрытна бяры картоплі.* Гр.

СПРЫ´ЦІЦЬ, *экспр.* Моцна звязаць (спавіць). *Спрыціла, то ні паварушысься.* Кр.

СПРЫ´ЧАНЫ, *дзеепрым., экспр.* Моцна звязаны (спавіты). *Ходзіць, як спрычаны, пасля ўчарашняго гуляня.* Вар.

СПРЫ´ЧВАЦЬ, *незак.* Моцна звязваць (з дапмогаю «спрыты» — гл. вышэй). *Ні буду спрычваць: тут нідалеко, даедзям — ні рассыплюцца жэрткі на возі.* Кр.

СПУСКА´ЦЬ, *незак.* 1. Габляваць (спускам). *Спускаць будзяш, як пагаблюяш, — тагды падгладзіш.* Кр. 2. Звіваць (вяроўкі). *Пайшлі вяроўкі спускаць.* Гр. 3. *перан.* Даравацъ, уступаць. *Спусьці ты яму, ён ішчэ смэргяль, а ты кавалер.* Пл.

СПУ´СТ, *м.* Вялікі гэбель; спуск, фуганак. *Доўгу дошку спустам габлявалі. Спуст мая дзбве ручкі, ён даўжэйшы за гэблік.* Св.

СПУ´ЧЫЦЬ, *зак., экспр.* Пацягнуць кіем, ударыць. *І ні агрызайся, а то спучу калом па галаве!* Кр.

СПУШЫ´ЦЬ, *зак.* Гл. п у ш ы ц ь. *Ад раня поўны жывот і баліць, — спушыло.* Св.

СПЭ´НДУ, *прысл.* Сходу, тут жа. *Што ты спэнду можаш атказаць!* Дзяр.

СПЭ´ЎНІЦЬ (сьпеўніць), *зак.* Дакладна высветліць, упэўніцца. *Трэ сьпеўніць, ці есьцяка там газа ў лаўцы.* Вальк.

ССЫ´ПКА, *ж.* Насыпка (для пер'я). *З густого палатна ссыпку пашыла, кап пер'ё ні вылазіло.* Гр.

СТАВО´К, *м.* Нізкае месца, запоўненае вадою. *І на стаўку высахла вада.* Ст. С.

СТАГА´Н, *м., рэдк.* Насякомае, макрыца. *Яг было сыро ў хаці, то пад лаваю стаганэ заводзіліся.* Кр.

СТА´ДА, *ж.* Статак. *Да стады карову пагналі.* Угр.

СТАЕ´ЛНЫ, *прым.* 1. Стаенны. *Стаелны конь, таму і гладкі такі.* Гр. 1. Цяжкі, які патрабуе вялікага напружання, высілкаў. *І ў нас стаелна ноч была ў тым мліне, як крупу малолі: цалютку ноч ні спалі, мучыліся.* Гр.

СТАКАНА´, *ж., рэдк.* Клопат, турботы. *Адна стакана ў нас на хутары была с тымі яблыкамі: німашака дзе падзець, ніхто ні купляя.* Кр.

СТАКАНІ´ЦЦА, *незак., рэдк.* Клапаціцца, турбавацца. *Некія ніўдалыя цяперака ў нас парасята: есьці ні ядуць, адно малако смокчуць, як увальеш у карыто. Стаканіся ні стаканіся, а ўсё на глум ідзе.* Гр.

СТАЛЬВА´ГА, *ж.* Трайны ворчык для пары коней. *Як двайіма гарацімяш — стальвагу нясі.* Гал.

СТАЛЬНІ´ЦА, *ж.* Кружок (на ім рэжуць, крышаць). *Стальніцу парэзаў, а жыла цэла.* Кар.

СТАЛЮ´ГІ, *мн.* Козлы (для распілоўкі дроў); сталюга. *Сталюгі нясі, распілуям кругляк які на дрова.* Гр.

СТАНАЎНЫ´, *прым.* Упарты. *Дзе ён паслухая цябе, станаўны такі!* Ст.С.

СТАРАЖАВА´ЦЬ, *незак.* Вартаваць, пільнаваць, ахоўваць. *Бацько становіцца на нову працу — будзя стражаваць краму, каб зладзейі ні пракралі чаго.* Кр.

СТА´НІК, *м.* 1. Ліфчык. Яр. 2. Бюстгалтар. Яр.

СТАРАНА´, *ж.* Бакавая частка гумна для складвання збожжа. *Поўну старану наклалі.* Вар.

СТАР'Ё´, *н., зборн.* Старызна. *Стар'ё ганучніку аддаў на запалкі.* Вар.

СТАРО´ЦЕ (староцё), *н.* 1. Старызна, старое, падранае адзенне; рыззё. *Аддам ганучніку староцё гэто, каб ні заважала пад нагамі, рукамі.* Кр. 2. Пра старога чалавека. *Абоё староцё: і яму пат семдзесят, і ёй гэдулькі.* Кр.

СТАРЧАКА´, *прысл.* Старчком. *Ляцеў с стога старчака.* Гал.

СТАРЫ´, *прым.* Дарослы, сталы. *Ты ш ні дзіця ўжэ, стары чалавек, а зь дзецьмі б'есься.* Св.

СТАЎБУ'Н, *м., непаш.* Высокі, тонкі. *Стаўбун гэты нідужы і дахватовы.* Гр.

СТАЎБУНАВА´ТЫ, *прым.* Высакаваты і тонкі. *І капіца твая нека стаўбунавата.* Вальк.

СТАЎБУ´Р, *м.* 1. Сцябло (без лісця); цыбур. *Стаубурэ велькія, а шчаўю мало наварыш.* Гр. 2. Пяро цыбулі, якое нясе цвет. *Цыбулю ні прадыміла, усю ў стаўбурэ пагнало.* Вар.

СТАЎПЕ'Ц, *м.* Падстаўка для ручнога трапання льну. *Стаўпец ні стайіць, то як я трапаціму?* Ст. С.

СТАЯЧКА´, *прысл.* Стоячы. *Усё стаячка робіць. І каб яна на мінюціну прысела!* Ст. С.

СТО´ГАВІШЧА (стогавішчо), *н.* Месца, дзе стаяў стог. Гр.

СТО´ЙКА, *ж*. Прыстасаванне, дзе малыя дзеці вучацца стаяць. Вар.

СТОЛ, *м*. Насціл з дошчак, з якога падаюць у малатарню збожжа. *Я на стол падавала, а ён у малатарню*. Кр.

СТО´ЛІК, *м*. Частка калаўрота — дошка, да якой прымацоўваюцца ножкі. Кр.

СТО´ЛЯР, *м*. Сталяр. *Даўней у нас адзін столяр быў на дзьве сяле*. Гр.

СТО´ХЛІШЧА, *н*. Гняздо, логава, котлішча. *Як пасатку высякалі, у гэтум лесі, казалі, воўчо стохлішчо знайшлі*. Кр.

СТРАМЯ´К, *м*. Стрэмка. *Пат скуру страмяк залес*. Ст. С.

СТРАЧЫ´ЦЦА, *незак*. Уцякаць ад авадня (строка) (пра кароў). *Дзе ты ў палудні ўпасеш каравэ: так страчацца*. Гр.

СТРАЧЫ´ЦЬ, *незак*. Палохаць кароў, гусці, як «строк» (гл.). *Годзі бзыяць — ні страчы кароў, а то як пастрачацца — у лес пазабягаюць*. Ст. С.

СТРОЙ, *м*. Убор. *Гунь які строй на ёй!* Вар.

СТРОК, *м*. 1. Авадзень (які лятае апаўдня і кусае кароў). *Натто строку баяцца каравэ*. Гр. 2. *перан*., *асудж*. Хто бурчыць, злуецца. *Строк гэты, усё бурчыць. Німа, кап пагаварыў толкам*. Ст. С.

СТРУПЯНЕ´ЦЬ, *зак*. Вельмі моцна палохацца, страціўшы ўладу над сабою. *Ззаду як схваціць за каўнер упоцямках — струпянела ўся, ні ведала хто*. Вар.

СТРУ´ПЯШАЦЬ, *зак*. Спарахнець, струхлець. *Лягары пат падлогаю чысто струпяшалі — і дошкі гнуцца — пагнілі*. Св.

СТРЫЖЭ´ННІК, *м*. Той, хто стрыжэ, цырульнік. Гр.

СТРЫМО´ТЫЧ, *прысл*. Старчма. *Хай яго нагла, з гэтым хлопцам: стрымотыч ляцеў с стога. Думалі, голаў зломіць*. Кр.

СТРЫЧА´ЦЬ, *незак*. Тырчаць. *Нош стрычыць у сьцяне*. Вальк.

СТРЭЧ, *ж*. Ступень сваяцтва: першая стрэч — родныя, другая стрэч — дваюрадныя, трэцяя стрэч — траюрадныя. *Мы зь яго маціраю родныя сёстры, а вы ўжэ дзеці, — другая стрэч*. Гр.

СТУЖА´ЦЬ, *зак*. Зрабіцца тугаватым. *Масло ў вадзе халоднуй стужало*. Кр. *Сьнех стужаў пасьля атлігі*. Гр.

СТУПА´К, *м*. Ступня. *Нага баліць у ступаку — нічого абуць ні абую*. Вар.

СТЭ´ПЦЫ, *мн*. Сходы на ганку. *Цыманту трэба, кап стэпцы параўняць*. Зл.

СТЫДЗІ́ЦЬ, *незак*. Сарамаціць. *Як і ты стыдзіць будзяш — мо паслухая, чалавекам станя*. Кр.

СТЫ́ЧКА, *ж*. Сутыкненне, сутычка. *Зь немцамі ў гэтум лесі стычка была*. Кр.

СУДЗІ́НА, *ж*. Вялікая кадушка (на 30-50 пудоў зерня). Едн.

СУК, *м*. 1. Сук. 2. *перан*., *асудж*. Скупы чалавек. *Дзе ён табе пазычыць што, сук гэты!* Св.

СУКА́ДЛА (сукадло), *н*. Прыстасаванне для звівання нітак на цэўку; сукала. Вальк.

СУКА́Ч, *м*. 1. Моцна засуканая часта ніткі, што скручваецца ў пятлю. *Лішнё сучаш, гаш сукачэ круцяцца на шпулі*. Гр. 2. Бруд, які змываецца з цела. *Як стаў церці сьпіну, во колькі сукачоў нацерласё*. Ст. С.

СУКО́ВІНА, *ж*. Сукаватае палена (бервяно, кій). *Я сабе глаткі кіёчак выражу ў лесі, нашто мне такая суковіна!* Гр.

СУКО́ННІК, *м*. Плашч з даматканага сукна. *Суконнік па кажусі на дошч кладзем*. Кар.

СУМАТО́ХА, *ж*. Мітусня, беганіна. *У такую суматоху і ганавіцы згубіш, ні то што шапку*. Угр.

СУНДУ́К, *м*. Куфар. *У сундуку рубашка ляжыць, кладзі (на сябе), як трэба*. Зл. Паралельна бытуе і к у ф а р .

СУНДУЧО́К, *м*. Куфэрак для бялізны. *Плацё памыла і ў сундучок, пакачаўшы, палажыла. Можаш сарочку браць, там яна*. Вар.

СУПО́ЛЬНІЦА, *ж*. 1. Суцэльнае адзенне. *Ні відно, каб дзе шшыто было, мусіць супольніца*. Ст. С. 2. Доўгая і шырокая дзіцячая сарочка. *Нашто ты гэту супольніцу кладзеш дзіцяці на дзень*. Гр.

СУ́ТАЛАКА, *ж*. Штурханіна, мітусня. *У такой суталацы дзе ты толкам што зробіш*. Ал.

СУ́ТАЧКІ, *мн*. Вузкі праход між снапамі ў гумне. *Тут пшаніцу зложымо, а там жыто; а гэтыя сутачкі — мо ячменям*. Гр.

СУ́ТКА, *ж*. Суткі. *За сутку зробім*. Едн.

СУХАРЭ́БРЫК, *м*. Худы, адныя косьці. *От сухарэбрык гэты!* Гр.

СУХАЯ́Н, *м*., *гумар*. Пра кашчавага, сухарэбрага чалавека. *Твой мажны хлопяц, а мой сухаян некі — адныя рэбра стрычаць*. Дзяр.

СУХЮ́ТКІ, *прым*. Зусім сухі. *Можно браць: сухютко сено*. Ст. С.

СУ´ЧКА, *ж.* Невялічкія дапаможныя санкі для перавозкі доўгага бярвення. *Камель на сані, а верх на сучку і прывязу цэлу дзяравіну.* Даўг.

СХАДЗІ´ЦЦА, *зак.* Падняцца, усхадзіцца. *Як схадзіўсё быў вецяр, то ледзьвя стрэху ні скінуў.* Св.

СХО´ВАНЬ, *ж.* Сховы. *Аддай лепяй мацяры на схованъ, то там нікуды ні ўцякуць твае грошы.* Св. *Ад бомбы гэто ні сховань.* Кр.

СХО´Д (схот), *м.* 1. Усход. *Як схот сонца, скаціну выганяям на пашу.* Кр. 2. Кірунак свету, усход. *Праваруч ад міне — схот, а леваруч — захат, як стаю тварам да лесу.* Гр.

СХО´ДЫ, *мн.* 1. Сходкі лесвіцы. *Сходаў много, пакуль наверх залезяш!* Зл. 2. Прыступкі на ганак. *Сходы з дошчак зрабіў.* Гр.

СХУДНЯ´ЦЬ, *зак.* Гл. пахуднящь. *Чысто схудняў, як на жывот хварэў бацько.* Св.

СЦЕ´ЖАР (сьцежар), *м.* Падсцілка для стога (скірды). *Сцежар зрабілі, будзям стох кідаць.* Една.

СЦЕ´РПНУЦЬ (сьцерпнуць), *зак.* Анямець, адзервянець, выйсці з-пад кантролю, сшэрхнуць (пра ногі, рукі). *Ні магу ўстояць, так нага сьцерпла, гаш цяляпаяцца.* Вальк.

СЦЁ´ПКА (сьцёпка), *ж.* Варыўня, стопка. *Кадушку с капустаю ў сьцёпку вынясу.* Св.

СЦІНА´ЦЦА, *незак.* 1. Сцінацца. 2. Схапіцца, уступіць у сварку, бойку. *От нілюцкія. Абы сышліся, так і сьцінаюцца.* Гр.

СЦІХ (сьціх), *м., экспр.* Спакой, канец. *Ідзе і ідзе дошч гэты, і німа сьціху яму.* Кр. *Некі дурны мужык: адно б'еўца і б'еўца, і сьціху яму німа.* Ст. С.

СЦУКРАВА´ЦЦА, *зак.* Зацукравацца. *Як пастайіць на холадзі, так і сцукруяцца мёт.* Гр.

СЦЯГНУ´ЦЬ (сьцягнуць), *зак., незад.* Стрываць. *Дзе ты ні еўшы сьцягняш да палудня!* Гр.

СЦЯ´КНУЦЬ (сьцякнуць), *зак.* Сцячы. *Як вада сьцякня трохі, павешу плацё, хай высыхая.* Кр. *Німа як касіць, вады гэдулько на аселіцы, мо хіба як сьцякня, скосімо.* Гр.

СЧУ´БІЦЦА (шчубіцца), *зак.* Пачаць сварыцца, біцца. *Адно адышлася ад малых — ужэ і шчубіліся — б'юцца.* Ал.

СШЭ´РХНУЦЬ (шшэрхнуць), *зак.* Крыху падмарозіць. *Сушэй будзя, як шшэрхня.* Пл.

СЫНАВА´Я, *ж.* Жонка сына (ў адносінах да маці мужа). Кар.

СЫНО´ВЕЦ (сыновяц), *м.* Няродны (прыёмны) сын. *Гэто яго сыновяц так аблаяў.* Вар.

СЫРЫНІ´ШЧА (сырынішчо), *н., незад.* Садавіна (у супрацьлегласць варыву). *Што ты сырынішча гэтаго пад'ясі. Ідзі перш паабедай, а тагды пойдзяш у яблыкі.* Гр. *Сырынішча наеўсё нашчо і сьнедаць ні хоча.* Ст. С.

СЫСА´К, *м.* Цяля, якое яшчэ ссе карову; сысун. *Сысаком над глатко цяля было, а як ацсадзлі — пахудняло.* Вар.

СЫ´СКА, *ж.* Соска. *Сыска слабо малако пуская.* Вар.

СЫ´Ч, *м., рэдк.* Клін. *Гэты сыч картопяль за дзень выкапалі самыя, бяс памагатараў.* Кр.

СЫЧЫНЯ´, *ж., узмацн.* Пра надта сытага. *Паздаравеў і твой, але ні такі, як Ёзік, сычыня.* Гр.

СЭ´ПЛІ, *мн.* 1. Соплі. Кр. 2. Замёрзлыя каплі (на страсе). *Сэплі, як штыке, вісяць на стрэсі.* Гр.

СЮД-ТУ´Д (сют-тут), *прысл.* Крышачку счакаўшы, хутка. *Лесь на вос, доўго ні чакацімяш: сют-тут і даваціму табе сноп.* Гр. *У малатарню трэба ўсьпяваць падаваць: сют-сут і снопа німа, другі давай.* Ст. С.

СЮДЭ´МІ, *прысл.* У гэты бок, у гэтым кірунку, гэтаю дарогаю (кірункам). *Сюдэмі, як дошч ні ідзе, егдзяць вазамі, а цяпер і напяхоту грузьняш.* Угр.

СЯВА´К, *м.* Сейбіт. *Сявак пайшоў сеяць, а я — баранаваць.* Едн.

СЯВА´ЛКА, *ж.* Конная сеялка. Едн.

СЯВЕ´Ц, *м.* 1. Сейбіт. *Сявец зь яго слабы — стары, нідужы ўжэ.* Гр. 2. Фартух, з якога сеюць. *Сявец астаўсё дома. І ў што ён жыто браціму сеяць?* Ст. С.

СЯГДЫ-ТАГДЫ´, *прысл.* Сяды-тады. *Часто ні бываю, аля сягды-тагды егджу на кярмаш.* Дауг.

СЯ´ДРАВА (сядраво), *прысл.* Ядрана. *От сядрава на дварэ, холат.* Едн.

СЯ´ДРАВЫ, *прым.* Ядраны. *Сядравы ранак.* Едн.

СЯДУ´НКА, *ж.* Від фасолі (расце кустам, не ўецца). *Сядунку завялі, то ні трэба на гэту пасолю ніякіх тычкаў. Збрыдла нам тая тычкавая пасоля.* Зл.

СЯЛЬНІ´К, *м.* Самаробны матрац — шырокі мяшок, набіты саломаю. *Уся салома пярацерлася ў сяльніку, німа на чом спаць.* Вар.

СЯЎНЯ´, *ж., экспр.* Тоўстая жанчына. *Крэсло пэнкло, як села сяўня гэта.* Гр.

# Т

ТАБАЧКО´ВЫ, *прым.* Колеру тытуню. *Файно пальто — табачково такоё — наравіцца цьвет.* Ст. С.

ТАВАРЫШКАВА´ЦЬ, *незак.* Сябраваць, таварышаваць. *Мы з Марысяю таварышкавалі.* Ал.

ТАГДЫ´ 1. *прысл.* Тады. Гр. 2. *прысл.* Потым. *Перш я буду гараць, тагды ты.* Кр. 3. *злучн.* Як. *Сходзімо, тагды прыедзяш.* Гал.

ТАКВЕ´ЛЯ, *прысл.* Столькі (многа), так шмат. *Таквеля льну пасеяў. Хто яго абробіць?* Ст. С.

ТАКСО´ЎКА, *ж.* Легкавы аўтамабіль. *На таксоўцы, як пан, егдзіць.* Зл.

ТА´РКА, *ж.* Дошка для мыцця бялізны. *Як тарка есьцяка, ляхчэй мыць плацё.* Гр.

ТАРПАТЫ´НА, *ж.* Шкіпінар. *Глістоў завёў, тарпатынаю мажу пад носам.* Вар.

ТАТУ´ЛЯ (татулё), *м., рэдк.* Хрышчоны бацька. *Татулё мой нігэдыкі скупы, яг бацько.* Кр.

ТА´ТУСЬ, *м., зняважл.* Тата. *І гэто ўсё татусь нарабіў бяды.* Гр.

ТА´ТУШ.КА (татушко), *м., пяшчотн.* Татка. *Татушко, гасьцінца дай мне.* Гр.

ТАЎКА´Ч, *м., зняважл.* Той, хто замінае, таўчэцца пад рукамі. *Ні мяшай, адыдзі, таўкач.* Св. 2. *асудж.* Маруда. *Таўкач некі, нічого ні зрбоіць, калі трэба, — капаяцца.* Гал.

ТАЎКЕ´ЛЬ, *м.* Штурханец. *Надаюць табе таўкялёў, хлопяц, як ні слухацімяш.* Св.

ТАЎСМА´НЫ, *прым.* Таўсматы. *Нат таўсманы камель, дроў будзя, як папілуям.* Яр.

ТАЧЫ´ДЛА (тачыдло), *н.* Тачыльны станок, тачыла. *На тачыдлі хутко гострацца нажэ.* Зл.

ТКА´ННІЦА, *ж.* Ткалля. *Ішчэ адна тканніца прышла, хутко кросна выччам.* Ст. С.

ТОК, *м.* 1. Частка гумна для малацьбы. Яр. 2. Под (у печы). *Ток выгараў.* Кр. 3. Земляная падлога. *У кухні падлогі ні робяць у нас, а ток, бо много вады наліваяцца.* Гал.

ТО´ЎСТАЯ, *ж.* Цяжарная. Яр.

ТО´ЧКА, *ж.* Група, грамада (сабак, ваўкоў). *На грамніцы ваўке, кажуць, точкаю ходзяць.* Вальк. *І тут цэла точка сабак гэтых назьбіраласё.* Гал.

ТПРО-ТПРО!, *выкл.* Так падклікаюць кароў. Кр.

ТПРУЦІ, *прысл., дзіцяч.* На двор, на вуліцу. *Сашка просіць тпруці, хоча на санках паегдзіць.* Вар.

ТРАЙГА´, *ліч., застар.* Трое. *І ў Гандзі ўжэ трайга дзяцей.* Гр.

ТРАЙНІ´ЛА (трайніло), *н.* 1. Частка воза (вілкі, што злучаюць задок воза з перадком); трайня. *Трайніло палажсыў, як у лес егдзіў.* Гр. 2. *перан., абразл.* Пра чалавека. Св.

ТРАЙЦІНА´, *ж. застар.* Мера зямлі — 7 га (1/3 участка). Едн.

ТРАЙЦЯ´К, *м.* 1. *застар.* Мера зямлі — трэць участка (да 8 га). *На трайцяк восім душ было.* Кр. 2. Пра трохгадовую жывёліну. Ст. С.

ТРАКЕ´НЯ, *ж.* Багна, гразкае месца. *Дзе ты там пройдзяш — тракеня гэдыкая!* Гр.

ТРАПА´ННІЦА, *ж.* Трапальшчыца. *Каб боляй трапанніцаў, мо і ўсей лён атрапалі п.* Гр.

ТРАПА´ЦЬ, *незак., незад.* Ісці, пакрываць вялікую адлегласць. *Халера яго будзя трапаць такую даляч — паедзям.* Гал.

ТРАПА´ЧКА, *ж.* Трапло. *Трапачка нешто лён цягая, мусіць, пакалолася.* Ст. С.

ТРАПУ´ШКА, *ж.* Тое, што і т р а п а ч к а. *Трапушка залёхка, трапаць кепско.* Едн.

ТРО´ПНУЦЬ, *зак.* Ударыць, стукнуць (цвёрдым). *Будзяш круціцца за сталом — тропну лошкаю па лобі.* Гал.

ТРУБА´, *ж.* 1. Цэментаваны абруч у калодзежы. *Пяць труп — і вады ні дасталі.* Вар. 2. *іран.* Тоўстая, ненаедная. *От труба, усё есьць і есьць — зара ў хату ні ўлезя.* Ст. С.

ТРУБІ´ЦЬ І, *незак., іран.* Многа і прагна есці. *Як прысеў — трубіць і трубіць, пакуль уся капуста ні будзя.* Гр.

ТРУБІ´ЦЬ ІІ, *незак.* Сігналіць. *Хутчэй ідзі, а то шофяр усё трубіць.* Гр.

ТРУДНАВА´ЦЬ, *незак.* Пакутаваць. *Назаўтра от труднаваў пасля гарэлкі тае. І нашто яе гэдаквяля піць?* Вальк.

ТРУДЫ´, *мн.* Пакута, цяжкасць. *Гатову купіў (хату) і найлепяй. Колькі трудоў на яе трэба, што сама таго ні варта.* Угр.

ТРУМЦЕ´ЦЬ, *незак.* Пра паколаты гаршчок (збанок), калі ім стукаюць — правяраюць, ці цэлы. *Недзя дзірка, рас трумціць.* Ст. С.

ТРУПЭ´РНЯ, *ж.* Морг, трупярня. *Халадно, як у трупэрні.* Зл.

ТРУШКА´, *прысл.* Трушком. *Усю дарогу трушка ехалі.* Кр.

ТРЫ´БА, *ж.* Лясная дарога. *Трыбаю паедзям ці па-за лесі?* Гр.

ТРЫБУХА´Ч, *м., абразл.* Трыбухаты. Яр.

ТРЫБУШНЯ´, *ж., абразл.* Трыбухатая. Ст. С.

ТРЫБУШО´К, *м.* Ручнік, тканіна якога нагадвае соты пчол. *У дарогу трыбушок вазьмі выціраццa.* Гр.

ТРЫВУ´ЛА (трывуло), *прысл.* Трывала. *Як ні паясі капусты с салам — ні трывуло, раз-два есьці хочацца.* Вальк.

ТРЫ´МКАЦЬ, *незак., асудж.* Іграць, тромкаць. *Трохі трымкая, аля ні скажу, каб добро граў.* Яр.

ТРЫНО´ЖКІ (трыношкі), *мн.* Металічная падстаўка на трох ножках; трыножак. *Есьці на трыношках звару.* Вар.

ТРЫСЦІ´ЦЬ (трысьціць), *незак.* Злучаць, зводзіць для сукання ніткі. *Я трысьціць буду, а сукацімяш пасьля.* Гал.

ТРЭ´ЙЧЫ, *прысл.* Тры разы, тройчы. *Трэйчы заходзіў, і нікагутко німа.* Пл.

ТРЭ´ЛІЦЬ, *незак.* Гаварыць пустое, балакаць. *Ніхто яго ні слухая, што ён там трэліць.* Гр.

ТРЭ´ЛЯ, *м.* і *ж.* Пустамеля. *От трэля нека, усё трэліць і трэліць. Абы-што.* Вальк.

ТУ´ВАВА-ТУ´ВАВА. Гукаперайманне ігры на гармоніку. *І ён, хоць малы, а ўжэ тувава-тувава — грая.* Дзяр.

ТУДЭ´МІ, *прысл.* У тым кірунку, па тым шляху. *Ідзі, дзеткі, тудэмі, бо тут натто граско, у чаравіках ні пройдзяш.* Пл.

ТУ´ЛІ, *мн.* Гардзіны з прыгожай парусінавай тканіны. *Цяперака тулі много ў каго на вокнах есьцяка.* Даўг.

ТУ´ПКАЯ, *прым.* Трывалая, вытаптаная (дарога). *Ні павінна загразнуць, дарога тупкая.* Гал.

ТУ´ПТАЦЬ, *незак., зламоўн.* Працаваць (дома). *Ухошка за каравамі да за вамі так надаесьць. Цэлы дзень тупчаш кала печы.* Ст. С.

ТУ´РЗАЦЬ, *незак.* Тузаць. *Балячка нарывая, натто турзая.* Гр. *Ні турзай каня так!* Яр.

ТУРБА´ЦЫЯ, *ж.* Турботы, клопат. *Нашто ішчэ рас такая турбацыя, хай разам едзя. Ні надалужыш гэтым днём.* Гр.

ТЫМЧАСО´ВЫ, *прым.* Часовы, да часу. *Мо хоць тымчасову буду якую зьлепім на зіму, каб было дзе жыць.* Зл.

ТЫР-Р!, *выкл.* Так спыняюць каня. *Тыр-р! Гняды! Прыехалі.* Вальк.

ТЫЧКАВА´Я, *прым.* Гатунак фасолі (пляцецца па тычках). Кр.

ТЭ´ЛЬБУХ, *м., экспр.* Трыбух. *Ніяк ні зашпіліцца: тэльбух ні дае — ха-ха-ха!* Гр.

ТЭ´ЎШЧАР, *м. незад.* Тоўсты. *Дзе ты яго двох падымяш! Тэўшчар гэдыкі камель той.* Гр.

ТЭ´ЧКА, *м.* 1. *застар.* Партфель. *Бало ўсе ўжэнднікі с тэчкамі хадзілі за Польскаю.* Кр. 2. *іран.* Сумка, партфель. *Нуй велька тэчка ў цябе, сынку!* Яр.

## У

УБО´ІНА (убойіна), *м.* і *ж.* Неслух, вупар, лянівы. *Дзе ён табе пойдзя! Лепяй паляжыць — убойіна гэты.* Гр.

УВАБРА´ЦЬ, *зак.* Зжаць (скасіць) і забраць зжатае (скошанае); убраць. *Добро што ўвабралі з-за пагоды, а то як раздажджыцца — згніло п.* Кр. *І мы ўжэ ўвабралі — у гумне ні змарнуяцца.* Ст. С.

УВАРЫ´ЦЦА, *зак., непаш.* Моцна спацець, увапрэць. *Гаш цячэ зь яго, так увары ўсё, на лыжах егдзячы.* Дзяр.

УВЫШКІ´ (увышке´), *прысл.* Увысь, увышыню. *Гэта бярэзіна тонкая, аля высокая, гоніць яе увышке.* Св.

УГАЛО´ЎНЕ (угалоўня) *прысл., незад.* Абавязкова, канечне. *От, угалоўня яму на торх сёніка! Другім разам паедзяш.* Вальк.

УДО´Д (удот), *м.* 1. Удот. 2. *абразл.* Дурань. *Халера з гэтым удотам што люцко зробіш.* Гр.

УДУ´ХА, *ж.* Дыхавіца. *Удуха напала, ні магу аддыхацца.* Св.

УДЗЮ´БАЦЦА, *зак., непаш.* Памыліцца, у незнаёмым бачыць знаёмага; укляпацца. *І што на міне найшло: удзюбаўсё ў неку жонку — мая сванька, і ўсё! Аля не, ні яна была гэто.* Гр.

УЖЭ´НДНІК, *м.* Службовец. *Пры Польшчы с тэчкамі такімі ўжэнднікі хадзілі адно.* Пл. *Ужэнднікам некім робіць у горадзі.* Ал.

УЗІРА´ЦЦА, *незак.* Глядзець. *Узірайся сюды, а не ты назад узіраясься.* Ст. С.

УКАМЯНЕ´ЦЬ, *зак.* Стаць каменным, скамянець. *На марозі ўкамянело сало.* Кр. 2. *зламоўн.* Стаць нерухомым. *Чаго ты ўкамянеў на лаві гэтуй? Ідзі карові дай есьці.* Яр. *Села, як укамянела, ні падняцца.* Гр.

УКАРА´ЦЬ, *зак.* Даць кару, пакараць. *Укаралі, так пярастаў рабіць што ні трэба.* Даўг.

УКВЯЛІ´ЦЬ, *зак.* Давесці да плачу. *І хто гэто дзіця ўквяліў? Чаго яно, бедно, плача?* Кр.

УКЛЕ´ЯЦЬ, *зак., экспр.* Пабіць, агрэць. *Ні хоча слухаць, пакуль ні ўклейіш па мордзі.* Дзяр.

УКО´ПАНЫ, *прым.* 1. Укопаны. 2. *перан.* Нерухомы, які не паказвае жыцця. *Спіць — ну ўкопаны.* Гр.

УКРА´ДКАМ (украткам), *прысл.* Крадком. *Хочаш, так папытай, а ні ты украткам цягняш.* Гал.

У´ЛЬГА, *ж.* Аблягчэнне, льгота. *Мне, старой ніякай ульгі німашака, таму поўно плачу за кваціеру.* Зл.

УЛЯ´, *часц.* Вось, вунь. *Уля і дахаты ўжэ пара, а мы нічого ішчэ ні купілі на кярмашы.* Гр.

УМАНУ´ЦЬ, *зак., асудж.* Прывыкнуць. *Умануў нічого ні есьці рано і так ходзіць галодны да палудня.* Вар.

УМІ´ТУСЬ, *прысл.* Каласы да каласоў (класці); мітусь. *Умітусь снапэ на торпі кладзем.* Кр.

УМЫЛІ´ЦЦА, *зак.* Страціць. *Пакуль зьбегаў па грошы, умыліўсё калейкі, трэба зноў с канца стаяць.* Кр.

УПА´СЦІ, *зак.* Накінуцца, напасці. *Як упалі ў капусту чэрві, то ўсё чыста зьзелі: лісьця німашака, адныя качанэ стрычаць. Жуке ўпалі ў картоплі. Як ні патруціць іх — зьядуць картапленё ўсё.* Кр.

УПІРА´ЦЬ, *незак., безас.* Прыпіраць. *Мне ні ўпірая, можаш аддаць і праз месяц.* Угр.

УПО´РУЧ, *прысл.* Радам, поруч. *Упоруч паселі ў возі, а фурман адзін сьпераду.* Гал.

УПРА´ЎКА, *ж.* Работа па гаспадарцы (дома). *І ўпраўка — ні малая работа: накармі, напой і скаціну і вас.* Св.

УПРЫ´ЦІЦЬ, *зак. экспр.* Моцна звязаць. *Як упрыцім, ні паварушысься.* Вальк.

УПЫ´Н, *м. незад.* Супакой, стрыманне. *Прамануў — ідзе і ідзе ў тоё сяло, і ўпыну на яго німа.* Св.

УРАДАВУ´Ю, *прысл.* Побач, у рад, у шарэнгу. *І чаго вы пасталі ўрадавую? Садзецяся і чакайця свайго (выкліку).* Св.

УРО´Д (урот), *м.* Ураджай. *Яг добры ўрот, то і з гэтаго па пудоў сорак намалочваям.* Гр.

УРУЧКІ´ (уручке), *прысл.* Роўна з драбінамі (накласці воз). *Много ні бяры сена — уручке накладзі і ець хучэй.* Вальк.

УРЭ´Х, *м.* Вузенькая палоска глебы (ля разоры), якую астаўляе неспрактыкаваны араты. *Слабы гараньнік, рас урэх ні возьмяш.* Гр.

УСМІРА́ЦЬ (усьміраць), *незак.* Супакойваць, мірыць. *Як прыду с папругаю, хутко усьміру, ні будзяця біцца і крычаць там.* Вальк.

УСТРАШЫ́ЦЬ, *зак.* Запалохаць. *Ты яго ні ўстрашыш. Ён ні гэто бачыў.* Пл.

УСТРЭ́НУЦЬ, *зак.* Сустрэць. *Хай ідзе, мо дзе вайке ўстрэнуць дурня гэтаго. Тагды ні будзя хадзіць.* Гал.

УСТУПА́ЦЦА, *незак.* Абувацца нахаду, без анучы, не зашнуроўваючы абутак. *Уступаюся ў боты і іду да цябе.* Кр. *Нашто ўступацца, раз босаму цяпло.* Гр.

УСТУПІ́ЦЦА, *зак.* Гл. у с т у п а ц ц а. *Німа калі зашнуроўваць, так уступлюсё і пабягу хучэй да малого.* Яр.

УСТУ́ПКІ, *мн.*, *адз.* у с т у п а к, *м.* Пакаёвы абутак; тапкі. *У хаці ўступкі, а на двор другоё што абувай.* Гр.

УСЦЕ́ЛЬКА (усьцелька), *ж.* Вусцілка, сцілка. *Усьцельку даў з раменю ў бот.* Ст. С.

УСЭ́НТАРЫЦЬ, *зак.*, *экспр.* Укласці. *Усяго паршука ўсэнтарылі ў рашку, яг закалолі.* Гр.

УТО́РЫ, *мн.* Утора. *Уторы выразаў у клепках на дно.* Вар.

УТО́ЎПІЦЦА, *зак.* Змясціцца. *Навальны дошч як лінуў, то столькі вады дало, што ў сажаўцы ні ўтопілася, вышла зь берагоў.* Ст. С.

УТРА́ТА, *ж.* Страта, згуба. *Які заробак з гэтымі парасятамі — адна ўтрата: так часто здыхаюць.* Яр.

УТРА́ЦІЦЬ, *зак.* Не мець выгоды, страціць. *На грушах зараблю, а на яблыках і заўша ўтраціш, бо мало хто купляя йіх.* Гал.

УХО́ДАРЫЦЬ, *зак.* Прывесці ў парадак, прыбраць (заколанага вепрука). *Ледзьвя ўходарылі паршука да цямна, як закалолі ў палудзянь.* Гр.

УХО́ЖКА (ухошка), *ж.* Тое, што і у п р а ў к а. *Аднае ўхошкі колькі — натупаясься добро за дзень.* Гр.

УЦЮ́КАЦЦА, *зак.*, *асудж.* Закахацца без меры. *Як уцюкаўсё, то хоць ты яму што хоч. Кажа, буду жаніцца, і ўсё.* Ст. С.

УЦЮ́ЦЬКАЦЦА, *зак.*, *асудж.* Гультайнічаць, нічога не рабіць. *Хоць ты разарвіся, а ён сабе ўцюцькаяцца і ляжыць.* Гр.

УТРУБІ́ЦЬ, *зак.*, *жартаўл.* З'есці. *Як утрубіў чыгун капусты — пад'еў — добро!* Ст. С.

УЦЯЦЕ́РЫЦЦА, *зак.*, *асудж.* Пільна углядацца. *Мой стары як уцяцерыцца ў што, то воч ні адвядзе ад яго.* Гр.

УЦЯ´ЦЦА, *зак.* Уперціся, занатурыцца. *От убойіна, як уцяўсё, ні заставіш ніякаю радаю.* Гал.

УЦЯ´ЦЬ, *зак.* Укусіць. *Сарваўсё і ўцяў за лытку (сабака).* Вальк.

УЧА´СТАК, *м., застар.* Мера зямлі — 21 *га.* Кр.,Гр.

УШПІЛІ´ЦЬ, *зак., незад.* Моцна сцебануць. *Як ушпіліў, гаш заскавытаў (сабака).* Гал.

УШЧАПІ´ЦЬ, *зак.* Прышчапіць. *Ушчапіў дзьве грушы і яблыню.* Ст. С.

УШЧАПЛЯ´ННІК, *м.* Той, хто прышчапляе («ушчапляе») пладовыя дрэвы. *Пасохлі твае ушчэпкі, ні прыняліся. Кепскі сь цябе ўшчапляннік.*

УШЧАПЛЯ´ЦЬ, *незак.* Гл. ушчапіць. *Малы, а ўжэ ўшчапляць навучыўсё прысаткі.* Св.

УШЧЭ´ПАК, *м.* Прышчэпа. *Нешто ссох той ушчэпак.* Гр. *Прас чатэры рокі ўшчэпак яблыкі даў.* Вальк.

## Ф

ФА´ЙНА (файно), *прысл.* Хораша. *Каб адно ты ўмеў так файно сьпяваць!* Ал.

ФА´ЙНЫ, *прым.* Прыгожы, харошы. *Грошай ні ўзяла. От файны тавар быў, трэбуло купіць — і на табе!* Зл.

ФАЛЬШЫ´ВЕЦ (фальшывяц), *м.* Несумленны («фальшывы») чалавек, ашуканец. *Гаворыць адно, а робіць другое — фальшывяц гэты.* Гр.

ФАМІЛЬЯ´НТ, *м.* Чалавек, які мае аднолькавае прозвішча. *Хай фамільянт скажа, ці гэто ніпраўда?* Вальк.

ФАНА´Р, *м.* Ліхтар. *С фанафом у хлеў хадзіла карову лядзець.* Вальк.

ФАСМЭ´ТАР, *м.* Кубічны метр. *Дроў фасмэтар купілі.* Кр.

ФІЛІНГО´ВЫ: філінговыя дзверы — узорыстыя, на дзве палавінкі. Гр.

ФУНДАВА´ННІК, *м.* Фундатар. *Каб ні фундаваннік, то ні купіў бы я табе гэтае таксоўкі, бо грошай гэдулькі нігды ні было ў міне.* Гр.

ФУНДАВА´ЦЬ, *незак.* Частаваць. *Я прывёс, а фундаваць трэба табе.* Ал.

ФУФА´ЙКА, *ж.* Ватнік. *У фуфайцы цяпло і зручно рабіць.* Ст. С.

ФЭ´ЙЧАР (фэйчар), *м.* Фельчар. *За фэйчара недзя робіць дачка.* Кр.

ФЯРМА´Ч, *м.* Работнік фермы. *І сам робіць на фермі, і сын фярмач.* Ст. С.

# Х

ХАДАКІ´, *адз.* хадак, *м.* Скураныя лапці. *Гадоў трыццаць назат, за панамі, ішчэ ў хадакох хадзілі па сяле.* Вальк.

ХАДУ´Н, *м., незад.* Хадак. *Які зь яго хадун! Ледзьвя ногі цягня.* Вар.

ХАЛАСЦЯ´НКА, *ж.* Халасцячка. *Доўго-доўго была яна халасцянкаю, а тагды знайшоўсё добры чалавек, бежаняц і прышоў у прымы да яе. І добро жывуць — дзяцей маюць.* Гр.

ХАЛО´ДНІЦА, *ж.* 1. Халоднае памяшканне. *Такая ўжэ халодніца наша хата, што колькі ні палі тую кахлёвую печку, усяроўно ні напаліш да цяпла, усё халадно тут.* Гр.

ХАЛЭ´МБУС, *м.* Капут, канец. *Ну, думаю, нямчур, тут табе і халэмбус будзя.* Гр.

ХАЛЯРЫ´СТЫ, *прым.* Нялюдскі, шкодлівы. *От халярысты гэты кот: дзе ні павесь каўбасы, скрось далезя і пагрызе.* Гр.

ХАРАШЫНЯ´, *ж.* Прыгажосць, хараство. *Як цьвітуць яблыні — от харашыня ў том садзі!* Ст. С.

ХАР'ЯТЫ´ (хар'ятэ´), *мн., груб.* Пра дрэнны абутак. *Халера йіх насіцімя, хар'ятэ гэтыя, куплю сабе акуратныя боты.* Гр.

ХА´ТА, *ж.* 1. Двор (асобная сядзіба). *У нашум сяле сто хатаў.* Кр. 2. Гарышча. *На хаці сыры вісяць.* Св. 3. Пакой. *У тую хату ідзеця, тут дым на кухні.* Гал.

ХА´ЎКАЛА, (хаўкало), *м.* і *ж.* 1. Задушлівы чалавек. *Як толькі хучэй станя йісьці, так і захаўкая, хаўкало гэты.* Св. 2. Той, хто часта пазяхае. *Хай ужэ спаць ідзе, ні хаўкая, хаўкало гэта.* Кр.

ХА´ЎКАННЕ (хаўканё), *н.* 1. Цяжкае дыханне. *Адно хаўканё чула с тае хаты.* Гр. 2. Пазяханне. *Яг бытто я боляй спала, што ўсё хаўканё!* Гр.

ХА´ЎКАЦЬ, *незак.* 1. Цяжка дыхаць. *І чаго ты хаўкаяш? Натто даўсё, воз дроў прывёшшы?* Гр. 2. Пазяхаць. *От ні сеў ні паў і хаўкая — спаць яму, беднаму, німа калі!* Ст. С.

ХАЦЯ´МСЯ (хацямсё) 1. *злучн.* Хаця б, хоць бы. *Байіцца, хацямсё яго бацька хапун ні ўзяў.* Гр. 2. *часц.* Хоць. *Хацямсё ты ні лесь нікуды, Ванька!* Ст. С.

ХВАІНА´ (хвайіна), *ж. зборн.* Хвойнік. *Добрыя грыбэ ў хвайіне нарасьлі.* Вальк.

ХВАРУ´ТКІ, *прым.* Надта хворы. *Мусяць, ні ўстану я сёніка ў печы паліць: нека хварутка сусім.* Гр.

ХВАСТЫ´ (хвастэ), *мн.* Канцы асновы, якія астаюцца, калі адрэжуць палатно. *Мо хвастамі тутунь вязацімям?* Яр.

ХВАШЧА´ЙКА, *ж.* Хвошч (расліна). *Хвашчайку каравэ добро ядуць.* Св.

ХІТРУ´СЬ, *м.* Хітрун. *Ён цябе пад дурного хату раз-два падвядзе. Гэто добры хітрусь, мы яго ведаям даўно.* Кр.

ХЛАПЧА´К, *м.* Хлопец гадоў пад 14, хлапчук. *Ужэ велькі Зьмітрук, настаяшчы хлапчак.* Гал.

ХЛАПЧЫ´СКО, *м., узмацн., непахв.* Хлопец, хлапчына. *І як табе ні брытко? Хлапчыско такі, а дзяцей кveліш — плачуць ад цябе.* Гр.

ХЛЮШЧ: м о к р ы я к х л ю ш ч — надта мокры. *Гэта ш трэба так змокнуць — мокры як хлюшч прышоў дахаты.* Ст. С.

ХЛЯ´БА, *ж.* 1. Дыхавіца. *Дух сперло, як у хлябу здаў.* Гр. 2. Пах. *Мало пад'ела карова, адно хлябы стрычаць.* Св.

ХЛЯБО´ВЫ, *прым.* Прызначаны для хлеба. *Рошчына асталася ў хлябовай дзяжы. Трэба паліць хлябову печ, тагда цяпло будзя.* Гр.

ХО´ДКА (хотка), *ж.* Час работы паміж адпачынкамі (пры малацьбе, рэзанні сечкі). *За адну хотку змалоцім гэтыя дзьве капе жыта.* Кр.

ХО´ДНІК, *м.* Тратуар. *Гэто ні ў горадзі, што ходнікі, у сяле німа йіх.* Вар.

ХРА´ПА, *ж.* Замёрзлая гразь, груда. *Па храпі гэтуй калошы папрабіваяш.* Пл.

ХРАПА´ТЫ, *прым.* З вялікімі ноздрамі. *Храпаты які: паляц лезя ў храпу.* Даўг.

ХРАСЛЫ´ (хрэслэ), *адз.* х р а с ё л , *м.* Грыбы груздзы. *Храслэ натто смашныя, пасаліўшы.* Гр.

ХРАСТО´К, *м.* Расток (бульбы). *Картоплі храстке папускалі.* Пл.

ХРАСЦІ´ЦЬ (храсьціць), *незак.* Прарошчваць (насенне, бульбу — каб з'явіліся «храсткі»). *Кап хутчэй пасходзілі картоплі, йіх трэба храсціць — кап папусукалі храстке.* Гр.

ХРО´ПНУЦЬ, *зак.* 3 трэскам, нечакана зламацца. *Натто крохкая асіна. Як сеў на сук, так і хропнула.* Гал.

ХРОСЦЬ (хросьць), *м.* Тое, што і храсток. *Хросьці апціраям с картопяль.* Кар.

ХРУШЧ, *м., перан., непахв.* Малы, благі чалавек. *Сама велька, мажная жонка, а за такого хрушча замуш пайшла, што кот за ноч зьзеў бы яго.* Ст. С.

ХТО-БА´ЧАЧЫ, *займ.* Хто-ніхто. *Хто-бачачы і пасеяў, а ты ні згараў нават.* Гр.

ХУДАШЧА´ВЫ, *прым.* Хударлявы. *Не, ні мажны хлопяц, худашчавы.* Даўг.

ХУДНЯ´ЦЬ, *незак.* Худзець, худнець. *Корму яг забракуя, худняя скаціна.* Ал.

ХУДЭ´БА, *м.* і *ж.* Худзізна. *Есьць — і яго есьць — худэба гэта.* Св.

## Ц

ЦАДЗІ´ЛАК, *м.* Цадзілка. *Пацёк цадзілак.* Вальк.

ЦАПЕ´ЛЬЕ (цапельё), *м.* Цапілына. *Задоўго цапельё.* Кар.

ЦАПІ´ДЛА (цапідло), *н.* Цапільна. *Біч сарваўсё с цапідла.* Една.

ЦВА´НЫ, *прым., іран.* Харошы, добры. *Чаму ні любіць такого цванаго кавалера?* Дзяр.

ЦВІ´ЧЫЦЬ (цьвічыць), *незак.* Муштраваць. *Будзя табе цьвічыць каня гэтаго.* Гр.

ЦВІЧЭ´ННЕ (цьвічэнё), *н.* 1. Вучэнне, муштраванне. *І цьвічэнё тваё ні паможа, як сам за розум ні возьмяцца.* Ст. С. 2. Манеўры, вучэнне (вайсковае). *Як цвічэнё было, цьма-цьмушчая салдатаў тых наехало.* Гр.

ЦЕ-ЦЕ-ЦЕ!, *выкл.* Так клічуць гусей. Пл.

ЦЕЛЯПА´ЙЛА (цяляпайло), *н.* Маруда. *Колькі яна выжня за дзень, цяляпайло гэто.* Кр. *Ідзі хучэй, цяляпайло!* Ст. С.

ЦЕЛЯПА´ЦЦА (цяляпацца), *незак.* 1. Хістацца, матляцца. *Нешто цяляпаяцца. Мо колас які.* Яр. 2. *асудж.* Паволі, марудна працаваць. *Які зь яго работнік! От, цяляпаяцца, абы дзень да вечару.* Св. 3. *жартаўл.* Ісці ўразвалку. *Просто ідзі, ні цяляпайся!* Кр.

ЦЕЛЯПЕ´Й (цяляпей), *м.* Целяпень, маруда. *Кап хоць трохі хутчэй рабіў цяляпей гэты.* Гр.

ЦЕМНАТЭ´ЧА (цямнатэча), *ж., узмацн.* Цемра, цемната. *А на дварэ цямнатэча, хоць у воко калі.* Гал.

ЦЕ´МНАЧ, *ж.* Тое, што і цемнатэча. *Ночу такая цемнач, хоць на воўка лесь.* Ст. С.

ЦЕ´МЯНЕ (цемянё), *н.* Цемя. *І ў яго доўго цемянё ні зарастало, як малы быў.* Гр.

ЦЕМЯНУ´ЦЬ (цямянуць), *зак.* Моцна ўдарыць. *Чуць ні забіў, як цямянуў калом па галаве.* Св.

ЦЕ´НЖАР, *м., незад.* 1. Цяжар. *Дзе ты бачыў, кап такі ценжар двох паднялі.* Вальк. 2. Цяжкі. *Такі ценжар гэта штука, на вос ні зваліш.* Гр.

ЦЕРАБІ´ЦЦА (цярабіцца), *незак.* 1. Церабіцца. Яр. 2. Сіліцца вылезці (з-пад каго). *Дарма ты цярэбісься — ні вылязяш с-пад міне.* Яр. 3. Чухацца. *І чаго ўсё цярэбіцца, як каросьлівы!* Даўг.

ЦЕРАБІ´ЦЬ (цярабіць), *незак., экспр.* Абіраць (здымаць з дрэва). *Од гіцлі, поўныя кішэні наабіралі і яшчэ цярэбяць (яблыкі).* Кр. 2. Біць, лупцаваць. *Паймая і цярэбіць па вушах гіцля гэтаго.* Св.

ЦЕ´РАД (церат), *прыназ.* Сярод, пасярэдзіне. *У куце сяць, ні церат хаты прымасьціўсё.* Гр.

ЦЕ´РНІЦА, *ж., перан., жартаўл.* Ненаедны. *От церніца гэта! І калі яна наесца.* Кр.

ЦЕ´РПНУЦЬ, *незак.* Нямець, дзервянець. *Як патрымаяш доўго руку ўверху, так церпня, як ніжсывая станя.* Даўг.

ЦЕЦІВА´ (цяціва), *ж.* Надземная частка раслін, націнне. *На цяціву картоплі ні благія, а якія будуць — капанё пакажа.* Гр.

ЦЁНГ (цёнх), *м.* Цяга. *Цёнгу німа, і дыму поўна хата.* Кр. ◊ Адным цёнгам — бесперапынна, не сціхаючы *(незад.). Спаць ні сьпіць, адным цёнгам енчыць.* Гр.

ЦЁ´ПКАЦЦА, *незак.* Калашмаціцца, высыпацца (пра незарублены край тканіны). *Цёпкацца будзя, як ні зарубіш хустку.* Гр.

ЦЁ´ТУШКА (цётушко), *ж., пяшчотл.* Цётачка (пры звароце). *Каб я так жыва была, праўду, цетушко, кажу.* Дзяр.

ЦІ´ЖЫК, *м.* 1. Чыж. *І ціжсык пшаніцу любіць.* Кр. 2. Ваўчок (забаўка). *От круціцца ціжсык.* Св.

ЦІ´ПУ-ЦІ´ПУ, *выкл.* Ціп-ціп. *Ціпу-ціпу, мае курачкі, я вас пакармлю, кап добро нясьліся.* Зл.

ЦІ´ПЦЯ, *ж., дзіц.* Ціпка, курыца. *Ціпцю паймай мне, я карміціму яе хлебам.* Кр.

ЦІ´СЬКІ!, *выкл.* Вокліч, якім адганяюць жарабя. Ст. С.

ЦІШКА´, *прысл.* Патаемна, спадцішка, цішком. *Гэты хітрусь Йіваначко ўсё цішка робіць, каб ніхто ні ведаў.* Гр.

ЦОХ-ЦОХ!, *выкл.* Так клічуць парасят. *Гал.*

ЦУБРЫ´ЦЬ, *незак., экспр.* Цурчаць, моцна ліцца. *Од дошч цубрыць па блясі.* Ст. С.

ЦУ´КЕР (цукяр), *м.* Цукар. *Цукяр пяскавы.* Зл.

ЦУ´НГЛІ, *мн.* Цуглі. Едн.

ЦУ´НТАР, *м.* Крэсіва. *Цунтар і цыр — і агонь будзя.* Кар.

ЦУ´ХЛІЦЬ, *незак.* Жлукціць (піць). *Адну воду цухліць, ніц ні есьць.* Гр.

ЦЫБУЛЕ´ННЕ (цыбуленё), *н.* 1. *зборн.* Пер'е цыбулі. *У галаўке цыбуля слабо расце, а цыбуленё ні благоё.* Гр. 2. Шалупінне цыбулі. *Яйца на вялігдзень хварбуюць — вараць йіх у цыбулені.* Гр.

ЦЫБУРЭ´ННЕ (цыбурэнё), *н., зборн.* Сцябло тытуню; цыбуры. *Цыбурэня ні прымаюць, адно лісьцё.* Вальк.

ЦЫГАНЧАНЯ´, *н.* Дзіця цыганоў. *Недзя цыганчаня згінуло, цыганэ шукаюць.* Ст. С.

ЦЫ´МБАЛ, *м., жартаўл.* Высокі, падгалісты *Выпярсё, хутко будзя роўны з бацькам, цымбал гэты.* Ст. С.

ЦЫ´МАНТ, *м.* Цэмент. Гр., Кр.

ЦЫ´НГЕЛЬ (цынгяль), *м.* Спускавы кручок (вінтоўкі). *Ужэ, здэцца, і за цынгяль бярэцца нямчуры́ско гэты, хоча стрэльнуць у цябе.* Ал.

ЦЫ´НДРА, *ж.* Пра цвёрдае. *Сыр высах. Цындру гэту ні ўкусіш.* Св.

ЦЫ´ПУСЬ!, *выкл.* Так адганяюць куранят. Вар.

ЦЫР, *м.* Губа (расце на дрэве); цэра. *Цыр варылі ў лузі і выбівалі. Од бярэцца добро (як красанеш) агонь.* Угр.

ЦЫТРЫНО´ЎКА, *ж.* Гатунак салодкіх яблыкаў. Гр.

ЦЫ´ЦКА I, *ж.* Сасок. *С цыцкі малако сьсе.* Яр.

ЦЫ´ЦКА II, *ж.* Адбітая (адцягненая) частка ляза ў касе. *Усю косу на цыцкі пабіў, ні ўмеючы кляпаць.* Кр.

ЦЫЦО´ХА, *ж., экспр.* З вялікімі цыцкамі. *На карову кажуць "цыцоха", калі ў яе цыцкі велькія, добро дояцца. І на дзеўку — як цыцке выпучаныя, велькія.* Гр.

ЦЬМА-ЦЬМУ´ШЧАЯ, *прысл.* Надта многа, безліч. Кар., Вар.

ЦЭ´ВА, *ж.* Цэўка. *Цэву ссукаў і годзі.* Кар. *Цэву выкапалі — недзя чалавека пахавалі тут.* Кар.

ЦЭ´ЛКІ, *прым.* Які метка страляе. *Чаму ён ні пацэліць, цэлкі такі.* Пл.

ЦЭ´ЛЫ, *прым.* Вялікі; сапраўдны. *Цэлае горо зь йім.* Кр. *Цэлая бяда з гэтым хлопцам: есьці ніц ні есьць.* Дзяр.

ЦЮ-ЦЮ-ЦЮ!, *выкл.* Вокліч для падклікання сабакі. Гр.

ЦЮЦЯНЯ´, *н., ласк.* Сабачаня. *Вазьму на рукі я сваё цюцяня, пазабуляюсё трошкі.* Кр.

ЦЯКА´ЦЬ: ц я к а й (цякайце) — адчапіцеся, не лезьце, не прыставайце. *Чаго прычапіўсё, цякай ад міне.* Яр.

ЦЯЛЕ´ШКІ, *мн.* 1. Прыстасаванне (у выглядзе санак) для перавозкі (на поле) плуга. *На цялешках вязі, ні меў рукі вырываць.* Гр. 2. *абразл.* Непаваротлівы. *Што ён дастаня дзе, цялешкі гэтыя.* Ст. С.

ЦЯЛУ´Ш-ЦЯЛУ´Ш!, *выкл.* Так клічуць цялушку. Вар.

ЦЯЛЯ´ЧЫНА, *ж.* Мяса з цяляці, цяляціна. *Цялячына — лёгкія харчэ.* Гр. *Мо цялячыны зварыць?* Кр.

ЦЯРЭ´ДНАЧЫ, *прысл.* Сярод ночы. *Дзе ты пойдзяш дахаты цярэдначы.* Гр.

ЦЯРЭ´ДНЯ, *прысл.* Сярод дня. *Цярэдня абіраюць і нікого ні баяцца. Од гіцлі, злыдухе!* Гр.

ЦЯРЭ´ДНЯ-БЯЛЕ´ДНЯ, *прысл.* Сярод белага дня. *Дравіска валакуць зь лесу і лясьніка ні баяцца. І ўсё — цярэдня-бяледня.* Ст. С.

ЦЯРЭ´ЗЗАГА'НЫ, *прысл.* Напрасткі цераз загоны. *Цярэззаганы ні пацягня конь, трэ на дарогу выягджаць.* Гр.

ЦЯРЭ´СПАЛЯ, *прысл.* Напрасткі цераз поле. *Цярэспаля так і джгая — прэ яго ліхо.* Ст. С.

ЦЯРЭ´ШНЯ, *ж.* Чарэшня. *Ушчапіў цярэшню.* Вальк.

ЦЯЎЁ´, *н.* Націнне. *На цяўё бураке ні благія, а якія ў корані будуць — ніведама.* Св.

ЦЯЦЕ´РА, *м.* і *ж.* Балбатун, пустамеля. *Ні слухайця цяцеру. Ён вам бочку арыштантаў нагаворыць.* Яр.

ЦЯЦЕ´РЫЦЬ, *незак.* Гаварыць пустое. *Цяцерыць і цяцерыць, і як яму язык ні забаліць.* Ст. С.

ЦЯ´ЦЦА, *зак.* Стукнуцца, ударыцца. *Бех, і як цяўсё, чуць галавы ні разьбіў.* Гал.

ЦЯЦЬ I, *незак.* Ударыць. *Як цяў тагды таму сабацы, так ні ўстаў ён.* Вальк.

ЦЯЦЬ II, *незак., асудж.* Каштаваць, есці. *Гэдулькі на стол ўсяго панастаўляла, а яны і ні цялі нічого — кажуць, у адных гасцях ўжэ былі.* Гр.

# Ч

ЧАЛАВЕ´ЧАК, *м.* Зрэнка. *Парнуў у самы чалавечак, то дзе ён ні асьлепня.* Кр.

ЧАМАЙДА´Н, *м.* Чамадан. *Купіў сабе меншы чамайдан. У яго гэтых чамайданоў дагібялі.* Кр.

ЧА´МКАЦЬ, *незак.* Чаўкаць (есці). *Ні можа, як людзі, а, як сьвіня, чамкая.* Яр.

ЧАПІ´ЛЬНЯ, *ж.* Страха на слупах, пад якой захоўваецца сена. *Пат чапільню зложым сено.* Ст. С.

ЧАПУ´РЫЦЦА, *незак., экспр.* Прыхарошвацца. *На музыкі пойдзя, так усё чапурыцца.* Яр.

ЧАРАНО´К, *м.* 1. Дзяржанне, ручка. *Чаранок да сярпа зрабіў.* Кр. 2. Пруток, на якім круціцца вітушка (матавіла). *Чаранок выпадая з вітушкі.* Ст. С.

ЧАРВЕ´ННЕ (чарвенё), *н.* Адкладванне яечак пчалінай маткай. *Само чарвенё, ні зачапай пчол!* Кр.

ЧАРСТВЫ´, *прым.* Які старціў свежасць, мяккасць., стаў цвёрдым, сухім; чэрствы. *Як мне, то гэты чарствы хлеп смашнейшы за сьвежы, што ліпня да дзяснаў. Дай мне чарствого пірага.* Гр.

ЧАСАВЭ´ЛЬНЯ, *ж.* Машына для часання воўны. *На часавэльню пусьціла воўну.* Дзяр.

ЧАСТАКО´ЛІНА, *ж.* Кол у частаколе. *Частаколіну адарвалі, і куры ў вагарот лазяць.* Кр.

ЧАСЫ (часэ), *мн.* Гадзіннік. *Часэ кепско ідуць. Нешто аџстаюць усё.* Зл.

ЧА´ЎРАЦЬ, *незак.* 1. Сохнуць, вянуць. *От, німа росту картоплям гэтым бяз дажджу — адно чаўраюць.* Гр. 2. Ліпець. *Якоё с старого жыцё — чаўраяш ішчэ.* Кр.

ЧАЦВЯРТА´Я (чацьвяртая), *застар.* Мера зямлі — 5 га (1/4 участка). Гр.

ЧАЦВЯРЦІ´НА (чацьвярціна), *застар.* Тое, што і ч а ц в я р т а я . Едн.

ЧВЭ´РА, *м.* і *ж., экспр.* Гаварун. *Будзя байкі баяць, старая чвэра.* Гр.

ЧВЭ´РЫЦЬ, *незак., жартаўл.* Гаварыць (многа, лішне). *Хай пярастаня чвэрыць, скажы, а то галава баліць.* Ст. С.

ЧКЭ-ЧКЭ!, *выкл.* Так клічуць свіней. Вар.

ЧО´РНЫ, *прым.* Заношаны, брудны. *Пара плацё мыць: чорно, занасіласё.* Гр.

ЧО´РНЫЯ Я´ГАДЫ. Чарніцы. Кр.

ЧУБРЫ´НА, *ж.* Чуб, чупрына. Кр., Дзяр., Зл.

ЧУ´КІ-ЧУ´КІ!, *выкл.* Так кажуць, падкідваючы дзіця ўверх, забаўляючыся з ім.

ЧУМА´ЖНЫ, *прым.* Вялікі, мажны (пра карову, каня). *Павінна много малака даваць: чумажная карова.* Гр.

ЧУ´ПАЧКІ: на чупачках — на кукішках. *На чупачках прысеў і шэпча на вухо.* Гр.

ЧУ´ЧАЛАНКА, *ж.* Тое, што і чучка. *Чучаланку парэзаў.* Едн.

ЧУ´ЧКА, *ж.* Костачка (на пальцах рук). *Усе чучкі паабіваў дрывамі.* Вальк.

ЧЫ´КІ-ЧЫ´КІ, *выкл.* Так кажуць, каб паказаць, што будуць рэзаць. *Чыкі-чыкі! Скрою табе рукавіцы.* Ст.С.

ЧЫРВО´НКА, *ж.* Заразная дзіцячая хвароба, з чырванаватай высыпкай на целе. *У вайну дзеці ўсё чырвонкаю хварэлі. Расейцы казалі на яе «краснуха».*

ЧЫРВО´НЫЯ Я´ГАДЫ. Суніцы. Пл.

ЧЫ´СТА (чысто) 1. *прысл.* Абсалютна. *Нікого тут німа, чысто ўсе выяхалі.* Кр. 2. *часц.* Як, быццам, нібы. *Чысто ты сам ні бачыш, што тут робіцца, да пытаяш?* Св. 3. *злучн.* Як, быццам. *Голас, чысто ў майго дзеда.* Гр.

ЧЫСЦЮ´Х (чысьцюк), *м.* Чысцёха. *Од дзе чысьцюх! У самого ў хату ні ўлесьці.* Яр.

ЧЫСЦЮХА´ (чысьцюха), *ж.* Чысцёха (пра жанчыну). Вальк.

ЧЫТА´ННІК, *м.* Чытач. *Нешто бэкая сабе пад нос гэты чытаннік, аля, мусяць, і сам ні ведая што.* Св.

ЧЫТА´ННІЦА, *ж.* Жан. да чытаннік. *Ішчэ адна малая чытанніца за стол села, чытацімя сваю кнішку.* Св.

ЧЫ´ТАР, *м.* Чытач. *Чытай, чытай, мой ты малы чытар.* Гр. *От чытар! І часу яму на другоё німа, усё чытая.* Ст. С.

ЧЫ´ТАРЧА, *ж.* 1. Чытака. *Ішчэ малая чытарча — начытаясся за свой век.* Гр. 2. Чытальніца. *Добро чытая на сцэні чытарча.* Гр.

ЧЫ´ХАЎКА, *ж.* Чханне. *Нека чыхаўка напала, усё чхая і чхая.* Вальк.

ЧЫЧАКІ´ (чычаке), *мн., зняважл.* Валасы. *Чычаке пара стрыхчы.* Гр.

ЧЭ´ПАЦЬ, *незак., спагадл.* Хадзіць, дыбаць. *От, патрошкі чэпая па хаці. Аля слабы зь яго хадун.* Кр.

ЧЭ´РАН, *м.* Тронак. *Чэран абгарэў у вілох.* Св.

ЧЭ´РХАЦЬ, *незак.* Церці аб серку, запальваючы запалку. *Ацсырэлі запалкі. Чэрхай ні чэрхай — ні запаліш.* Пл.

## Ш

ША!, *выкл.* Ціха! *Ша, дзеці, ні крычэця!* Гр.

ШАКЕ´РА, *м.* і *ж.* Балака. *Ні слухай ты, сынку, гэтую шакеру, а то яна табе бочку арыштантаў нашакерыць. I бацько яе быў добры шакера.* Гр.

ШАКЕ´РЫЦЬ, *незак.* Балакаць. *Шакерыць і шакерыць гэты шакера, і канца німа яму.* Кр.

ШАЛПАТА´ЦЬ, *незак.* 1. Біць крыламі — шастаць. *Курыца падая ўпоначы, шалпоча крыламі.* Ст. С. 2. Невыразна гаварыць. *Нешто шалпоча сабе пад нос, а што — ніведама, ні разьбярэсься.* Кр.

ШАЛЯСТУНЫ´ (шалястунэ), *мн.* Від лугавой расліны (пры паспяванні зярняткі шастаюць у струку). *На том грутку добрае травы німашака, адныя шалястунэ растуць — пад касою адно шалясцяць.* Кр.

ШАМРЭЦЬ, *незак.* Зіхацець. *О, гэто кавалер: усё навютко, шамрыць.* Яр.

ША´ПКА, *ж.* Сноп, якім накрываюць мэдлік збожжа. *Зламі шапку мыдлю накрыць.* Гал.

ШАРАВА´РКА, *ж., застар.* Павіннасць па рамонце дарог. *Пры паляках шараварку адбывалі на сашы.* Даўг.

ШАРО´С, *м.* Верхні цвёрды пласт снегу. *Усе боты шарос парэзаў, як ішоў напрастке.* Ст. С.

ШАСТА´Я, *застар.* Мера зямлі — 3,5га (1/6 участка). Гр.

ШАСЦІНА´, *застар.* Тое, што і ш а с т а я . Едн.

ШАТА´НСКІ, *прым., экспр.* Празмерна вялікі, завышаны; шалёны. *Шатанскі заробак маюць тыя шпікулянты.* Гр.

ШВАГРУ´СЬ, *м. зняважл.* Швагер. *Гэто мне швагрусь так нарабіў!* Гр.

ШВАРЦУ´ГА, *ж.* Дубец (для звязвання калоў у загарадзі). Едн.

ШВЭ´ДАР, *м.* Тое, што і ш в э д р а . *Швэдар зьвязала.* Кр.

ШВЭ'ДРА, *ж.* Світар. *Пададзеў швэдру, то цяплёй стало.* Вар.

ШВЭ´РГАЛА (швэргало), *н., непахв.* Балака. *Вылазь з-за стала, швэргало ты старое, будзя табе швэргаць пустое.* Гр.

ШВЭ´РГАЦЬ, *незак., непахв.* Гаварыць, балакаць. *Німа чаго слухаць, што ты швэргаяш. Кінь швэргаць!* Гр.

ШВЯРГАТА´ЦЬ, *незак.* Вучыцца гаварыць. *От швяргоча і швяргоча нешто сабе малоё. Мо гаварыць хутко будзя.* Ал.

ШКАРЛУ´ПА, *ж.* Лупіна (яйца). Едн., Кар.

ШКІ´ЛЯ!, *выкл.* Так адганяюць авечак. Вальк.

ШКЛЭ´НДЗЯ, *ж.* Крывяная каўбаса. Кар.

ШКЛЯ´НКІ, *мн., абразл.* Вочы. *Шклянкі гэтыя вылупіў і крычыць.* Гр.

ШКЛЯ´Р, *м., абразл.* З вялікімі вачыма. *Думала, зьзесьць шкляр гэты, як вылупіў сваё шклянкі.* Св.

ШКЛЯЧКО´, *н.* Шкельца, шклечка. Гр., Дзяр.

ШКО´ДЛІВЫ, *прым.* Шкодны. *Натто шкодлівы кот быў у гаспадара.* Вальк.

ШКО´ЛКА, *ж.* Гадавальнік (лесу). *Ходзіць у школку палоць высаткі.* Пл.

ШЛАМБАКІ´ (шламбаке), *мн.,* ш л а м б а к, *м.* 1. Шлёпанцы. *У хаці можно і ў шламбаках хадзіць, з ног ні спадаюць.* Кр. 2. *непахв.* Пра няякасны абутак. *Халявы адрэзаў у ботах, то ішчэ ў гэтых шламбаках будзяш пры хаці швэндацца.* Гр.

ШЛЁ´ГАЦЬ, *незак.* Сцёбаць. *Шлёгая і шлёгая гэтаго каня дупцом.* Даўг.

ШЛЭ´МБАЦЬ, *незак.* Шлэпаць, шлёпаць. *Абуў апоркі і па хаці шлэмбая. Чаго твае сьнягоўцы шлэмбаюць, як ходзіш? Мо вада ў йіх ці што?* Кр.

ШЛЭ´ПАР, *м.* Той, хто цягне ногі, шлэпае. *Ведама, стары, шлэпар, нох ні падымая, цягнучы па зямлі.* Св.

ШЛЭ´ПТУХ, *м.* Тое, што і ш л э п а р. *Скінь, малы шлэптух, з нох гэтыя калошы, ні шлэпай тут.* Дзяр.

ШЛЯ´ГА, *ж.* Доўбня. *Шлягаю б'е па абуху, кап камель раскалоць.* Гр.

ШМА´РА (і шмэра), *м і ж., экспр.* Той, хто не хоча сядзець дома, хто любіць хадзіць у госці. *От калі адно прышла сь сяла шмара гэта.* Ст. С.

ШМАРАВІ´ДЛА (шмаравідло), *н.* Каламазь. *Трохо шмаравідла прынёс калёса памазаць.* Вар.

ШМУЛЬ, *м., асудж.* Тое, што і ш м у л я р. *У зашмулянуй і ў людзі цягняцца шмуль гэты.* Гр.

ШМУЛЬНУ´ЦЬ, *зак.* Сцёбнуць, агрэць. *Шмульні, як ні слухаюць, то палепшаюць.* Св.

ШМУ´ЛЯР, *м., асудж.* Пра таго, хто ходзіць у падраным, заношаным адзенні. *Ніяк рубашкі ні пяраменіць. Так і ходзіць у зашмулянуй шмуляр гэты.* Гр.

ШМЭ'РКА (шмэрко), *м., жартаўл.* Той, хто любіць хадзіць па людзях і мала бывае дома. *Шмэрко гэты недзя да Ёзуба пацягнуўсё.* Вальк.

ШНА´Р, *м.* След (на скуры ад раны ў выглядзе палоскі або рубца); шрам. *З вайны ў яго на грудзіне шнар.* Кр. *Каравэ баролісяа, то гунь які шнар у гэтае пярэстае, што Жучка ёй пасадзіла сваймі рагамі.* Гр.

ШНУРАВА´ЦЬ, *незак.* Хадзіць узад-уперад без толку, марна траціць час. *Ні меў шнураваць тут, ідзі каравэ памагай пасьвіць.* Яр.

ШНЫ´РЫЦЬ, *незак., экспр.* Шукаць, выпорваць адсюль, шнарыць, шныпарыць. *Як настаня ранак, то ўсё шнырыць, каб дзе што выпараць сабе і ў кішэнь пакласці.* Св.

ШО´ПА, *ж.* 1. Стрэшка на слупах для захоўвання сена. *У шопу з вос улезя ішчэ.* Кр. 2. Павець. *Вос у шопу закацілі.* Гр.

ШОФ, *м.* Тое, што і ш о п а (у 1 знач). *Сено ў шоф склалі.* Кар.

ШПА´РЫЦЬ, *незак.* 1. *жартаўл.* Хутка ісці. *Адно пыл курыць пад нагамі, як шпарыць дахаты.* Яр. 2. Біць, лупцаваць. *Адно шпарыць і шпарыць каня гэтаго. Лепяй аўса давай, то бегчымя.* Кр.

ШПІКУЛЯ´НТ, *м.* Спекулянт. *Развялосё цяперака шпікулянтаў гэтых скрось!* Св.

ШПІКУЛЯ´НЧЫЦЬ, *незак.* Займацца спекуляцыяй, спекуляваць. *Хай ні шпікулянчыць, то і штрафаваць ні будуць. Шпікулянчыць, то і грошы ні пераводзяцца.* Св.

ШПІ´ХНЕР, *м. рэдк.* Элеватар. *Даўней вазілі збожжо ў Зэльву у шпіхнер здаваць вазамі, то гаш начавалі там, бо завос велькі быў.* Гр.

ШПО´НКІ, *мн., асудж.* Вочы. *Чаго свае шпонкі вылупіў на міне? Ні бачыў ці спалохаць хочаш, га?* Кр.

ШТА´БА, *ж.* Жалезная планка для запірання аканіц. Вальк.

ШТО-БА´ЧАЧЫ, *займ.* Што-ніштo. *Што-бачачы забяру цяпер, а астальноё ўзаўтра.* Ст. С.

ШТО-ЯКО´Е (што-якоё), *займ.* Што-небудзь. *Трэба і мне на кярмаш той схадзіць, мо і я што-якоё куплю на сьвято.* Гр.

ШТЫ´РХАЦЬ, *незак.* Штурхаць. *І нашто хлопца штырхаць, ён і так, бедны, часто плача.* Дзяр.

ШУГА́НКА, *ж.* Гушкалка (звязаныя галіны дрэў ці вяроўка). *Пастухе шуганку зрабілі і шугаюцца.* Св.

ШУГА́ННІК, *м.* Той, хто гушкаецца («шугаецца»). *Аднаго шуганніка мо і вытрывая шуганка, а боляй не — парвецца.* Св.

ШУГА́ННІЦА, *ж.* Жан. да шугаңнік. *Дай я цябе трохі пашугаю, малую шуганніцу.* Св.

ШУГА́ЦЦА, *незак.* Гойдацца (на гушкалцы). *Як парвецца шуганка, то шугацца ні будуць.* Гр.

ШУГА́ЦЬ, *незак.* Гушкаць. *Палядзі, як хлопцы шугаюць Лёніка. І ні байіцца.* Вальк.

ШУ́ГІ-ШУ́ГІ!, *выкл.* Так кажуць пры гушканні дзіцяці. *Я сама цябе трошкі пашугаю: шугі-шугі малого!* Кр.

ШУМА', *ж.* 1. Накіп. *Яг закіпіць вада, здымяш шуму, каб булён быў чысты.* Гр. 2. Пена. *Гунь колькў шумы на том камяні вада ў рэццы нарабіла.* Гр.

ШУПЛАВА'ТЫ, *прым.* Няцвёрды, мяккі (пра галоўку капусты). Яр.

ШУПЛЯ'К, *м., незад.* Няцвёрдая галоўка капусты. Кар.

ШУТ-ШУТ!, *выкл.* Так клічуць авечак. Пл.

ШУ'ТКА, *ж., пяшчотл.* Авечка. *Лаві шутку за шыю і ў хлеў.* Вальк.

ШЧАВЕ'Й, *м.* 1. Шчаўе. Кр. 2. Страва з шчаўя. *Шчавей любіць хлёбаць.* Даўг.

ШЧАЛАЧО'НКІ, *мн.* Бульбяны суп. *Наскрабі картопяль, накрышы і зварыш на палудзянь шчалачонкі.* Гр.

ШЧАЛУ'БІНА, *ж.* Шчыліна. *У шчалубіну залезя мыш і грызе.* Гр. *Прас шчалубіну сьвеціцца.* Вальк.

ШЧАРБЕ'ЛЬ, *м., жартаўл.* Шчарбаты. *Шчарбель гэты усе зубы пагубіў.* Угр.

ШЧО'ЛАК, *м.* Рэдкая частка варыва, поліўка. *Гушчу есьць, а шчолак пакідая.* Ст. С.

ШЧО'ЛАКІ, *мн.* Бульбяны суп. *Шчолакаў зварыла на палудзянь.* Едн.

ШЧО'ПЦІ, *мн.* 1. Драбок чаго-небудзь, як узяць у тры пальцы. *Шчопці солі ўзяў і будзя пасаліць капусту ў місцы.* Яр. 2. *перан.* Надта мала. *Што ты наясіся таго пірага. Каб яго много было — а гэто шчопці ўсяго.* Св.

ШЧЫ'КАЎКА, *ж.* Іканне. *Шчыкаўка напала, і рады німа.* Гр.

ШЧЫКА'ННІК, *м.* Той, хто шчыкаецца. *Марш ад міне, я не люблю шчыканнікаў. Ідзі другую дзеўку шчыкай.* Гр.

ШЧЫ'КАЦЬ, *незак.* Ікаць. *Удубеў, ці што — шчыкая і шчыкая хлопяц гэты*. Кр.

ШЧЫ'НАК, *м.* Пласт сена (кладуць у копы і на воз). *Нашчыняй шчынак і кладзі ў капіцу*. Вальк.

ШЧЫНЯ'ЦЬ, *незак.* Рабіць пласты (шчынкі). *Шчыняй, а я буду шчынкі насіць і падаваць на вос*. Вальк.

ШЧЫПЕ'Р, *м.* Пяро цыбулі. *Шчыпяроў со-два ў сало ўкрышы*. Гр.

ШЧЫ'Т, *м.* Закот (у доме). *Акенцо ў шчыце зрабіў, кап вецяр па гары хадзіў*. Даўг.

ШЧЭ'ЛЕПЫ (шчэляпы), *мн.* Сківіца. *Падаў галавою ўніс, то мало шчэляпы ні вывіхнуў. Худы, адныя шчэляпы стрычаць у гэтаго Ёзіка*. Гр.

ШЫ'ЙКА, *ж.* Вузкая частка пасуды (бутэлькі і г.д.); рыльца. *Наліў ні шкадуючы, гаш ў шыйку бутэлькі*. Вальк.

ШЫКАВА'ННІК, *м.* Той, хто прыбіраецца — «шыкуецца». *Чаго ты перат юстэркам усё круцісся, шыкаваннік заядлы. Куды шыкуясся — мо на вяселё, га?* Кр.

ШЫКАВА'ННІЦА, *ж.* Жан. да ш ы к а в а н н і к . *Ішчэ адна шыкаванніца круціцца перад юстэркам, прыбіраяцца на кярмаш*. Гр.

ШЫКАВА'ЦЦА, *незак., экспр.* Прыбірацца. *Ішчэ рано, а яна ўжэ шыкуяцца на кярмаш*. Гал.

ШЫ'КАННІК, *м.* Той, хто любіць шаптацца — «шыкае». *Кажы, кап усе чулі, чаго ты шыкаяш ёй на вухо, шыканнік?* Кр.

ШЫ'КАННІЦА, *ж.* Жан. да ш ы к а н н і к . *Хай і яна пашыкая, гэтая малая шыканніца*. Гр.

ШЫ'КАЦЬ, *незак.* Гаварыць на вуха, шаптаць. *Нешто шыкая яму, а тагды рагочуць абодва*. Ал.

ШЫ'КІ, *мн.* Шэпты. *Шыкі хату зводзяць*. Пл.

ШЫПУ'ЛЬ, *м.* Тонкая шчэпка. *Дзе ты напаліш гэтымі шыпулямі. Ураз згараць*. Гал. *Шыпулём грась аскрабі*. Св.

ШЫПШЫНА', *ж.* 1. Шыпшына. *Зьбіраям і сушымо шыпшыну на лекі*. Кр. 2. *зборн.* Шыпшыннік. *У гэтуй густой шыпшыне нічого больш ні расьце*. Кр.

ШЫТНЫ'Я (ніткі), *прым.* Свае работы, моцныя (ніткі). *Крамныя тут ні трымацімуць, трэба шытнымі ніцьмі прышыць*. Гал.

ШЫХ, *м.* Шанц. *Маюць людзі шых на сьвіня*. Ст. С.

ШЫХАВА'ЦЬ, *незак.* Шанцаваць. *Шыхуя, кажуць, так і мужык танцуя*. Гр.

ШЫЦЮ'К, *м.* Шашаль. *Шыцюк усе дзьверы стачыў.* Вальк.

ШЭ'РХНУЦЬ, *незак.* 1. Ледзь-ледзь замярзаць (пра глебу). *Шэрхня зямля. Кап картоплі ні памерзьлі хаця.* Яр. 2. *перан.* Ледзянець. *Такое пачуў, што скура шэрхня.* Ст. С.

## Э

ЭЛЕ'КТРЫКА (алектрыка), *ж.* Электрычнасць. *Алектрыка добро сьвеціць. Яг днём відно.* Яр. *І радзіво, і алектрыку правялі ў сяло.* Зл.

## Ю

ЮРО'К, *м.* Палачка (з прараззю і дзірачкамі на канцах) для звівання нітак (на клубок). *Бяз юрка клубок слапкі будзя.* Яр.

ЮСТЭ'РКА (юстэрко), *н.* Люстэрка. *А сама ўсё ў юстэрко глядзіць, ці хацямсё добро прыгладзіла кудлы.* Гал.

Ю'ШКА, *ж.* 1. Суп з крыві вепрука і перацёртай мукі. *Наварыла юшкі, як паршука закалолі. Елі і хвалілі, што смашна.* Даўг. 2. Кроў. *Юшку спусьцілі с паршука, кап сало бело было.* Яр.

Ю'ШЫЦЬ, *незак. экспр.* Цячы струменем (пра кроў). *От страшно лядзець на яго — кроў гаш юшыць з раны.* Яр.

## Я

Я'БЛЫКА (яблыко), *н.* Яблык. *Яблыко нісмашно даў.* Яр.

ЯГЛІ'ЦЬ, *незак. экспр.* Вастрыць. *Годзі табе ягліць гэту касу, нагастрыў ужэ!* Св.

ЯГЛЫ' (яглэ), *мн.* Так кажуць пра яду, якой няма і не будзе. *Што ты зварыла на вячэру нам? — Яглэ, каб ні еўшы спаць ляглі.* Гр.

ЯДРО'НЫ I, *прым.* Ураджайны — з вялікай колькасцю пладоў. *От ядроныя грушы будуць, як цьвет ні ападзя.* Гр. *Гарэхі ядроныя, але зярнята яшчэ малыя.* Св.

ЯДРО'НЫ II, *прым., жарт.* Дзіравы, абабіты (пра адзенне, абутак). *Скінуў бы ты гэтыя ганавіцы ядроныя, а то адныя касмачэ вісяць на йіх.* Кр. *І чаравікі твае ядроныя — гаш пальцы павылазілі.* Гр.

ЯЁ'РКА, *ж.* Вавёрка. Ст. С.

ЯЗДУ'Н, *м., незад.* Яздок. *Лядзі, каб ні зваліўсё с каня, яздун такі!* Гр.

ЯЗДА'К, *м.* Яздок. *Слабы сь цябе яздак, рас на кані ні ўтрымаўсё, падаяш с каня.* Ст. С.

Я'МА, *ж.* Склеп (не ў будынку) для захоўвання бульбы. *Яму поўну картоплямі насыпалі, будзя з нас.* Яр. *Зь ямы бярэм вясною картоплі.* Даўг.

Я'МКА, *ж.* Баховачка на прыпечку (у яе выграбаюць вуголле з печы, калі пякуць хлеб). *У ямцы вугліке мо ішчэ ні патухлі.* Гал.

Я'СЕК (ясяк і ясік), *м.* Невялічкая падушачка. *Ясяк наверх на падушке кладуць, кап харашэй было.* Зл.

ЯСЁ'НКА, *застар.* Дэмісезоннае паліто. *Ясёнку мая на восянь, а на зіму пальто пашыям.* Яр.

ЯЧАВЫ': я ч а в ы зуб — той, на якім больш за ўсё ядуць. Вальк.

ЯЧМЕ'НІСКА (ячменіско), *н.* Поле, дзе рос ячмень. Зл.

Даведачнае выданне

**Сцяцко** Павел Уладзіміравіч

# СЛОЎНІК НАРОДНАЙ МОВЫ ЗЭЛЬВЕНШЧЫНЫ

Рэдактар Н.М.Красніцкая
Кампутарны набор: Т.І.Гапон
Кампутарная вёрстка: Л.В.Дударава

Здадзена ў набор 09.09.2004. Падпісана да друку 03.01.2005.
Фармат 60х84/16. Папера афсетная.
Друк RISO. Гарнітура Таймс.
Ум.друк.арк. 8,99. Ул.-выд.арк. 8,53. Тыраж 250 экз. Заказ 15

Установа адукацыі «Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы».
ЛВ № 02330/0133257 ад 30.04.2004. Вул. Пушкіна, 39, 230012, Гродна.

Надрукавана на тэхніцы выдавецкага цэнтра Установы адукацыі
«Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы».
ЛП № 02330/0056882 ад 30.04.2004. Вул. Пушкіна, 39, 230012, Гродна.